№4 (119)
/ліпень-жнівень/ 2022

# дзеяслоў

ЗМЕСТ

Сяргей Законнікаў



...каб быць сабою,
трэба свет любіць...

# Эсэмэскі нябёсаў

## *Я ПАКУЛЬ ШТО ЖЫВЫ*

Я пакуль што жывы...
Не складаючы крылы,
Зноў накладваю швы
На свой будзень пахілы.

Я пакуль што жывы,
Бачу дзятлінку ў росах,
Сонца шар агнявы,
Зорак велічны россып.

Я пакуль што жывы,
Каб любіць з новай сілай
Пах прывялай травы
І гарачага пылу...

Я пакуль што жывы...

### *АСЭНСАВАННЕ*

Нішто не даследуе роздум да кроплі...
Вось мой чарнавік, не канчаецца след...
Ты ставіш нарэшце апошнюю кропку,
А ў ёй і за ёю – зноў новы сусвет.

### *ПАВЕТРАНАЯ НАЦЫЯ*

Нічога няма...
Толькі енк, стогны, слёзы
Пад небам растурзаным, злосным і шэрым.
Ці можна істотам, бядой нецвярозым,
Знайсці ратавальную кропельку веры?

Яе зачакаліся рабскія душы,
Якія не дыхалі воляй ніколі.
Але хто зняверцаў усіх разварушыць,
Што лічаць сваё вызваленне прыколам?

Да праўды вяртаецца люд без падману,
Калі голас роду на подзвіг пакліча...
З паветра сляпога, з глухога туману
На свет выплываюць жывыя абліччы.

### *ЗМАРНАВАНЫ ЧАС*

Прывыкнуць да рознага можна,
Ды толькі які ў страху толк,
Калі гвалт народ асцярожны
Дубінкамі ў мэтлухі стоўк?

Хрумсціць новы дзень пад абцасам,
Бязмэтна цячэ ў забыццё...
Шкада змарнаванага часу,
Бо гэта не пыл, а жыццё.

### *ІСНАСЦЬ*

Зноў віна вагомая,
Згас чарговы дзень.
Хто мы? – Невядомыя...
Дзе мы? – А нідзе...

## НЯМАЯ АЙЧЫНА

Радзіма без мовы – істота нямая,
Душа папярхаецца гукам чужым.
Насуперак гвалту пакуль што трымае
Нас даўні запас на апошняй мяжы.

Матуліна слова замены не мае,
З яго б'е народнага духу бруя,
Яно суцяшае, вядзе і ўзнімае...
Нямая Айчына!
Яна – не мая...

## ПАПЛАЧ

Хоць новае світанне пад пытаннем,
Хоць зло штурхае ў цемру белы свет,
Паплач, слабей ад гэтага не станеш...
Яснее позірк за слязой услед.

Паплач, адпрэч чужынскія грымоты
Ракет, снарадаў і тупой хлусні...
Адмыецца Зямля крывёй і потам
Або загіне ў атамным агні?

Мы звыклі плакаць, ды было навошта
Пакутаваць з-за нейкай драбязы?..
Звёў чалавек свой розум да шызы,
Таму відаць цяпер рубеж апошні
Праз шкло павелічальнае слязы.

## ПАХІ АГРЭСІІ

А кола вайны грузна коціць...
І ў сценах расійскай дзяржджумы
Смурод абгарэлае плоці
Сцёр пахі французскай парфумы.

## ЧАРНІГАЎШЧЫНА. МОЦНЫЯ ДУХАМ

На вуліцы ў вёсцы – танкі,
А людзі сядзяць на прызбе,
Маўчком ігнаруюць пытанні,
З пагардай глядзяць на прышлых.

Дзядуля з узнятым кіем
Для іх прамаўляе свядома:
“Мясціны ў нас тут глухія...
Вяртайцеся лепш дадому!”

### *СІРАТА*

Выбухнуў мозг, рвуцца нервы...
Як жа мне жыць, Божа мілы?..
Хлопчык маленькі кансерву
Маме прынёс на магілу...

### *ЭСЭМЭСКІ НЯБЁСАЎ*

Не можа галодны і босы
Ні гвалт, ні забойствы спыніць...
Ды ёсць эсэмэскі нябёсаў
У сполахах грозных зарніц.

Хто ў высях цярпліва ўладарыць?
Хто, змораны тупасцю, злом,
Прысунуў чарніліцу-хмару
І піша маланкі пяром?

### *ДУМАЦЬ МАГУ*

Стаю на трывожным схіле жыцця,
Нібы на самым краёчку Зямлі,
А нада мною аблокі ляцяць –
Вандроўныя, вечныя жураўлі.

Спяшыць свет на ўсе галасы спяваць,
Свавольнік-вецер валтузіць траву...
Пакуль не выбухнула галава,
Я думаць магу, а таму – жыву.

### *БЫЦЬ!*

Быць ці не быць? – пытанне рубам
Паўстала над жывой планетай...
Вайна вядзе гаворку груба,
Яна плявала на паэтаў.

Яна красу жыцця дратуе...
А я сцвярджаю ў новым слове
Зноў ісціну адну і тую:
“Нянавісць не мацней любові...”

Але, пакуль бліжэй не сталі
Да праўды мы ў святой патрэбе,
Пульсуе вогненны пытальнік
Над кожнай галавой у небе.

## *СМЕЛЫ ЧМЕЛЬ*

Ад трагедый ёсць адна замова –
Кіравацца праўдаю ў жыцці.
Трэба ўсё рабіць своечасова...
Але як да гэтага прыйсці?

Мы не разгадаем рэбус самі,
Вырастае смеласць як, адкуль?..
Мужна чмель ваюе з вераб’ямі,
Хоць надзей на перамогу – нуль...

## *УСПАМІНАЮ*

Хоць жыццё, як жар-птушку, за хвост не ўхопіш,
Ды са мной застаецца радасць зямная.
Вецер здзьмуў з цяпельца астылы попел,
А я нешта згадваю, успамінаю...

## *АДЫХОДЗЯЧАЯ НАТУРА*

На тварах грозны век відзён,
Набок стаптаныя абцасы...
Палоніць вояў вечны сон,
Мы адыходзім з родным часам.

Хтось дзень свабоды набліжаў,
А хтось свой лёс адбыў прыдворным,
Але для ўсіх ляжыць мяжа
У свеце ўсё-ткі бела-чорным.

Прыйшлі, прыдатныя якраз
Без пераліку і без нормы...
Мы пералітыя ў наш час,
Нібы круты метал у форму.

## *ЧАКА*

Сцюдзёнага снежня шурпаты сувой
Лёг лёгка на дол абяздолены.
Плыве лёс, як зорачка, над галавой,
А згледзець і мне не дазволена.

Адгуў і прапаў гвалтам сціснуты год,
Чарговы, з праклятымі стрэсамі.
Што вынес з яго раз'яднаны народ,
Што вараць галовы пад стрэхамі?

З гранаты чакання сарвана чака,
Не вернецца тое, што страчана...
Сцюдзёнага снежня льняная шчака
Халодзіць мой лоб разгарачаны.

## *І ТЫ...*

Нам шмат чаго яшчэ незразумела,
Жывем, нібыта некуды спяшаць.
Але зліваецца з нязнаным смела
Адкрытая, збалелая душа.

Нічога тут бясследна не знікае –
У царстве сонцаў, зор і цемнаты.
Ідэя неўміручасці такая:
І ты – часцінка Космасу...
І ты...

## *БЫЦЬ САБОЮ*

Звычайна быць сабою – гэта значыць
Сваёй натуры дагаджаць ва ўсім...
Але жыццё крутнулася іначай,
Набыткі і гулянкі – проста дым.

Ты молішся, пытаешся: што будзе?
Напнута нітка глузду і звініць...
Ды ёсць адказ, які не любяць людзі:
Каб быць сабою, трэба свет любіць.

## *РАТАВАННЕ*

Чалавека ратуе ад страху прырода...
Проста трэба спакойна адно зразумець,
Людзі – тая ж часцінка касмічнага роду,
Дзе ў адно паяднаныя – існасць і смерць.

Чалавека ратуе ад смутку прырода...
Колькі цудаў на доле і волі ўгары!
Паглядзі на аблокі ў падсветцы заходу
І ў нямым утрапенні навечна замры.

Уладзімір Сцяпан



...Усе мы – гузікі... Адарваныя, прышытыя,

а некаторыя і на адной нітцы...

# Гузікі

***Сентыментальная гісторыя***

Ехаў у Гомель. Глядзеў у вакно. Белае поле пад шэрым небам, а за полем вёска – белыя дахі, а з комінаў дым... Дзіўна, але і праз шкло імклівага цягніка адчуў казытлівы водар таго дыму. Усміхнуўся, але ніхто маёй усмешкі не заўважыў – маска.

**

Я з мамай. Мне шэсцьдзесят трэці, а ёй дзевяноста другі. Яна два гады не ходзіць. Ляжыць у сваім пакоі, дзверы адчыненыя. Збіраюся выносіць смецце, абуваюся, апранаюся.

– Смецце вынесу!

– Добра, толькі шапку надзень – зімна!

Мне шэсцьдзесят трэці... Шапку надзеў.

**

Павячэралі. Мама яшчэ пасядзела трохі на ложку, склала сурвэтку, а потым сказала, што стамілася, і папрасіла, каб дапамог легчы. Дапамог, накрыў цёплай коўдрай і пайшоў на кухню.

Мыю посуд. Чую, што мама мяне кліча. Выціраю рукі, іду да яе ў пакой. Яна моўчкі глядзіць на мяне, быццам даўно-даўно не бачыла.

– Што, мама, піць, у прыбіральню?

– Не... Памаліся за мяне, сынок...

**

Вечар. Мама слухае радыё – маленькі чорны прыёмнік, які купіў ёй мой малодшы брат. Гучыць музычная кампазіцыя. Зазіраю да яе ў пакой.

– Нічога не разумею, пра што ён такое спявае?

Праз хвіліну.

– Хоць і не па-нашаму, а добра пяе мужчына.

Для маёй дзевяностагадовай мамы спяваў па рыдыё *Sting*.

**

Кармлю з лыжачкі.

– Не зачэрпвай з сярэдзіны, ад беражку кашу бяры, а то язык мне апячэш... – кажа мама.

– Добра...

Аказваецца – “бераг” ёсць у ракі, возера, леса і ў талеркі... Паэзія матчынай мовы.

**

Ёсць дзіцячая задачка на кемлівасць. Што важыць больш – кілаграм пуху ці кілаграм жалеза?..

Пераносіў маму с ложка на крэсла. Перанёс. Потым згадаў, як у жніўні, на лецішчы, цягаў бетонныя слупы. Цяпер ведаю – бетонны слуп вагой пяцьдзясят кілаграмаў важыць нашмат менш, чым чалавек.

**

Мама доўга моліцца, а потым некаторы час маўчыць і ціха кажа: “Божачка, дзякуй за пражыты дзень і дапамажы ноч пераначаваць... Яна ж такая доўгая!”

**

Палуднуем. Я насмажыў марской рыбы. Мама раптам перастае жаваць і глядзіць на мяне.

– Мне сон быў. Прынёс нехта два карпы і паклаў на стол...

– Хто?

– Не ведаю – гэта ж сон...

– Ты іх засмажыла, з’ела?

– Не... Праз дзень вы з Колем прыехалі (Коля – мой малодшы брат).

– І што, мы тую рыбу з’елі?

– Я сон расказваю, а ты абы-што... Калі рыба сніцца, то гэта да прыбытку. Хіба не ведаеш?

– Мне часта сніцца рыба, а вось прыбыткаў пакуль няма.

– Яшчэ будуць, не спяшайся.

**

Каб маме было цікавей жыць, то я прыдумаў наступнае – гатуем разам. Сёння мы варым суп. Яна ляжыць у сваім пакоі, а я бегаю да яе з пытаннямі.

– У якой каструлі варыць? – паказваю большую і трохі меншую. – А колькі вады ліць?

– У круглай... Пад самы верх, бо выкіпіць.

– А мяса мыць?

– Мыць!

Іду на кухню. Бразгае посуд. Ліецца вада.

– А саліць мяса, ма?

– Пену зняў?.. Добра. Пасалі, але трохі.

Здымаю пену. Трохі салю. Памешваю мяса.

Праз гадзіну я зноў з пытаннем.

– Палавіны цыбуліны хопіць? – паказваю вялікую цыбуліну. – А бульбіны тры ці дзве? А морквы колькі? А яе парэзаць ці пацерці? А гарошак цяпер сыпаць ці трохі пазней?

– Толькі я задрамала, а ты зноў... Ну хіба ты сам не ведаеш?.. Бульбу хоць пакрышыў? А цыбулю з морквай?.. Тады сып... Чуеш, не закрывай шчыльна, няхай пакіпіць з паўгадзінкі.

Праходзіць адмераны час. Каштую сам і набіраю лыжку для мамы. Дзьмухаю, каб суп не быў варам. Прапаную пакаштаваць.

Яна з'ядае лыжку, думае, маўчыць.

– Ну што, харошы?

– Харошы, ды каб меліся грошы... Налі ў маю місачку, няхай ачахне трохі, а сабе ў вялікую.

**

І сапраўды, той снежаньскі дзень быў светлы. Такі яркі, што глядзіш на вакно, вочы мружыш і ўсміхацца спрабуеш... А яшчэ я зняў на балконе прасціны і пялюшкі, якія нязвыкла пахлі марозным паветрам, – у маміным пакоі яшчэ больш пасвятлела. Настрой трохі палепшыўся, мама павесялела, папрасіла знайсці старыя акуляры, тыя, што глядзяць блізка...

Потым папрасіла дапамагчы сесці.

Потым доўга глядзела на сонечныя паскі на сцяне, на старой шафе, нават дакранулася да халоднага люстэрка. Там сядзела яна – цёмным абрысам. Там стаяў і я, таксама цёмны...

А вакол было шмат залатога зімовага святла.

– Пасядзі тут, – паляпала далонню па краі ложка. – Дай, пакуль светла, пагляджу на цябе.

Яна сказала гэта так, што я не мог не паслухацца, не мог пажартаваць. Сеў.

– Павярніся, каб сонца на цябе свяціла. Каб хоць трохі разгледзець магла.

Павярнуўся і далонню прыкрыў вочы ад зыркага святла. Мама прыбрала маю руку. Дакранулася да шчакі, да пляча, да лба... Правяла далонню па кароткіх валасах, потым па падбародзді... Я ўздыхнуў, бо некалькі дзён не галіўся. Лічыў, што на вуліцу хаджу ў масцы, а дома мяне ніхто не бачыць...

– Я думала, ты не такі.

– А які, мама?

– Думала, ты маладзейшы...

– Ты ж ведаеш, колькі мне.
– Ведаю... Як жа ўсё хутка... Зусім дарослы... Стары...

**

Павячэралі. Памыў маме рукі. Надзеў памперс. Падбіў падушку. Паправіў коўдру. Трохі пагаварылі пра заўтрашняе надвор'е, пра сняданак.
– Не стой, ідзі, сынок... Сама патушу святло. Памалюся і патушу.
Пажадаў ёй "дабранач".
Мыю на кухні посуд. Выціраю талеркі. Радуюся, што ўсё адбываецца ціхамірна. Чую, як яна ў сваім пакоі моліцца.
Раптам змаўкае, а потым пытае:
– А як цябе завуць, забылася?
– Вова!
– Воўка? І майго сына так завуць... – кажа мама і моліцца далей.

**

Калі даглядаеш старую і зусім слабую маці, то больш даведваешся не пра яе, а пра сябе "любімага". І пачынаеш разумець усю сваю недасканаласць. Вылазяць: лянота, крывадушнасць, непачцівасць, злосць, хітрасць, баязлівасць, жорсткасць і шмат чаго яшчэ – цёмнага і цяжкага, што старанна хавалася ў глыбіні ўласнай істоты. Спрабуеш выправіць, а не заўсёды і атрымліваецца.
Хто даглядаў блізкага чалавека хаця б дзень і ноч, месяц, то, можа, са мной і пагодзіцца...

**

Ранішні цягнік ляціць на поўдзень. Узыходзіць сонца. Насупраць мяне сядзіць праваслаўны святар у блакітнай масцы, глядзіць у вакно і мружыцца ад яркага сонца. Ад самага Мінска маўчым.
На перагоне паміж Жлобінам і Буда-Кашалёвам святар хутка дакранаецца да маёй рукі і паказвае ў неба. Ён убачыў першым.
– Гусі! – радасна ўскрыкваю я і гляджу на тры чарады вялікіх шэрых птахаў, якія ляцяць у бясхмарным небе, па-над асветленымі зыркім святлом красавіцкімі ўзлескамі.
– Дзікія, – кажа святар і праводзіць позіркам чароды гусей.
З-пад маскі вытыркаецца сівая барада. Святар мружыцца, уздыхае, і вочы яго блішчаць сінечай, як красавіцкія лужыны.
– Я да мамы еду.
– А я па трэбах, – адказвае святар і чорным рукавом выцірае мокрыя вочы.
Маўчым, думаем пра сваё, глядзім у вакно: на палі, лясы, неба...

**

Калі прыязджаю да маці, у бацькоўскую кватэру, то пераапранаюся. Так, відаць, усе робяць. Мне падабаюцца бацькавы кашулі, кофты, джэмперы. Бацькі няма на свеце амаль дваццаць гадоў, а яго рэчы працягваюць служыць... Прыемна іх апранаць, зашпільваць гузікі, падцягваць ці заварочваць рукавы... Гузік сёння адарваўся. Закаціўся пад шафу. Раней бы маці сказаў – яна б і прышыла... А цяпер сам. Прышыў і прыйшоў пахваліцца.

– Добра прышыў? – спытала і праверыла. Хацела зашпіліць, а не змагла – пальцы не слухаюцца.

– Не адарвецца, яшчэ панашу...

– Не ведаю... Мoжа і паносіш трохі. Зашпіліся, не хадзі расхрыстаны.

**

Пакарміў яе. Мыю на кухні посуд. Чую, мама нешта гаворыць ласкава і манатонна.

– Мама, што ты там гаворыш? – пытаю здалёк, а потым падыходжу да яе пакоя.

– Я не с табой, сынок, я з Богам гавару...

Мыю посуд, прыбіраю, а яна расказвае Богу, што сын прыехаў...

**

Бярозы за вакном нерухомыя. І крумкач на вершаліне нерухомы, як нежывы. Неба нізкае, дождж усё збіраецца-збіраецца, ды не насмельваецца пайсці. Вусцішна.

З кухні ціха падыходжу да мамінага пакоя, спыняюся ў дзвярах і гляжу на яе твар, потым на сурвэткі на крэсле, на грабеньчык, акуляры, стары тэлефон, на шклянку з вадой, потым зноў на твар і ад яго, слізгануўшы позіркам па гадзінніку, на вялікае вакно – светлае, ранішняе... Сённяшняя ноч прайшла спакойна.

Мама расплюшчвае вочы, здзіўляецца і палохаецца, калі бачыць мяне ў дзвярах. Я разгублена ўсміхаюся і не ведаю, што сказаць.

– Гэта дзень, сынок?

– Дзень... – адказваю ўпэўнена.

Яна паказвае рукой на сцяну супраць ложка. Там гадзіннік.

– Без чвэрці восем, – кажу, бо думаю, што яе, як заўсёды, цікавіць час.

– Яны прыходзілі, ты не бойся, прысядзь, не стой...

– Хто мог прыходзіць, мы адны, дзверы на замку, нікога тут не было і быць не магло.

– Яны адтуль выйшлі, са сцяны... Цёмныя, высокія такія. Адзін трохі меншы. Я спужалася. Сціснулася ўся ў камяк, а коўдру не магу насунуць... Яны маўчаць і бліжэй падыходзяць. Да самага ложка... Глядзяць і кажуць, каб я збіралася і не баялася. А я сабе думаю, як я з імі пайду, я ж у памперсе, не апранутая... Сорамна...

– Мужчыны, мама?

– Я і не зразумела, хто яны такія. Цёмныя, і смяюцца ціхенька...

Падсоўваю да ложка крэсла, сядаю і спрабую ўсміхацца. Хачу ўзяць яе за руку, а яна яе выторгвае, хавае пад коўдру.

– Прыснілася табе абы-што... Не думай... Дзень на двары. Снедаць будзем, таблеткі піць... Што прыгатаваць?

– Я, сынок, так даўно жыву, што ўсе свае сны ведаю, не па адным разе сніла... А ты кажаш – сон!

Падымаюся з ложка, падыходжу да сцяны і раздражнёна ляпаю па ёй далонню.

– Не можна з гэтай сцяны выйсці, мама! Бетон!

– Я падумала ноччу, што калі пайду з імі, то ты раніцай глянеш, а мяне няма... Ложак ёсць, а мяне няма... Спужацца можаш.

– Аўсянку ці амлет?

– Што хочаш...

Калі рабіў амлет, за вакном пайшоў снег. Яйка выслізнула з пальцаў. Упала і не пабілася.

Гэта было 8 красавіка 2021 года.

**

Пасадзіў маму ў ложку, падушкамі абклаў. Пакарміў сняданкам. Прапаную яркую мандарынку.

– Дай, я сама.

– Зараз аблуплю.

– Не, дай, я сама.

Яе слабыя пальцы спрабуюць справіцца з бліскучай і слізкай скуркай, а мандарынка не слухаецца...

Забіраю, пачынаю лупіць.

– Дай, сама буду. Я не хачу яе есці – кіслая... Лягу і буду пальцы нюхаць... Яны так смачна пахнуць, як тады.

– Калі?

– У маладосці, калі вы з Колькам яшчэ малымі былі.

**

Сонечна... У кухні ўсё блішчыць, і старыя рэчы выглядаюць як новыя. А посуд: талеркі, белыя каструлі, кубкі, лыжкі, відэльцы, шкло – зіхцяць так, што даводзіцца мружыцца.

За вакном, з пятага паверха, відаць далёка – прыватныя дамы і гароды, шаша, чыгунка, высокае неба з белымі аблокамі. На некаторых агародах – блакітна-белы дым. Гаспадары парадкуюць свае соткі, паляць мінулагодняе смецце, абрэзанае галлё.

Думаю пра апавяданне, якое не магу дапісаць, але не злуюся сам на сябе, бо занадта добрае надвор’е, а бярозы, асветленыя красавіцкім сонцам, выглядаюць святочна. Хутка, яшчэ колькі дзён, і рудое галлё зробіцца купаросна-зялёным.

Пераношу маму на кухню. Уладкоўваю на цяжкае крэсла побач з жоўтым сервантам. Хачу, каб і яна парадавалася яркаму сонцу, ціўканню птушак, смачным пахам ежы, якая гатуецца на вымытай пліце... А яшчэ думаю пра апавяданне і пра тое, што буду за мамай падглядваць, сачыць за кожным яе рухам, поглядам, лавіць словы і развагі пра жыццё.

Але яна глядзіць у вакно без цікаўнасці.

– Бачыш, дзеці са школы ідуць па дарозе, – кажу ёй.

– Няхай сабе ідуць.

Паварочваю крэсла, і яна не бачыць сонечнага краявіду. Пстрыкаю кнопкамі, паварочваю тумблер, і пральная машына пачынае гудзець, шумець, і за круглым ваконцам радасна круцяцца ў белай пене рознакаляровыя апранахі. Гляджу на радасны рух і шум.

– Доўга яна яшчэ будзе шумець? – Мама паказвае пальцам на белую машыну.

– Паўгадзіны.

– А што так доўга?

– Пакуль намочыцць, пакруціць, зноў намочыць, а потым адціснe і спыніцца... Дастану і на балконе павешу – там будзе сонца, і да вечара ўсё пасохне.

– Суп пасаліў? Пасалі...

Салю суп і пачынаю шкадаваць, што прынёс яе на кухню, што выцягнуў са звыклага стану. Думаў убачыць яе радасць ад усяго гэтага сонечнага, вясёлага, смачнага, шумнага... Спадзяваўся, што ўсё гэта палепшыць яе настрой.

– А які сёння дзень?

– Аўторак.

– Паска скора?

– Трохі меней, чым праз тры тыдні, а што?

– Трэба будзе яйкі пафарбаваць, каб па адным на кожную магілку. Купі, і няхай ляжаць у лядоўні, а то потым... А суп накрый, няхай пастаіць, а то бульба будзе цвёрдая... Занясі мяне туды, – сказала неяк абыякава і паглядзела на дзверы свайго пакоя.

Перанёс, пасадзіў на ложак і ўздыхнуў.

– Адпачні, – паляпала па ложку.

Сеў. Маўчым. Думаю, што праз гадзіну трэба палуднаваць, а я пакуль не ўсё прыгатаваў, што кампот забыўся пасаладзіць.

– Ма, што-небудзь хочаш?

– Хачу... – адказвае хутка, як чакала майго пытання.

– Ну?

– Давай разам памром, чуеш?

– ...

– Мы з табой добра пажылі... Чуеш?

– Што ты прыдумала... Што ты гаворыш? Я ж твой сын.

– Сын, я ведаю...

– У мяне ж дачка яшчэ маладая, жонка... Мама, што ўсё гэта? Пра што ты?

– Дачка вялікая, не прападуць яны без цябе...

– Ой... Давай пакладу, паляжы, а то гаворыш абы што...

Доўга стаю перад акном, пазіраю на красавіцкія аблокі, на белы надпіс упоперак дарогі, добра бачныя тры апошнія літары “ОЛА”, а дзве першыя “ШК”, амаль сцерліся коламі машын. Пахне кампотам, але яго салодкі водар мяне раздражняе.

**

На клавіятуру ашчадна свеціць маленькая лямпачка. У кватэры цёмна і ціха, нават вусцішна. Спяшаюся, падбіраю словы, быццам выкалупваю, злуюся... У вячэрняй сутонлівай цішыні чуваць кожны гук. Мама ўздыхае, неразборліва мармыча нешта, а потым ясна і насцярожана, амаль спалохана:

– Сынок, Вова, ты дома?!

– Тут, а дзе мне быць, – адказваю, запальваю святло, іду да яе ў пакой.

– Што ты там робіш?

– Працую. Пішу...

– Чытаеш... А што ты пішаш ноччу, колькі часу, дзе мае акуляры, не бачу.

– Палова на дванаццатую... Спі! – прашу, ці амаль загадваю, і незадаволена ўздыхаю.

– Сядзь тут, раскажы што ты пішаш, пра што?

– Ой... Пра цябе пішу, – сказаў і тут жа пашкадаваў, падумаў, што трэба было схлусіць, пра работу што-небудзь расказаць.

Мама насцярожылася, вусны падціснула, рука пачала намацваць

акуляры, потым уздзяваць. Павялічаныя шклом вочы злосна, мне так падалося, бліснулі.

– Пра мяне... А што ты пра мяне ведаеш?

– Пішу пра тое, як мы тут з табой гаруем, як я цябе кармлю, мыю... Пра рознае пішу, а што, нельга?

– Ты толькі не пішы, што бацька твой піў дужа і павесіцца хацеў, а я не дала яму і вяроўку забрала, так раззлавалася, што забіць яго хацела... А ён плакаў-плакаў, як дзіцё... Не будзеш гэта пісаць? Напішы, што я ўсё жыццё работала, аж семдзесят восем гадоў работала...

– А чаго ён плакаў?

– Спужаўся...

Трохі памаўчала, акуляры зняла, папрасіла пакласці да месца і пачала расказваць як памерла яе матка. Памерла ад тыфу, на печы. І дзеці: Вольга, Шура, Надзя і яна, усе на той печы спалі, убачылі, што маці не дыхае, пабеглі на стайню, каб сказаць бацьку і спытаць, што цяпер рабіць і што ім есці... Бо матка не паспела нічога згатаваць... Напішы, што мой партрэт на прахадной завода вісеў і мне прэміі давалі, а калі ногі пачалі балець, то адпраўлялі ў санаторый – у Сочы, у Сакі, у, забылася, як той горад завецца – у Анапу...

– Напішу і пра Анапу.

– Што ты тут сядзіш... Ідзі!

– Пісаць?

– Спаць ідзі... А я таблеткі піла? Ідзі... Святло патушы.

Вяртаюся ў свой пакой. Сядаю да стала. Рукі на клавіятуры, але я цяпер не ведаю, пра што пісаць.

**

Калі мама пачынае гаварыць, то інстынктыўна падхопліваюся. Голас – сігнал. Ёй нешта трэба: балкон адчыніць-зачыніць, коўдру паправіць, вады, таблетку падаць, павярнуць, пасадзіць-пакласці... Сто пытанняў і праблем...

Чую яе голас.

Падыходжу. Яна чытае малітву. Самую галоўную... Пра “Отчэ наш...” Дачытала і на мяне глядзіць, а мы і павячэралі, і таблеткі выпілі, усё парабілі, цяпер толькі спаць...

– А я яшчэ адну святую малітву ведаю, – сказала і на мяне глядзіць. Час – палова на дзясятую.

– Давай, раскажы, паслухаю.

– Выхаджу адна я на дарогу,
праз туман халодны пуць блішчыць.
Ноч ціха...

Тут пачынаю гаварыць я:

– Пустыня внемлет Богу
и звезда с звездою говорит.

Мама прыўздымаецца, галава адрываецца ад падушкі, глядзіць на мяне спалохана, а я працягваю:

– В небесах торжественно и чудно,
Спит зяемля в сияньи голубом.
Что же мне так больно и так трудно
Жду ль чего, жалею ли о чём?

Мая беларуская мама, у якой адзіны запіс у працоўнай кніжцы, – шклозавод, – чытае Лермантава далей...

– Уж не жду ат жызьні нічыво я,

Уж не не жаль мне прошлава нічуць.

Я ішчу свабоды і спакою

Я хачу забыцца і заснуць!..

Мне давялося дачытаць верш да апошняга слова, да дуба, які схіляецца і шуміць...

– Сынок, а дкуль ты гэтую малітву ведаеш?

– Са школы...

– У школе вучылі? – перапытвае з недаверам.

– Так... А ты, мама?

– А мне Касаткіна расказала. Тая, што кантралёрам у клубе працавала. Яна расказала, а я запомніла.

Гэта было 11 красавіка 2021 года.

**

Гатую. Маму перанёс на кухню, каб ёй было цікавей. Яна глядзіць, як я хутка абіраю бульбу, і маўчыць.

– Давай, можа, я, – раптам прапануе яна.

– Куды табе – яшчэ палец парэжаш.

Бульбіны падаюць у рукамыйнік, а лушпінне ў сметніцу. Мама ўздыхае. Бярэ жоўтую бульбіну і абмацвае.

– Хто цябе так навучыў чысціць? – незадаволена пытае яна.

– Жыццё навучыла, а што не так?

– Добрае ў цябе было жыццё – ці не палову бульбы ў сметніцу выкідаеш, – мама кажа сумна і акуратна кладзе бульбіну на край рукамыйніка.

**

З роспытамі пра вайну стараюся да мамы не лезці. Расхвалюецца, ціск падскочыць, галава разбаліцца... Але ўспаміны прарываюцца самі, без бачнай прычыны. Гляджу ў вакно на залатое зімовае сонца і чую доўгі ўздых.

– Доўга жыву, а ніколі не чула, каб нехта так галасіў, як матка... Як дазналіся, што вайна пачалася, можа, на другі, ці на трэці дзень нашых хлопцаў вызвалі ў ваенкамат. І Грышу нашага – майго брата старэйшага, ён з дваццаць другога года. Бацька каня запрог, каб яго ў Лоеў везці. А матка як закрычыць, як загалосіць. Конь спалохаўся, пабег, а Грыша следам. Яна галасіла-галасіла, а потым села на дарогу і сцішылася, скамянела... Як ведала, што нашага Грышу хутка заб'юць... А калі Васіля забіралі, дык яна і не плакала. Во як было... Дзе той Грыша, дзе Васіль?

– Мама, давай пра што добрае пагаворым.

– Давай... Гавары!

(Грыша загінуў 28 лютага 1942 года. Пахаваны пад Ржэвам, у пасёлку Гусева. Васіль прапаў без вестак у верасні 1941-га.)

**

“Па Сажы плылі пабітыя хлопцы... Тры дні плылі... Матка бегала глядзець, можа, і наш Васіль плыве, можа, і яго рака прынясе. Аднаго хлопца з нашай вёскі на бераг выкінула рака – бабы тады і пабеглі

сваіх шукаць. Яны, як у чым сваім былі адзетыя, у тым іх і пабіла. Нават салдацкае не паспелі апрануць. Там, вышэй, іх усіх і пастралялі, пазабівалі... Даўно было, а як учора...” – быццам сама сабе кажа мама і глядзіць у столь, а па ёй цені бягуць і прападаюць. Па вуліцы машыны праязджаюць, свецяць...

**

Мама ноччу спала кепска, кідалася, мяне да сябе звала. Ёй снілася вясна, і яна казала, што трэба ехаць на вёску – бульбу саджаць. Свае сны лічыла праўдай, і я, як ні стараўся, а не мог яе пераканаць, што на вуліцы снежная зіма, сумёты, мароз... Яна слухала, але не верыла.

Падумаў, што чалавек, калі з ім здараецца няшчасце: цяжкая хвароба, страта ці якая другая бяда, заўжды пытае – за што?

Упэўнены – дарослы чалавек заўсёды ведае адказ на гэтае пытанне. Ведае, але прызнацца сабе самому не хоча. Можа, баіцца...

**

– Сынок, ты дзверы зачыніў?

– Зачыніў.

– На два замкі?

– Добра зачыніў, не хвлюйся.

– Хаця каму я такая старая трэба (задуменна)... Зачыняй – не зачыняй...

– Мне трэба!

– Тады зачыняй... (доўгае маўчанне) і кладзіся спаць.

**

Чатыры разы, навобмацак, падыходзіў ноччу да мамінага ложка. Стаяў і слухаў... Дыхае!

Пад раніцу, калі ў двары пачалі скрэбці снег і біць лёд, яна прахапілася.

– Сынок, а што ты не спіш?

– Вады іду папіць.

– Вады... Ідзі паспі яшчэ... Цёмна ж... Божачкі, якая ж доўгая ноч...

**

Ноч. У прыватным сектары перабрэхваюцца сабакі. П’янтосы пад пад’ездам сварацца... Мама цяжка дыхае. Стогне. Прахопліваецца. Заве мяне. Іду. Мераю ціск. Супакойваю. Спрабую заснуць. Слухаю яе дыханне. Думаю, што яно ў любы момант можа спыніцца... І што мне тады рабіць? Складаю спіс неадкладных спраў. Каму тэлефанаваць першаму, каму потым? Як што будзе? У разгубленасці і засынаю.

– А мне сёння мамка снілася... – кажа мама раніцай. – Не было такой ночы, каб яе не бачыла.

– А мне нічога не снілася... – адказваю трохі раздражнёна.

– Слухай, як бы мне пастрыгчыся?

– Што?

– Пастрыгчыся трэба! Ты ж не ўмееш... Трэба Кацю папрасіць.

– Навошта, мама?

– Як гэта... Ты што, не разумееш? Каб прыгожа было.

– А-а-а...

**

Сядзім з мамай плячо да пляча. Гаворым.

Раптам я падскокваю, пляскаю ёй перад тварам і радасна хвалюся:

– Моль забіў!

– Граха не баішся, свята ж сёння, сынок, – задуменна кажа мама.

– Баюся...

Яна трохі маўчыць, а потым працягвае: “Хоць і рэдкую сетку закідае смерць, але ні камар, ні генерал праз яе не праскоча...”

**

Збіраюся гатаваць. Мама ляжыць, а я пералічваю стравы, якія магу прыгатаваць. Спіс прапаноў доўгі. Мама перапыняе:

– Не выдумляй... Звары цэлай бульбы. Калі разварыцца – адцадзі, а потым пастаў на пліту, каб падсохла. Гурка пакрышы, і з рыбай паядзім.

– А піць што?

– Сыраквашы пап’ю, а ты як хочаш.

– І ўсё?

– А што яшчэ трэба... Ягадамі закусім... Не выдумляй.

Так і зрабіў.

**

Пераносіў маму на кухню, дзе ўсё варыцца, кіпіць і скварчыць... Ведаў, што ёй тут цікава. Прыгатаваў “гняздо”, дзе яна будзе сядзець.

– Абдымі мяне за шыю! – амаль загадаў, бо яна баялася.

Падхапіў, падняў, ціхенька нясу са спачывальні, праз калідор, на кухню. Пасадзіў на крэсла пад акном, побач з батарэяй.

– Ты мяне нёс, як дзевачку! – кажа яна.

– А як яшчэ, ты ж не хлопчык.

– Даўно мяне на руках не насілі... Даўно...

– А хіба бацька не насіў?

– Хто?.. Саша, твой бацька?..

– Ну, ён?

– Калі тое было... – сказала, памаўчала і засмяялася.

**

У той дзень, дванаццатага лютага, у сне – я горка плакаў...

Ад таго плачу і прахапіўся. Падушка мокрая, па шчаках ліюцца слёзы, хліпаю... Так плачуць толькі малыя дзеці. Што снілася – зусім не памятаю. Прахапіўся – пачатак на восьмую. Памыўся, згатаваў каву, сеў за стол і хацеў пачаць працаваць.

Вядома, спрабаваў згадаць, а што ж мне такое снілася? І не змог, хаця сны звычайна запамінаю. Вось сёння сніўся рамантычны сон, у якім я засяляўся ў інтэрнат тэатральна-мастацкага інстытута. Камендантша, касцялянша, паперкі, бялізна, ложкі... Мяне не хацелі засяляць, але я быў дыпломнікам, і адмовіць не змаглі... Памятаю гэты сон у самых дробных дробязях. А той, калі горка плакаў, не памятаю.

У дзевяць патэлефанавала Іра-сядзелка і сваім баптысцкім голасам паведаміла – памерла Адамаўна. Памаўчала і дадала – ваша, Уладзімір, мама.

**

Я прыехаў у Гомель на хуткім цягніку. Іра-сядзелка чакала мяне ў краме “Рытуал”. Мы набылі труну, падушачку і яшчэ нешта патрэбнае. Выбралі чорны металічны крыж, які трэба падпісаць. Немаладая прадавачка сама прапанавала такую паслугу. Папрасіў зрабіць надпіс па-беларуску. Яна здзівілася. Завагалася. Тут я сказаў, што магу сам зрабіць подпіс на шыльдачцы.

– Не... У вас не палучыцца, мужчына, ізвініце. Лучшэ на бумаге напішыце, разбочыва.

Не стаў спрачацца, не стаў расказваць пра свае здольнасці і адукацыю, не згадаў, што рабіў падобныя надпісы ў войску на чорных жалобных стужках...

Жанчына з маёй паперкі зрабіла надпіс, у якім было дзве памылкі.

– Прабачце... Адамаўна пішацца праз “а” і без “в”, з “ў”... – сумна і ціха заўважыў я.

– Точна... Ізвініце, шчас іспраўлю.

Пачала змываць слова ацэтонам і ўсё размазала.

– А знаеце што, мужчына, а давайце вазьмём другой крэст. Новенькі. Памагіце толька.

– Давайце...

Праз чвэрць гадзіны пагрузілі труну і жалезны крыж у машыну. Паехалі да мамы.

**

У маці засталіся дзве сястры: Вольга і Надзя. Малодшая, цётка Надзя, жыве ў Карагандзе. Далёка... Старэйшая, цётка Вольга, у Гомлі, лічы, побач. Ёй дзевяноста чатыры. З маці яны сазвоньваліся па некалькі разоў штодня. Размовы вялі пра хваробы, сны, лекі, дзяцей. Здаралася, і сварыліся, але хутка забываліся на свае дробныя крыўды і працягвалі перазвоньвацца, як і раней.

Прайшло дзесяць дзён, як памерла мама. У далёкую Караганду, да малодшай сястры, мы пазванілі адразу, паведамілі, потым і відэа паказалі: маму ў труне, тых, хто сабраўся ў царкве і на заснежаных могілках. Паплакалі разам. Перабачыліся з дапамогай смартфонаў...

А вось старэйшай, Вользе, пакуль не сказалі. Мае стрыечныя браты – баяцца. Кажуць, што іх старая маці не вытрымае такую навіну. Дужа яна гэтай зімой саслабела.

– А што вы цётцы гаворыце, яна ж цікавіцца, просіць, каб пазванілі? – пытаю стрыечнага брата.

– Кажу, што цётка Наташа спіць, стамілася і спіць...

– Ох...

– А што тут скажаш... Спіць жа... – няўпэўнена і сумна заўважае стрыечны брат.

**

Сам-насам у бацькоўскай кватэры...

Перабіраю розныя рэчы, успамінаю. Бывае – усміхнуся, бывае – заплачу... Здаецца, ніхто і ніколі не расказваў гісторыю сям’і праз самыя звычайныя гузікі.

У жоўтым серванце чатыры бляшаныя пушачкі з самымі markрознымі:

вялікімі, дробненькімі, металічнымі і ўрачыстымі. Вопратка зношвалася, а перад тым, як выкінуць, мама абразала гузікі – а як спатрэбяцца?..

За жыццё сабралася чатыры бляшаныя пушачкі. Ёсць гузікі – як слёзы, дробненькія, бліскучыя, салёныя... Трапляюцца і незнаёмыя.

Усе мы – гузікі... Адарваныя, прышытыя, а некаторыя і на адной нітцы.

**

У семдзесят дзявятым бацькі атрымалі гэтую кватэру. Пераехалі з Кастрычніцкай на Першамайскую. Кватэра на пятым паверсе – відаць з яе вокнаў далёка. Прыватная забудова, шаша, за ёй зноў дамкі, потым вялікія таполі, за якімі чыгунка.

Па ёй я прыязджаў у Касцюкоўку і з’язджаў у Мінск. Ведаю, што бацькі заўсёды стаялі перад акном кухні і глядзелі на далёкі і хуткі мінскі цягнік. А я глядзеў на вокны нашай кватэры і ведаў – там яны, стаяць моўчкі і ўзіраюцца ў начную цемры, якую працінае бліскучы ланцужок цягніка.

Потым, калі з’явіліся мабільнікі, я званіў маме з вагона (бацькі ўжо не было на гэтым свеце), і казаў, што бачу вокны нашай кватэры. Мама адказвала, што таксама бачыць мой *поязд* і мяне. Імгненне маўчала.

– А ты мяне бачыш, сынок?

– Бачу, ты на кухні, перад акном стаіш... – бяскрыўдна хлусіў я і чуў, як яна ўздыхае і ўсміхаецца, каб не заплакаць.

**

Як жа добра бывае ў бацькоўскай кватэры...

Закруціўся, завіхнуўся, заняўся... Нешта рамантуеш, гатуеш. Здаецца, пакліч, і з’явяцца – бацька, маці... Будуць глядзець, дзівіцца, раіць...

Як жа сумна і пуста бывае ў бацькоўскай кватэры.

**

Знайшоў у шафе шэрую і добра так зношаную маміну партманетку. Бліскучая зашчапка, маланка. Раскрыў, а там, у вакенцы пластыкавым, два фотаздымкі: меншы мой, большы малодшага брата...

**

Калі прыехаў у бацькоўскую кватэру, то ўсе гадзіннікі стаялі. Цяпер, я памяняў сілкаванне, тры з чатырох працуюць. Маленькі і зграбны, як ні стараўся, адрамантаваць не здолеў. З механічным ціканнем зрабілася не так самотна. Усе яны, як дзверы ў Гогаля, памятаеце “Старасвецкіх памешчыкаў”, ідуць па-рознаму, у кожнага свой голас.

Калі я з’еду і замкну кватэру, гадзіннікі будуць цікаць у сутонлівай цішыні. Адзін насупраць бацькоўскіх ложкаў, адзін на кухні ў жоўтым серванце, ён самы галасісты, трэці ў зале, над канапай.

Думаю пра хуткі ад’езд, пра ціканне гадзіннікаў, і мне робіцца спакойна і страшна. А чаму страшна, зразумець не магу, як ні спрабую.

**

Разбіраю, пераглядаю, перамацваю і перабіраю рэчы ў бацькоўскай кватэры. Разграбаю шуфлядкі ў шафах, сталах, шкапках, камодах... Заўважыў, што гузікі застаюцца, хоць кашулі з сукенкамі знікаюць. Застаюцца і замкі з ключамі – хоць ні дзвярэй, ні дамоў – няма... Спражкі

застаюцца, а рамяні знікаюць... Кайданы і ланцугі застаюцца, а вязняў – няма.

Застаецца і доўга захоўваецца тое, што трымае, мацуе, скрапляе... Тэксты застаюцца, словы, мова...

**

Другі дзень за вокнамі бацькоўскай кватэры (Чыгуначны раён Гомеля) ляцяць і ляцяць у бок Украіны самалёты і верталёты... Шкло трымціць ад моцнага рову, гракі і вароны зрываюцца з дахаў і бяроз, спалохана крычаць.

– Сынок, а што яны так разляталіся? – спытала б мама, пра самалёты, каб была жывая.

Спытала б... А я, упэўнены, схлусіў бы ёй. Не змог бы сказаць, што пачалася вайна. Тут, зусім побач...

**

Вароны і гракі прызвычаіліся да гудзення рухавікоў вайсковых самалётаў. Сядзяць на бярозах, гайдаюцца, а калі самалёты пралятаюць над імі, то не зрываюцца, не ляцяць, а хутка ўцягваюць дзюбатыя галовы ў плечы.

**

Зварыў грэчку, з маміных запасаў (крупы знайшоў на балконе, у шкапку). Паеў... Памыў талерку, лыжку і адзін кубак... А кашы яшчэ засталося, па звычцы – зварыў на дваіх...

**

Ноччу выпаў снег. Ноччу гулі нябачныя самалёты. Раніцай піў каву і глядзеў праз акно бацькоўскай кватэры на новае неба, на краявід, такі знаёмы, да драбніцаў. Па вуліцы, да школы, спяшаліся дзеці з яркімі заплечнікамі. Падумаў, ці ідуць сёння ў школу ўкраінскія дзеці? Ці спяшаюцца да бамбасховішчаў і сутарэнняў?..

Па вуліцы кульгаў стары ў чорным паліто. Ён спыніўся побач з гурбачкай пачарнелага снегу і пачаў разбіваць яго кійком. Біў, біў... Не разбіў і пакульгаў далей...

Пачаў мыць падлогу. Пад бацькоўскімі ложкамі заўважыў белае пёрка. Падумаў, што з падушкі вылезла. Не! Гэта было не пёрка, а пасмачка маміных валасоў... Зусім бязважкая. Адкуль яна ўзялася? Тут мяне “накрыла”, я сеў на мамін ложак і заплакаў...

Неяк я сядзеў на гэтым жа месцы, а мама ляжала. Паглядзела на мяне і з усмешкай сказала: “Як памру – дужа не плачце... Трошкі паплачце, і хопіць... Што равець, я сваё аджыла... Чуеш, сынок?”

**

Ехаў у маршрутцы на другі край Гомеля. Праз два прыпынкі пасля мяне ў салон зайшла маладая жанчына з торбачкай і села побач. Падумаў, што толькі мы з ёй і ў масках. У жанчыны зазваніў тэлефон. Я пачуў амаль усю размову. Мая спадарожніца гаварыла са старэйшай сястрой з Чарнігава. Тая нервова крычала, што трэці дзень – выбухі, ад якіх яна з сям’ёй хаваецца ў сутарэннях... Што па іх б’юць з Беларусі. Прасіла хоць нешта зрабіць. Спыніць гэты жах!

Мая суседка крычала, што яна нічога не можа зрабіць... Што калі яе забяруць, не будзе каму дзяцей пакарміць і да Сяргея з’ездзіць...

Старэйшая сястра крыкнула: “Матка трэці дзень раве!..” Перапыніла размову. Тут мая суседка ціха заплакала.

Маршрутка прыехала ў “Медгарадок”. Мы выйшлі. Жанчына ўсё яшчэ ўсхліпвала. Яна ішла паперадзе, я следам. Мы павярнулі да брамкі, скіраваліся да вялікай шэрай будыніны. Карацей, да анкалогіі... На ганку спадарожніца пачала прыхарошвацца.

Яна ішла да свайго мужа Сяргея, а я да сваёй дачкі.

**

Сорак два гады я тэлефанаваў у гэтую кватэру, на вуліцы Першамайскай, на пятым паверсе бела-цаглянага дома... Тэлефанаваў – і заўсёды мне адказвалі. Зрэдку бацька, а найчасцей маці. Дваццаць гадоў, як няма бацькі, а напрыканцы зімы памерла і мама. Усё ў бацькоўскай кватэры пакуль на ранейшых месцах... І стары дыскавы тэлефон з хрыпатым званком, ён стаіць у калідоры, на камодзе, пад люстэркам. І доўгі чорны дрот ляжыць побач, на падлозе...

Мяне, не магу зразумець чаму, да млосці пужае думка, што можна патэлефанаваць у бацькоўскую кватэру. Можна... І хрыпаты званок старога апарата скалане вусціш пустых пакояў мёртвай кватэры...

Але, маё няшчасце – звычайнае, дробнае. Можна сказаць, што яно – шчасце, у параўнанні з тым, што адбываецца са знаёмымі ў Харкаве, Мелітопалі, Чарнігаве, Бучы...

**

На сорак дзён паехаць у Гомель не атрымалася, бо былі неадкладныя сямейныя справы ў Мінску. Паехаў, калі трэба было завезці натарыусу дакументы на бацькоўскую кватэру.

Сядзім у кабінеце з братавай жонкай. Жанчына натарыус уважліва праглядае паперы, потым пазірае на мяне і называе Мікалаем Аляксандравічам.

– Прабачце, я – Уладзімір – старэйшы сын, а Мікалай – малодшы.

– Старэйшы, а дзе Мікалай?

Братава жонка выцягвае з торбы і падае крыху пакамечаную генеральную даверанасць і тастамент, падпісаны мамінай рукой (вялікія крывыя літары). Я ўпэўнены, што ён такі ж, як і мой у празрыстым файле.

Натарыус чытае, параўноўвае са сваім асобнікам у кампутары і паведамляе, што згодна з тастаментам, складзеным два з паловай гады таму, кватэра і неатрыманая пенсія Наталлі Адамаўны, згодна з жаданнем нябожчыцы і ў адпаведнасці з законам, адыходзяць майму малодшаму брату і яго жонцы (у роўных долях)...

Яна яшчэ нешта гаворыць пра нейкую даведку, а я разгублена ўсміхаюся такому нечаканаму павароту спраў. Гляджу на свой асобнік, дзе чорным па белым напісана, што ўся маёмасць павінна дзяліцца паміж мной і братам, і нічога не разумею.

Натарыус тлумачыць што мой тастамент, згодна з законам – несапраўдны, бо складзены на год раней (яго можна выкінуць, а можна пакінуць на памяць)...

**

На вуліцы, дзе месціцца натарыяльная кантора, дзьме цёплы травеньскі вецер. Хутка ляцяць белыя, амаль летнія аблокі... Я куру другую цыгарэту і спрабую асэнсаваць новы і нечаканы парадак рэчаў. Не атрымліваецца. Не разумею, як так атрымалася... Чаму ні брат, ні яго жонка пра новы тастамент мне нічога не казалі? Чаму так? Не знаходжу ўцямных адказаў на свае пытанні...

**

Іду ад пад’езда нашага дома. Спыняюся пад бярозамі. Па звычцы азіраюся на вокны бацькоўскай кватэры. А раптам усё не так?

Думаю пра тое, што застаецца суцяшаць сябе тым, што мне ў спадчыну засталіся гузікі. Розныя. Шмат...

*Мінск 2021-2022 гг.*

Валянціна Аксак



...У апраметнай згарэлі
сустрэчы і ростані,
а скрозь пажарышчы
кветкі цвітуць...

# Жыві, як і я. Навырост

### *ПЕРАД КАНЦОМ СВЕТУ*

У дзень,
калі пачалася
трэцяя ўсясветная,
адзін знакаміты майстар
па наладжванні зроку
зрабіў мяне
добра відушчай.
Увесь гэты час
пасля той сустрэчы
з чараўнікам
лазера й скальпеля
я думала пра марнасць
медычнага поспеху.
Навошта цяпер мне
шматколернасць неба,

якое так раптам
згубіла вясёлку.
Сёння ўрэшце даўмелася,
што спраўныя рукі
вочнага эскулапа
падарылі мне шанец
убачыць
канец
гэтага
чорнага
свету.

* * *

Паўтараецца час,
калі нам пасуюць
толькі
чорныя
сукні

### ***ШАБАТ***

Субота.
Шабат.
Не варушыцца сшэрхлае неба.
Сціжмы шэрых варонаў
анямелі ля сметніц.
Шэрагі абымшэлых камлёў
канваірамі сталі
ўдоўж сцежак раз’езджаных.
Цішыня тут урэшце.
Шабат.
Амярцвелі аўтаматныя чэргі.
Спруцянелі жэралы танкаў.
Бомбы закаціліся ў багну.
Так падумала шчасна,
паглядзеўшы ў вакно.
Забылася,
што прачнуўшыся хвілю таму
шчэ з вушэй
не дастала бярушаў.

### ***САМОТА***

Мне няма куды йсці
дзеля сустрэчы

з Богам
апроч майго
балеснага ўяўлення.

## ***ВЯЛІКАЯ СУБОТА***

Не памятаю
такога халоднага
Вялікадня.
У свеце далёкім і блізкім.
У людзях чужых і родных.
У сваёй збалелай душы.
Божа ўваскрэслы,
уваскрасі!

## ***БЕЛЫЯ ПТУШКІ***

Прачнуцца ранкам
у сваёй кватэры,
убачыць
белых птушак за вакном,
якія здолелі ўхіліцца
ад бомбаў і баевікоў
і шчасна перасеклі межы
ў чорным дыме.
Пачуць аддыханае
іх курлыканне пра тое,
як на Звеставанне
яны абновяць гнёзды
і пачнуць
выседжваць дзетак,
а тыя потым,
асветленыя
жоўтым сонцам,
палятуць
блакітам неба
ў Вырай.
І вернуцца
ў свой
Белы Край.

## ***ДЗЕВЯЦЬ ПТУШАК***

Сёння зноўку
сустрэлі мяне

дзевяць белых
рахманых птушак.
Селі радком
і блакітнымі зрэнкамі
глядзелі даверліва,
скануючы рухі мае,
як немаўляты з калысак,
вачыма ўчуваючы
настрой сваіх маці.
Кулі і бомбы
цяжкім сном
засталіся на поўдзень адсюль
за дваццаць дзён пералётных,
цягам якіх
парадзела ўдвая
чародка ўтрапёная.
То ім гэтай вясной чараваць,
каб у кожным гняздзе
за ўсіх ненароджаных
іхніх родных
птушаняты пладзіліся
і тутэйшым
вучыліся
спевам.
Каб было
сама менш
дзевяць птушак.

## *КАХАННЕ Ў ЧАСЕ ВАЙНЫ*

Кінула, рынула
ў скрусе і роспачы
пад замець лёсу,
пад долі бяду.
Думала –
рана мая
на ўвесь свет разрослая,
верыла –
боль мой,
бы пякельны агонь.
Ды аказалася,
што некаму горай,
бо і нікога
няма ўжо кідаць,
бо і няма ўжо
раю для роспачы

ды нават пекла
і тога няма.
Толькі вайна,
дзе ні скрухі,
ні злыбеды,
раны ж глыбокія
зусім не баляць.
У апраметнай згарэлі
сустрэчы іростані,
а скрозь пажарышчы
кветкі цвітуць.

## *КАЛІ ПАМІРАЮЦЬ БЫЛЫЯ*

Я хаджу па мінулым нашым,
як па раяля клавішах...
Безуважна прамовіла,
спынілася на хвілінку,
глянула на былога
і далей выкшталцонымі рухамі
працягвала таньчыць.
Фоты з вяселля,
вандровак, дзяцей,
урачыстасцяў незлічоных
не ўнікалі яе
зграбных ножак
у хатніх пантофлях.
Паркет паскрыпваў у такт.
Ён завітваў у іх
колісь сямейную хату,
адчыняючы дзверы
ранейшым ключом,
як гаспадар,
пакідаючы за парогам
водар новай каханкі.
Чарговыя чары
расчароўваліся.
Размілоўваліся.
Міле тое не міла.
Але што яна можа,
ходзячы па мінулым,
як па раяля клавішах?
Сёння Міла не таньчыць.
Мілу Жыжаль прыняў
у сваё ложа.
Назаўжды.

А былы для яе
даўно зрабіўся
часовым.
Ды вось раптам чамусь
ён наўздагон прамаўляе,
што толькі смерць
паказала яму,
кім напраўду была
нелюбімая Міла.

* * *

Для выкшталцонай кабеты
кожная ноч –
першашлюбная.

### *ГЕНЫ*

Гвалтам звезены ў Нямеччыну,
бацька распавядаў,
як улетку 45-га йшоў
праз усю Еўропу
ў свае родныя Смалічы.
Шчырасць на яго нахлынала
ў той момант,
калі я спрабавала
з ім падзяліцца
ўражаннямі
ад чарговай сваёй
нейкай вандроўкі.
А вось дзед
не любіў расказваць,
як дадому вяртаўся
з заходняга фронту ў 18-м.
Сябры яго па прагулянцы
праяснілі мне падрабязнасці
іх тае шматдзённае адысеі.
Гэта я да чаго?
Ай, ні да чога.
Ну хіба трохі –
пра гены.
А пра што яшчэ баяць,
седзячы на цёплай печцы
з роднаю коткай
у Смалічах.

### ***ЗРАДНЁНАСЦЬ***

Мяне адарвуць
ад радзіннага кветніка
толькі разам
з рукамі.

### ***РЭХА РЫЁХІ***

Рыёха ў кавярні
на вуліцы Роха
плешчацца рэхам
Балеарскіх прыліваў
і песціць праменні
пунсовага сонца
над Біскайскай затокай.
Раскоша апошняя
ў барвах заходу –
глыток пекнаты
з дубовае бочкі,
клёпкі якое
шчэ помняць
спраўныя рукі
вінароў кельтыбераў.
Рыёха люструецца
ў шкельцах мазаікі
новага храма,
названага ў гонар
заступніка хворых
і лекараў.
Хлопчык на імя Скала
з горада Манпелье
ацаліў душы й целы
тысячаў тых,
хто паверыў у моц
жагнання крыжом.
Падзяка, зазвычай, адна –
у вязніцу.
Белая рэчка п’е ценькі
чырвоны струменьчык,
плыткаводная плынь
размывае абрысы
спалатнелага твару.
Келіх застыў
у самлелай руцэ,
а зялёныя вочы

паспяваюць убачаць,
як крыжы на званіцы
ўрастаюць
у чорнае неба.

* * *

Жыцьмем там,
дзе лёс паслаў
ці ўласная ахвота,
а паміраць мусім
у Айчыне.

### *РУЖА Ў ЗАПЛЕЧНІКУ*

У тлуме вакзальным
погляд наткнуўся на ружу,
што вытыркалася
з зашмальцаванага плецака,
у якім ледзь змясціўся вазон
са здзіўленай кветкай.
Галоўка гайдалася
ў такт хады чаравікаў стаптаных,
а на пероне замерла,
раптоўна ачомаўшыся
і зразумеўшы,
што цяпер яна будзе заўсёды
жыць у заплечніку.
Бо да веку –
блуканка.

### *УЦЁКІ З ПАЛЕССЯ*

Багна. Вольхі. Хмызы. Асака.
На купінах чорныя хаткі.
Да іх немагчыма дапяць
без шанцу кульнуцца
ў тарфяныя лёхі.
Даруй, дзядзька Колас,
мне не родны твой кут
на дрыгве.
І ты, дзядзька Мележ, прабач,
не дачка я
людзей на балоце.
Макраступы з ракітаў спляла,

багуном намасціла грэблю,
ногі наструніла
за далягляд камарыны.
Дзень каторы брыду –
ды ўсё тыя ж навокал лазіны
і наперадзе тая ж вярба,
доляй абдзеленая.
Замарока гусцее,
прытулку нідзе не відаць,
а ў высях палескіх
зіхцяць заміж зораў
воўчыя вочы.

### *ЗАБЫТАЯ ЛЕЙКА*

Амарант
у сухмені змарнелы
ўжо не можа
горда трымаць
кармінавую карону,
і лекавым ценем
правай рукі
болей не абдымае
малога нівяніка
бела даверлівага,
а левай сардэчнай
яшчэ намагаецца
прытуліць да сябе
пірэтрума
млечна слабога.
У змозе са смагай
абодвум шапоча
пра акавіту гаючую
ў лейцы забытай,
трызнячы летаргічна,
што яе
між кветак чужых
усё ж узгадае
родны садоўнік.

### *ПАДВЕЙ*

Гашты ўпалавелі
на суседскім гаўбцы,
між парэнчаў

панылa звісаюць
збуцвелымі космамі,
а касмеі ўсё ж неяк трываюць,
іх галоўкі падвялыя
пільна ўзіраюцца ўніз
на прылеглыя ходнікі –
а раптам мо там
гаспадар заблукаў
і дадому ніяк не патрапіць,
то кінуць пад ногі яму
суквецці знаёмыя.
Падвеем падхоплены
ўдалеч ляціць
пялёстак апалы,
памылкова пасланы паролем
выпадковаму мінаку.

## *TALISMAN*

У цяпло,
пад ахову і клопат
папрасіліся летнія краскі,
ды не ўсіх іх увосень
пачулі ўжо тыя,
якія вясною высаджвалі
кволыя флянсы.
Многіх і лета пазбавіла
нат адзінага дотыку
дбайнай рукі,
але мелі шчэ кволы спадзеў
на апошняю літасць
садоўнікаў заблуканых.
Марна.
Засталіся на вырак нядолі
і мусяць гібець
пад залевамі шроту лядовага.
Толькі адной
хрызантэмцы-красунцы
ўсміхнуўся суцешлівы лёс –
хтосьці ўзяў яе з холаду ў свой
двухкалёрна зашклёны палац.
Можа, таму, што ўзгадаў
магічную ейную назву –
*Talisman*.

* * *

Сонца ведае час
заходу свайго,
а ўзыходзіць
заўжды
выпадкова.

### ФАЭТОН

Тварам на ўсход –
так нязрушна стаіць
мой фатэль,
дашчэнту абцёрханы,
з якога шторання
ўпіраюся поглядам
у свінцовыя хмары.
Феб праз іх
ніяк не праб’ецца
да спрацаваных рук,
азалелых у золаку,
і ніхто мяне ў поўдзень
са смехам гуллівым
не прамчыць па вясёлцы
ў далягляд пазаглядаў
спічастых карункаў,
дзе няма ўжо каму надвячоркам
запарыць ліповай гарбаты
для застоліцы з Мілавіцай.
Фаэтон дзесь гніе
не запрэжаны,
а ў Возніка
крылы ржавеюць.

### СВЯТАЯННІК

У момант,
калі пацяжэлае сонца
нанізваецца на спічакі
замка Балморал,
я запарваю святаяннік
і смакую гаючы напой
аж пакуль
у кубак пусты
не заглядвае даўні сябрук,
які кпліва запытвае,

ці дапамог гэты сродак
ад хранічнае скрухі.
Строіць дасціпна
яшчэ колькі кепікаў
ды дастае
з паточанай шашалем шафы
*Ballantine's.*
Налівае абодвум і кажа,
што ў Шкотыі
нам патрэбна адвыкнуць
ад лекаў лагодных
з-над Нёмна,
а прывучваць нутро
да суровае акавіты
з берагоў
халоднае Ды.

### *СУХМЕНЬ*

Лагода ў лілеі
ўчарашняга дня
сёння хінецца
да засохлай
лаванды.

### *ПАДМУРАК*

Вільготная лагода позніх ягадаў
разлеглася ў лагчыне між ляшчынаў,
агортвае смуга смуроду дзікую
на холадзе зарослага падворка,
падмурак угаворвае рамонкі
распроставаць кволых промняў далягляды
да ўдалых рук гаспадароў вандроўных.
Словы ловіць густая павута.

### *КУЗУРКА*

Кузурка паўзе паўз дарогу,
зіхаціць у цямноце.
Істота няўцямная
ліхтарыкам абярнулася,
разважыла шлях
у немінучае
беспрасвецце.

А мо гэта зорка
з Вялікага Воза
скацілася на гліназём
пад ногі мае?
Вазьму асцярожна яе,
схаваю запазуху.
Бязмежнай зімы маразы
яе там не загасяць.
Паскараю хаду
ў незваротную
непазбежнасць.

### *СЛЕПАТА*

Забудзься на каву!
Піць патрэбна нагбом
маладзільныя ўзвары
дзеля ззяння ядвабу
на твары тваім,
а фрызура зноў пышным
засвеціцца німбам,
як купель ты напоўніш
жывою вадой...
Мілая, суніміся!
Між мільёнаў падобных
разбэрсаных кудзераў
мае ўсцешана ўгледзяць
яго зыркія вочы,
а вусны ўтрапёныя
прытуляцца горача
да праменьчыкаў частых
на скронях маіх.
Чароўныя змены
на аблічы зраднёным
убачыць як здраду
беззаганны філосаф,
каханы эпікурэец,
які конча аслеп.

### *НОЧ*

У чорным квадраце Малевіча
мірыяды знічак трапечуцца,
бачныя для невідушчых.
Адсутная ў арыгінале рама

тут зашчэплена абцугамі
па ўсіх чатырох кутах.
Завалы, што калісь былі
падрамнікамі,
аблямавалі чорнае кола,
якое беламу
не перасцігнуць.
Квадрат
наплывае на кола
і купал
робіцца крыжам.
Пустэчы
абапал пярэчынак
антрацытамі стынуць.
Супрэматызм.
Найвышэйшая кропка.
Цвікі замест зорак.
Ноч.

### *ЧАКАННЕ*

Над горадам Дома Хлеба
хлопчык Аўр
апрабоўвае крылы.
З сузор'я Арла
на яго закахана глядзіць
юная Вечарніца.
Ціхутка пяе калыханку
малое ягня.
Пры яслях заснула
вандроўніца з Назарэту.
Ганна з Якімам
дапіваюць віно
прамінулага дня.
Язэп утрапёна ўзіраецца
ў пунсовую Мілавіцу.
Тры постаці выплываюць
з ружовай відзежы.
Сонца шле першыя промні
на пялюшкі льняныя,
што сушацца на галінах
у садзе аліўным.
Вецер стары
ў завуголлі скавыча
ад пракаветнае роспачы,

бо мусіць адгортваць
старонку апошнюю
Веташковага запавету,
а кнігу Маладзіковую
яму ўжо не лёс
эўхарыстычна чытаць.

### *БЕЗ ЦУДАЎ*

Дарагі Санта Клаўс,
калі ў тваёй торбе
нічога няма,
апроч гэтых ружовых
смактунчыкаў,
то не йдзі
ў нашу хату.
Мы з сястрычкай
не любім салодкага.
Кажаш,
пернікі маеш з імбірам без цукру
ды памаранчыкі?
І іх не ямо,
бо не з нашага
поля і саду дарункі.
Крыўдуеш?
Маўляў, наравістыя дзеці
на гэтай зямлі.
Слухай,
а мы ў твае цуды
ўвогуле
болей
не верым.
Дый самога цябе,
бадай,
падмянілі.
Сапраўдны святы Мікалай
сёння ў торбе вялікай сваёй
прынёс бы дамоў
нашага тату.
Ты здзіўлены?
Ну то бывай!
Ідзі і чмуры тых дзяцей,
чый тата
пяшчотна прытульвае іх,
а не горнецца горка

да халоднае
шорсткае
шконкі.

### *ЛЕСВІЦА З АІДУ*

Душа мая ізноў памаладзела.
Ёй хочацца ляцець
за далягляд прыўлашчаных лагчынаў,
на верхавіны гор прысесці,
змыць стому ў моры,
спусціцца ў нетры паглядзець,
як там таньчыць Эўрыдыка,
і вочы захінуць крылом
наіўнаму Арфею,
каб  вывеў яе ўрэшце
з Аідавай цямрэчы вечнай.
Ды зноў ты азірнуўся,
дэісты лірнік мой.
Я разумею –
ты хацеў убачыць,
ці з маёю юнаю душой
усё яшчэ ў гармоніі
жыве ахоўны
хорам цела.

### *НАВЫРОСТ*

Вечар. Вецер.
Завея змятае ў сумёты
звягі і звады.
Расшастаўся з хмараў
танюсенькі маладзік.
Апусціўся ў мой сад
і прысеў,
як каханак нясмелы,
трошкі зводдаль.
Прашаптаў:
усміхніся ўсяму,
што навокал –
заўтра гэтага ўжо
ты не ўбачыш.
Жыві, як і я.
Навырост.

Віктар Казько



…няма вінаватых, як і невінаватых.

Усе грэшныя…

# Сыход

***З цыкла “Лёнькі, Ваські, Валодзькі”***

*Працяг. Пачатак у №3 (118).*

Яблынька памірала. Яна была ўсё яшчэ дзічка. Не паспелі прышчапіць, зрабіць садовай. Вясной знайшлі ў лесе, каля дарослай яблыні, маці, – па нейкай восені ўпаў, адскочыў яблычак і па нейкай жа вясне прарос яблынькай. Яе выкапалі, перанеслі ў дзетдом, каб там яна ачуняла садовай. Лёнька ведаў, можна і не шчапіць, патрэбны толькі тры перасадкі з аднаго на іншае месца. Не паспелі зрабіць ні таго, ні другога. А яблынька ўжо была ладная, пад квецень. Але ў тую вясну квету на казённым дзетдомаўскім падворку яна так і не дала.

Вясна выдалася позняй, зацяжна халоднай. Дзічка пачувалася пад вялізнымі шыбамі акна кабінета дырэктара, дзе ёй пазначылі месца, сцята і сіратліва згублена, зусім не так, як дома пры маці-дзічцы ў родным лесе, у карагодзе кустоў і дрэў. Але брала сваё, набягала лета. Высокае і прасветленае сонца апяклося аб зяляніну і шэрань зямлі і,

падобна, спужалася сваёй жа неўтаймаванай спякоты. Дзічцы было няма дзе ад яе схавацца. Угрэўна, цёпла, але ж не да змору. І дзічка неачутым яшчэ ад расстання з лесам і нечаканай перасадкі нядужна азызлым лісцем зморана скрэблася ў акно дырэктарскага кабінета, шкло якога і на сонцы заставалася прахалодным. Пэўна, ад паўзмроку ў сярэдзіне пакоя і неўразумела маўкліва-нежывых там рухаў ценяў на атынкаваных сценах. Мо таму і лісце дзічкі пачало без пары старыцца і жоўкнуць. І сама яна заўчасна сохла і затульвалася моршчыннай абыякавасцю безвыходнасці.

Дзетдомаўцы спачувальна, амаль няспынна паілі яго, вёдрамі цягалі яму ваду. Прараблялі гэта ўпотайкі, дырэктар дзетдома забараняў – на тое ён і дырэктар, каб нешта забараняць, часта паліваць лясное дрэўца – на карані прыпадзе цвіль. Дрэва чэзне і памірае. Але, не зважаючы на сялянскую слушнасць слоў дырэктара, прыствольная зямля дзічкі не прасыхала, макрэла да слімакоў і смаўжоў, у чым быў вінаваты і Лёнька. Паліваў, паіў дзічку ці не два разы на дзень, няздольны даць веры словам дырэктара: усё жывое ад вады і з вады. Канае без яе. Інакш без патрэбы рэкі і азёры. І сам ён: як бы ні наядаўся, а без заціркі ці кулешыка – напалову толькі сыты чалавек. Гэтаксама ж і дзічок. Нікольکі ні сытае дрэва, пакуль не нап'ецца. На тое яму і карані дадзены, як жывому чалавеку рот, калі не глыне чаго вадкага, чэзне і тухне ад смагі, падобна дзічку.

У склянь поўны такімі зусім не дзіцячымі думкамі і высновамі, Лёнька сядзеў каля вакна ў кабінеце дырэктара і нязводна глядзеў на ўжо амаль памерлае дрэўца, якое, пэўна, толькі пад карой, стрыжнем, трымала ледзь бачнае свету жыццё. Узгадваў іншае жыццё і старанна глушыў згадкі.

– Шкада? – запытальна аднаслоўна звярнуўся да яго дырэктар.

Лёнька зразумеў яго па-свойму, хацеў ужо згодна хітнуць галавой, але апамятаўся. Хаця міжволі вярнуўся да таго, з-за чаго яго зацягнулі ў кабінет дырэктара дзетдома. Хуценька і злосна зірнуў у глыбока запалыя вочы дырэктару. Той, падобна, нават разгубіўся ад непрыхаванай адчужанасці, што хіжа хлынула з вачэй дванаццацігадовага падлетка. Апёкся ёю, але не дазволіў даць волю ні пачуццям, ні рукам. Хаця быў непрадказальна круты і скоры на расправу. Інакш на яго месцы, лічыў, нельга. Папусцішся, дасі патачку – на галаву сядуць.

– А тых саджанцаў, яблынек каля маёй хаты ты не шкадаваў? – ледзь стрымліваючы сябе, спытаў Лёньку Мацвей Пятровіч.

Сёння гэтае пытанне гучала ў кабінеце дырэктара ўжо незлічоны раз. А Лёнька пазіраў на паміраючы пад акном дырэктарскага кабінета дзічок і маўчаў: усяму свой час – шкадаваць, жыць і маўчаць. Цяпер быў час маўчаць. У ім адгарэлі і раскаянне, і жаль. Без пары ён быў ссохлы, абыякавы да ўсяго. Як той дзічок за вакном, заўчасна адгарэлы.

– Іх табе тады не было шкада? – дамагаўся адказу Мацвей Пятровіч,

Лёньку тады нічога не было шкада. Толькі самога сябе, і тое ўскосна: у агні няма памяці і шкадобы. Больш таго, у ім выпальвалася і тое кволае, што толькі-толькі прачыналася, чаму ён быў усмешлівы, хаця яшчэ і падсвядома, рады, калі адыходзіў у цьмяна-няпэўныя сненні. Падобна нават не свае. Хутчэй не свае. Але ўсё ж і свае, яго, што ён абуджаў у сабе, са спадзяваннем засынаючы. Нёс у толькі-толькі світальна паўстаючы перад ім ранак.

Вось таму ён і выдзіраў тыя саджанцы, дзёр з каранямі і грудамі зямлі, бо яны першымі трапілі яму на вочы. Кідка белыя ад квецені пры святле

месяца – саджанцы дырэктара дзетдома. У агародзе пры яго хаце, упэўненыя і дагледжаныя вопытнай і дбайнай рукой садавода. Дырэктар жа і з яго, з Лёнькі, жадаў зрабіць садавода-сейбіта, добрага, разумнага, вечнага. З кожнага дзетдомаўца вывесці, зрабіць садоўніка: найлепшыя ў свеце чалавекі садоўнікі, а яшчэ пчаляры. Бо дзе сад – там і пчэльнік, і пчолы.

Лёнька ў тую ноч зненавідзеў усіх садоўнікаў разам, усіх пчэльнікаў і нават саміх пчол. А больш Мацвея Пятровіча. Яго павучэнні, яго голас, яго словы – усё, да чаго ён так ці інакш датыкаўся вачыма, гукам. Гарачкава, распалена заслеплены абурэннем, ён кідаўся па дырэктарскім агародзе і нішчыў, нішчыў усё, што трапляла пад рукі, ногі і на вока.

Перапэцканы вясновай, яшчэ ліпкай зямлёй, увэдзганы малозівам гуркоў і памідораў і ў матылькова-белай першаквецені яблынь, абвешаны, пазначаны іх вясельнымі пялёсткамі, як медалямі, ён дапяў да дзетдому, да сваёй палаты на дваццаць чатыры ложкі падлеткаў і, не распранаючыся, каляровы пры журботным святле поўні, кінуўся на сваё месца. І адразу ж забыўся ці то сном, ці то трызненнем. І ў глыбокім мораку яму блюзніліся шэрагі маладых яблынь, якія ён толькі што знішчыў. Бясконцыя яблыневыя сады, у голлі якіх, на дзіва пазбягаючы сутыкненняў, лунալі і віліся канаплянікі. І нехта ў непраяўленым белым, да каго ён цягнуўся і хто вёртка, амаль вераб'іна абмінаў яго, не даваўся нават даткнуцца да сябе, сплываў туманом... А вось вецце яблынь у белым вэлюме чапляліся за яго сарочку. Уцягвалі ў сваю белую, белую квецень, ацёлкава, сырадойна пахкую.

Усё было як на яве. Нават больш, ява блякла перад немаччу пазбаўлення. Усё адбівалася так ярка, зырка і калярова. Што хацелася апрытомнець і збыць, збыць навалу насланай прывіднасці. Хацелася, але няможылася, нібыта ён на яве апрытомнеў, прыйшоў да сябе, а яго ўжо не было. Нідзе не было. Сышоў, прапаў, знік – збег ад самога сябе і не прыкмеціў, калі і куды. Свядомасць адмаўлялася падпарадкоўвацца яму. Ён не адчуваў сябе. Але самым жахлівым і жудасным было тое, што мімаволі заставалася існавальным: здань, прывід Мацвеіхі, Аліны Фёдараўны, жонкі Мацвея Пятровіча ў саванавым покрыве ні то чаромхі, ні то блякла-размытага бэзу. Яна гарнулася, спрабавала прылашчыць яго. Пагладзіць яго колка стрыжаную пад Катоўскага галаву. Цягнулася да яго васкова-белымі рукамі. Вялікія і падатна-мяккія вусны схіляліся да яго вуха і подыхамі лёгкага ветрыка вышэптвалі:

– Сірацінка ты мая, сірацінушка, рахманая. Раці і...і...і...

Лёнька намагаўся пачуць, зразумець што тоіцца ў гэтым яе "і". І не мог, хаця адчуваў, за ім было нешта вельмі і вельмі значнае, павуцінна нераспазнана зыбкае. Адчуваў сенажаткавы сумны водар яе парфумы. Бачыў росныя кроплі слёз на яе вачах, што трапятка наліваліся лёгкімі ценямі блакіту. Не зводзіў сваіх вачэй з гэтага туманковага, абдымна-пранікальнага і ў яго блакіту, як у зажуранай нечым маці. Так доўга ўзіраўся ў гэты блакіт, што ён пачаў здавацца яму цьмяна-ўчарнелым. А потым нават і зусім чорным, як патухлы, забелены попелам вугельчык, што стоенай ім іскрынкай цікаваў за ўсім існым і сутным.

Прывіднае трызненне перапляталася з колішняй, сёння ўжо выдаленай явай. З тым, што некалі ўжо адбылося з ім на самой справе. Аліна Фёдараўна паўставала перад ім то пырхка-стракозава, слюдзяна-лёгкай і добрай, то азызла-вусенева-цяжка заклапочанай і нават роспачна-злой. Але яму кожны раз прыязнай і спрыяльнай. І цяпер было тое ж самае. Ён зноў,

як і раней, трымаючы яе за руку, хадзіў па траве-мураве дзетдомаўскага падворку. Толькі той розніцы, што раней яна вымушала яго смяяцца, а цяпер вучыла плакаць. Таму што тое, адкуль ён з'явіўся ў сёння, што зведаў і праз што прайшоў разам з большасцю сваіх дзетдомаўскіх аднагодкаў, прымусіла яго забыцца на смех і слёзы. Аліна Фёдараўна аднаўляла яму памяць. Адначасова і выпальвала памяць колішнюю.

– А ты смейся, смейся да слёз, калі няўсцерп хочацца плакаць, – настаўляла яна. – І плач, плач. Калі хочацца смяяцца. Слёзы і смех – гэта адно і тое ж, ачышчальнасць. З вялікага смеху – вялікія слёзы. А паплачаш – падвесялішся. Гэта наша мінулае і наша будучае. Учора і сёння, учора і сёння...

І што дзівіла Лёньку, ён адначасова аспрэчваў словы Аліны Фёдараўны і бясконца давяраў ім: выразна чуў свой плач скрозь смех і смех скрозь плач. Чуў пры сонцы і дажджы, як у вадзе, калі ён ледзь не ўтапіўся ў сухую, цыганскую навальніцу, калі свяціла сонца, грымеў гром, бізунамі ўспорвалі векавыя дубы маланкі і сеяўся сітны дождждык. Утапіўся б, калі б не Аліна Фёдараўна. Не паверыў падманнаму даждджу і даў нырца з трохметровай вышкі над ракой. Трапіў галавой у два даўнія, ляжачыя крыж-накрыж тапляки колішняга молева-сплаўнога лесу. Тыя тапляки як чакалі яго, нікольки не ўрослыя, не сашчэпленыя з зямлёй, яны запрашальна і вітальна пагойдваліся насустрач яму. Як склешчаныя сабакі, ашыйнікам ахапілі галаву і не выпускалі яе, працягвалі смяротна і здзекліва пагойдвацца. Тагасветная шэрань цяжкой вады ўжо астудзіла свядомасць, пачала слепа супакойваць яе міласэрнай тоўшчай плыні. Аліна Фёдараўна, што якраз была дзяжурнай пры рацэ, выхапіла яго з савану небыцця. Тады ён лёгка збыў сваю неіснавальнасць: падумаеш, абед не палез у рот, толькі тае і бяды.

Цяпер жа былое і няспраўджанае ахапіла Лёньку. Ён ужо не разумеў, радавацца ці плакаць, што своечасова не ўтапіўся, што Аліна Фёдараўна выратавала яго. І ён павінен быць удзячным ёй. Але лепей бы ён утапіўся. Лёнька зноў і зноў узгадваў сваё ўратаванне. Таксама, як і тады, шалёна ўцякала ад яго сэрца. Неба праз тумановую плеўку сну было аднавока лупатым і чырвоным. Толькі ён болей не чапляўся аберуч за шыю Аліны Фёдараўны. Адштурхоўваў яе. Апускаўся на самае дно ракі, на бела-залізаны пясочак. І сачыў, сачыў адтуль, як яна яго шукае. А мо і не яго, саму сябе, здавалася яму.

У той дзень пасля ўратавання Аліна Фёдараўна прывяла яго да сябе дамоў... Накарміла блінцамі. Не блінамі-аладкамі казённай дзетдомаўскай выпечкі, ненаедна тонкімі, нібы наліснікі з хатняй патэльні, а пругка тоўстымі, трохі з падыспаду з жоўценькімі масляньмі прыгаркамі: возьмеш у рукі – маеш рэч. Рука дрыжыць, а сэрца радуецца. І сэрца радавалася збытаму і забытаму былому, што згасла ў памяці разам з зіхатліва-зыркім полымем чырвані вясковай печы, і некага напаўразмытага каля той жа вясковай печы, дзе сёння хатне пякуцца толькі блінцы. Аліна Фёдараўна разам з ім, як таксама хатне, адчула ўсе гэта. Зразумела, што яе блінцы даспадобы Лёньку, хаця той і вымагаўся есці не прагна, небагата і далікатна, пакідаючы трошкі-трошкі ад блінца на талерцы, не зводзячы ад гэтага трошкі вачэй, каўтаючы сліну.

Такія спакушальна хатнія блінцы Аліна Фёдараўна і пазней часцяком прыносіла яму ў дзетдом. Але да хаты больш не запрашала, што было таксама добра. І так з-за гэтых блінцоў Лёньку хапіла. З-за іх ён пабіўся

з хлопцамі, з Толем Вадовічам. Не зважаючы на тое, што ўсе дзетдомаўцы выхавацелем лічыліся роўнымі, у кожнай групе, дарэчы, як і ў дарослым жыцці, былі роўныя і больш роўныя. Толя быў з проста роўных. Мо адпаведна прозвішчу вады ў ім было занадта – у руках, шчоках, жываце і, падобна, у голасе. Ён мачыўся ўначы ў ложак. І ад яго заўсёды адчувальна патыхала не надта свежымі сцакамі.

Неяк гэты Вадовіч падышоў да Лёнькі і надта сур'ёзна, нават нахабна, не зводзячы з яго вачэй, спытаў:

– Ты сексот ці сука?

– А ў морду не хочаш па аднаму разу за сексота і асобна, двойчы, за суку? Не хочаш?

– Х*о*чу, – сказаў Толя і паглядзеў на блінец, што прынесла Лёньку Аліна Фёдараўна.

– Ну зараз і атрымаеш.

Імгненна вакол іх стоўпіліся дзетдомаўцы. Ім было цікава, хто атрымае ў морду, а хто – бліны. Детдомаўцы людзі не простыя, дапытлівыя не горш за катоў і котак, Сумна жыць, калі не надта ёсць што тырануць.

– Ты мяне спачатку накармі. А то я ахіляў і няздольны нароўні з табой біцца, – жаліўся ўслых Толя. А сам усё глядзеў і глядзеў на бліны.

– А давай не біцца, а махнём нягледзячы, – прапанаваў Лёнька. —Бліны на ўсяленскую смазь.

Усяленская смазь лічылася неверагоднай абразай. Яе рабілі, пагардліва працягнуўшы голай даланёй па твары нябогі, калі грэбавалі біць. Лёнька адчуў, што ў дачыненні да Толі яна, усяленская смазь, непрымальная, ён і так пакрыўджаны. І аддаў Вадовічу ўсе бліны за проста так. Той адразу ж праглынуў іх. Яны, пэўна, так бы і не распачалі біцца. Але, па-першае, хлопцам было сумна, па-другое, з нічога, па пустому – не разяўляй рота, не балбачы, адказвай за свае словы. Па-трэцяе, тут меліся і такія, што на самой справе лічылі Лёньку калі не сексотам, то сукай. А такіх нават па падазрэнні білі. Рабілі цёмную: коўдру на галаву – і кулакам, а то і нагам воля. А яшчэ, уначы сонным наладжвалі піяніна ці веласіпед: паперку з агнём між пальцаў рук – піяніна, ног – веласіпед. І вось гэтыя трэція не расступіліся, калі Лёнька з Толем намерыліся разысціся мірам. Лёнька біўся як па прымусе, нехаця і не злосна. Толя ж са скуры лузаўся і сапсаваў, скрывіў Лёньку нос, што яго і тады, і далей не надта хвалявала.

Аліне ж Фёдараўне пасля той бойкі Лёнька загадаў:

– Ты мне болей бліноў не насі. Я цябе буду і так любіць. Прынось бліны Толіку. Ён галодны, можа таму і мочыцца ў ложак. Сніць чай ці кампот без бліноў...

Так было. А мо і не было. Таму што ўсё толькі тады, тады, калісь... Але ж у напаўмораку явы і снення ён біўся з Вадовічам па-сапраўднаму, раз'ятрана і з ўсёй моцы. Вадовіч ухапіў яго за вушы. А Лёнька паваліў яго і біў галавой аб зямлю, нібыта забіваў цвікі. Побач стаяла Аліна Фёдараўна. Потым Толя некуды знік, як растаў ці Лёнька неўпрыкмет забіў яго. Засталася адна Аліна Фёдараўна. І нашэптвала, нашэптвала: плач, плач і па мне. Сірацінушка. І смейся, рагачы, бо няма вінаватых, як і невінаватых. Усе грэшныя...

Нашэптвала, нагаворвала, як калыханку выпявала. Спрабавала пагладзіць яго лысую галаву. Рука яе ўсё бліжэй і бліжэй апускалася да яго твару. Лёнька адбіваўся і, губляючы свядомасць, закрычаў:

– Згінь, згінь, аўчарка, посцілка...

На посцілцы спатыкнуўся, бо далей ішоў яшчэ працяг. Але паставіць кропку гэтаму працягу не хапала духу. А яшчэ таму, што гэта быў немы крык. Голасу ён не меў, адабрала голас. Ён, нібыта падаючы ў пустэчу бездані, залунаў, заварочаўся ў ложку. І прачнуўся.

Мацвеіха трымала яго за вуха. Ён адхінуўся, але бязкосцевыя пальцы васпіткі нібы закасцянелі. Лёнька выбавіў вуха з яе ўчэпістых пальцаў, падхапіўся з ложка і выскачыў у адчыненае наўсцяж вакно ў зяўраста-паглынальную цемру ночы. Цэлы дзень з тае пары ён не патыкаўся ў дзетдоме. І толькі надвячоркам старэйшыя хлопцы адлавілі яго і прывялі ў кабінет дырэктара, у якім ён пад замком перабыў ноч. І вось цяпер сядзеў перад вачыма дырэктара, яшчэ не прыдумаўшы, як яму жыць далей. А думаць варта было. Заставацца ў дзетдоме былым Лёнькам ён ужо не мог сабе дазволіць. Мацвей Пятровіч, Аліна Фёдараўна яшчэ толькі ўчора былі яму за бацьку і маці, вучылі плакаць і смяяцца. Яшчэ толькі ўчора вучылі. Учора. А сёння...

Ці не толькі ўчора ён на сваю галаву даў угаварыць сябе Сеню, вяскоўцу, з якім разам вучыўся ў адным класе, пайсці да яго дамоў. Варта было дазволіць, як трохі дзеля прыліку і паўпарціцца. Увогуле ўсе дзетдомаўцы любілі наведвацца, гасцяваць у вясковых хатах. Цягнулі невялічкія вокны каля стала над лавай, як збытая памяць невядома аб чым, пабеленая, вялікая, на ўвесь пакой печ, што дыхала печаным хлебам, варанай бульбай – паронікамі. І яшчэ нечым няўлоўна і неаспрэчна прысутна невыветраным. А да гэтага дома ў Сені заўсёды меліся гарбузікі, у клеці ці каморы торба з сушанымі ў печы і на печы ўюнамі. Да ўсяго гэтага – пляшачка з ружова растворанымі ў спірце ці першаку швацкімі іголкамі. Лекі бацькам ад нязбыўнага сялянскага раматузу, крывых ад соляў пальцаў. І было надта ж займальна і прывабліва палекаваць і свой здаровы раматуз вадкасцю, што з'ядала сталёвыя іголкі. Паспытаць на язык той вадкасці без прысмаку металу. Схаваўся, растаў, паглынуты, во дзіва, спіртам. Адзіны толькі чысты і пякучы спірт з прывабна ружовым адценнем: усе хваробы, якія ёсць і якіх нават няма, лякуе.

Увогуле з Сенем Лёньку было цікава. Яны абодва марылі стаць маракамі. Праўда, Сеня больш і мацней, а Лёнька проста па-сяброўству. Сеня нават засвоіў марскую мову: тлумачыў настаўнікам, калі тыя дапякалі, чаму іх не відно на ўроках у школе:

– Ішлі, далібог, ішлі. Але перад самай школай на чатыры румбы ўзялі ўбок. На чатыры румбы размінуліся. – Варта адзначыць, што тыя чатыры румбы ўбок, як і ў сапраўдных марэманаў, выпадалі ім удала і даволі часта.

Дома ў Сені на той раз быў толькі бацька. Надзея паласавацца, падлекаваць свой раматуз спіртам на швацкіх іголках адпала адразу. Але ад бацькі Сені, напаўдзеда ўжо, а можна лічыць і дзеда, калгаснага конюха Якава, у звыкла калгасна-конюхоўскай апратцы, Лёнька аб усім, куды больш пякучым за спірт на іголках, і даведаўся. Пачуў такое, што без болю і сораму быў няздольны нават сабе пад ногі глядзець, тым больш на Мацвея Пятровіча з Алінай Фёдараўнай. Дыханне перацінала, вочы адмаўляліся бачыць белы свет. І кроў пачынала цячы неяк кручана і наадварот, хаця і невядома, у які адварот, але ўсё ж наадварот, не па-людску.

– Ты ваяваў з немцамі? – адразу, як толькі праяснела ад паўзмроку ў

кутах пакоя, спытаў Лёнька Якава. Выявіў яго на лаўцы каля печы, добра зношанага, стоптанага і хвосткага, як пуга ці бізун паганятага – пастуха, падводчыка, конюха. Спытаў так, таму што ўсе людзі, мужчыны дзетдомаўцамі падзяляліся на сапраўдных і не надта. Франтавікоў, вайскоўцаў і цывільных, што, як тады казалі, штурмам Ташкент бралі. Апошніх і ў грош не ставілі, грэбавалі імі, таму што яны былі жывыя. Заставаліся цэлымі і жывымі ў той час, калі іх бацькі палеглі. Лёнька таксама дзяліў усіх мужчын на сапраўдных і не, на вайскоўцаў і не вайскоўцаў. Па ўсім Якаў быў з сапраўдных. Лёнька прыкмеціў, што ці не ўсе яго пальцы на левай руцэ былі нягнуткмі і маглі служыць падклецямі лапцю, які ён плёў у паўзмроку печы.

Якаў адной рукой, правай, спрытна памяў падатнае яму, хаця і грубае ды светлае на выгляд, ліпавае лыка:

– А як жа. З гэтымі немцамі, чужымі і сваімі я ўсё жыццё ваюю, – прыгледзеўся да Лёнькі і працягнуў, – з маленства, яшчэ якіх трыццаць гадоў таму, я іх так калашмаціў. Мякіна толькі ляцела... Але і зерне было, небагацька. Таму, во, і лапці па сёння яшчэ пляту і пляту..

– Гэта ў першую нямецкую, – здагадаўся Лёнька. – А ў гэтую вайну што рабіў?

– А ўсё тое ж, – упраўна арудуючы падклецямі, патлумачыў Якаў. – Рабіў. Так, рабіў. І тут, што і цяпер.

– Тут – гэта дзе, каму і што ты рабіў? Немцы ж кругом, фашысты.

– Наша справа і доля, што справа, што злева і што пасярэдзіне. Аднолькавая. Робім, робім, робім працу і дзяцей. І ўсе бойкі, усе войны абрабляем, кормім і поім.

– А ты не дэзерцір і кулак?

Якаў засмяяўся:

– Што ў сук уляпіў. Надта ж ты дасціпны, хлопча. Такія доўга ў нас не жывуць і другім жыць не даюць. Дэзерцір, кулак... Калі пад дубкі пайду са сваёй стайні – кулак і дэзерцір. А так: адно плесці і плесці лапці да схону свету. І цябе, пракурора, на сваю шыю гадаваць і карміць.

– Мяне не ты корміш і гадуеш – я казённы. Дзяржава і Мацвей Пятровіч мяне гадуюць і кормяць. Ён сапраўдны, ён Берлін, Рэйхстаг браў.

– Гэта які Мацвей, гарэлы ды недагарэлы? Ці не той самы агарак наш вясковы?

– Той самы, – насупіўся Лёнька, – толькі ён не агарак і негарэлы, а апалены.

– Я так адразу адчуў, дзетдомавец ты, з-пад рукі апаленага. Жонка яго яшчэ ў вас робіць?

– Выхавацелька ў групе хлопцаў, – буркнуў Лёнька. Бацька Сені яму не падабаўся. Ён не хацеў з ім больш гаварыць.

Якаў адклаў лапці і пацягнуўся да самасаду, што горкай быў насыпаны перад ім на газеце.

– Выхавацелька... Значыцца, яны такія ў нас цяпер выхавацелі... А ты б папытаўся ў яе, як і каго яна ў вайну выхоўвала.

– А ты ўсё ж дэзерцір, – нечакана сцвердзіў Лёнька, вяртаючыся да таго, з чаго пачынаў гаворку.

– Ну і хрэн з табой і са мной. Дэзерцір дык дэзерцір. У гэтую вайну, твая праўда, вінтоўку ў рукі не браў. А перад Богам і людзьмі чысты. Не тое, што іншыя.

– Гэта ты пра каго? – не ўтрымаўся Лёнька.

– Ды ўсё пра тых і пра тое, пра нашых цяпер чыстых. Ні сораму, ні сумлення ў людзей. Во парадзіў час дык парадзіў. Вайна, вайна...

Якаў дастаў з капшука на матузку красала, наладзіў трут, заіскрыў яго. Запаліў самакрутку. Лёнька чакаў, не зводзячы з яго вачэй.

– Вайна, вайна, – паўтарыў скрозь знобка з’едлівы кашаль Якаў. – Каму вайна, а каму маці радна. – Зацягнуўся, дыхнуў, выдыхнуў і зноў закашляў, ляпаючы пад яго недаплеценым лапцем сабе па калене, нібы менавіта ў ім і засеў, схаваўся той кашаль.

– Пад немцам у лапцях, і без яго таксама. Цяпер на кані, і ў акупацыю пры кані. Хадзяін, кулак... Бярвенні тады траляваў, вывозіў з лесу пад гаць – дарогу праз наша балота нямецкім машынам. Машыны ў іх былі, а ў нас дарог – нуль без палачкі. Да нашага сяла немцы дапялі, калі ўжо нашу гразь маразы скрэпам узялі. Прывожу воз, заходжу ў хату жонкі Мацвея, афіцэр нямецкі ў яе стаяў. Праходжу адзін пакой – пуста. Толькі люлька з дзевачкай-немаўляткам, дачкой, папісквае і вочкі лупіць. Заходжу ў пакой другі: бацечкі мае родныя. Усё, думаю, аджыў Якаў, капцы Якаву. А афіцэр, кватарант ці хто, хоць бы хны. Адліпае, падымаецца з ложка, нацягвае і падпярэзвае штаны. Звальваць лес аддае мне загад тут, каля хаты, дзе, я ўжо бачыў, прысценак рабіцца пачаў. Не помню, як разгружаў падводу, складваў бёрны. Як тым днём і да хаты сваёй трапіў...

– І ўсё ты брэшаш, брэшаш, – закрычаў Лёнька не сваім голасам. – Хлусіш...

Крычаць крычаў, але праз крык са страхам адчуваў: не брэша, не хлусіць. Нешта падобнае ён на паўвуха няверы і раней чуў ад старэйшых хлопцаў. Але адбіваўся, не хапала сумлення паверыць. Цяпер паверыў. І гэта было жахліва да спапялення. Усё роўна, як пахаваць бацьку і маці. І самому памерці. Жыўцом пайсці на той свет чарцям на патэльню.

І галавы не прыкласці, як жыць далей. І ўвогуле, ці варта жыць далей. Учора ні то днём, ні то ўвечары ён згубіў сябе ці то ў лесе, ці то каля ракі на так званым дзетдомаўскім востраве. А больш проста і відавочна – страціў лес, раку, зямлю і неба. Сябе пасярод іх страціў. Прагнуў утапіцца, праваліцца праз зямлю. Сплыць хмарай у небе. Але яго хапіла толькі на роспач і пачатак здзейсненага ў той ночы. На знішчэнне самога сябе і таго, што было бліжэй. Што балюча і млосна ўзрушвала яго ўжо адным толькі сваім існаваннем, вымушала ўсё ж быць.

Ён дашчэнту знішчыў сад. Сад дырэктара дзетдома Мацвея Пятровіча і яго жонкі Аліны Фёдараўны, за іх прыхільнасць да яго, дабрыню і ласку. За бліны і жаданне зрабіць з яго садавода. Белая і порсткая квецень, квецень маладога дырэктарскага саду, засціла амаль да неіснавальнай тагасветнасці яму вочы. Але нахабна, хаця і трошкі, прабівалася прасвятленнем. А душа прагнула цемры. І Лёнька адклаў тапіцца, канчаткова і адразу сыходзіць з гэтага свету, не пакінуўшы ніякага аб сабе знаку. Сад, яблыні, грушы ў белым вясельным вэлюме якраз да неверагоднасці пасавалі гэтаму і аддаліся яму без адчаю і супраціўлення, не падаўшы нават голасу. І Лёнька таксама, здаецца, без дай прычыны абезгалосеў. Не стала ні голасу, ні смеху, ні слёз, чаму так вучыла яго Аліна Фёдараўна. Дарэмна вучыла. Слёзы выгаралі, голас са смехам захраслі ў здзеку памяці і сумлення. Ён знямеў і замоўк, як прадвыбухова нема маўчаць стоеныя яшчэ у ствалах гармат і мінамётаў снарады і міны.

Маўклівага, безгалосага, яго адлавілі, як зайца ці птушку, невядома дзе – на зямлі ў небе ці ў лесе, старэйшыя хлопцы і зацягнулі ў кабінет Мацвея Пятровіча. Яшчэ на парозе Лёнька загадаў сабе застацца нямым і перад дырэктарам. Няхай што хоча робіць, а ён і рота не раскрые. Сорамна, сорамна яму ад пачутага слова адкрываць рот, нібыта ў ім і хавалася моўленая Якавам брыдота. А ў самім ім была толькі нянавісць. І зусім не да адной толькі Аліны Фёдараўны. На ўвесь белы свет, які так здзекліва абрынуўся на яго, падманна звёў да нічога. Да непатрэбства. Змірыцца і даравацъ свету такое было немагчыма, па-за яго розумам і сумленнем.

Мацвей Пятровіч паліў папяросу за папяросай. Скакаў і скакаў у блакіце гор на папяросным пачку конік, некуды пнуўся на ім вершнік. Лёнька пазіраў у вакно і маўчаў. Так сядзелі яны адзін насупраць другога гадзіну, дзве, а мо і вечнасць, каму як. Час абодвум спыніўся, гразка застыў і не рухаўся, нават усюдыісныя мухі былі няздольнымі прымусіць яго рухацца. Мужчына, па твары якога не ўгадаць яго веку, бо быў апалены. А ў валасах ужо прабівалася сівізна. Сівой была цэлая пасма, што вузенька брала пачатак ад падпечанага лба і пашыралася, пашыралася бліжэй да патыліцы, дзе ўжо кругла кублілася. Але гэта была толькі адносная прыкмета яго ўзросту, вайсковая, франтавая. Сама ж чупрына ў мужчыны яшчэ чорная, з адлівам крумкачовага крыла, цыганістая і густая. Па твары яго таксама не вызначыць ні ўзросту, ні настрою – заўжды аднаго колеру. Колеру печанага яблыка. Душа праз такую афарбоўку прабіцца не магла. Пэўна, таму, што твар і ёсць душа – душа і твар вайны. Левае вока як удумала збегчы ад яго і зрушана трошкі касіла.

Мужчына акамянела сядзеў на крэсле каля стала, хлопчык – на табурэце наводдаль ад яго, як дрогка сцятая кропля дажджу. У самім жа кабінеце было амаль пуста і не надта ўтульна, казённа. Тыя ж казённа пранумараваныя стол, крэсла, яшчэ некалькі крэслаў, табурэтка, каляровая карта краіны на сцяне. Разгорнуты даведнік садавода на стале. І ўсё, нічога болей. Толькі ў самым цёмным куце на тумбачцы пішучая машынка, як залётная старая варона. Металёва-груватская, чорна-зяўрастая, зубамі ачарніленых літарак яна толькі падкрэслівала пустату і няўтульнасць даволі прасторнага кабінету, што дыхаў яшчэ свежасцю неўпарадкаванасці і непрыцертасці да жытла. А за вакном вецер адводзіў душу, забаўляўся не паспеўшым яшчэ адпасці і зляцець лісцем колеру твару Мацвея Пятровіча яблынькі-дзічкі. І Лёнька вачыма быў прывязаны да паміраньня яблынькі. У шарэнгу з ёй расстаўляў другія яблынькі. Саджанцы, загубленыя ім ноччу ў агародзе дырэктара.

Мацвей Пятровіч, пэўна, ад разгубленасці непаразумення распавядаў Лёньку пра сад, як гэта прыгожа і патрэбна свету садзіць і расціць сады, што дзетдом ужо атрымаў два гектары зямлі пад свой, дзетдомаўскі, сад. Выпісаны ўжо гатункі саджанцаў Застаецца толькі чакаць восені. Але ён цяпер не ведае, як пачаць і што рабіць, бо такія выхаванцы, як ён, Леанід... На Леанідзе Мацвей Фёдаравіч спатыкнуўся, адчуў, што гаворыць у пустату, гарохам у сцену, на атынкаваных бёрнах якой распасцерлася каляровая карта краіны і ў якой няма вушэй. Адчуў няёмкасць і раздражненне, поўную сваю выхаваўчую бездаможнасць.

Калі б гэта быў яго родны сын. Ён бы без усякіх штучак-дручак адлупцаваў яго за мілую душу. Ад бацькі яшчэ ведаў: вучыць бэйбуса трэба, калі памяшчаецца яшчэ папярок лавы. А далей – позна. Пад гарачую

руку, адразу пасля таго, як убачыў знявечаныя, памерлыя яблынькі, імі ж і выхвастаў бы нягодніка. Але да вечара журба і моташнасць ачахлі, хаця ўгневанасць не знікла і не паменела: адчуў непапраўнасць згвалчанага і паспакайнеў: выхавацель узяў верх. Цяпер яму неабходна было зразумець, з чаго, адкуль такая дзікасць і хіжасць у, здаецца, увогуле нармальнага мальца. Пакінуць за сабой апошняе слова, каб жук і жаба ведалі, хто ў хаце гаспадар.

Паводзінамі дый лёсам Лёнька не надта выбіваўся з шэрагу безбацькавічаў, выхаванцаў дзіцячага дому. Вайна і беспрытульніцтва не выпалілі яго датла, як гэта адбылося з некаторымі, зацятая і бессэнсоўная, спакойная жорсткасць якіх палохала нават яго, абгарэлага душой і целам, што і па сёння засталіся на вайне. Праўда, такіх цяжкіх выхаванцаў, калі не дадаць да іх яго самога, у дзетдоме было няшмат. Але яны былі. Падвешвалі доўгія локшыны пораху да хвастоў кошак і катоў, падпальвалі і на ўсе вочы цікавалі за імі. У парэнчы лесвіц утыкалі цвікі, лёзы брытваў, сляды ад якіх насіць на сваіх руках ён і іншыя выхавацелі і выхавацелькі. А яны толькі задаволена рагаталі з іх абуранасці, з цёку іх крыві, хаваючыся па-за вуголлем.

Вайна, яе жорсткая абыякавасць да чалавека і яго жыткі нешта надсадзілі і выпалілі ў душах людзей, асабліва малалетак: бацькі ваявалі, іх нашчадкі, дзеці – звярэлі. Недарэмна кажуць: ніводнае злачынства не застаецца без пакарання, і больш у будучым – да дзявятага, а то і саракавога калена – мінулае сплочвае наступнаму і наступнікам. Лёнька жыў светла і без надсаду. Але ж апошні адмарозак і прайдзісвет не наважыўся б утварыць тое, што ўтварыў ён. Мазгоў на такую вычварнасць не хапіла б. Кожнае злачынства грунтуецца на нейкай пэўнай традыцыі, на сваіх каранях. Ходзіць па сваім звыклым вясковым, гарадскім крузе. У тутэйшага ж чалавека няма звычкі зводзіць без патрэбы і мэты штонебудзь жывое, расліннае ці дрэвавае: на Палессі і сярод лесу палешуку супрацьпаказана секчы сук, на якім ён сядзіць. Супрацьпаказана, забаронена? Ці гэта толькі некалі, учора, а сёння ўжо ўсё дазволена. І вось Лёнька... Чаму? Звіхнуцца можна.

Мацвей Пятровіч да драбніц помніў, як Лёнька з'явіўся ў дзіцячым доме. Ён прыйшоў сам, адзін, без міліцыянтаў, эвакуатарш дзетпрыёмнікаўразмеркавальнікаў, сваякоў. Ён якраз праводзіў педсавет, калі ў кабінет нахабна ўваліўся абарваны, укарэла замурзаны хлопец, з падперазанымі вяровачкай не яго памеру, вялікімі яму ў машне штанамі, на голую нагу чаравіках з высунутымі языкамі. Беспрытульнік з беспрытульнікаў. Стаяла лета, гарачынь, а ён у закараўленай кухвайцы: скрозь ржавыя няроўныя прапаліны праглядала жывое бруднае цела. Падлетак ці не нагой адчыніў дзверы і бессаромна пачаў разглядваць кожнага, хто знаходзіўся на педсавеце: як лічыў ці ацэньваў.

– Табе каго трэба, хлопчык? – са здзіўленнем спытаў нехта з выхавацелеў.

– Бацьку, – нават не паварочваючыся на голас, працягваючы ацэньваць кожнага, хто знаходзіўся ў кабінеце, аднаслоўна кінуў хлопец.

– Няма тут твайго бацькі, – зноў было моўлена ранейшым голасам.

– Ага, веру, веру кожнаму зверу, толькі не табе. З вясны, ад першых ручаёў у дарозе. А ўсе кажуць, што мой бацька тут.

– Праўду кажуць, – уздыхнуў завуч, сам ледзь не падлетак, учора яшчэ

толькі з арміі, у салдацкім галіфе з абмоткамі. – Тут, тутачкі твой бацька. Во ён, – паказаў пальцам на Мацвея Пятровіча.

Лёнька падышоў да яго:

– Чаму ты не рады? Я ж знайшоў цябе.

Мацвей Пятровіч пазбавіўся ад даўкага ў горле камяка.

– Не, ты не мой бацька, – як забіваючы ў дошку цвікі, вынес прысуд Лёнька. І, блытаючыся ў шырокіх калашынах, рушыў да выхаду, ціхенька, як дзед ці коцік на печы, нешта сам сабе мармычучы.

– Я, я твой бацька, – вымусіў Лёньку спыніцца Мацвей Пятровіч.

Лёнька павярнуўся, зноў наблізіўся да яго. Доўга і засяроджана, пільна, прыглядаўся да дырэктара.

– Ты? Гэта – ты?

– Ён, ён! – пацвердзіў завуч.

– Чыя б карова мычала, а твая б маўчала. Я ў цябе не пытаюся дык і ты нішкні... Бачу, бачу я вашы хітрыкі – няма тут майго бацькі. Але ж, але ж... на бязрыб'і і рак рыба. Калі ты згодны, то згодны і я. Бачу, бачу, абодва мы апечаныя і падманутыя. Прапашчыя.

І ні на каго не зважаючы, тыцнуў пальцам у прыпечаны твар Мацвея Пятровіча, мовіў нешта незразумелае, мо нават і недалужнае на такі момант, што не дазволіла дырэктару асэнсаваць моўленае Лёнькам раней. Адчуць толькі халадок на сэрцы і здзіўленне.

– Адкуль? – спытаў Лёнька.

Надзіва, цяпер Мацвей Пятровіч адразу ж зразумеў яго і адгукнуўся прыязнасцю паяднанасці:

– Ды ўсё адтуль, браце.

– І ў мяне таксама, хаця і не адтуль, – адцягнуў рукаў кухвайкі, выявіў даволі брудную руку са свежымі ружовымі рубцамі апёкаў. — Шкада, што гэта не на вайне. Бульбу пёк, ачамярэў ад яе паху, і вось...

Замоўк, не зводзячы позірку з твару Мацвея Пятровіча:

– Калі папраўдзе, то ты не надта падобны на майго бацьку. Касенькі ты. Але я застануся ў цябе, бо ўсю ж зямлю ўжо наскрозь прайшоў. Бацькі майго нідзе няма. Усе іншыя і іншыя. Не мае.

Першыя дні Лёнька суправаджаў Мацвея Пятровіча нават да прыбіральні. А потым спакваля прывязаўся і да Аліны Фёдараўны. Ды так, што неўзабаве ўспрымаў яе лёгка і нячутна, як родную маці. Хаця часам незразумела чаму і зусім інакш, падобна не зусім абуджанаму ад зімы скітніку чмялю, які не паспеў збыць адзіноту халадоў, ачмуранаму веснаваннем, любоўна прыпадаламу да першай жа кветкі, яшчэ толькі трохі-трохі набрынялай слодычча.

І неяк, ці не ў той дзень, калі Мацвей Пятровіч з жонкай і ўжо пасляваеннай дачкой высаджвалі першыя яблынькі свайго саду, Аліна Фёдараўна засмучана прапанавала:

– Як ты глядзіш, калі мы ўсынавім Лёньку?

Мацвей Пятровіч, раз-пораз хуценька лыпаючы касым вокам, азірнуўся на дачку, што нарадзілася яшчэ без яго, угнуўся і прамаўчаў. Аліна Фёдараўна, не адступаючы, працягнула:

– Усё роўна дзяцей ад мяне ты не хочаш. Хай будуць паміж намі хоць чужыя.

Мацвей Пятровіч не адгукнуўся і на гэтыя яе словы, толькі ўсім целам налёг на рыдлёўку, да зялёнай сукравіцы дзеручы ўтравелы дзірван цаліка. З жонкай ён гаварыў зрэдку і нядоўга. Яна ўжо звыклася з гэтым і імкнулася

яму не назаляць. Але ён спінай кожны раз адчуваў яе немы зварот да яго. Спіна, як і твар, была апечанаю, і ён пад яе паглядам адчуваў той даўні, забыты ўжо пасля агню боль – лекавы боль дотыку чужых рук, накладання павязак і здыманне іх, як здзіранне жыўцом скуры. Мацвей Пятровіч крута паварочваўся і хворым вокам, здаровае адмаўляла, лавіў яе погляд. Яе вочы, што імгненна пазбягалі адказу яму, хаваліся ў недасягальнай яму глыбіні яе цела... І сама яна, як уцякала, адварочвалася, прыдумвала сабе нейкі непатрэбны на той час занятак. І хаця ён прыкідваўся абыякавым, гэта хваравіта, па-жывому рэзала душу. Перад ім паўставала другая Аліна, ад якой ён жадаў, прагнуў дзяцей.

Дзень патухаў, сонца, хаця і марудна, але няўхільна паўзло за стрэхі хатаў і хлявоў. Перад тым, як пакінуць зямлю, здаць яе цемры і ночы, чырванню ўварвалася ў кабінет Мацвея Фёдаравіча. Развітальна-спынена паўстала ў шкляным воку акна. Крамяна-выспеленае, нібы зачапілася за нямоглае каравае вецце яблынькі-дзічкі, што пагібельна маўчала ўсяму свету.

Утопленае ў чырвані адыходзячага дня маўчанне цяпер панавала і ў кабінеце дырэктара дзетдома. Мацвей Пятровіч адчуў непатрэбнасць і нават непамыснасць далейшай размовы з Лёнькам. Цяжка было гаварыць аб тым, што старанна замоўчвалася і аб чым адзіна варта было гаварыць. Выцягваць з сябе і даваць волю невыказаным словам, Паўзы рабіліся ўсё больш працяглымі і невыносна немымі. Лёнька, як умарожаны ў лёд, зацята маўчаў.

– Я спраўляўся наконт тваіх бацькоў...

Мацвей Пятровіч, знарок не дагаворваючы, замоўк. Лёнька заставаўся каменна-нерухомым. Толькі лапаткі плячэй пазначыліся больш востра. Мацвей Пятровіч таксама сцята падабраўся. Адчуў такую невыносную шкадобу да гэтых схуднела-бездапаможных плячэй, што спалохаўся не вытрымаць. Заплакаць сапраўднымі слязьмі, якімі плакала цела.

– Твае бацькі загінулі. А чалавеку заставацца без родных, як пальцу аднаму адзінаму ў белым свеце... Нібыта ў зімовым лесе ваўку, логава якога разбурылі, ваўчыцу забілі, а ваўчанят разабралі па чужых руках і заперлі ў клетках. Напаказ, пакуты і здзек: білі, б'юць і плакаць не даюць... Ты хацеў бы стаць маім, нашым з Алінай сынам?

Мацвей Пятровіч убачыў у вачах Лёнькі зусім не дзіцячы адчай, разгубленасць і такі спапяляльна-паглынальны страх, што лепей бы яму адняло язык і засляпіла вочы. Але было ў паставе і вачах Лёнькі і нешта іншае, што ён хаваў тоячыся, пэўна, і ад самога сябе. Што загаралася і тухла ў яго зрэнках, міжвольным руху пальцаў. Мацвей Пятровіч паспеў адчуць, што ўсё не так безнадзейна, як здаецца. Але тут у кабінет зазірнула Аліна Фёдараўна. Толькі на шчылінку прыадчыніла дзверы і адразу ж, нібыта ў пакоі быў цяжка хворы, а мо ўжо і нябожчык, ціхенька зачыніла іх. Дзверы нават не рыпнулі, у пакой хутчэй увайшло дыханне жанчыны, чымсьці яна сама. Але Лёньку як нехта шылам укалоў ці калом аперазаў. Ён ледзь не перакуліў табурэтку, так імкліва яго развярнула. Але ён справіўся, уседзеў, каротка міргнуў і як канчаткова знік адусюль, замкнуўся, збег вачыма ў сябе. Адно табурэт пад ім, падобна, пачаў танчыць. І Мацвей Пятровіч таксама грузна, цяжка, нібыта сом, заварочаўся ў сваім дырэктарскім крэсле. Ды так, што застагнала нават масніца.

Ён сядзеў тварам да дзвярэй і раней за Лёньку ўбачыў жонку. На тую хвіліну з'яўленне яе было так не да месца, што ён ледзь не закрычаў, выганяючы яе. І не толькі ад недарэчнасці, недапушчальнасці яе сюды. Яго

як прарвала застарэлым болем, крыўдай, што імгненна выціснулі Лёньку з яго жахамі і не вытлумачальнай абыякавасцю. Але нічога з гэтага не адбілася на твары Мацвея Пятровіча, і не толькі таму, што ён ужо даўно страціў чалавечыя на ім пачуцці. Ён хутка справіўся з сабой. Зноў вярнуўся да Лёнькі. Зірнуў на яго і зноў спалохаўся. Здаецца, ад збытага ўжо пужлівага сполаху спапяляльнага агню, непраходнага адчаю. Усё тое, што было ў ім, ён убачыў і на твары свайго выхаванца. А яшчэ не дзіцячую спачувальную грэблівасць, больш уласцівую толькі разважлівай сталасці і выспелую ў той жа сталасці, зацятасць. Недараванне.

“Ён жа ўсе ведае, – бягуча, лётам, роспачна, але адначасова і з палёгкай прамільгнула ў галаве Мацвея Пятровіча. – Што гэта я з ім педагагічныя слюні і соплі...”

“Ты ўсё ведаеш?” – выказаўся ён спачатку сам сабе, а потым і ўслых:

– Ты ўсё ведаеш!..

Пякельны пасля ранення, а больш шпітальны боль прымусіў яго прыпасці грудзьмі да стала. І яму не падалося, твар, спіна, усё яго цела зноўку ахапіла полымем. Як тады, калі падлечаны ўжо, адваяваўся, жывы і здаровы вярнуўся дамоў.

Яшчэ на пачатку гаворкі, а больш упартага маўчання Лёнькі, у яго мільгала думка, што падлетак можа нешта ведаць аб ім і яго сям’і. Але ён не даваў ні веры, ні волі такой думцы, настолькі гэта было толькі яго, недапушчальна нікому іншаму, нават роднаму бацьку. Нічога ўжо не кажучы пра нейкага падлетка смаркача Лёньку. Адкуль жа яму што-небудзь ведаць, дый ці разумее ён хоць што-небудзь з гэтага, цалкам дарослага, што тычыцца толькі двух, мужчыны і жанчыны. Яго і яго жонкі Аліны.

Цяпер жа Мацвей Пятровіч быў перакананы: ведае, разумее, адчувае і перажывае мо нават больш востра за яго. Чыста, непраходна і недаравальна пакутліва. І хаця перад ім быў толькі падлетак, чужое дзіця, ён адчуў удзячнасць яму, нібы пераклаў частку непамерна цяжкой сваёй ношкі на плечы самага блізкага і адзінага сябра. Пераклаў пасля доўгіх гадоў апраметна-пякельнага агню, атрымаў магчымасць перадыхнуць, пагаварыць не толькі з самім сабой.

Падсвядома Мацвей Пятровіч усміхнуўся нябачнай ні яму, ні Лёньку ўсмешкай, адчуў пад сабой крэсла, разняволена выпраміўся на ім і ўздыхнуў на поўныя грудзі:

– І даўно ты ўсё ведаеш? – нібы ў працяг нейкай даўняй гаворкі, што не патрабуе тлумачэнняў, спытаў у Лёнькі. Спытаў як нешта ўжо абгаворанае і цяпер не вельмі значнае, будзённае.

– А пазаўчора пасля абеду, – таксама, як на нешта нявартае ўвагі, адказаў і Лёнька. Пэўна, здзівіўся сам, як лёгка даліся яму гэтыя словы, і ямчэй уладкаваўся на табурэтцы. Стрыманасць адышла разам з сорамам, мо і хутчэй, дзякуючы набытай зараз праз пакутліва выспелую дарослассць гаворкі. Ён падпарадкаваўся слову, што даўно прасілася, прагнула мовіцца, як апошняму ў сабе слову.

– А калі гэта плётка, нагавор? Ці мала хто і чаго можа напляткарыць. У няпраўды хуткія ногі. Няпраўда...

– Праўда, – пераканаўча і ўпэўнена мовіў Лёнька. – Я свету пабачыў. Абмацаў рукамі і нагамі. Столькі жыццяў зведаў, столькі падманаў прайшоў, што праўду і няпраўду здаля носам чую.

– Ну што ж, будзем тады гаварыць без дурняў, як мужчына з мужчы-

нам, – Мацвей Пятровіч мімаволі ўздыхнуў і завагаўся: а ці здольны ён, без гэтых самых дурняў, да поўнай шчырасці? І пасля ўсяго таго, што адбылося і як ён павёў сябе, ці сапраўды ён мужчына? Годны і варты мужык, здольны быць ім не на вайне, а ў сваім доме, калі яму і ў самім сабе нічога не зразумела. Пры святле дня, яго клопатах, побытавай, хатняй і пасадовай мітусні ён гатовы дараваць Аліне. Толькі ёсць дзень, ёсць і ноч, і ёсць дзённы і начны чалавек. І ў кожнага свая праўда. На жаль, часам процілеглая, несумяшчальная. Каб ведаць, якой даверыцца.

Таму часам ён гатовы падысці да Аліны, сказаць, каб яна перад ім не стойвала дыхання. Апроч самой сябе нікому яна непадсудная.

Будзённы тлум, здаецца, надае сэнс, бачнае апраўданне неабходнасці сябе гэтаму жыццю, што даравана, наканавана, прысуджана быць не толькі дзеля самога сябе, але і яшчэ для некага невызначанага, нябачнага, вока якога нязводна на табе. Сям'я, хата, пасада – гэта ўсё так. Дадатак. Толькі ж у свеце ёсць штосьці і над гэтым, што нарадзіла цябе, чаму ты зачаты, ёсць і будзеш. У свой час яму гэта ўвасаблялася ў Аліне. Цяпер жа такое злітнае ўвасабленне знікла. Канае ўначы. Уначы ён цураецца зямной прывязі. Пачынае жыць аднаасобна. Толькі для сябе, без неба, сонца і святла.

Меркне дзень, прыпадае цемра. І ён сам-насам з той цемрай. І няма яму сну, ні ў адным воку няма. Усё, на што ўгаварыў сябе пры сонцы, пад месяцам, тухне, глухне і адмірае. Месяц, ці нехта там на ім, уначы забаўляецца, гуляе з чалавекам, здзекліва перайначвае яго дзённага. Начны чалавек зусім іншы, чымсьці дзённы. Тое, што пры сонцы было прыдушана, крывава прачынаецца ў бессані. Галава – жоўты бубен і жніўна-азіяцкі сярпок над ёй. Усёпаглынальная цемра малоціць у той бубен, а зоркі жнуць, жнуць пасеянае ўдзень. І гэтак ці не па ўсім свеце і ці не ў кожнага.

Калі, як і чым гэта скончыцца? Прасцей і больш лёгка памерці, чым так, штоноч паміральна жыць. Дык ці мае ён права судзіць і асуджаць? Ці мае права выносіць прысуд дванаццацігадовы падлетак, што па вушы яшчэ ў брудзе беспрытульнасці, крывавай бязлітаснасці вайны і смерцяў?

– Я бачу, у табе праз край ліха, занадта злосці. А ці ёсць там месца спачуванню чужой слязе, жалю? – зусім не да месца пытаецца ў Лёнькі Мацвей Пятровіч.

– Я любіў яе да страты сябе, – здаецца, таксама не да месца адказвае Лёнька. – Яна забіла, растаптала мяне падманам.

– А да гэтага цябе ніхто не растоптваў, не раскрыжоўваў?

– То былі чужыя. Чужым я магу і дараваць, на тое яны і чужыя. Але магу і выбіраць. Чужых, калі яны мяне нават заб'юць, я знайду і на тым свеце. Знайду і адпомшчу. Кроў мая пойдзе за імі і ў апраметную. Са сваімі ўсё ж трэба разлічвацца на гэтым свеце, каб яны не ўваскрэслі, не распаўзліся і не атручвалі жывых.

Мацвей Пятровіч жахнуўся і перахрысціўся, чаго не рабіў і на фронце. З таго часу, калі пад стол пешкам хадзіў. А гэты смаркаты суддзя, пракурор, кат і прарок даганяў яго дзяцінства.

– Ты вырашыў усё за нас з Алінай. А пра сябе, як табе жыць далей з тым, што маеш, што носіш у сабе, ты падумаў?

– Падумаў, – адказаў Лёнька. – Хацеў спаліць вашу хату, ды ў цемры запалкі згубіў. І не схацеў, каб бачна было мне навокал.

– Нашу хату, нас з Алінай? А разам з намі ў хаце яшчэ адзін чалавек. Наша дачка... Хаця ў вайну фашысты не надта турбаваліся пра тых, каго жыўцом палілі.

– Аліне Фёдараўне і пры фашыстах жылося няблага. Няблага...

Яны зноў моўчкі і нерухома стоена сядзелі адзін перад другім. Ужо была ноч. І месяц па-панску разлёгся сярод зорнага неба. І ўпэўненая месячная сцежка па стале і падлозе раздзяляла іх. Асвятляльным краем, як палуда, завісла на хлопцы.

– Твой бацька дзеля сябе, а больш – цябе, не дараваў бы тваёй маці, якая дзеля абодвух вас прайшла праз усё.

– У мяне няма бацькі. Сырая зямля...

– І сваёй маці ты б не пашкадаваў?

– Яе спалілі немцы ў свінарніку.

Словы цяжка клаліся ў сухую цемру. Хаваліся ў ёй, покрыўна ахутаныя ноччу. І пытанні, і адказы былі выдалены ад абодвух у кабінеце і ў застылай агаломшанай зацятасці здаваліся непатрэбнымі ні аднаму, ні другому. І ў той жа час... Нехта недзе іх слухаў і чакаў, невядома чаго, але чакаў...

– Пойдзем да мяне. Сёння будзеш начаваць у мяне, – ні то прапанаваў, ні то загадаў Лёньку Мацвей Фёдаравіч. І ледзь не падавіўся гэтымі словамі, за імі адкрылася яму, да чаго яны падобныя. Падобныя ўва ўсім.

Лёнька, як птушка на балотнай купіне, страпянуўся. Ён пакінуў кабінет раней за Мацвея Пятровіча. Пакінуў, як звязанага месячнай сцежкай, аднаго пры сваім дырэктарскім стале. А Лёнька па вузкай месяцавай сцежцы, як па кладцы з вечнасці ў вечнасць, наблізіўся да пракаветнага, як нязменнага вартавога, на дзетдомаўскім падворку дуба. Ад таго дуба, сазтупіўшы з месяцавай сцежкі ў паглынальную цемру, доўга наглядаў за выразным уначы, як выразаным з чорнай паперы, Мацвеем Пятровічам у пустым кабінеце. Пакуль той не адліп ад свайго стала. Падышоў да вакна з двухбаковымі створкамі. Расхінуў іх, перагнуўся праз падваконнік і таксама доўга ўглядаўся ў цемру, як аб нечым прасіў. І яна нібыта адгукнулася яму ўспышкай святла ў ваконным шкле палаты старэйшых хлопцаў: міргнула і патухла.

Мацвей Пятровіч выйшаў на ганак. Да яго падышоў дзяжурны па дзетдоме выхавацель. Яны перакінуліся некалькімі кароткімі словамі, і дзяжурны выхавацель пакінуў яго. А Мацвей Пятровіч працягваў углядацца ў ноч. Дзяжурны падвёў да яго купку, чалавек з пяць, хлопцаў старэйшай групы. Яны нешта абгаварылі, сышлі з ганку і рассыпаліся па дзетдомаўскім падворку. Кожны ў сваё чорна-маўківае нікуды. Лёнька яшчэ нейкі час бачыў, як чырвонымі агеньчыкамі ваўчыных вачэй успыхвалі кішэнныя ліхтарыкі. Чуў, як на недалёкіх могілках правухкаў пугач. Недзе, ужо за борам і ракой, згублена пракрычаў паравоз.

Ён выйшаў з абярэжна-патаемнага ўкрыцця дуба. Павярнуўся да яго спінай. Спінай прыціснуўся да яго шурпатай кары. Апошні раз агледзеў паўночны дзетдомаўскі падворак. І скіраваў да некалі загадзя праробленай ім жа дзіркі ў плоце. Лёгка прашыўся праз яе, як жолуд з нададзенага яму ахоўнага капелюша. І знік пад затухальныя ўжо ўначы вясельныя спевы жаб у сажалцы. Знік зусім і назаўсёды, як растаў у іх, у малітоўным вясельна-вясковым адпяванні і ўслаўленні вясны.

*(Заканчэнне будзе).*

паэзія

Васіль Жуковіч



...І твой шлях, Беларусь, і тваё бездарожжа
ува мне назаўсёды, інакш быць не можа...

# Мой суд

### *РАЗЛАД*

Надвор'е анамальнае
запанавала.
Навінаў аднастайная
прыйшла навала.
Страчаю ўсё панурыя
людскія твары.
Снуюцца людзі хмурыя,
нібыта хмары.

*2021, жнівень*

### *КАНСТАТАЦЫЯ*

Спёка. Пажар. Вецер...
Патоп. Люты холад...

На зямной планеце
бярэ ўладу голад.

Валам валіць смецце,
плывуць яды ў мора.
Па Зямлі-планеце
бяда ходзіць, гора.

Шырыцца паскудства:
вераломства, войны...
Дэградуе людства –
свет злачынстваў поўны.

Ліха не збываем,
не перамагаем.
Бога забываем –
д'яблу памагаем!

*2021, жнівень*

## МОЙ СУД

Ажно з далёкага дзяцінства
пры ўладзе жорсткай, нам чужой,
зашмат уведаў я злачынстваў,
якія асуджаў душой.

Я зла нікому не жадаю,
чужому злу даю адпор,
а найхутчэй я асуджаю
дзяржаўны рэкет і тэрор.

*2021*

* * *

Вуліца, дзе стаіць мой дом,
носіць імя ўкраінца,
што змагаўся й загінуў
на Беларусі – за Беларусь,
а гэта значыць – і за мяне.
Мірашнічэнка Пятро –
імя юнака,
што ў гарачым баі
заглушыў амбразуру
сэрцам юначым.

*18.05.21*

* * *

І твой шлях, Беларусь, і тваё бездарожжа
ува мне назаўсёды, інакш быць не можа.

Колькі зведала зла ад злачынных рэжымаў,
чалавечай душой ахапіць немагчыма!

Аніхто не прадкажа, яшчэ што чакае.
Мне пытанне баліць: будзе доля якая?

Твой бядотны народ талерантны праз меру,
ды надзею галублю і добрую веру:

ты ніколі не будзеш бяспраўнай, гаротнай,
калі станешся, як і належыць, – Народнай!

*25-27 сакавіка 2022*

* * *

Я з дамаю тою раней сябраваў,
з аўтографам кнігі свае дараваў;
цяпер яна кажа: гатова спаліць
усе мае кнігі, спакойна каб жыць.
Кажу ёй, што Гітлер спаліў процьму кніг,
што будзе ў кампаніі з ім удваіх...
Гляджу: не бянтэжыцца ані на міг.
Кажу: ты ж на камеру зняць не забудзь –
сабе і рэкламу, і славу здабудзь;
для славы дурное, глядзі ты, якраз
такі ўжо спрыяльны ў нас выдаўся час!..

*9 сакавіка 2022*

* * *

У сеціва я зазірнула –
мне піша сваячка адна. –
Убачанае скаланула,
узрушыла душу да дна:
Ірпень украінскі разбіты,
змяшаны з зямлёй...
Усклікнула я: “Божа, дзе ты?!”,
бяссільная ў скрусе сваёй.

*Сакавік, 2022*

* * *

Сон не бярэ мяне чорнаю ноччу:
чым Украіне-сястры памагчы?
Бачу і ў цемры сумлення я вочы:
"Словам змагайся, паэт, не маўчы!"
Ах, не маўчу: ўсёй душой праклінаю
я
ненажэрнае пекла вайны!
Мірныя вёсны ўсё ўспамінаю,
потым – кашмарныя цяжкія сны.
Зараз са мной востры боль украінскі,
болей яго немагчыма цярпець!
Так не былі яшчэ блізка мне ў Мінску
і Марыупаль, і Харкаў, Ірпень...
Як, узрушаюся чорнаю ноччу,
ліха Ўкраіне перамагчы?
Усё цяжэй перамогу прарочыць...
Божа, свабоду Ёй дай зберагчы!

*19 сакавіка 2022*

## ***БАЛАДА***

У далёкі край сынка
маці правяла,
на паўстанку галубка
моцна абняла:
"Не тужы, сынок, пішы
як мага часцей
і здаровенькі дамоў
ты прыходзь хутчэй..."
Час ідзе, і піша сын
за лістом лісток,
маці к сэрцу туліць іх:
"Дзякуй, мой сынок!"
Служба выпала, аднак,
цяжкая яму.
Праўду скажа ўсю юнак
Богу аднаму...
Час ляціць, а сын не йдзе,
не прыйшоў сынок.
Адкажыце, птахі, дзе
мамін галубок...
На дарогу маці йшла,
несла ў свет журбу;

абярнулася яна
ў ніцую вярбу.

*1990*

* * *

Украіна, жыццядайны край,
што ж цябе свет божы не ратуе?
Скопішча варожых хіжых зграй
землі урадлівыя дратуе!

Сее бомбы на палях вайна,
мірнае жыццё з зямлі сцірае.
Зброю пераможа хай вясна
у цвітучым хлебадайным краі!

*19 сакавіка 2022*

* * *

Вядуць і вядуць успаміны
у сонечны край – Украіну.
Нібыта было гэта ўчора –
я з любаю ехаў да мора.
...Ад вокнаў нам не адарвацца –
краінай усмак любавацца:
прывабныя белыя хаты,
садоў зелянюткіх багата,
высокія нівы пшаніцы,
сланечнікаў рай залаціцца...
Як ехалі мы і ад мора,
нас цешылі тыя ж прасторы...

Цяпер там – страшэннае гора:
вайна людзей нішчыць, калечыць,
ёй жыццяў не жаль чалавечых –
крывавы свой баль яна творыць!
На землях любімай краіны –
ахвяры, калекі, руіны.
Татальнай навале – пракляцце!
Мір – кожнаму дому і хаце!

*23.03.2022*

## *БЕЗ ВІНЫ*

Ён, расіянін, шмат гадоў пражыў
у Беларусі. Вершамі грашыў.
Быць маім сябрам так хацеў, стараўся!
А я ў яго нядаўна запытаўся,
ці супраць ён злачыннае вайны, –
ад злосці ў шоку ён пазелянеў,
чамусьці цынікам назваў мяне.
Я вінаваты стаўся без віны.
Кажу: “Быць маім сябрам не старайся, –
у масе злых імперцаў растварайся!”

*25-27.03.2022*

## *З КОЛІШНЯЙ ГАМОНКІ*

– З чым параўнаць народ з чужою мовaю?
– Калі б такая нацыя была,
яе зраўняў бы з кветкай папяровай,
не, больш дакладна – з пудзілам арла.

*1975*

## *ФАКТ*

*Дыпціх*

**1**

Дачка таленавітая,
з энергіяй кіпучаю,
рупліва-цягавітая,
ды нешта невязучая.

Хіба ж не з ласкі божае
надзейная, зычлівая,
яна душой прыгожая
і хоча быць шчасліваю.

Над лёсам неўлагоджаным
вы не кружыце, вораны!
Для радасці народжаны,
хто талентам адораны.

*17-19.10.2021*

**2**

І ў Дзень тэатра супакою мала:
даеш урокі юным тэатралам.

Душою шчодрай сееш ты з натхненнем,
мо не на камень падае насенне?..

Няхай і незайздросныя заробкі,
абы хацелі дзеці браць урокі!

Хай рэдкаснае шчасце ў фільме зняцца,
любімыя затое ролі сняцца!

Мастацтву служыш ты самааддана;
яно й жыве любоўю апантаных!

*27 сакавіка 2022*

## *СЛЕПАТА*

Праваслаўя багамолкі,
брэжнеўскія камсамолкі,
думкі вы сваёй не маеце,
хлусню ўсякую прымаеце...
Мабыць, вы яшчэ паплачаце:
кім зло чыніцца, не бачыце!
Нездарма Максім-прарок
з болем выказаў папрок:
“Народ, Беларускі Народ!
Ты цёмны, сляпы, быццам крот!”

*Сакавік 2022*

## *ВАЛОШКА-СІНЯЗОРКА*

Прастор яе не вузкі:
жыве валошка й жыцьме
у мове беларускай,
у беларускім жыцце,
на кубачку, талерцы,
на ільняным абрусе
і ў маім верным сэрцы –
як сімвал Беларусі.

*2019*

Анатоль Івашчанка



...крывадушнасць і крываэжэрнасць
толькі фармалёва
не аднакарэнныя....

# Непрамо(ў)ленае

***З хронікаў ранейшых часоў***

*

Дыялог на задніх сядзеннях.
Данік: "Тата, што было першым – курка ці яйка?"
Тата (*глыбакадумна*): "Ну, гэта вельмі складанае пытанне. Чалавецтва б'ецца над яго разгадкай шмат стагоддзяў..."
Яна: "Тата, гэта ж вельмі проста. Бог стварыў яйка, і з яго вылупілася куранятка".
Данік: "А хто ж яго выседжваў?!"
Настуня: "Бог, хто ж..."

*10/04/17*

*

У машыне, на прыборнай панэлі, ляжыць малюнак-аплікацыя маёй малодшай школьніцы. Кветка з буйнымі

пялёсткамі, і ўнутры пялёсткаў – дробна парванымі шматкамі паперы выкладзены featured рознакаляровы ўзор-выцінанка. Такая сабе мандала.

Бяру ў рукі, каб разгледзець бліжэй. Зроблена старанна, ніводны шматочак не выходзіць за контур малюнка.

Увечары мушу сустракаць чалавека з лётнішча. У салоне і так гармідар...

Колькі ж такіх шэдэўраў створана. І колькі – выкінута...

Пераварочваю аркушык, а там, у слупок, ружовым алоўкам:

*прыгожая*
*мілая*
*добрая*
*выдатная*
*пяшчотная*
*любая*
*ветлівая*
*ласкавай*

*З 8 сакавіка, мамачка!*

Складваю аркушык напалам і кладу ў бардачок.

*7/07/17*

*

Праходжу міма вінна-гарэлачнага. Стаяць счарнелыя мужычкі. Збіраюцца святкаваць. Можа, чакаюць ганца? Пакуль тое, гуляюць у “гарады”. Адзін, самы малады, кіруе працэсам.

– Варонеж. Табе на “шэ”.

– Швейцарыя. Табе на “а”.

– Алмата...

Далей, да жалю, ужо не чуў.

*8/07/17*

*

Вось – таямніца. Чаму аўтары маст. тэкстаў не карыстаюцца слоўнікамі? Ну, добра, няма пад рукой папяровага. Але ж ёсць *skarnik.by* і *slounik.org*. Гэтага цалкам дастаткова. Чаму не зазірнуць? Спраўдзіць канчатак назоўніка ў родным склоне. Напісанне складаных словаў. Ідыёму падгледзець. Русізм замяніць. Сінонім знайсці... Што гэта: неахайнасць, лянота, злачынная нядбайнасць, святая вера ва ўласную прыроджаную пісьменнасць?.. Таямніца.

*19/04/17*

*

З тыдзень таму зрабілі котцы аперацыю. (Тую самую, якую робяць хатнім котачкам гаспадары-звяры). Першы час котка пакутвала ад гунькі (але зняць не спрабавала), пакульгвала, асабліва не лазіла па ўлюбёных верхатурах, нават калі цалкам адышла ад наркозу. Наагул – трымалася гераічна і малайцом. Яе, вядома ж, усе шкадавалі ды песцілі. І вось сёння заспяваю яе на каронным месцы – у кухні каля мыйні (90 см вышыні). Кажу пра гэта жонцы. На што жонка: “Відаць, змірылася, падумала, што

гэтая кашуля цяпер на ўсё жыццё. А мо так і трэба?" Як сапраўдная белашатландская котка.

*7/06/21*

*

Забіраю жонку з працы. Кажа, як шмат паспела – і тых прынялапалячыла, і гэтых пракансультавала, і справаздачу напісала. "Ну, а твае як поспехі?" – пытаецца. Перабраўшы ў галаве ўсе свае поспехі (прыборка, кармёжка, вёрстка-чыталка), адказваю: "Паўтары старонкі напісаў".

Ну, з улікам таго, што папярэднія чатыры паўгода пісаліся, – дык і нічога так...

*

Праязджаючы міма царквы, па звычцы падняў руку, каб пераҗагнацца, ды пальцы так і застылі ля лба.

*

Вільня. Горад, дзе ты заўсёды вяртаешся да таго сябе, якім трапіў сюды ўпершыню. То бок – да маладога й напоўненага прадчуваннем цуду. Сам горад кожнага разу новы. Але ў гэтай навасці – затоеная нязрушнасць. Нязрушнасць чакання таго-самага... І яно, вядома ж, заўсёды здараецца)

*15/05/17*

*

– У вас все?
– Не, яшчэ смятаннік, калі ласка.
– Наличные?
– Наяўныя.

Пакуль касірка адлічвала рэшту, да яго звярнулася дзяўчына, што стаяла поруч з падносам (чызкейк плюс капучына):

– Извините, а вы всегда... размаўляеце на беларускай мове?
– Ну, як сказаць...
– Классно! А можно, я с вами посижу? За одним столиком...

У яе былі цёмныя дрэды й зялёныя вочы. І – усмешка, што абяззбройвае. А сёння ён дакладна быў небаяздольны...

Яна запытала, дзе ён працуе. Ён сказаў, што тут, побач, на радыё.

– Ведущий?
– Так, вядоўца. Канал "Культура".
– Вядо-оўца. Зразумела. А я айтишник, – сказала яна, не здагадваючыся, якую колькасць грамар-нацы з суполкі *Фемінітыў.бай* скаланула ў гэты момант.

Калі яны выйшлі на вуліцу, яна сказала з усмешкаю (яна ўсё казала з усмешкаю):

– Не, ну, вот же каазёл!

Яе маленькі чырвоны "Ярыс" быў ушчыльную падперты з боку дзвярэй кіроўцы. Чаму казёл? Пэўна, таму, што аўто, якое ўшчамілася побач, было чорнага колеру.

Яна праціснулася да стырна праз пасажырскія дзверы й запытала ў фортку:

– Может, подвезти?

Ён пагадзіўся. Хоць тая чорная машына была ягонай.

*

Размаўлялі з Алесем Юркойцем. Ён падзяліўся файным лайфхакам. Кажа, знайшоў у Багдановіча моўную формулу-зычэнне, што добра павышае настрой. Як дзе з кім вітаецца ці развітваецца – нават і з незнаёмымі – зычыць: “Залацістага яснага дня”. Калі хто кажа, прыкладам: добры дзень, то ён адказвае: а вам – *залацістага яснага дня*!.. І мала хто не пасміхаецца ў адказ.

Варта браць на ўзбраенне.

*

Сям’я – як сказ. Бываюць простыя. Бываюць складаназалежныя. Бываюць складаназлучаныя. Ну, і змяшаныя адносіны таксама трапляюцца.

*

У мяне пад акном суседнічаюць (праз сцяну) крама рытуальных паслугаў “Рытуал” і фітнэс-клуб “Сегодня”. І шыльды побач вісяць. Хто б падказаў “Рытуалу” перайменавацца ў “Заўтра”?

*

*Калі мы разам, у нас маразм...* (Р. Барадулін).

*...калі мы разам ляцім да зор.* (М. Багдановіч).

*І няма ў мяне сёння іншага клопату, іншага абавязку, як проста быць – разам з травой.* (А. Разанаў).

*

*Смерці няма. Гэтаксама няма ад яе пазбаўлення.* (Здаецца, Пялевін).

*Он умер за две неделі до смерті.* (БГ).

*Ніхто не павінен дажыць да смерці.* (А. Разанаў).

*

– Ну, і пра што “Бандароўна”, як ты разумееш?

– Пра тое, што любімую не аддаюць...

*

Апошні тыдзень паралельна пачытваў француза Раэля і кітайца Лі Хунчжы. Абодва тэксты (адзін у пдф, другі на паперы) трапіліся цалкам “выпадкова”. Француз кажа, што “навука” мусіць быць рэлігіяй для чалавека, паколькі чалавецтва стварылі іншапланетнікі навуковым шляхам. Кітаец кажа, што “навука” – галоўнае зло, паколькі створаная іншапланетнікамі, каб трымаць чалавецтва пад кантролем...

*

На заліку па беларускай мове (праф. лексіка).
*Выкл.*: Назавіце перакладчыкаў Бібліі на старабеларускую мову.
*Студ.*: М-м-м-м...
*Выкл.*: Сымо-он...
*Студ.*: Блудны!
*Выкл.*: І Васі-іль...
*Студ.*: А! Дык ёлкі. Быкаў?!

*

– Як называлася першая друкаваная кніга на старабеларускай мове?
Студ., косячыся ў шпору:
– Пластыр!..

*

Краіна пад белымі крыламі – гэта калі зверху на яе глядзець. А калі знізу – то пад чорнымі...

*

Крывадушнасць і крыважэрнасць толькі фармалёва не аднакарэнныя.

*

Народ забіты. Але не ад слова “забітасць”, а ад слова “забойства”.

*

Вынік ператварэння мухі ў слана – сланлівая муха.

*

– Добры дзень, ці можна заўтра пад’ехаць: фільтр паветраны, калодкі і масла памяняць?
– Масла?.. – у слухаўцы чуецца неўразуменне.
(Ну вось, думаю, зараз у краму прадуктовую прапануюць звярнуцца ці на хлеб намазаць).
– Ну, аліву. Маторную...
– А, добра. А масла ваша ці наша?
– Ваша (хух, адлягло). Кажуць, “эльф” цяпер бадзяжаць бязлітасна.
– Ага, бадзяжаць. У нас нармальнае. А фільтр толькі вaздушны?
– Ну так, паліўны мяняў узімку.
– І што, думаеце з зімы мяняць не трэба?
– Думаю, пакуль не.
– Ага, добра. Ну, прыязджайце.

*

Феміда ля камедыя.
*23/09/21*

*

Тое, што Айзек Азімаў з беларускіх габрэяў – рэч вядомая. А тое, што яшчэ адзін знакаміты фантаст – Кір Булычоў (насамрэч – Ігар Мажэйка, прозвішча для псеўданіма ўзяў у маці, а імя ў жонкі) паходзіў з беларускага шляхецкага роду Мажэйка герба "Трубы", ці ведалі?

*

З шаноўнай сяброўкай (вельмі крутым археолагам) абмяркоўвалі, што ратуе ў гэтыя цёмныя часы. Сышліся на тым, што – механічная праца. Вось і цяпер матэрыяльчык экстранны вярстаю: больш за сто зносак на 12 стар. Ну, і плюс фарматаванне ды малюнкі. Але ж – насамрэч ратуе.

*

Збегчы ад бегатні.

*

Кожны баіцца сваёй жонкі. Не кожны мае смеласць у гэтым прызнацца.

*

Пры кепскай падвесцы дапамагае... добрая аўдыясістэма.

*

Рыбалоўнае. Быццам бы і не мацюкаюся па жыцці. Але ж у часе рыбалкі... Адкуль толькі ўсё гэта вылазіць?

*

Беларукая літаратура.

*

Прынцып стварэння часопіснага нумару падобны да палімпсеста. Кожны вярстальнік ведае.

*

*Паэзія – езда в незнаемое.* (У. Маякоўскі).
*Паэзія – уводзіны ў невымоўнае.* (А. Разанаў).

*

У чорным-чорным горадзе, на вуліцы Кузьмы Чорнага, у цёмныя часы...

<u>*З чырвонага нататніка*</u>

Маленькая згадка пра першы дзень працы ў СБП.

(У Саюз пісьменнікаў размеркаваўся быў пасля філфаку. Алесь Пашкевіч, навуковы кіраўнік майго дыплома, толькі стаў старшынёй СБП і паклікаў да сябе ў дапамогу.)

І вось – мой першы дзень працы. Пэўна, травень 2003-га. У "танкаўскі" (201-ы) кабінет адчыняюцца дзверы – і заходзіць Ніл Гілевіч. Вітаецца, абводзіць прысутных позіркам і пытаецца: "Ну, і дзе тут спадар Івашчанка?"

На жаль, не памятаю нагоды яго прыходу (пэўна, Ніл Сымонавіч прынёс рукапіс у "Дзеяслоў", і Барыс Пятровіч сказаў, каму яго аддаць). Але памятаю, што зразумеў: свой першы дзень працы ў СБП не забуду ніколі.

*

Неяк у Прыёмную СБП завітаў чалавек г. зв. каўказскае знешнасці, які адрэкамендаваўся грузінскім літаратарам і папрасіў, каб яму неадкладна выдалі даведку, што гэта сапраўды так. У доказ таго, што ён грузінскі літаратар, наведнік дастаў са сваёй патрапанай валізы кнігі на грузінскай мове, дзе мелася быць яго прозвішча. Натуральна, адпаведную даведку неадкладна пачаў яму выпісваць, падчас чаго выяўляецца, што насамрэч ён асецін, які пасля сумнавядомага канфлікту перабраўся ў Тбілісі, але ўжо шмат гадоў жыве ў Беларусі (здаецца, у Гомлі) з беларускай жонкаю і дзецьмі, а даведка патрэбная, каб працягнуць від на жыхарства.

Калі адбывалася гэтае знаёмства, у пакой зайшоў Мікола Якаўлевіч Аўрамчык, які прынёс у часопіс матэрыял (цалкам мажліва, той самы, дзе праліваласся святло на аўтарства паэмы "Сказ пра Лысую Гару"). Ён сеў у фатэль (дыхтоўны чырвоны скураны фатэль, што стаяў у прыёмнай ці не з сямідзясятых гадоў мінулага стагоддзя), чакаючы, калі я вызвалюся. Грузінскі літаратар папрасіў дазволу патэлефанаваць у аэрапорт, дзе запытаўся пра бліжэйшы рэйс на Тбілісі.

Як толькі ён сышоў, Мікола Якаўлевіч падышоў да майго стала і, пабачыўшы там кнігу Барыса Акуніна, якую я чытаў, акругліў вочы: "Скажы, Толя, дык гэта што, і быў той самы Акунін?!"

Хто толькі не заходзіў у прыёмную СБП у тыя часу – ад фельд'егера з пісталетам на баку і ўрадавымі лістамі ці характэрных хлапцоў у скуранках да звычайнага ціхага вар'ята ў матроскім касцюмчыку, што завітваў з мэтаю прасушыць абутак... Таму, мабыць, ніхто надта не здзівіўся б, калі б аднойчы адчыніліся дзверы й да нас напраўду зайшоў бы славуты літаратар Рыгор Чхарцішвілі.

*

Зранку быў у дзядзькі Рыгора. Яго заўчора выпісалі з кардыялогіі. Аддаў немалую падборку на першы нумар. Ён ужо ў курсе пра пераход на "школьны". "Вы ж ведаеце (так-так, на "вы" і толькі на "вы"), я пішу тарашкевіцай. Папрасіў жонку, каб набрала наркамаўкай..." Шляхетнасць і тактоўнасць у кожным руху. Пасля візітаў да Барадуліна ў храм можна месяц не хадзіць.

*19/01/10*

*

Днямі наведваў Барадуліна. Адзін вушацкі пісьменнік традыцыйна

папрасіў перадаць сваю чарговую кнігу дзядзьку Рыгору. Заадно захапіў свежыя часопіс і газету, некалькі новых кнігаў і новы даведнік СБП...

Таксама, “скарыстаўшы магчымасць”, папрасіў Барадуліна падпісаць пляменніку кнігу “Выпаў грук у грома з рук” (пляменніку днём раней споўнілася 10 год, і ён жыве ў адным доме з Народным паэтам).

Барадулін з цяжкасцю размаўляе, але – заўсёдныя гарэзлівыя агеньчыкі ў вачох, сыпле вушацкімі досціпамі (на развітанне пажадаў: “Будзь багаты і лахматы” – беларускае зычэнне часоў каменнага веку). Сказаў, што напісаў за лета шмат вершаў і хутка прапануе ў часопіс. Маўляў, толькі набраць трэба. Я сказаў, што і ў рукапісным выглядзе за гонар будзе. Але Барадулін, адрозна ад некаторых геніяльных аўтараў, неахайнасці ў здачы матэрыялу не трывае...

А сёння, корпаючыся ў тэчцы “мае дакументы”, знайшоў вось гэтую старую спробу. Яна добра легла пад цяперашні спліновы настрой...

*Калі мы разам – у нас маразм.*

Калі мы ўдвох, –
боб і гарох.
Калі нас трое, –
няма настрою.
Як нас чацвёра, –
наогул гора.
Калі пяцёра, –
я не ў гуморы.
Як мы ўшасцёх, –
то ўсё нам пох.
Як нас сямёра, –
па горла мора.
А як васьмёра, –
раблюся хворы.
Як дзевяць нас, –
саўсім атас...

І гэтак далей...
Хто налівае?

*26/09/11*

*

...Прыходзіў Піліп Ліпень. Пытаўся, ці чытаў галоўны рэдактар яго новы твор. Сказаў яму, што не ведаю, ці чытаў (галоўрэд знаходзіцца ў камандзіроўцы). П. Ліпень тут жа зрабіў выснову: “Значыцца, не чытаў”. Бо калі б чытаў, то абавязкова адразу ж адпісаў бы аўтару, каб выказаць сваё захапленне. Бо “мой твор распавядае пра...” – на гэтым месцы я ўключаю сваю ўнутраную грамафонаглушылку і займаюся вычыткай дысеру. Хвілінаў праз 15, давёўшы свой расповед праз завязку ды кульмінацыю да развязкі, Піліп Л. сышоў, задаволены ды супакоены.

*2006*

**(Ім)прэза**

У лістападзе 2005-га нарадзілася ў мяне дачка. А ў сакавіку 2006-га выйшла кніга. Паміж гэтымі падзеямі, у снежні 05-га, я ўпершыню патрапіў

на фестываль Бязмежжа, дзе ў мяне напісаўся верш “Яна”. (...) Потым – у траўні – прайшла сумесная прэза дэбютнай кнігі Марыі Барадзіной “Вышэй за паўночны вецер” (серыя “Галерэя “Б”) і майго “Вершnick’a” (першы блінчык серыі “Бібліятэчка “Дзеяслова”). Перад тым увосень і ўзімку мы збіраліся ў Доме літаратара ў межах “Галерэі “Б” і разам з Ігарам Бабковым і ўсімі, хто прыходзіў, чыталі вершы – свае і чужыя. Ігар і прапанаваў запаралеліць нашыя з Марыяй кнігі ў адной прэзентацыі. Марыя як істота нябесная і не надта тусовачная на сустрэчы ў Дом літаратара не прыходзіла. І рыхтавалі прэзу мы, фактычна, без яе – разам з паэтамі і паэткамі, якія былі частымі гасцямі “ГБ”.

Паводле задумы чытанні павінны былі рваць усе шаблоны ды схемы – таму вырашылі, што аніякіх прамоваў не будзе, *only* вершы ў рэжыме *jam*-сэйшн. То бок прэзентант чытае нейкі свой тэкст, а госці падхопліваюць-адштурхоўваюцца ад яго чымсьці сваім...

Схемаў у той вечар было зламана нямала.

Распачынаў (ім)прэзу беларуска-індзейскі гурт “ДжамБіБум”, які ўвёў прысутных у лёгкі транс (*Туман ярам/ярам даліноою/ туман ярам/ ярам даліноою*). Потым я прачытаў “Суфійскі танец” (*з задымленага кута пазірае настаўнік / чакаючы, калі зьнікне танцорка / і застанецца танец*), і Марыя, з якой мы напярэдадні крыху перамовіліся пра канцэпцыю, замест чытання... пачала танчыць. (Потым Марыя чытала, але танец я запомніў як штосьці абсалютна цудоўнае.)

Вядома ж, час сцёр з памяці дакладную храналогію ды паслядоўнасць – таму вось веельмі прыблізны змест тых джэм-чытанняў: Андрэй Адамовіч дэкламаваў “чаканне букалічнай элегіі” (прысвечанае Тані Нядбай) і, здаецца, “Вітаю, Кох!”; Таня Нядбай хадзіла басанож і дэкламавала сваю “Шэрую мыш” (“*Я – шэрая мыш. Кыш-ша! / Я Вас атручу сама. / За сьценкаю – ціша, ціша... / За сьценкаю – ноч, зіма. // А я патрабую сыр. / І Ваш патрабую дом – / Мае трапяткія вус... / ы / Каб не прымарозіць ільдом...”*); Сева Сцебурака, які не ведаў пра канцэпцыю імпрэзы (хоць і быў адным з галоўных заўсёднікаў пасядзелак у ДЛ) сказаў душэўную прамову і чытаў “*Як выйдзем з Галерэі Б., нас ўсіх пасадзяць на галеры*” і, вядома ж, “*ўласна кажучы, на ўласнай мове / хочацца толькі зацята маўчаць. / Ў несказаным слове, / нібыта ў замове, / яднаюцца “дзякуй” і “ё.. твою мать*”; Віка Трэнас чытала звонкім голасам і перыядычна свісцела ў свісток; Уладзь Лянкевіч спяваў пад гітару пра стронцый і цэзій; прывід Цемрыка Велета перыядычна з’яўляўся з нейкім старым саквояжам у руках, з якога даставаліся аркушы з вершамі і раздаваліся гледачам...

Яшчэ – па-за джэмам – Жана Капуста чытала вершы.

Ігар Бабкоў чытаў эсэі пра нашыя з Марыяй кнігі і, здаецца, “*Пакуль ты карміў гановерскіх птушак, тут памірала паэзія...*”

Выступаў рэдактар кнігі Барыс Пятровіч.

Быў файны муз. падарунак ад маіх школьна-ўніверскіх сяброўак Тані Чы, Наташы Ш. і Ганны Стыксіі з удзелам знакамітага сёння доктара-інфекцыяніста Міколы.

На стале стаяла традыцыйнае чырвонае пажарнае вядро з ружай (абавязковы наведнік усіх нашых сустрэч).

У якасці разынкі і дэсерту выступала Кася Камоцкая. Разам з Касяй прыйшоў Міхал Анемпадыстаў, які застаўся на афтэпаці, што праходзіла на Залатой Горцы і пра якое трэба пісаць асобны пост.

Яшчэ меўся быць Валянцін Акудовіч. Але я не памятаю, ці быў ён там насамрэч.

**Вандроўны крыжык**

У маім жыцці былі тры немкі і дзве француженкі. Распавяду пра першых дзвюх.

Мая першая, немка, была ўжо немаладая, дасведчаная й нават, дазволю сабе такі выраз, – патрапаная жыццём. З ёю звязаныя мае першыя незабыўныя адчуванні – волі ды палёту. Яна шмат чаму навучыла мяне. Яна не патрабавала вялікай увагі да сябе. Я ж, зялёны ды недасведчаны, не адразу заўважаў ды разумеў яе капрызаў ды патрэб, хаця з часам зведаў усе яе расколінкі. Дарэчы, аднойчы мы з ёю ледзь не забіліся... Пасля нашага разрыву я не спаў два дні, адчуваючы віну, што сплавіў яе ў Буда-Кашалёўскі раён да новага немаладога кавалера...

З другою, француженкай, мы пазнаёміліся ў Вільні. Быў спякотны летні дзень. Я прыляцеў з Таліна і адразу ж з лётнішча накіраваўся да рынка Гарунай. Там мяне чакала пані, якая запыталася, дзе магла мяне бачыць раней? Можа, на тэлевізіі? Пэўна, гэта быў такі ход спрактыкаванай сутэнёркі. Калі мы ўжо ехалі афармляць нашыя стасункі, я засунуў руку ў скураную схованку-кішэнь ля “тарпеды” й дастаў адтуль драўляны крыж. “Што гэта?” – запытаў я ў пані. “А чорт яго ведае”, – адказала яна. У адказ з адзінай хмаркі над Гарунаем лупанула моцная залева, што ў момант ператварыла выбоіны ў поўныя лужыны, у адну з якіх я й заскочыў на поўнай хуткасці. Мая француженка (вы ўжо, вядома ж, здагадаліся, пра каго тут вядзецца) стала колам. Летувіска патэлефанавала мужу, той прыехаў разам з сынам. Яны гучна і злосна размаўлялі па-летувіску, перамяжаючы гамонку расейскімі мацюкамі. “Відаць, датчык заліўся, заўтра ўсё зробім”, – запэўніваў мяне муж. Я вырашыў правесці ноч на Латаку, але ўрэшце, сустрэўшы сяброў, якіх не бачыў сто гадоў (у Вільні так заўсёды чамусьці бывае), праспяваў з імі да раніцы на Замкавай гары... Удзень на Латаку мяне чакаў гаспадар-летувіс, які хацеў зняць з мяне яшчэ сто ойра за замену масла ў каробцы. У той жа дзень, пад Ашмянамі, у нас скончылася паліва, і хлопец-перагон ганяў са мной двойчы на запраўку (зноў жа, у страшэнную залеву), каб завесці нас. Ох, і напакутваўся потым я са сваёй першай француженкай! Хаця наўрад ці яе рыхтавалі да крымскіх дарог...

Той крыж, (пера)асвечаны ў менскім храме, так і вандруе ад аднаго да другога люстэрка задняга агляду.

*Ту бі кантыньед.*
*Ор нот ту бі.*

Змітрок Кузменка



...Божа мілы, зрабі,
Каб надзёнnымі быць перасталі
Напісаныя ў цемры
Балючыя вершы мае....

# Маліцеся за Беларусь

## ЛІСТЫ

### I

Мой родны, лячу да цябе
Я думкамі кожную хвілю.
Праз наш незашклёны гаўбец
І шторму няўтульныя мілі.

К твайму прытуліцца б плячу,
На кухні па-хатняму сесці...
Як шмат распытаць я хачу,
Як многа хачу распавесці.

Ты знаеш, Антосік пайшоў!
Стаяў ля канапы шырокай
Ды раптам сам, без хадункоў
Зрабіў да бабулі два крокі!

Ты б бачыў, як песціла я
Ад шчасця яго вачаняткі –
Такія ж блакітныя, як
У нашага любага таткі.

З гібіскусам нешта не так...
Мо я даглядаю няўмела.
Чамусьці цвісці перастаў,
І лісце крыху пажаўцела.

Чытаў жа ты ўсенька пра іх,
То што я раблю недарэчы?..
А ў Менску святлей ад тваіх
Любімых каштанавых свечак.

Іду з перадачай штораз
І мару адно, як увосень
Мы пойдзем каштаны збіраць
З табой і маленькім Антосем.

І сцішаным восеньскім днём
У скверы на лавачцы новай
З каштанаў сабраных складзём
Два светлыя нашыя словы.

Мой родны, каханы... Як ты?..
Чакаю... Трывожуся вельмі...
Твае не даходзяць лісты
Ў наш шматпавярховік панэльны.

Сапраўдны мой... Мой залаты..
Як ты?
Як ты?..

**II**

Рвуць нябачныя кіпці душу.
Паралічваюць пальцы каралі.
Гэты ліст я табе не пішу
І дакладна яго не адпраўлю.

За фіранкай куражыцца ноч.
Спіць ціхутка сынок у калысцы.
Давідна не заплюшчыць мне воч.
Буду думаць пра нас. І маліцца.

Ты заўсёды любіць навучаў.
У любові, казаў, перамога...
Як любіць, калі чуць увесь час
Енкі невінаватых з астрога?

Як любіць, калі ў нас за любоў
Адабралі пачварныя цмокі
Верасовую старасць бацькоў
І дзяцей нашых першыя крокі?

Ты даруй мне... Я так не магу.
Я, відаць, хрысціянка благая.
Мне малітва не гоіць тугу
І ад жудасці не захінае.

Гэта страшна, калі зуб за зуб.
Гэта жах, калі вока за вока...
Ды страшней для мяне скуралуп,
Што катуе ў засценках прарока.

Хто нам верне кахання гады?
Маладосць, пахаваную ў турмах?
Не спатольвае шклянка вады
Ліхаманку пякучую думак.

Твой партрэт, што вісеў ля стала,
Патаптаў з насалодаю злыдзень.
Родны мой... Я ўявіць не магла,
Што так моцна магу ненавідзець.

Я гатовая іх праклінаць
Да дзясятага часам калена,
Каб ім нават у прывідных снах
Так, як нам, невыносна балела.

Адчуваю твой ціхі давер.
І каралі з рукі выпадаюць...
Помніш Пімена Панчанкі верш?
Не... Нікога я не праклінаю...

Бо... *люблю сваю зямлю... і не магу.*

* * *

Як бывае гарачым снег,
Як бывае блудніца – святая,

Так бывае і сумным смех.
Надта часта цяпер бывае.

Спадарожнік маёй зямлі.
Непрыдуманы смех скрозь слёзы.
Толькі ён і ратуе, калі
Душы кроядь тупыя лёзы.

І калі за нішто ў турму
Каты цягнуць праз пляц паяца,
Што яшчэ застаецца яму?
Проста катам у твар смяяцца...

* * *

Маліцеся за Беларусь.
За нашых бацькоў пасівелых.
За нашых дзяцей пасталелых.
За раніцы нашай пару.

Маліцеся за Беларусь.
Каб сонца яе прывітала.
Каб пусткаю дзікай не стала,
Адданай чужому цару.

Маліцеся за Беларусь.
Хрысту. Саваофу. Алаху.
Каб нашу смяротную плаху
Ў глыбінях схаваў землятрус.

Маліцеся за Беларусь.
На волі і ў змрочным палоне.
Калі нат царква забароніць,
Ды ўсё перамелецца ў друз.

Маліцеся за Беларусь...

* * *

*Зайздрошчу свабодзе нават той вароны,*
*якую са свайго акна бачу на сьнезе...*

З цыдулкі, таемна перададзенай К. Каліноўскім
на волю з турмы.

Варона цёмная
На белым снезе,

Жывая ты, а я
Згубіўся недзе.

Ты вольная зусім
Па той бок kратаў,
Дык вестку занясі
Да роднай хаты

Прашу, ляці хутчэй
Над ціхім местам
Туды, дзе ля дзвярэй
Кусты агрэсту.

Агледзься там, і мо,
Сівая птушка,
Убачыш праз акно
Маю дачушку.

Вітанне пракрычы
Ты ёй ад таты
Скажы, што я ні ў чым
Не вінаваты.

Узняў я вольны спеў
Да зор высока,
Падужаць я хацеў
Ліхога цмока...

Не. Птушка не ляціць
З астрожнай плошчы,
Ды ўпершыню ў жыцці
Я ёй зайздрошчу.

Адзін крылом узмах,
І з ветрам свежым
Адкрыты ёй абсяг,
Прастор без межаў.

Не спыніць іх замок,
Праклятый жоран...
Ні чорны варанок.
Ні чорны воран.

## *СПОВЕДЗЬ АЛЕСЯ ДУДАРА*

Божа моцны, за што?!
Ты прабач злую дзёрзкасць маю.
Тут я мушу вініцца,
Але вось... цябе вінавачу.
Воўкам хочацца выць.
Сэрца чорныя птушкі цкуюць.
Толькі мы, беларусы,
Не маем сваёй сцяны плачу.

Я зусім не самотны,
Нас многа сягоння прыйшло.
Да жахлівага многа ўзляцела
З падвалаў турэмных.
Ці наважыцца хтосьці
Прамовіць хоць некалькі слоў?
Я – скажу. І даруй,
Калі будзе табе непрыемна.

У краіне маёй
Па-над храмам заўжды эшафот.
Непазбыўнае рабства
Адкрыта пад вокнамі ходзіць.
Сорак год ты вадзіў па пустыні
Свой любы народ.
Дык чаму ж водзіш мой
Па пякельных кругах праз стагоддзі?

Спакон веку над намі
Сякера, пятля ці наган.
Страх ліпучы жыве
Часта нават у хлебнай скарынцы...
Колькі часу яшчэ
Будзе шчэрыцца гвалт і падман,
Каб на ўласнай зямлі
Без віны называцца злачынцам?

Калі ты міласэрны,
Сваю мне задуму адкрый.
Не хавайся, скажы,
Што ты маеш наконт Беларусі.
Патлумач чалавеку,
Якая з пакутаў карысць.
І тады, можа быць,
Я ахвотна з табою згаджуся.

Ты не мог не пачуць,
Як зайшлося ў слязах немаўля.
Ты не мог не заўважыць,
Бо ўсё ж тваё сэрца не камень.
Як дрыжэла ад гневу
Пад ботамі катаў зямля.
Як апошнімі лісцямі
Плакалі дрэвы над намі.

То чаму ж ты маўчыш,
Не ратуеш аглухлы прасцяг?
Што ж забойцам і здзірцам злюцелым
Не робіш нічога?
Божа моцны, чаму?!
На астатняй мяжы забыцця
Я пытаю цябе,
Недасяжна далёкага Бога.

* * *

Поўня мацае хаты страху.
Зазірае праз шыбіну ўпотай.
І стаіць у яе на шляху
Крыж аконнага пераплёту.

Сном трывожным забыўся пакой
Пад аховай празрыстай фіранкі...
Толькі ўпарта, адну за адной,
Нехта лічыць хвіліны да ранку.

Не спыняе гадзіннік хады,
Хоць спружына звялася дазвання.
Сярод змрочнай містычнай жуды
Хата мусіць дажыць да світання.

* * *

Пакаянне не дадзена Каіну.
І праз тысячы смутных гадоў
Чырванее нязводнаю плямінай
На дубінцы бязвінная кроў.

Не адмыць тую пляму жахлівую,
Не саскрэбці ніколі нічым...
Каін зброю і ў прорву вірлівую,
І ў марскую кідаў далячынь.

Не аднойчы паліў яе ў вогнішчы,
Пакрыёма хаваў пад гару.
А дубінка ўсё роўна апоўначы
Да ягоных вярталася рук.

І казаў сабе Каін: “Няправільна,
Што імя маё кожны кляне:
Калі б я не забіў тады Авеля,
Авель конча забіў бы мяне.

А-ёй-ёй!.. Загубіў безбароннага!..
Вой-авохці!.. Яго крэўны брат!..
Што яму замінала, бяззбройнаму,
Тую зброю ў мяне адабраць?!

Для чаго так нахабна і здзекліва,
Па-блюзнерску араў ён зямлю?!
Бы не ведаў, нягоднік усмешлівы,
Як страшэнна яго не люблю”.

Крык ляціць: “Мяне подла зняславілі!” –
І дранцвеюць нябёсы наўкол –
Кроў падступна забітага Авеля
Зноў сплывае з дубінкі на дол.

* * *

Жыў паэт на зямлі.
З тых, каго называюць прарокам.
Словам сэрцы кранаў,
Як кранаць можа толькі паэт.
Апяваў хараство
Незвычайнага свету навокал,
Не хаваючы крыўды,
Якой перапоўнены свет.

Ён пісаў пра людзей
І свой край, у няволю забраны,
Пра народ, забіваны
Пад ценем імперскіх сцягоў.
Больш за ўсё па жыцці
Ненавідзеў рабоў і тыранаў.
А тыран і рабы –
Ненавідзелі люта яго.

Шальмавалі і бэсцілі,
Кпілі з ягонае мовы.
Пагражалі этапам
Ды куляй у скронь навылёт.
І аднойчы ўначы
На тырана загад адмысловы
Па-разбойніцку скінулі
Ў лесвічны гулкі пралёт.

Цела грымнула ўніз,
А душа перанеслася ўдалеч.
Прэч ад марных надзей,
Ад бяссонных сардэчных пакут.
Паляцела туды,
Дзе стаяць непадкупныя шалі,
І трывае штодня
Справядлівы і праведны суд.

На вачах у суддзі,
Нетаропкія, без перапынку,
Два анёлы на шалі кладуць
Нешта з поўных мяхоў.
Важыць белы анёл
Парушынкі шляхетных учынкаў.
Важыць чорны анёл
Камяні патаемных грахоў.

І спыніўся паэт
Перад шалямі тымі ў маўчанні:
Да якіх берагоў
Яму суджана будзе прыстаць?
Схамянуўся пасля,
Зразумеўшы зусім нечакана,
Што абліччам падобны суддзя
Да Ісуса Хрыста...

Час на роздум далі,
Бо, закону адвечнаму згодна,
Тут жаданне адно
Неадменна здзяйсняецца ўсім:
Можа кожны прасіць,
Што душы яго толькі заўгодна
Перад тым, як пачне
Яму важыць грахі херувім.

Хтосьці рвецца назад,
Каб не стала дзіця сірацінкай.
Пра палёгку самому сабе
Слёзна моліць эстэт.
Каб цяжэйшай за камень
На шалях была парушынка...
А чаго хоча ён,
Нежывы беларускі паэт?

І пачулі абодва анёлы
Ля срэбраных шаляў,
Як свой голас паэт
Проста ў рукі суддзі аддае:
– Божа мілы, зрабі,
Каб надзённымі быць перасталі
Напісаныя ў цемры
Балючыя вершы мае.

* * *

Стагналі мачты. Клекатала мель.
Маяк ад небяспекі гнаў старанна.
Вузлоў пад трыццаць нёсся карабель
На скалы па загадзе капітана.

Ніхто не мовіў слова насупор.
Каманда ў ладкі пляскала бяздумна.
Усіх нязгодных скінулі за борт
Ці наглуха замкнулі ў клеці трумнай.

І толькі ў даўкім дыме папярос
Радыст, падпёршы нечым дзверы ў рубцы,
Упарта выдаваў сігналы SOS
З адчаем невымоўным самагубцы.

– Я “Альбатрос”... Каардынаты... Курс..
Усім, хто чуе ў моры і на сушы...
Мы гінем каля скал пры маяку...
Mayday! Mayday! Ратуйце нашы душы!

А з лайнера ў трох мілях у этэр
Ляцела  скрозь статычныя разрады:
– Мы вельмі заклапочаныя, сэр!
Склікаем тэрміновую нараду!

* * *

Жнівень натхнёна сеяў.
Верасень – не збярог.
Летась жыла надзея.
Сёлета – хіжы змрок.

Ноччу кастрычніцкай светлы
Болем зайшоўся рай.
А ў лістападзе пекла
Рынула цераз край.

Снежань сляды надзеі
Выстудзіў, каб за ім
Студзеньскія завеі
Іх замялі зусім.

Люты шалеў бясконца.
Сівер у спіну гнаў.
І з сакавіцкім сонцам
Не надышла вясна.

Зрушаны ўсе прыкметы.
І не заўважыў крык,
Як прамільгнула лета
Ў нас на календары.

Зноўку вятрам скуголіць
Як вешчунам завей...
Сёлета мы да волі
Роўна на год бліжэй.

### *ЗА НАМІ*

Ішло нас нямнога
Забытай дарогай.
Гарчэлі аблокі.
Спазняліся крокі.
Не ведалі змогі
Разбітыя ногі,
Ступалі паволі
Да сонца, да волі.
Мы рай не шукалі.
За намі стаялі
Адны толькі здані
На ростанях цьмяных,

Крыжы на пагосце
Ды прашчураў косці.
А больш за плячыма,
Нібы пілігрымы,
Не мелі нічога,
Апроч пана Бога...
Ляцелі з-за спіны
Зласлівыя кпіны.
Пагрозаў каменне
Цаляла нязменна
Ў адкрытыя скроні.
Хіба абароніць
Ледзь чутнае слова
Ад злосці свінцовай?
Мы крочылі ўпарта,
Адчайна, зацята --
Нас мучылі, білі,
Нам рэзалі крыллі,
У турмы саджалі --
Мы ж крочылі далей
Паўз вокны, дзе ў кратах
Стамляліся каты,
І гурт памагатых
Чакаў на заплату
За подлую здраду,
За злую параду.
Праз вузкую кладку
Ў дрыгве, дзе знянацку
То злева, то справа
Сычэла пачвара,
Дзе гінулі ў твані
Без роду іваны.
Праз смерць і праз здзекі,
Крывавыя рэкі...
Як часта бывала,
Што нам не хапала
Ні веры, ні клёку:
Бясконца далёка
Цвіла адвячоркам
Жаданая зорка
Жывой Беларусі,
Не стаўшыся, мусіць,
Бліжэй ні на мілю.
І ў гэтую хвілю
Хацелася збіцца
Спыніцца, скарыцца,

Заснуць у бярлогу.
Зусім анікога
Не мелі за спінай
Мы смутнай часінай.
Падманная чутка...
Самотная купка...
Цяпер жа нас многа!
Бо той жа дарогай
Мы крочым за вамі
Відзежамі-снамі
З матуліным імем
У вас за плячыма,
Апроч пана Бога.
Вам – блізка!
Вас – многа!

* * *

Не шчыруйце!
Мы з попелу нават паўстанем,
Прарасцем праз жалезабетон.
З вострым болем у сэрцы парваным
Да канца дабяжым марафон.

Толькі выдыхнем раз: “Перамога!”
І апусцімся долу без сіл.
Новай моцы на родным парозе
Нам у жылы ўвалье дзівасіл.

І прайшоўшы па лісці апалым,
Па збуялай асотам раллі,
Мы нязгасныя знічкі запалім
Тым, каго ўратаваць не змаглі.

У далонях праз лютасць завеі
Данясём, не згубіўшы ў снягах...
І тады ўжо ніхто не пасмее
Іх разбіць, патаптаць, абылгаць.

Сяргей Машанскі



...калі кахаюць –

лётаюць...

# Мой сумпліцыд

***Апавяданне***

На глянцавай старонцы моднага часопіса вялікімі літарамі надрукаваны загаловак: «*Дзе ты была сёння ўночы?*» Некалі з гэтых простых словаў пачалася гісторыя, якая ледзь не скончылася для мяне трагічна. Дагэтуль не магу спакойна яе ўспамінаць. Мой бадзёры настрой выслізнуў з утульнае рэдакцыйнае кавярні і пабег, абмінаючы лужыны, у бок метро. За вакном слотны лістападаўскі дзень марудна сплываў у шэрань. Я сёрбаў каву з маленькага празрыстага кубка і згадваў сваё першае каханне. Мінула больш за дваццаць гадоў, а забыцца на яго не атрымалася. Такое не забываецца.

Што ж, калі настрой усё адно сапсаваны, раскажу вам сваю таямніцу. Толькі прашу – адкладзіце ўбок смартфоны, бутэрброды і бясконцыя справы, інакш нічога не зразумееце.

Аднойчы я ледзь не забіў сябе. Сваімі ўласнымі рукамі. Чаму? Ці было ў вашым жыцці каханне? Не хачу нікога

пакрыўдзіць, толькі калі вы не мелі рашучасці памерці – каханне было не сапраўдным.

Мы пазнаёміліся на канцэрце гурта «Eiffel 65». Нават сёння я выдатна памятаю кожную хвіліну таго вечара.

...На сцэне другую гадзіну запальвае рухавы Джэфры. Танцпол чакае, калі загучыць мега хіт сезону – Blue. *Yo listen up, here's the story about a little guy that lives in a blue world.* Папса, якую немагчыма слухаць прыстойным людзям? Можа, і так, толькі напачатку двухтысячных гэты трэк быў звышпапулярным. Адзіны канцэрт італьянскага трыа ў Мінску. Палац спорту перапоўнены. На танцполе няма вольнага лапіку. Гучаць першыя акорды доўгачаканага хіта. Натоўп прыходзіць у шаленства і ўсёй шматлюднай масай рухаецца бліжэй да сцэны, туды, дзе спявае абагаўлёны кумір. *To listen* – танцпол хітнуўся ў левы бок, *I'm blue* – у правы. *Da ba dee da ba daa* – цэнтр не ўтрымаўся на нагах і паваліўся долу. Адразу ўзгадалася жудасная трагедыя, што адбылася некалькі гадоў таму недалёка адсюль. Перад сцэнай, як косткі даміно, пярэднія прыціскаючы задніх, ляжалі людзі. У асноўным дзяўчаткі. Крык, што вырваўся ў наступнае імгненне, заглушыў магутны бас канцэртнай апаратуры. У цьмяным святле я ўбачыў руку, якая цягнулася ўгару да паветра. Збоч у спробе падняцца варушыліся людзі. Нахіляюся, тонкія пальцы прагна абхопліваюць маю далонь. Напружваю спіну і рэзкім штуршком падымаю на ногі дзяўчыну з бліскучымі вачыма і спалоханым тварам. Па варушэнні вуснаў здагадваюся: шэпча «дзякуй».

Праз дзесяць хвілінаў з палёгкай удыхаем водар майскага паветра і няўцямна азіраемся на душны палац, з якога толькі што выйшлі.

– Ніка, – называе сябе дзяўчына.

– Прыгожае імя.

– Дзякуй..., што дапамог. Там унізе было так жудасна.

Як пачцівы кавалер прапаную правесці яе дадому. Ніка згаджаецца. З натоўпам узбуджаных маладзёнаў рухаемся ў бок метро. Перад уваходам мая новая знаёмая нечакана спыняецца. Яе вочы робяцца вільготнымі.

– Давай зойдзем з іншага боку, – Ніка ўтаропілася на бронзавыя ружы з паламанымі сцяблінамі.

– Чаму?

– Не варта таптацца... па душах.

Ведаеце, яна мела рацыю. Нельга бруднымі падэшвамі хадзіць па прыступках, на якіх у шалёным віры пamiралі людзі. З таго часу я больш не заходжу на станцыю Няміга праз бліжэйшы ад Палаца спорту ўваход.

Дамоў я вярнуўся толькі пад ранне. Доўга не мог заснуць. Вобраз дзяўчыны з бліскучымі вачыма не ішоў з галавы. Праз два дні з ахапкам бэзу я сустрэў Ніку каля яе пад'езда.

Так закруцілася нашае каханне. Сёння я ўпэўнена магу сказаць – то былі лепшыя часы ў маім жыцці. Такой узнёсласці я не зведаў больш ніколі. Мы не маглі нацешыцца адно адным. Кожную вольную хвілінку бавілі разам і вельмі сумавалі, калі даводзілася быць паасобку. Зараз не верыцца, што так бывае. Мы адкрылі дагэтуль невядомы свет, таямніцы якога ва ўсе часы прагнуць спазнаць маладзёны. Вялікае шчасце, што гэта адбылося з каханым чалавекам. Такое застаецца на ўсё жыццё.

Я ўдзячны Ніцы, нягледзячы на тое, што ледзь не загінуў. Можа, і не дазнаўся б, што такое сапраўднае каханне, калі б не яна. Абсалютная

большасць людзей існуюць, не зазнаўшы гэтага светлага пачуцця, памылкова прымаючы сексуальную цягу за каханне. Лухта ўсё гэта. Калі кахаюць – лётаюць. Не спяшайцеся кпіць з гэтага штампу, мае даражэнькія. Я сапраўды лётаў. Не надта высока, пару сантыметраў над глебай. Такі палёт не кідаецца ў вочы мінакам. З выклікам лётаюць, калі падманваюць, ствараюць шоу, як Дэвід Коперфільд. Пры сапраўдным палёце шчасліўцы левітуюць над самай паверхняй. Той, хто мае ў сэрцы любоў, становіцца здольны на такое. Людзі прыкмецілі гэтую з'яву яшчэ дзве тысячы гадоў таму – менавіта так Ён хадзіў па вадзе. Калі вам пашчасціць паляцець, вы зразумееце, пра што спявае вакалістка гурта «Мантана». «*Улыбаюсь и хожу, земли не касаясь, потому что ты у меня есть*». Алеся паверыла б мне, я веру ёй, а вы – як сабе хочаце.

Пісьменнік Фрэдэрык Бегбедэр сцвярджае: каханне жыве тры гады. Нашае не пратрымалася і паловы гэтага тэрміну. Пакрысе Ніка стала пазбягаць сустрэчаў са мной. Я працягваў лётаць і не заўважаў зменаў у сваёй каханай. Неяк цягам тыдня прылятаў да Нікі і не заставаў дома. Сёння ў кожнага сотавы тэлефон, тады рэдка хто са студэнтаў мог дазволіць сабе такую цацку. Я засумаваў і вырашыў дачакацца сваю каханую. Прасядзеў перад пад'ездам цэлую жнівеньскую ноч, лічыў знічкі і не знаходзіў сабе месца. Падсвядома адчуваў, што здарылася непапраўнае. Раніцай, калі першыя промні патушылі зоркі, я ўбачыў Ніку. Бязважкаю хадой яна плыла дадому.

– Прывет.

– Фу, напужаў! Ты чаго тут?

Столькі гадоў прайшло, а кожны раз, як узгадаю гэты момант, падступна макрэюць вочы.

– Дзе ты была сёння ўночы?

Я глядзеў на яе і баяўся пачуць самае горшае. Хай бы зманіла, прыдумала штосьці неверагоднае, толькі не... Мая каханая маўчала. На яе твары не было нічога, акрамя шкадавання. Я ўсё зразумеў па вачах. Ніка лётала. Не са мной.

Ведаеце, душэўны боль часам бывае мацнейшы за фізічныя пакуты. Здрада – гэта вельмі балюча. Я павярнуўся і пайшоў прэч. Не высока, над самымі прыступкамі, Ніка паляцела дамоў. На жаль так бывае, калі ў пары лётае толькі адзін. Двое – вялікая рэдкасць. Найчасцей абое ў самоце шкрабаюць абуткам па зямлі.

Каб на сённяшні розум – я адпусціў бы яе. Ляці, маё сонейка, ляці, даражэнькая. Дзякуй за ўсё, і будзь шчаслівая! Што можа быць цудоўней, чым, закахаўшыся, лётаць над бруднай зямлёй. Хай не высока, не больш за пару сантыметраў, а ўсё ж такі лётаць. Тады я не разумеў гэтага.

Дзесяціпавярховік пачалі будаваць тры гады таму. Будаўнікі паспелі выгнаць каробку, надалей фінансаванне спынілася, будоўлю замарозілі. Падманутыя дольшчыкі рэгулярна збіраліся каля свайго недабудаванага жытла з плакатамі «вярніце нашы грошы», а дзесяціпавярховік працягваў пазіраць у свет пустымі праёмамі вокнаў. Я прабадзяўся па горадзе сам-насам са сваёй бядой увесь дзень – увечары пералез цераз плот даўгабуда. У грудзях ціснула, было цяжка дыхаць, на вачах блішчэлі слёзы. Мяне душыла крыўда і злосць. Я задумаў жудасную помсту.

Ніка, хутка ты зразумееш, як моцна я цябе кахаю. Колькі б ты ні пражыла – я заўсёды буду побач. Ты выйдзеш замуж, можа, нават за таго

казла, што разлучыў нас. У цябе будуць дзеці, і ў цябе будзе свой мярцвяк. Я знявечу табе жыццё тым, што зараз скончу жыццё самагубствам. Ты будзеш пазнаваць мяне ў выпадковым мінаку, будзеш лавіць погляды, будзеш чуць за спінай: «гэта тая, з-за якой хлопец скочыў з даху».

Апошні промень ласкава падміргнуў на развітанне. Больш не ўбачымся. Я сядзеў на даху і назіраў, як ноч паглынае горад. Унізе па гаманкой шашы сноўдалі машыны, спяшаліся дамоў адзінокія мінакі. Дзесьці паблізу забрахаў сабака, відаць, вартаўнік будоўлі выйшаў на абход аб’екта. У вокнах суседніх дамоў запальвалася святло, варушыліся цені. Я з пагардай глядзеў на іх. Я зараз сыду, а вы, няздольныя да палёту, так і застанецеся сярод бруду. Вашае жыццё – суцэльная хлусня, мітусня і сваркі. Калі вы здзяйснялі што-небудзь па-сапраўднаму вартае? Ніколі! А я здзейсню.

Самазабойцаў лічаць людзьмі маладушнымі. Баязліўцамі, якія не вытрымалі цяжару абставінаў. У мяне іншая думка. Калі чалавек мэтанакіравана ўчыняе сабе смерць, яго нельга назваць слабым. На такі крок трэба мець адвагу. Піхнуць нагой зэдлік, сігануць у бездань ці перайсці дарогу цягніку – справа вельмі няпростая. У гэты момант небараку падганяе роспач, безнадзейнасць нашэптвае на вуха: «Давай, наважвайся». Рацыянальнае мысленне адключаецца. Толькі ўсё адно пераадолець інстынкт самазахавання і забіць сябе здольны далёка не кожны. Я быў упэўнены, што змагу. Зараз зраблю ўдых, адштурхнуся і палячу.

Ззаду пачуўся шоргат. Я павярнуў галаву і знерухомеў ад страху. За крок ад мяне спыніўся вялізны аўчар. Толькі што я не баяўся самой смерці, а гэтага звера спужаўся да здранцвення. З цемры выплыла шэрая постаць, схапіла мяне за каўнер і адцягнула ад краю. Сабака ўзяў след і прывёў вартаўніка, – здагадаўся я.

– Пайшлі, – алкагольным перагарам дыхнуў мне ў твар мужчына незразумелага ўзросту.

Па цёмнай лесвіцы, асцярожна намацваючы прыступкі, спускаемся і заходзім у вартоўню. На стале адкаркаваная бутэлька гарэлкі, на талерцы духмянае сала, побач нарэзаны хлеб. Водар свежых агуркоў казыча нос. У жываце пачынаецца сапраўдная рэвалюцыя. Страўнік вурчыць так, што аўчар круціць вушамі, цікуючы, адкуль даносіцца гук. Толькі цяпер я адчуў, як выгаладаўся за гэты дзень.

– Лаві, – вартаўнік кідае сабаку кавалак хлеба. Той спрытна хапае яго ў паветры. Ён зусім не страшны, якім здаўся мне ў першы момант. Мае лагодны характар і добрыя вочы.

– Юзік, – прадстаўляецца вартаўнік, падсоўвае бліжэй да мяне талерку з духмяным салам і лустай хлеба. – А гэта – Граф.

Аўчар пачуў сваё імя, навастрыў вушы. Гаспадар шчодра налівае з бутэлькі ў металічны кубак празрыстую вадкасць, працягвае мне.

– На, выпі, дапамагае.

Самае страшнае для самазабойцы – калі яго ловяць за няўдалай спробай. Я сяджу за сталом і чырванею ад сораму.

– Ведаеш, колькі я зняў з даху такіх, як ты? – кажа Юзік. – Некалькі дзясяткаў за тры гады дакладна. Трапляліся мне і дзяўчаты, і хлопцы. Сядуць на край, румзаюць носам, нешта выглядаюць у цемры.

Мы выпілі. Потым яшчэ. На душы зрабілася лягчэй. Граф па чарзе працягвае мне то левую, то правую лапу. Распавядаю Юзіку, з якой прычыны аказаўся на гэтым даху, пра палёты і здраду Нікі.

– Дурань, – выслухаўшы мой аповед, кажа вартаўнік. – Знойдзеш іншую.

– Я кахаю Ніку, якую іншую?

Юзік ледзь прыкметна ўсміхаецца.

– Лепшую.

Вартаўнік дапівае рэшту гарэлкі, здаецца, яму ўжо досыць. Вочы ў Юзіка робяцца мутнымі, але застаюцца такімі ж глыбокімі, як у Графа. Тэатральна падняўшы ўгару палец, непаслухмяным ад хмелю языком ён прамаўляе:

– С-су... су... сумпліцыд – гэта не выхад!

Ад недарэчна вымаўленага слова нам абодвум становіцца смешна. Упершыню за гэты дзень у мяне з'яўляецца ўсмешка.

Развіталіся мы з Юзікам толькі пад ранне. Паціснуўшы Графу магутную лапу, я выйшаў на вуліцу. Ноччу прайшоў дождж. Праз дваццаць крокаў заўважаю, што добра намачыў ногі. За апошні час адвык абмінаць лужыны.

Хутка пачаўся новы навучальны год, вучоба дапамагла не думаць пра Ніку. Прынамсі, так часта, як раней. Будоўлю шматпавярховіка, на шчасце дольшчыкаў, аднавілі. Я некалькі разоў заходзіў да вартаўніка, прыхапіўшы з сабой пляшку гарэлкі і мясныя кансервы для Графа. Мае знаёмцы працягвалі ратаваць людзей. Ва ўсіх небарак гісторыі былі падобныя да маёй.

Наступнай вясной Юзіка не стала, памёр ад інфаркту ў сваёй вартоўні. Новы вартаўнік здаў Графа ў прытулак на Гурскага, дзе яго ўсыпілі. Праз месяц па раёне праляцелі чуткі, што з дзесяціпавярховіка скочыў малады хлопец. Казалі, што ў кішэні знайшлі запіску ўсяго з трох слоў: *як ты магла...*

Цяпер у гэтым высокім доме жывуць людзі. Паркоўка спрэс забіта машынамі. На дзіцячай пляцоўцы верашчыць малеча, вакол павольна прагульваюцца з вазкамі дэкрэтніцы. Уважлівы назіральнік мог бы заўважыць, як зрэдчас малады мужчына ці жанчына спыняецца пасярод ходніка і з нейкай неадольнай прагай пазірае на дах шматпавярховіка. Побач некуды спяшаюцца людзі, а яны, не зважаючы на мінакоў, глядзяць у неба.

Сёння азіраюся назад і разумею, што ў той дзень не ўсведамляў наступстваў свайго адчайнага кроку. Наогул, чалавек у дзевятнаццаць гадоў пачуваецца бессмяротным. Смерць – гэта нешта, што здараецца з іншымі.

– Добры дзень.

Са мной вітаецца маладая незнаёмая жанчына. Я адрываю позірк ад дзесяціпавярховіка і ветліва ўсміхаюся ёй у адказ.

– Тузік, дамоў! – кліча жанчына свайго мопса.

Сабака падбягае да гаспадыні, заўзята круціць хвосцікам, чакае пачастунку. Я спешнай хадой кіруюся ў бок аўтобуснага прыпынку. Сёння ў рэдакцыі разбор тэкстаў. Спазняцца не варта.

Магчыма, вы запытаеце, ці ўсё ў гэтай гісторыі праўда? Вядома ж, не ўсё. Насамрэч аўчара звалі Тузік. Сорам, а не імя для такога сабакі.

*P.S.* Ніка зараз працуе настаўніцай. Праз паўтара гады пасля нашага расстання ў яе нарадзілася дзяўчынка. Назвала Сафійкай. Так, як некалі марылі мы. Той казёл збег. Дагэтуль шкадую, што не адрыхтаваў яму сківіцы. Я больш не лётаў. Ніколі.

Гэтую гісторыю я не расказваў нікому. Тузік і Юзік – хто паверыць у такую лухту? Хіба што дзіўнаватыя мінакі каля шматпавярховіка.

## Дзяніс Мацеша



...Літары.
Я дапішу,
Але
Потым...

# Я – Мова

### *Я ПІШУ...*

Шамаценне ядвабу белага,
Пер'я рыпенне –
Песня ўвушшу...
Атраманту адцення спелага
Гукаў сыпанне –
Я пішу...

### *АДПУСЦІ*

Нервы
Вецце крывым,
Дрэвамі,
Прыраслі –
Не прайсці.

Крык...
Гукі – лісцё
Зрывае паперамі –
Верш
“Адпусці”.

### *РАЙ*

Я напішу колькі літар
Не модных.
Хай  паміж намі бессань –
Паперы спісанай гай...

Я пражыву кожны момант
Свабодным.
Хай паміж намі бездань –
Паветра над ёю Рай!

* * *

Мова нашых думак –
Бляск жыцця вады...
Чыстая, свабодная,
Мова – нашы сны.
І
  Я
    Жывы.

* * *

Я ў музыкі гуках шукаю жыццё.
Ў паветраным рытме танцаў...
Успамінам мільгне імгненне адно,
Не пакінуўшы мне ані шансу...

### *НЕ ЧАЛАВЕК*

Разбірай мяне цалкам,
“Я” – з гукаў выслоўе...
Забяры мяне зараз,
“Я” – толькі сюжэт.
Забяры мае вочы,
І “Я” – мой голас,
Забяры маё ўсё!

Я
  НЕ
    ЧАЛАВЕК.

### ТВОР

Вашу “стабільнасць” –
З хаты на двор.
Жывы Сусвет –
Найлепшы Твор.

### РАМАНС

Ціха кроплямі
Дождж на дахах
Танцуе вальс...
Адкладаю справы –
Потым...
На тое час...
За вакном,
З бетону соты,
Я пачую твой Раманс,
Прад вачамі гукі – ноты,
А потым скажуць:
Дэкаданс...

### Я – МОВА

Я –
Толькі слова ў цішыні,
А слова –
Гукі ў вышыні
Пачуццяў –
Мова...

Я –
Бліскаўка ўдалечыні,
А Мова –
След у цішыні,
А след –
Размова...

* * *

Шукаю мяжу
Сваёй
Адзіноты...
Што гэта?
Крыжыкі?
Ноты?

Літары.
Я дапішу,
Але
Потым...

*30 красавіка 2021*

дэбют

## Вікторыя Бурак



...Калісьці я выбрала цябе,
І цяпер стала не сабой...

# #накшталт_вершаў

* * *

Я хачу, каб ты трымаў мяне за руку,
Каб бянтэжыў сэрца сарамлівым позіркам.
У тваёй прысутнасці звычайна адыходзіць скруха.
Я магла б быць неблагім для цябе памочнікам.
І няхай праблем сваіх ты мне не пакажаш,
Я заўсёды буду побач, нават калі ты не прыйдзеш.
І чамусьці я наіўна веру, што ты не падманеш,
Што на сторыз усміхнешся, штосьці ды адкажаш.

* * *

Я падобна да рэшата,
якое было суцэльнай пласцінай.
А цяпер знізана мірыядамі парталаў.

Парталаў ва ўспаміны.
Ва ўспаміны, якія хочацца забыць,
каб закрыць парталы,
каб стаць суцэльнай тытанавай пласцінай.

* * *

Я паміраю ад апатыі:
Не мы спяваем на дзве партыі.
Цяпер ты з іншай у дуэце –
Слязу малюю на сваім партрэце.

Было б мне лепш нічога не адчуць,
Калі назад нам сёння заглянуць.
Ажно чатыры месяцы яшчэ трываць,
А я гатова сёння паміраць.

Магчыма, заўтра буду я смяяцца
З таго, што мне хацелася спаткацца
З табой. А ты не заўважаў мяне,
Я ведаю, што гэта лепш, але.

Не даспадобы вершы мне мае,
Хацела б напісаць пра нешта вартае.
А замест таго пішу я ўсякае лайно,
Бо гэта трэба скончыць ужо даўно.

Я скончылася сёння. Даволі ўжо
Балець. Хачу знайсці сваё ружжо,
Якое мне падорыць новае жыццё.
Ужо мне надакучыла ўласнае ныццё.

* * *

Я магу здацца наіўнай.
Можа, такая і ёсць.
Зноў паспрабую стаць мілай –
Вечны мой стан цяпер млосць.

Сёння сябе я зноў пашкадую,
Зноў выдумляю пакуты сабе,
Мары нязбыўныя штодня малюю,
Ператварыўшы розум ў жэле.

Нейкіх эмоцый ад сябе я чакаю,
Словы з-пад ручкі выціскаю падчас.
Хочацца думаць, нібы я кагосьці кахаю,
Каб паспытаць ўсіх пачуццяў запас.

* * *

Замест працы вымалёўваю сэрцайкі –
Стала летуценнай.
Замест нагавіц апранула сукенку –
Стала дзяўчынай.
Замест вуліцы выбіраю хату –
Стала нецікавай.
Замест ежы кладуся спаць –
Стала лёгкай.
Калісьці я выбрала цябе,
І цяпер стала не сабой.

### *14 ЛЮТАГА*

Мыцца ў кіпні – сэлфхарм.
А што ж рабіць, калі маё сэрца
самы сапраўдны плацдарм?
Горача, але так хочацца сагрэцца.
Я стаю каля абменніка,
замест валюты мяняю
душэўны боль на фізічны.
Пасля лазні кружыцца галава
і тахкае сэрца.
Ты часам не лазня?

* * *

Мне складана адчыняць дзверы,
не таму, што яны цяжкія ці я слабая.
Імі надта часта ляпалі, сыходзячы,
пакідаючы мяне сам-насам з эмоцыямі,
думкамі, шкадаваннямі, няўпэўненасцю.
Некалі дзверы былі адчынены насцеж.
Тут было шматлюдна, а цяпер толькі
рэдкі госць завітае падзівіцца на
касметычны рамонт маёй струхлелай душы.

* * *

Эстэтыка – сінонім твайго імя.
Я бачу прыгожае і думаю пра цябе:
ты навучыў захапляцца ўсім, што навокал –
ты прывучыў мяне да сябе.
Я не разумею цябе.
У маёй галаве –
бібліятэцы чалавечых характараў,
што адчынілася 17 год таму –
дасюль не было пэўнай палічкі
для твайго характару.
Ты НЛА ў маім сусвеце, ты прышэлец,
але я буду вывучаць цябе,
хоць у казках наадварот.
Проста дазволь сябе даследаваць.
Я нічога пра цябе не ведаю,
хоць гляджу, здаецца, добрую гадзіну.

* * *

Я захачу гуляць з табой ля мора, пойдзеш?
Я захачу калючы кактус у нашым краі, знойдзеш?
Я буду думаць пра цябе, на месяц гледзячы, дазволіш?
Калі праз год перад табой з'яўлюся, ўспомніш?

Калі я рацыю не буду мець, асудзіш?
Шарлотку з яблыкамі прыгатую, будзеш?
Калі я недарэчна класікаў цытую, слухаеш?
Каленца ўлетку ў вёсцы разаб'ю, падзьмухаеш?

Пра нешта шэптам я пытацца буду, скажаш?
Я загадаю ў сэрца стрэльнуць, ты прамажаш?
Я спатыкнуся і ўпаду на роўнядзі, падымеш?
Я ласкі і пяшчоты папрашу, абдымеш?

Калі абодва сэрцы клішавана б'юцца ў такт,
То, спадзяюся, што адказ твой будзе: "Так".

пераклады

Сяргей Лебедзеў



Фота: Jane Lezina

...ты разумееш, што твая Радзіма – твая мова...

# Край забыцця

***Раман***

*Пачатак.*

*Пераклад з рускай Барыса ПЯТРОВІЧА.*

## Прадмова аўтара да выдання ў Беларусі

Гісторыя гэтай кнігі пачалася даўным-даўно, у маім савецкім дзяцінстве.

Сваіх родных дзядоў я не застаў жывымі.

Пра дзеда па бацьку я зусім нічога не ведаў, апроч ягонага імя па бацьку. Пра яго не размаўлялі і не згадвалі, як і пра шматлікіх іншых родных, якія нібыта натуральным чынам *зніклі*, пераўтварыліся ў аб’екты адсутнасці. Толькі нашмат пазней я даведаўся, што бабуля разышлася з ім падчас вайны: ён здраджваў ёй і, да таго ж, быў двойчы акружэнцам – то бок палітычна нядобранадзейным.

Дзед па маці памёр ад ваенных ранаў. Ён быў пяхотным афіцэрам, быў тройчы паранены, змагаўся ў Сталінградзе, фарсіраваў Дняпро. У бабулі, маці мамы, захоўвалася дома скрынка з-пад шакаладу, поўная ўзнагародаў: ордэны Леніна, Чырвонага Сцяга, Чырвонай Зоркі, і медалёў, як цукерак, без ліку.

У дзіцячых сваіх няхітрых фантазіях я ўяўляў сябе нашчадкам

дзеда-ветэрана; марыў, што аднойчы таксама здзейсню што-небудзь гераічнае і мяне ўзнагародзяць перад шыхтам; а пакуль – калі нікога не было дома, прымерваў да сваёй каўбойкі чырвоныя з золатам ордэны, захапляючыся іх цяжкасцю, іх зззяючым звышчалавечым значэннем.

Змагацца і паміраць; пераняць чужую ўяўляльную біяграфію як сваю – дзіцё з апошняга пакалення Савецкага Саюза, я быў адкрыты да ягонай героікі, ягоных міфаў і жыццяў камуністычных святых, за якімі не падазраваў магчымасці падману.

Прайшло шмат гадоў. Восем палявых сезонаў я адпрацаваў у геалагічных экспедыцыях на Поўначы. Там я ўпершыню ўбачыў лагеры ГУЛАГа, дакладней, тое, што ад іх засталося: зарослыя маладым лесам дарогі, знесеныя паводкамі масты, баракі з праваленымі дахамі, іржавы калючы дрот паміж упалых вышак. Прырода, у якую некалі ўварваліся лагерныя лесарубы і гарнякі, вельмі хутка брала сваё, і было зразумела, што праз дзесяцігоддзі тут не застанецца амаль ніякіх бачных слядоў.

Я вельмі добра памятаю свой першы погляд на гэтыя краі.

У горадзе Пячора мы пагрузіліся на верталёт, каб ляцець у горы Прыпалярнага Урала. Стары "Міль" цяжка адарваўся ад паласы, пайшоў, набіраючы вышыню, мільганулі арыштанцкай, паласатай расфарбоўкі трубы ТЭЦ, нізкія рваныя воблакі, стужка Пячоры з россыпам бярвёнаў лесасплаву на водмелях – і раптам, нібыта перабой сэрца, адкрылася ўся тайга – на дзясяткі кіламетраў вакол.

Нейкія дзіўныя пралысіны бачыліся сярод тайгі, напаўзарослыя дарогі, цацачныя – з вышыні – будыначкі з праваленымі дахамі, шэрыя і чорныя, з лёгкімі мазкамі бэзавага – цвіў скрыпень, расліна пажарышчаў і пустэчаў; і ўсё гэта, – зноў жа, з вышыні, – ядналася ў нейкую схему, чарцёж, быццам нябачная рука раскідала іх па тайзе, аб'яднала дарогамі, згнілымі мастамі на рэках.

Яшчэ не верачы, адмаўляючыся верыць, я паглядзеў на другога пілота праз расчыненыя дзверы кабіны; і ён, зразумеўшы маё пытанне, пракрычаў уголас, перакрываючы грукат турбінаў:

– Гэта лагеры! Былыя лагеры!

Я ўжо чытаў Шаламава і Салжаніцына. Але, нарадзіўшыся ў Маскве, жывучы ў Маскве, – ніколі не думаў, што лагеры існуюць у адным са мною часе; у маім часе. Яны нібыта належалі глыбокаму мінуламу, часу маладосці бацькоў; і было немагчыма ўявіць іх у 1996-м годзе.

Я сядзеў на лаўцы каля ілюмінатараў, глядзеў уніз, і я ж, быццам закаваны ў капсулу цішыні, быў сам-насам з самім сабой; я адчуваў, што я – сведка; што жыццё змянілася незваротна проста таму, што я ўбачыў тое, што ўбачыў.

Потым былі восем гадоў экспедыцыяў. Кінутыя шахты і штольні, іржавыя рэйкі і ваганеткі, згнілыя дошкі былых баракаў, старыя караванныя дарогі, прабітыя ў падатлівай тундравай зямлі капытамі навючаных коней. Мы ішлі прасторамі былога ГУЛАГа, збіралі ўзоры мінералаў для музеяў там, дзе калісьці працавалі зняволеныя.

Людзей не хапала, і, каб накрыць сеткай пошукаў вялікую плошчу, мы хадзілі ў адзіночныя маршруты, строга забароненыя тэхнікай бяспекі. Чаму я гэта згадваю? Напэўна, таму, што далей гэта адбілася ў лёсе – гэтае пачуццё, калі ранкам ты зашнуроўваеш чаравікі ля вогнішча, і вакол яшчэ галасы таварышаў; але вось ты дашнуруеш, зробіш крок – і ты ўжо адзін, толькі абыякавая прырода вакол, і дойдзеш ты ці не дойдзеш – залежыць толькі ад цябе самога.

Ты адзін, і дапамогі не будзе.

Напэўна, гэтае пачуццё дапамагло мне потым. Потым, калі Поўнач адпусціла

мяне, калі я адчуў, што яна мне дала, паказала мне ўсё, што трэба было, і далейшыя экспедыцыі будуць толькі паўтарэннем.

Памерла бабуля. Я прыехаў у яе кватэру – трэба было разабрацца з паперамі.

У бабулі было два мужы. Адзін мой родны дзед, той самы, што камандаваў ротай у Сталінградзе, і другі, які памёр, калі мне было шэсць месяцаў. Пра яго я нічога не ведаў, апроч імя – Аляксандр Іванавіч, – і спадчыны ягонай: дзвюх вудачак, капелюша і раскладнога зэдліка, што захоўваліся на гарышчы лецішча.

Сярод яе папераў я знайшоў дзве афіцэрскія кніжкі. Успомніў, як у дзяцінстве ўяўляў сябе нашчадкам дзеда-героя. І, прываблены цікаўнасцю, разгарнуў кніжку роднага дзеда.

Але там не значылася нічога, апроч медаля “За Перамогу над Германіяй” – медаля, які давалі ўсім, хто ўдзельнічаў у вайне.

Ужо замёршы, я разгарнуў другі білет.

Аляксандр Іванавіч...

Падпалкоўнік ВЧК – ОГПУ – НКВД – МГБ.

У вайне не ўдзельнічаў.

Узнагароджаны...

Усе гэтыя ордэны, якія я прымяраў, належалі яму, другому дзеду, другому мужу бабулі, супрацоўніку дзяржбяспекі, двойчы ўзнагароджанаму за 1937-ы год, за год Вялікага Тэрору.

І я стаяў з дзвюма гэтымі кардоннымі кніжачкамі ў руках, праклінаючы сябе, праклінаючы бацькоў, – так, яны ведалі, каму на самой справе належалі ордэны, і маўчалі. Стаяў, разумеючы, навошта я вандраваў па Поўначы і Усходу, навошта бачыў руіны былых лагераў, навошта стаяў над безыменнымі магіламі – для таго, каб напісаць кнігу.

Кнігу для гэтакіх самых, як я, хто аднойчы разгорне сямейны архіў – і знойдзе там зусім не тое, што чакаў знайсці.

**Сяргей Лебедзеў.**

## I

*Не жилец этих мест,*
*не мертвец,*
*а какой-то посредник...*

**Іосіф Бродскі.**

Я стаю на краі Еўропы. Тут кожная строма над акіянам агаляе жоўтую костку каменя і вохравую, барвовую, падобную да плоці глебу; костка крышыцца пад ударамі хваляў, цела глебы паглынае прыліў.

Акіян жа настолькі вялікі, што вочы не могуць ахапіць яго; здаецца, ён навальваецца на таго, хто глядзіць і вось-вось выцісне зрэнкі, як ілюмінатары, хлыне ўнутр, цалкам затопіць розум. І толькі рэдкія думкі, нібы вострыя вулканічныя пікі Мадэйры і Канарскіх выспаў, яшчэ будуць узвышацца над водамі; гэта думкі пра вялікую цягу адсутнасці, пра пустэчу далягляду, думкі, якія клічуць пераадолець іх, уяўленнем падняць з водаў, нібы Атлантыду, новы мацярык, дзе ўсё невядома, дзе прастора не ведае компаса і цыркуля картографа.

Тут заканчваецца Еўропа; бераг змяншаецца, нібыта кантынент скурчваецца, і ты ўпершыню адчуваеш, што Сусветны востраў – не выдумка па-ангельску рамантычных геапалітыкаў пачатку мінулага стагоддзя; ты адчуваеш ягоную мяжу, якая супадае з лініяй берага.

Ты прыехаў сюды з тайгі і тундры, каб убачыць Геркулесавы слупы, зведаць свет, які спарадзіў атлантаў, што трымаюць змрочны небасхіл тваёй радзімы, удыхнуць з вуснаў Гібралтара жыватворнае паветра лёгкіх Міжземнамор'я, – але сустрэў не міжсценне гэтага свету, а ягоны край: для народжанага ў Расіі тут па-ранейшаму край айкумены, як і меркавалі старажытныя грэкі.

Гэты край заключае ў сабе выклік: толькі за падобнымі да смерці безаблічнымі водамі акіяна ляжыць новае, іншае жыццё; суша, зямля – паступовасць, а акіян азначае перапынак паступовасці, патрабуе духоўнага намагання, вялікай мэты, дзеля якой можна адмовіцца ад звыклай цвёрдасці зямлі і ступіць на хісткую палубу.

Я стаю на рысе, з якой, здавалася б, можна ступіць наперад, але дзеля гэтага трэба было выйсці на яе з лёгкім сэрцам і вольнай душой. А мае душа і сэрца поўныя памяццю прастораў, якія імкнуцца да Палярнага круга, поўныя іх нематы, што прагне слова, поўныя белі снягоў, якая выядае вочы – белі некранутага ліста – і чарнаты, падобнай да глянцавітай, чакаючай пераўтварыцца ў жар полымя, чарнаты вугалю, – чарнаты ночы, чарнаты шахты, дзе паветра збедненае дыханнем і не ведае світанку.

Таму для мяне, калі я выйшаў на край свету, мэта ляжыць не наперадзе, а ззаду: мне давядзецца вярнуцца. Маё падарожжа скончылася, і павінен пачацца зваротны шлях – у слове.

Я адчуваю – гэтае пачуццё раптоўнае, хоць выспела яно даўно – што я ў большай ступені еўрапеец, чым жыхары гэтай краіны, якая глядзіць у Атлантыку, як балкон – на вуліцу.

Я быў на іншым краі Еўропы, які абрываецца скальнымі ўступамі ў балоты Заходняй Сібіры; бачыў цёмныя задворкі еўрапейскага кантынента, яго фіна-вугорскія каморкі, ягоны тыл, ягоны падмурак; я стаяў у запалярных гарах Уральскага хрыбта, дзе сыходзяцца Еўропа і Азія: на еўрапейскім схіле там расце толькі нізкая, кручаная вятрамі палярная бярозка, а на азіяцкім – высокія, магутныя кедры, якія разломваюць каранямі камень, і ў небе над гарамі счэпліваюцца навальнічныя франты з двух вялікіх раўнінаў.

Менавіта там, дзе жыццёвая сіла Еўропы слабее, дзе яе хапае толькі на ягель ды лішайнік, а з-за хрыбта пагражае пераліцца азіяцкае густалессе, густатраўе – я ўпершыню адчуў сябе еўрапейцам. У павольных, цякучых схватках аблокаў я ўнутрана быў з тымі, што прыйшлі з захаду, з боку Інты і Пячоры; шво светаў – Уральскі хрыбет – навучыў мяне пазнаваць сваё і чужое, бо на шве, на стыку абвастраюцца пачуцці, здараюцца не толькі духоўныя, але нават і фізіялагічныя азарэнні: ты гартанню, страўнікам, усёй працягласцю кішак даведаешся, што п'еш цяпер няроднасную табе ваду азіяцкай ракі, і гэтая чужая вада не змешваецца з той, якая ўжо ёсць у тваім целе.

Там, на сярэдзіне хрыбта, разважаючы або размаўляючы, спрабуючы нешта запісаць, раптам разумееш: ты выйшаў на *край мовы*. На азіяцкім баку ўжо даводзіцца прыкладаць нейкія намаганні, каб называць прадметы; яны нібыта ўхіляюцца ад найменавання. Ці інакш – паміж імем і рэччу ўзнікае тонкая і тугая плёнка, падобная да той «кашулі», якой акружанае немаўля ў лоне маці; тутэйшыя рэчы як бы яшчэ не нарадзіліся для той мовы, на якой ты размаўляеш. Мова можа кіраваць імі, можа даваць ім назвы, і яны падпарадкуюцца, але той, хто адчувае, жывая ці мёртвая мова, убачыць, што гэта лінгвістычная каланізацыя. Піхта і хвоя будуць

для цябе піхтай і хвояй, але гэтыя назвы застануцца чужымі іх сутнасці, што патрабуе нейкіх іншых сугуччаў і гарманічна адгукаецца толькі на іх.

Край мовы, ускраіна еўрапейскага свету; далей – толькі плоскасць балотаў Сібіры. Тут даведаешся, што такое сапраўдная немата: ты можаш казаць, але свет не адгукаецца мове. І ты разумееш, што твая Радзіма – твая мова; яе якасці, яе непаўнавартаснасць – твае неад'емныя якасці і твая непаўнавартаснасць; па-за мовай цябе не існуе.

Я ўспамінаю, як ранняй, марознай вясной быў у адной вёсцы: хаты, прыдушаныя зляжалым, шэрым снегам, зацвярдзелыя сляды валёнак і палазоў на дарозе; неахвотнае абуджэнне пасля зімы – у хатнім паветры яшчэ раствораныя калматыя зімовыя сны з пахам вапны і лямца.

У вёсцы нядаўна закрылі школу, там было вельмі мала вучняў. Будынак, стары асабняк, забілі дошкамі. Школа стаяла на прыкметным узгорку, і вёска некалькі месяцаў жыла з відам на пакінутую, нібы пры адступленні, былую панскую сядзібу.

У школьным кветніку тырчэў помнік касманаўту, быццам той прызямліўся тут і за непатрэбнасцю ў гаспадарцы быў пастаўлены на п'едэстал, пафарбаваны серабрыстай, у тон скафандру, фарбай. У школе, нягледзячы на сцюжу, якая вымарожвала ўсе пахі, пахла сырымі шпалерамі і мышамі. Ля грубкі ў калідоры сядзеў на зэдліку вартаўнік – чалавек з валёнак, ватных штаноў, кухвайкі ды вушанкі; маснічыны рыпелі, і здавалася, што гэта крэйда рыпіць па зацертай дошцы; у замочную шчыліну можна было разгледзець парты і крэслы – нязграбныя, цяжкія, адпаведныя вучнёўскім ранцам; на адной з партаў ляжала чарцёжная лінейка, нібыта настаўніца забыла яе і яшчэ прыйдзе.

Вартаўнік сядзеў ля грубкі; каля сцяны ляжалі стосы патрапаных, размаляваных падручнікаў, якія змянілі шмат рук – «Родная речь», чацвёрты клас. Вартаўнік браў па кнізе, раздзіраў пераплёт, змінаў старонкі, каб лепш ўзялося полымя, і кідаў у грубку. «Школу зачынілі, – сказаў ён. – Дроў не даюць. Вось так і палім, размарозіць жа нельга. Бібліятэка вялікая, да красавіка хопіць».

Грубку ў зачыненай школе палілі *рускай мовай.* Як ненавідзеў ты ў дзяцінстве гэтыя кнігі, гэтыя «пытанні да тэксту», адкрэсленыя параграфы «правер сябе», гэты павялічаны, нястрогі, закруглены, – як рагі школьных партаў, каб дзеці не параніліся, – шрыфт! І ты гатовы быў крычаць нема, бо цяпер усё гэта не мела ніякага значэння, як крыўда не мае значэння перад сапраўдным горам.

Там, у прыволжскай вёсцы, сярод пакрытых бярозавым падлескам палёў, я даведаўся, што значыць для чалавека яго родная – ужо без двукоссяў, без школьнай павучальнасці – родная мова.

Бярозы, снег, дровы, неба, дарога, агонь, дым, мароз – я паўтараў сам сабе словы, якія памятаў крыху меншы час, чым памятаў сябе. Бярозы, снег, дровы, неба, дарога, агонь, дым, мароз – словы разрасталіся, словы былі матэрыяльныя, як матэрыяльная энергія; словы гучалі сімфанічна, адно скрозь другое, але не змешваліся, і мароз быў марозны, агонь – вогненны, дым – дымны; словы рабіліся прасвечанымі, ледзь струменіліся, як чыстае полымя, іх фанетычныя абалонкі гублялі зацвярдзелую выразнасць, і перад поглядам паўставала чыстае рэчыва значэнняў – як кропелька паветра ў каштоўным камені, што па-іншаму пераламляе святло.

Кропелька паветра, якая на імгненне, але старэй за сам камень – паветра ўжо было, калі мінерал яшчэ не ўзнік. Вось гэты малы ўдых старэйшага

паветра, неад'емная душа слова – ён і рабіў слова сапраўдным, звязаным з жыццём і смерцю, – так я ўбачыў і адчуў тады, у заснежанай вёсцы, дзе белы дах школы пакрыўся плямамі кніжнага попелу – падручнікі гарэлі дымна і брудна, і попел быў металічна-сальным ад густой друкарскай фарбы.

Я даведаўся, што руская мова – мая радзіма, мая айчына; тыя, хто насяляе рускую мову – мае суграмадзяне, мае таварышы. І тое, што я цяпер пішу, я пішу не па праву памяці, а па праву мовы; мова жыве тым, што павінна быць на ёй сказана. Я бачу і ўспамінаю; гэтыя радкі неабходныя мне, як піяністу трэба кранууцца клавішаў, правяраючы падатлівасць цішыні, перш чым іграць; за імі я чую гук літараў, якія ідуць з цемры.

Тут, на краі Еўропы, я бачу на пляжы людзей, цудоўных, як нерэіды або дрыяды грэцкай міфалогіі, якія зрошчваюць чалавека з жывёлай або раслінай, каб атрымаць несмяротную істоту. У выключнай чалавечай прыгажосці ёсць уразлівасць, прадчуванне памірання, якія і вызначаюць яе індывідуальнасць. А ў прыгажосці расліны альбо жывёлы няма трагічнай ноты, радавое замяняе ў ёй індывідуальнае. І тыя, што купаюцца на пляжы бліжэй да дэльфінаў ці архідэяў: рух, цвіценне, спакой, лагода, спачын. Аднак ледзь толькі хаваецца сонца, яны сыходзяць і ніколі не даведаюцца, што ў прыцемках пляж падобны да пампейскага праху – прыліў разгладжвае пясок, які астывае, змываючы адбіткі сцёгнаў, локцяў, ступакоў.

Я бачу гульцоў у гольф, якія бясконца паўтараюць урок Дэкартавай геаметрыі, урок артыкуляцыі прасторы, улоўлівання яе ў сетку каардынатаў. Я ўяўляю іх пасярод тундры з мячыкам і клюшкамі – і мне здаецца, яны застынуць, здзіўленыя: бывае столькі прасторы, што ёй нельга авалодаць нават ва ўяўленні; яны пакінуць сваю гульню, пойдуць у розныя бакі, каб пераканацца, што бачнае імі – не дэкарацыя, і ніколі больш не сыдуцца разам, бо там, дзе на квадратны кіламетр, па дадзеных статыстыкі, прыходзіцца менш за адну сотую чалавека, яны расшчэпяцца на гэтыя сотыя, тысячныя, стануць памылкай, недакладнасцю, згубяцца, як трэція або чацвёртыя лічбы пасля коскі, якімі можна пагрэбаваць у разліках.

Я бачу кавярню ля акіяна, дзе кожны вечар мацнеючы брыз зблытвае абрыўкі размоваў на дзесяці мовах, гуляецца імі, нібы сінхраніст-перакладчык на канферэнцыі, які ўключае на гучную сувязь то французскую, то нямецкую, то польскую мову, – і ўспамінаю могілкі ссыльных, дзе гэтаксама змешваліся мовы і маўленні імёнаў, што прагаворваў чалавек, які па ўласнай волі стаў там вартаўніком. Не было ні крыжоў, ні агароджаў, ні магілаў, толькі ледзь прыкметныя канаўкі, што заплылі вільготнай вясновай зямлёй, над якімі ён на памяць прамаўляў імёны. Чужыя гэтым месцам сугуччы падалі ў зямлю як насенне, і здавалася, быццам гэтая малітва, складзеная адзіным, хто выжыў, але амаль страціў памяць і розум, каб умясціць усіх тых, каму не было іншага прытулку ў свеце.

Я бачу роўны асфальт шашы – і ўспамінаю паўночны тракт, які вёў на залатыя прыіскі. Па ім рухаліся вахтавыя «Уралы» і «Камазы», усюдыходы, бульдозеры, узбочыны яго прапахлі салярнымі выхлапамі, абветрыліся да алеістай скарыначкі, хрумсткай пад ботамі. Магутныя машыны ішлі па адной і караванамі, з высокай кабіны было відаць, як разбягаюцца ад шуму матораў тундравыя зайцы, узлятаюць курапаткі, сыходзіць, свідруючы ваду, рыба ўверх па ручаях; здавалася, што гэтая нізінная мясцовасць, якая нараджае толькі сухотачныя дрэвы, замірала пры выглядзе рабрыстых колаў, ільсняных бульдозерных нажоў, гатовых растаптаць імхі ды ягаднікі, распароць тонкую глебу.

Але раптам за стромкім спускам адкрывалася Цар-Лужына: так яе называлі ўсе кіроўцы. Адны казалі, што гэтае месца праклятае шаманамі, якія помсцілі за тое, што ў свяшчэннай гары прабілі штольні на золата, іншыя – што тут быў мор аленяў, трэція – што ў завею тут замёрз цэлы этап, некалькі сотняў арыштантаў, якіх гналі на прыіскі ў саракавыя гады. Наогул жа кіроўцы былі народам спрактыкаваным, непрымхлівым, які не верыў ні ў Бога, ні ў чорта, але чалавечы розум і на самой справе не мог справіцца з відовішчам Цар-Лужыны: здавалася, што гэтае месца адзначанае асаблівай пячаткай, у яго ёсць свой страшны і помсны характар, які спіць зімой і ў летнюю засуху, але прачынаецца, калі растае снег альбо ідуць зацяжныя дажджы.

Аб'ехаць Цар-Лужыну было немагчыма: доўгая паласа забалочанай зямлі, насычанай водамі расталай вечнай мерзлаты, цягнулася між двума градамі пагоркаў на сотню кіламетраў. І калі машыны тармазілі, не даязджаючы да краю Цар-Лужыны, перад вачамі паўставала драма месца: зямля навокал быццам хадзіла ходырам, усё было заліта гнілой, іржавай вадой, з якой тырчалі перацертыя гусеніцамі, разадраныя ў дранку бярвёны і дошкі, падрапаныя жалезам камяні, раздушаныя бочкі сапёрных пантонаў, якімі хтосьці спрабаваў замасціць Лужыну, знікаючыя астраўкі жвіру і пяску – сляды спробаў зрабіць насып праз земляную прорву. У баку выступаў з балота, губляючы апошнюю фарбу, чэрап трактарнай кабіны, высілася сагнутая страла пад'ёмнага крана. А па берагах Лужыны рос дзіўны лес: дзясяткі ўбітых у зямлю жалезных трубаў і бетонных паляў, частка з якіх была выварачана, – на іх накідвалі петлі лябёдак з машынаў, якія загрузлі. Тут жа валяліся раскасмачаныя лопнутыя тросы, якія не вытрымалі мёртвай хваткі Лужыны: кожны з дзясяткам вузлоў. Калі падысці бліжэй, ступаючы асцярожна, каб чобат не праваліўся ў падсохлую клейкую жыжку, можна было ўбачыць рэшткі малых драмаў, адчайных спробаў пераправіцца, калі на прыісках спынялася праца; патрэбныя былі паліва, выбухоўка, ежа, а ў аэрапорце непагадзь прыціскала да бетонкі верталёты, і начальства збірала ў дарогу дзве-тры машыны, абяцаючы кіроўцам усё, што тыя папросяць, каб толькі груз быў дастаўлены па прызначэнні.

Так паўстала сярод кіроўцаў каста знаўцаў Лужыны, паўночных аўгураў, якія варажылі па ўзроўні вады, па звярыных слядах на паверхні Лужыны – лічылася, што лось альбо казуля выберуць самы сухі шлях; адны з'язджалі ў бок, каб рызыкнуць у новым месцы, іхнія машыны доўга потым выцягвалі трактарамі на край Лужыны; большасць жа спрабавалі пераправіцца па старой каляіне. Сляды гэтых пераправаў і былі бачныя на беразе Лужыны: рассыпаныя кансервы, уціснутыя коламі ватоўкі, дошкі з бартоў машынаў, бляха, якой аббіваліся вахтавыя будкі, лаўкі, печкі – усё кідалася ў каляіну, каб машына рухалася, і ўсё нястомна паглынала Лужына. Часам Лужыну ўспушвала, на яе паверхні з'яўляліся спарахнелыя, пераварaныя сокамі зямлі рэчы-мерцвякі; быццам падавіўшыся, лужына вывяргала з сябе брызент, шыфер, буравыя трубы, прыкіпелыя адна да адной, як спечаныя ў гіганцкае падабенства выкарчаваных пнёў, выплёўвала смецце, выкінутае ў яе, бутэлькі, пакеты, выціскала з камяком зямлі шкілет лісы, што паквапілася на аб'едкі, і зноў за дзень ці за два заглынала адрыгнутае.

Калі караван падыходзіў да Лужыны, кіроўцы доўга палілі, а пасажыры разыходзіліся па баках: Лужына дзіўна прыцягвала да сябе, прымушала глядзець і глядзець на сябе, як глядзяць на вывяржэнне вулкана ці вада-

спад. Вільготная, хліпкая, успрымальная існасць зямлі адкрывалася ў ёй; глотка без рота, расчыненае ўлонне, Лужына не глядзела на людзей, а наадварот, убірала позіркі, як убірала ў сябе чалавечыя намаганні і працу машынаў. Здавалася, у Лужыны няма дна, інакш на яе месцы даўно б ужо ўзнікла гара бярвення, пяску і жвіру. І там, у глыбіні, марудна рухаліся ў плынях вадкай зямлі патанулыя трактарныя гусеніцы, колы машынаў, бочкі, тросы, дамкраты, дошкі, рыдлёўкі, ломікі, шлангі помпаў, праалееныя ватоўкі і рукавіцы – цэлы пахаваны Космас прадметаў, у чыёй строгай форме чалавечы розум увасобіў усё, што мог супрацьпаставіць адмаўляючай форму стыхіі Лужыны, увасобіў, кінуў у бой – і адступіў у бяссіллі, а чэрава Лужыны толькі разбухла ад праглынутага.

Я бачу аўчарку, якую мужчына вядзе на павадку па набярэжнай; сабаку горача, ён нязграбна ступае па гарачых каменных плітах, ашалела дыхае, высоўваючы ружовы, з бэзавымі пражылкамі язык; ён варты жалю, гэты сабака, перакормлены і стары, звыклы да ашыйніка, абыякавы да азызлых галубоў, якія шукаюць крошкі ў стыках плітаў, але мне яго не шкада: я памятаю іншых аўчарак, памятаю цягучую, густую сліну, якая звісае з верхніх іклаў, ружавеючае, рабрыстае, як рассечаная туша на прылаўку, паднябенне ў пашчы, памятаю брэх, у якім ужо няма нічога сабачага.

Звычайна гук брэху, якім бы азвярэлым ён ні быў, нагадвае пра гарадскі сквер ці вясковую вуліцу – па далёкіх водгуках сабачага брэху, чутных у лясной, балотнай ночы, разумееш, што дзесьці блізка жыллё, людзі, начлег. Але брэх канвойных аўчарак – не брэх сваркі, бойкі, бегу, палявання. За арыштантам не трэба гнацца, ён аддадзены ў поўную ўладу сабаку, аднак у вачах, што закаціліся ад натугі, у камяках гукаў, якія рвуцца з глоткі, камяках, падобных да здушаных зародкаў словаў, ёсць такая ступень нянавісці, у якой жывёла ўзыходзіць ужо да чалавечага адчування; чалавечая – па прыродзе пачуцця – нянавісць, прышчэпленая сабаку, аказваецца большай і мацнейшай за яго самога, і ён павінен сарваць яе на арыштантах: калі ён не паспее гэтага зрабіць, нянавісць разбурыць слабы розум, разарве галасавыя звязкі, звядзе сківіцы. І таму брэх канвойных сабак, нават калі ён нягучна разносіцца ў далёкім куце чыгуначнай станцыі, дзе па калідоры пашыхтаваных у дзве шарэнгі салдат з сабакамі пераганяюць з машыны ў вагон зэкаў, – брэх гэты адразу нагадвае пра жаўтлявыя, быццам пракураныя, іклы, пра нянавісць, якая падзяляе чалавека і жывёліну глыбей, чым чалавека і чалавека, бо жывёліна ідзе ў ёй да канца, да самастраты, да хрусту сухажылляў і пазванкоў; пра нянавісць, выплюхнутую з брэхам у паветра тысячаў месцаў, якая нікуды не падзелася, якая жыве ў сабачых і чалавечых нашчадках, якая была ўвабраная з разбаўленым малаком, з мозгам разгрызеных костак.

Я бачу рыбакоў, кончыкі іх вялікіх спінінгаў свецяцца ў прыцемках, нібыта яны ловяць на гэтае зеленаватае свячэнне лятучых рыб; пасля лоўлі рыбакі ідуць у рэстаранчык на беразе, выпіваюць піва ці віна, пакуль рыбу растрыбушваюць і чысцяць на варыўні; асабліва добра ідзе да яе мясцовае белае віно ў бутэльках з блакітнаватага шкла, чыстае і лёгкае, з ледзь адчувальнай гарчынкай; гэтае віно не ап’яняе, не ўзбуджае, не абцяжарвае, а быццам бы абмывае пачуцці.

Ты робіш глыток гэтага віна, і жанчына, якую ты сустрэў і пакахаў тут, мяккія путы пасцельнай бялізны, двойчы салёны – ад марской вады – пот, рыжы пылок бессаромных пальмавых суквеццяў на яе скуры – усё гэта аддаляецца, і само жаданне раптам робіцца амаль бясполай пяшчотай,

адчуваннем, што яна – толькі сасуд свайго жыцця, недаступнага для цябе. Ты глядзіш ужо не на яе, а на тое, як жыве ў ёй яе жыццё, незнаёмае, можа быць, і ёй самой; як адлівае і прылівае кроў, загараецца румянак, курчавяцца валасы. Гэтая паўсядзённасць яе цела становіцца для цябе каштоўнай і неабходнай; хочацца ўзяць яе за руку, каб адчуць пульс: біццё сэрца, якое ўзнікла ў целе ейнае маці, з нічога, з некалькіх клетак.

Ты ведаеш, што бліжэй, чым яна, у цябе нікога не было; але і яна – не блізкая. Прыносяць рыбу, ёй – дараду, табе – рыбу-меч, бо мяса рыбы-меч не падобнае да рыбінага; у яго буйныя валокны, яно выглядае як выбеленая ялавічына, і толькі таму ты можаш яго есці. І ты мог бы расказаць ёй, чаму ты адводзіш погляд ад яе талеркі, п'еш віно і глядзіш у акіян, і яна – што ўсё адчувае, усё разумее – адчула б цябе і зразумела б, але ўсё роўна гэта быў бы толькі расповед; ёсць тая канчатковая поўнасць вопыту, якую немагчыма падзяляць.

Таму ты сочыш за рыбакамі на беразе, глядзіш, як дрыжаць і гнуцца спінінгі, калі яны цягнуць рыбіну на бераг, і ў гэтых выгнутых тонкіх трысцінах угадваеш гэткія ж гнуткія галінкі дзікіх парэчак на беразе паўночнай ракі, абцяжараныя бледнымі, ружаватымі на прасвет, вадзяністымі ягадамі; у кожнай ягадзіне, працятай бялявымі жылкамі, спеюць слабыя зярняткі, а ліст парэчкі ўжо вяне, хоць яшчэ зялёны. Рачная вада купае лісце і гронкі ў сваёй плыні, далей празрыстасць пераходзіць у цемру і ў аб'ём колеру: там вір, вада кружыць павольна, густа, і на яе паверхні трымаюцца, быццам сляды ад кропляў, упалых у зацвярдзелы расплаў шкла, лёгкія кругі – гэта харыусы хапаюць насякомых.

Лета цячэ пад ухіл, мацнее ранняе цемрыва, халаднеюць раніцы, і вецер кідае лёгкакрылых стракозак на ваду, нібы вымятае смецце – лускавінкі, крылы – з праёму між ваконных рамаў; харыус – рыба смерці, рачны паляўнічы – глытае мух, камароў, стракоз, каб неўзабаве сысці ўніз па плыні, забіцца ў прыдонныя ямы, замерці ў нежывым сне да вясны; вясёлкавыя крылы ўсплёскваюць, і бліскаюць у вадзе вясёлкавыя целы рыбінаў.

Прывал. На шосціку сыходзіць парай кацялок, гатуецца юшка; харыус далікатны, яго нельга варыць доўга. І як далікатэс – свежае мяса рыбы, перацертае з соллю і перцам, прытушанае пад гнётам, якое сыходзіць сокам. Але потым вы ідзяце маршрутам уздоўж ракі, сцежка пераскоквае з берага на бераг, і на адной з пераправаў хтосьці наступае нагой на чалавечы чэрап, які захрас сярод камянёў, парос асклізлай зялёнай цінай.

Чэрап. Чэрап у вадзе. А вышэй па плыні – падмытая строма, чорная тарфяная туша. У торфе – яшчэ чарапы, косці, паўсатлелая, друзлая, як журавіны, што праляжалі зіму пад снегам, плоць; лагерныя могілкі, якія пачало размываць, калі рака змяніла рэчышча і сышла ў новую пратоку. І ты ванітуеш з'едзенай рыбай, у мясе харыуса – гэтая плоць, і ты ўжо – людаед, і ўсе вы – людаеды, бо елі гэтую рыбу, пілі гэтую ваду, у якой раствораныя нябожчыкі. Цябе ванітуе, але забруджанасць не праходзіць, яна ў тваім целе, у тваёй крыві назаўжды.

І ты праклінаеш спінінг, лёску і насадку: у тваёй губе цяпер тырчыць кручок з «бародкай», ты праглынуў блешню, што раздзірае кішкі. Рыбіныя шкілецікі, выкінутыя ў раку, і чалавечыя косці – ты раптам ўсведамляеш, што заўсёды быў звяном у ланцугу паглынанняў, памяць твая служыла прыладай забойства: у ёй было занадта шмат цябе самога, і сваім жыццём, паўнакроўным, моцным, ты як бы настойваў, што няма смутку, няма стратаў быццю – жыццё ўсё пераможа, усё згладзіць.

І тады ты разумееш, што смяротнае прычасце прынятае табой цяпер не выпадкова. Праз яго, як праз зноў здабыты дар бачання, ты бачыш сваё цела, сваю памяць, свой лёс як перадпадрыхтоўку: спадчыну крыві, спадчыну ўспамінаў, спадчыну чужых жыццяў – усё прагне слова, шукае мовы, шукае да-выканацца, адбыцца да канца, быць спазнаным і аплаканым.

Ты бачыш і ўзгадваеш; і гэты тэкст – як помнік, як сцяна плачу, калі мёртвым і тым, хто аплаквае, няма дзе сустрэцца, апроч як ля сцяны словаў – сцяны, што яднае мёртвых і жывых.

**II**

Летнія дні, доўгія, прасторныя, як анфілада светлых пакояў; дні, калі ў прыродзе ні ў чым няма стратаў, сон кароткі, а абуджэнне надыходзіць на досвітку – летнія дні, лета жыцця!

Восеньская памяць паглынае згасанне прыроды, пераход ад аб'ёму лістоты да пустаты абляцелых лясоў, і гэтае пераўтварэнне працягваецца ў ёй, нібы яе сілы падточаныя хваробай.

Цемра зімовых дзён памнажае лакуны памяці, пакідаючы ёй кола святла настольнай лямпы; ад аднаго ўспаміну да іншага трэба ісці, нібы па снезе ад вёскі да вёскі, угрузаючы, збіваючыся з дарогі, толькі слыхам улоўліваючы шляхапаказальную нітку – гуд правадоў.

Памяць вясны нясмелая, няўпэўненая ў сабе самой, падобная да сноў таго, хто ачуньвае: ломкія, як лёд ранішніх прымаразкаў, не падмацаваныя яшчэ сіламі цела.

І толькі памяць лета кажа: запамінай, усё гэта было з табой і ўжо не паўторыцца, але ва ўспаміне ўсяму знойдзецца месца; запамінай – вось сіняя гронка дэльфініума, якая хіліцца ад гушчыні колеру, вось смуглавата-шызыя ягады ядлоўца, з водарам смалы – чыстым драўнінным потам, вось мятлік-аўсянка, які ляціць бязвольна, нібы вецер нясе кавалачак белай тканіны; запамінай – і гэта будзеш ты: дэльфініум, ядловец і мятлік, яны стануць асновай тваіх пачуццяў і думак, дапамогуць табе, калі пачуццё будзе шукаць словы, а думка – вобраз. Запамінай – у паўнаце прысутнасці ў жыцці, і гэтая паўната захаваецца ў табе, большае адродзіцца праз меншае – мятліка, ядловец, дэльфініум.

Жнівень – месяц твайго з'яўлення на свет; ты быў народжаны летам, і свет паўстаў табе летнім. Была спякота, градуснік цягнуўся да адзнакі трыццаць шэсць і шэсць; цяпло цела супала з тэмпературай паветра, і ты, напэўна, адчуў, што свет прымае цябе.

Тое немаўля, што выглядае на фотаздымках з карычневага і жоўтага, у клетку, вазка, глядзіць, яшчэ не належачы цалкам жыццю, – такі выраз твару бывае ў гледачоў у кіно, якія паддаліся ўражанню, але не могуць удзельнічаць у тым, што адбываецца на экране, – тое немаўля, думаю, памятае першыя імгненні быцця з удзячнасцю. Яны сталі пачуццёвай асновай любога іншага ўспаміну, прыўносячы ў яго, якім бы ён ні быў, упэўненасць, што жыццё ўсё ж павернута да чалавека светлым бокам, што ён яму неабыякавы. І нават калі ён пакінуты ім – гэта як марскі адліў, калі прыцягненне нябесных целаў ужо ўзрошчвае за далягядам хвалю прыліву.

Жнівень – у жніўні ты ўпаў, узлезшы на край вазка, паваліўся разам з ім на камень; кроў пырснула з разбітых вуснаў, рот пераўтварыўся ў рану, малочныя зубы выкрышыліся; ты адчуў боль, які на гады наперад

абярнуўся коснаязыкасцю, металічнымі дужкамі брэкетаў, з заўсёдным жалезным прысмакам крыві; боль, што знявечыў, паралізаваў мову так, быццам любое слова працісквалася праз прэнты яе кратаў. Аднак калецтва не ператварыла цябе ў ізгоя, як гэта часта бывае сярод дзяцей; наадварот, дзякуючы яму ты стаў старэйшым за сваіх аднагодкаў. Але прычынай таго былі не боль, не перанесеныя пакуты, якія часам робяць больш дарослым.

Не прамоўленыя, не прагучалыя тады, калі іх хацелася вымавіць, словы назапашваліся ў табе; іншыя дзеці збіралі машынкі ці, хто старэйшы, паштовыя маркі, а ты пачаў калекцыянаваць словы. І як простакутнік маркі азначаў для кагосьці абяцанне іншага жыцця, у якім ёсць іншыя краіны, слава і здзяйсненні, настолькі вялікія, трыумфальныя, што твар героя, выпраменьваючы ў прастору ягоны партрэт, адбіўся і на марках, на самых малых часцінках мазаікі свету, – так ты ў любым слове адчуваў водсвет таго большага жыцця, з якога яно прыйшло.

Менавіта гэты, сапраўдны і глыбокі, узрост, схаваны пад вонкавым узростам дзяцінства, узрост маўчання і жыцця сярод словаў, размоваў – са словамі, зрабіў магчымымі ўсе тыя разуменні, якімі рухаўся ў дзіцячыя гады мой лёс.

На маім нараджэнні настояў чалавек, якога я буду называць Другі дзед – так я пра сябе зваў яго ў дзяцінстве; зразумела, у яго былі імя, імя па бацьку і прозвішча, але яны неістотныя; дзіцячае ўспрыманне дакладна ўлавіла прыхаваную ветлівасцю надзвычайную адчужанасць гэтага чалавека. Ён не тое каб трымаўся адчужана, быў замкнёны, справа была не ў паводзінах і характары; ён быў адчужаны ад жыцця амаль што ў юрыдычным значэнні слова і толькі з прычыны гэтага адчужаны і ад людзей. Усё, што адбывалася ў цяперашнім часе, адбывалася не з ім, а па датычнай да яго – але не ад адсутнасці ўспрымальнасці, а таму, што ён як бы ўжо пражыў жыццё, існаванне сталася даўжэй за лёс, і ні адна падзея не магла цяпер яго закрануць; на ўсіх падзейных чарцяжах яго фігура была як бы выпушчаная, нібы ён быў пакараны – пакінуты – адчужаны.

Другі дзед быў сляпы. Сляпога цяжка апісаць знешне; невідушчыя вочы не проста пазбаўляюць чалавека адной са звыклых дэталяў аблічча – яны ствараюць адчуванне, што загана гэтая больш, чым загана ў знешнасці і ў органах пачуццяў, што сляпы нядзеяздольны і ў нейкіх іншых, чым арыентацыя ў прасторы, зносінах.

Вочы – нешта неверагоднае для гладкага, шчыльнага, непранікальнага, як сцяна, чалавечага цела; яны падаюцца згусткамі энергіяў іншага роду, чым тыя энергіі, што знаходзяцца ў крыві і цяглiцах. Там – крывяныя цельцы, формулы расшчапленняў і ператварэнняў; у вачах – нешта на парадак больш таемнае пры ўсёй іх відавочнай адкрытасці. Час ёсць святло, як кажуць фізікі, святло ўваходзіць у чалавека праз вочы; можа быць, яны ёсць орган часу.

Той жа, хто сляпы, як бы страчаны ў часе, не зусім дакладна прысутнічае ў кожным імгненні; і гэтая страчанасць робіць крыху змазанымі знешнія яго рысы, быццам чалавек торгнуўся, калі яго фатаграфавалі.

Таму Другі дзед не затрымліваўся ў сятчатцы таго, хто глядзіць, прасочваўся скрозь яе, заставаўся смутным сілуэтам; ты хутчэй запамінаў яго профіль, чым фас, ён заўсёды нібы апынаўся павернуты бокам, нечым заслонены, знаходзіўся быццам бы ў натоўпе, сярод кагосьці, нават калі быў адзін; запаміналася адзенне, можа быць, разварот плячэй, нешта з хады, але ўсё гэта не стварала суцэльнага партрэта.

Цяпер, спрабуючы ўявіць ягоны твар, я бачу нейкія моманты ўспамінаў, у якіх ён абавязкова павінен быць, бачу фатаграфічна дакладна, але твару там няма; ён нібы засвечаны. Я магу пералічыць знешнія прыкметы – сярэдняга росту, хударлявы, сівавалосы, але ключ да апісання ляжыць не ў іх; хутчэй – у тым пласце ўспрымання, дзе ўражанне ўжо не звязанае наўпрост з тым, што мы бачым.

Другі дзед – толькі так; калі ты прамаўляў яго сапраўднае імя, табе здавалася, што ты кідаеш цыдулку праз узараную следавую паласу, што апярэзвае мяжу, але цыдулка заўсёды не далятае, падае на паўдарозе; ты клічаш чалавека па імені, але гук гэтага імя не спараджае паміж вамі ніякай узаемнасці, ніякай блізкасці; ананімны лічэбнік – Другі дзед – адказваў сапраўднаму твайму адчуванню.

Другі дзед не быў мне сваяком; сусед па дачным участку, сляпы дзед-садоўнік. Усё мінулае жыццё быццам бы сцягнуты жорсткім контурам армейскага ці нейкага іншага кіцеля, ён насіў цяпер толькі мяккія, адпавядаючыя вольнасці цела ільняныя тканіны; ён аслеп даўно, за дзесяцігоддзі да майго нараджэння; ён як бы прайшоў скрозь сваю невідушчасць, скрозь звычкі, занявольваючыя сляпога ў яго слепаце, і быў вольны ў няздольнасці бачыць; ён звёў сваё жыццё да некалькіх маршрутаў, галоўны з якіх быў з хаты на лецішча і назад, у побыце даверыўся хатняй работніцы – і з гадамі на слых і дотык стварыў у галаве вобраз тае ўсечанае прасторы, якую адвёў сабе для жыцця.

Па сутнасці, ён жыў на некалькіх выспах, дзе была цвёрдая глеба знаёмых гукаў, пахаў, дакранальных адчуванняў; ён жыў, можна сказаць, сярод гэтай глебы, успрымаючы яе ўсім целам, абапіраючыся на яе, і ў гэтым сэнсе яго становішча было нават больш устойлівым, чым становішча відушчага. Адзінае, што для яго было небяспечна – навізна. Новы масток праз канаву, новыя дзверы ў пад’ездзе, зменены прыпынак аўтобуса разбуралі той муляж, які Другі дзед выляпіў з гукаў і цялесных уражанняў; для відушчага гэткае разбурэнне непрыкметнае менавіта як разбурэнне, ён бачыць толькі змену, а сляпы бліжэй да сапраўднага разумення рэчаў: навізна – гэта смерць, абнаўленне – забойства; і таму, хоць і не толькі таму, Другі дзед ставіўся да мінулага больш сур’ёзна, чым іншыя людзі.

Кім быў Другі дзед раней, ніхто не ведаў; на дачных участках ужо амаль не засталося старажылаў, якіх можна было б распытаць. Дачнае жыццё схіляе да знаёмстваў, да калекцыянавання біяграфіяў і мясцовых знакамітасцяў – а гэта лецішча такога-та! – але Другі дзед заўсёды існаваў па-за гэтымі расследаваннямі.

Ён здаваўся прывабна нецікавым: на яго тле кожны здаваўся кімсьці крыху больш значным, чым быў на самой справе; Другі дзед ўяўляў сабой ідэальную выгарадку, размыты заднік сцэны, апафеоз непрыкметнасці – не сціпласці, не ўмення застацца ў ценю, а менавіта непрыкметнасці; сціпласць і ўменне не вытыркаць сябе – адметныя рысы, а ён якраз не меў адрозненняў.

Не мімікрыя, не маскіроўка, а ўсёеднасць існавання, поўная да ўсяго прымальнасць, незаўважнасць як вытворная ад няздольнасці ці нежадання хоць неяк пазначыць сябе, праз слова або ўчынак праявіцца ў пэўнасці ўласных рысаў. Другі дзед быццам бы жыў так, каб ніколі не звярнуць на сябе ўвагу жыцця, і дасягнуў у гэтым амаль манаскае дасканаласці.

Старшы бухгалтар якога-небудзь трэста; рэшткі звычкі кіраваць выяўляліся ў ім, але ўжо зусім слаба, калі ён па-асабліваму важна сядаў за стол,

узважваў у пальцах асадку, каб распісацца на квітанцыі; здавалася, што вочы яго за дымчатымі акулярамі з’елі лічбы. І толькі сёй-той з вясковых старых – лецішчы стаялі там, дзе калісьці быў грыбны ўскраек ляска за вёскай – казаў, што Другі дзед зусім не бухгалтар. Вёска дае іншы позірк на людзей, іншую чуласць да лёсаў, чым горад, там па-іншаму адчуваюць дачыненне чалавека да дзяржавы, калі б ён быў у мінулым толькі паштальёнам ці ляснічым – і старыя лічылі, што Другі дзед «з душком»; «казённым ботам пахне». Зрэшты, вясковыя далёка ў сваіх здагадках не ішлі – міліцэйскі рахункавод або гаспадарнік; казённы бот, на іх думку, пах слабавата.

Але дачнікі мералі меркамі не горада нават, а дачнага жыцця. Валоданне лецішчам у тыя часы і сярод тых людзей успрымалася як свайго роду амністыя, адпушчэнне мінулага, якім бы яно ні было; не ўяўных або сапраўдных грахоў, а мінулага як такога.

Мінулае жыццё рабілася пачастункам, які можна падаць як нешта неабцяжарвальна смачнае да гарбаты, да вячэрняй гутаркі; на лецішчах сяліліся жыць, каб перагледзець памяць, у рэтраспектыўным поглядзе перабудаваць яе, старанна і разборліва запэўніцца ў дабраякаснасці пражытага. Дачнікі адчувалі няпэўнае падабенства лёсаў, роднаснасць стаўлення да жыцця; апынуўшыся ў суседстве адзін з адным, яны раптам выявілі сябе як супольнасць: ім усім было што забываць, што падчысціць у мінулым; і дачнае існаванне ў гэтым сэнсе ўспрымалася як іншае – наступнае за ўжо пражытым і асобнае ад яго – жыццё.

Наўрад ці сярод таго, пра што яны хацелі б не памятаць, былі маральна непапраўныя ўчынкі. Не, хутчэй само становішча сярэдняй рукі начальства, якое прадугледжвала крыху большую маральную канформнасць, чым тая, якую чалавек можа праяўляць, не ўступаючы ў тлумачэнні з самім сабой, – вымушала іх цяпер прыняць паважны выгляд, ператварыцца ў маладжавых старых, якія невядома як сталі старымі, – старых пустых, ад якіх павявала празмернай увагай да цялеснага, як бывае ў атлетаў. Яны былі тымі абстрактнымі «пажылымі людзьмі», якім трэба саступаць месца ў электрычцы і аўтобусе, малюначкам да адпаведнага радка ў правілах праезду.

І вядома, пытанне, кім калісьці быў Другі дзед, проста не магло прагучаць у гэтым коле – гук не сустрэў бы паветра; там усе былі прыстойнымі людзьмі, і гэтае словазлучэнне – прыстойны чалавек, не годны, не добры, а менавіта прыстойны – было вышэйшай дачнай пахвалой. Па сутнасці, гэта і аб’ядноўвала ўсіх дачнікаў: яны здолелі выйсці з няпростага часу прыстойнымі людзьмі – гэта значыць людзьмі, пра якіх паводле розных прычынаў ніхто не скажа нічога кепскага.

На першы погляд лецішчы былі аазісам, астраўком прымірэння, спакою, дружалюбнасці. Але дзеці – дзеці адчувалі, што ўсё гэта паказное, няшчырае: нас занадта жорстка і дбайна выхоўвалі, не ведаючы ні даравання, ні літасці ў маральных пытаннях. У галовах у дарослых была выразна акрэсленая вобласць зацьмення, і калі гэтае зацьменне надыходзіла – скраў, схлусіў, не выканаў абяцанні, то пакаранне было гэткім жа неадпаведным – не па жорсткасці, а па гатоўнасці адмовіцца ад сына ці дачкі, імгненна стаць ім чужымі людзьмі, – што здавалася, быццам гэта не дзіця, а вораг, падманам пракраўся ў сям’ю, падменены ў радзільні.

Родныя разыгрывалі цэлую сцэну: ці наш гэта сын? ці нашая гэта дачка? І я памятаю, як адзін мой сябар, васьмі гадоў ад роду, не вытрымаўшы гэтых

пытанняў – разбіралася справа аб крадзяжы сліваў, – раптам падступіў да сваіх бацькоў і стаў гучна, уголас, паўтараць: я ваш сын! я ваш сын! я ваш сын! – і яны адступілі, яны не ведалі, што рабіць з хлопчыкам, які дрыжэў, бо згубіў сандалік, што расшпіліўся, які крычаў без злосці, без упартасці, з раптоўнай цвёрдасцю слабога: я ваш сын! я ваш сын! я ваш сын! – яны, дарослыя, баяліся ў гэты момант васьмігадовага дзіцяці, стаялі, маці, бацька і гаспадар саду, пакуль хлопчык не змоўк, не залез у канаву і не заплакаў.

Дзяцей нібыта рыхтавалі да жыцця, у якім кожны ўчынак дрэнны не сам па сабе, а таму, што ён кідае цень на родных, прымушае прыгледзецца да іх – хто выгадаваў дзіця такім? – а родныя вельмі не хацелі б, каб да іх прыглядаліся; у выніку ўзнікала вымарачная маральнасць, і ўсё насычалася ўзаемнай карэктнай двудушнасцю: заклік не хлусіць, суправедзены страхам, толькі памнажае хлусню і прымушае хітрыць у ёй.

Дзяцінства на тых лецішчах – іх даўно ўжо няма, яны сталі прыгарадам, памяняліся дамы, абнавіліся, сталі глухімі платы, – дзяцінства было школай двудушнасці; я не магу ў поўнай меры аднесці гэта да сваёй сям'і, да сем'яў некаторых з маіх таварышаў – але агульнае поле адносінаў было такім. Кожны з нас, дачных дзяцей, у той ці іншай ступені вёў падвойнае жыццё; і гаворка не пра таемныя свавольствы, парушэнні забаронаў, умаўчанні і вымушаную ўтоенасць. Мы – кожны па-свойму – былі адданыя родным, якія занадта ясна бачылі нейкіх іншых дзяцей, якімі мы не былі, аднак павінны былі стаць.

Зрэшты, я якраз удзячны дзяцінству; калі б не ўзмоцненая амаль да шызафрэніі навука раздвойвання асобы на таго, хто быў сынам, унукам, пляменнікам, сынам сяброў, хлапчуком-з-участка-насупраць, і на сябе самога, я б не стаў тым, кім стаў; і ўжо напэўна я не змог бы разгледзець, улавіць сапраўдную натуру Другога дзеда.

Аднойчы – я забягаю наперад – я зразумеў, наіўна, па-дзіцячы, што погляд – гэта люстэрка; мы бачым не людзей, а тое, як людзі адлюстроўваюцца ў нас; мне здавалася, што я адкрыў таямніцу, і заставалася толькі зразумець, як жа зайсці за ўласны погляд, як убачыць тое, чаго па ідэі ты бачыць не можаш.

І вось, абдумваючы гэта, я пачаў гуляць са сваім ценем: стараўся стаць так, каб па ім нельга было даведацца, што яго адкідаю менавіта я; падыходзіў да яблыневага пня, бочкі, пудзіла, уцягваў галаву ў плечы, хаваў рукі, імкнучыся, каб мой цень паўтараў іх цені; гуляў некалькі дзён, выбіраючы час увечары, калі цені выразней, гушчэй і даўжэй, гуляў бяздумна, не заўважаючы часу. І раптам, ужо стаміўшыся і толькі дурэючы, павярнуўся – і замёр: у мяне быў не мой цень. Я ўпусціў момант падмены і цяпер стаяў, баючыся зварухнуцца: а што, калі і рух не дапаможа, калі гэты чужы цень паўторыць яго, застаючыся чужым? Аднак я замёр вельмі нязручна, пераступіў нагамі, ледзь паспеўшы замружыцца, а калі расплюшчыў вочы, убачыў, што цень – мой.

Гульня набыла цяпер небяспечны сэнс: я свядома шукаў той стан узбуджанага забыцця, у якім настолькі загуляўся, аддаўся рухам, апошняму сонечнаму святлу, што на імгненне страціў прытомнасць і стаў чужым самому сабе; здабыў не свой цень.

Праўда, больш я гэтага стану не зведаў; тады я стаў вывучаць цені дарослых – гэта было ўжо не забавай, не гульнёй, а нейкім ходам спазнання. Мне здавалася, што цені іх розныя не толькі па абрысах: цень бацькі быў шмат большым за яго, і калі ён тушыў святло ў пакоі, пажадаўшы

добрай ночы, мне падавалася, што цень застаўся тут, раствораны ў цемры, разрослы і грозны, ён сочыць, ці сапраўды я сплю. Цень маці быў цякучы, музычны ў абрысах, здавалася, дакраніся да яго – ён адгукнецца напеўна, як віяланчэль; бабулін – мільготкі, як ваўняная пража, як вязальныя спіцы, – добры цень.

Але цень Другога дзеда я так і не змог адчуць; ён не адгукнуўся ўяўленню, колькі я ні стараўся нешта ўлавіць у ім; нельга сказаць, каб ён быў звычайным, пасрэдным, без зачэпкі для фантазіі; мне здавалася, што Другі дзед ведае, які ягоны цень, кіруе ім, сочыць, каб ён не сказаў пра яго лішняга, пастаянна падцягвае яго, як доўгае крысо плашча.

Зрэшты, гэта сюжэт на апярэджанне; мне трэба было толькі патлумачыць абставіны дзяцінства і ўсю завязку далейшай гісторыі – гісторыі паступовага ўваходжання Другога дзеда ў нашую сям'ю, майго нараджэння і маіх з ім асобных і асаблівых адносінаў.

Дачны ўчастак маёй сям'і суседнічаў з участкам Другога дзеда; агароджы паміж імі не было, заменай ёй служыла труба вадаправода, і неяк адразу атрымалася, што людзі, якія прадалі нам лецішча, перадалі з ёй і добраахвотны абавязак клапаціцца пра Другога дзеда. Уся раздзеленасць дачных участкаў, адлучанасць ад суседзяў трымаецца на бачных прыметах – на платах, на трубах, як тое было ў нас; што ж возьмеш з невідушчага? Так і выйшла, што перашкода не спрацавала, і адносіны з Другім дзедам пераступілі мяжу суседства.

Наколькі я магу меркаваць, відавочнага інтарэсу ў збліжэнні для Другога дзеда не было; слухачоў ён не шукаў, у таварыстве не меў патрэбы; усё адбылося быццам бы само сабой, Другі дзед нават тонка рабіў выгляд, што вымушана саступае суседскай таварыскасці. Цяпер я думаю, што для Другога дзеда збліжэнне было спробай: ён дзесяцігоддзі жыў замкнёна, аджываючы мінулае, і ўпершыню рызыкнуў блізка сысціся з незнаёмымі людзьмі, каб іх вачыма, іх пачуццямі праверыць, наколькі добра схавана ўсё, што павінна было быць схавана.

Зрэшты, гэта занадта простае тлумачэнне; прычынаў было больш. Здароўе Другога дзеда было цудоўным; прырода, адабраўшы зрок, нібы на доўгі час вычарпала гэтым належную ёй цялесную шкоду, і ўзроставыя хваробы абмінулі яго; толькі косткі ламала да непагадзі – калісьці ён, відаць, абмарозіўся, і цяпер арганізм загадзя папярэджваў пра халады; аднак Другі дзед шукаў – і знайшоў у маёй сям'і – людзей, сярод якіх ён мог бы памерці; і шукаў ён у першую чаргу не надзейнасці, не дапамогі «у выпадку чаго», а далікатнасці да чужых сакрэтаў.

Ён выбудоўваў адносіны – але не для жыцця, а для адкладзенай пакуль смерці; гэты ракурс, гэты паварот справы было складана заўважыць знутры адносінаў, і я магу меркаваць пра яго толькі ў памяці. Другі дзед не тое каб увайшоў у сям'ю, не тое каб навязаўся ва ўтрыманцы – наадварот, ён стараўся не быць у цяжар, не напрошвацца на блізкасць, і ўсё гэта без падкрэсленасці, без штучнасці, без націску на шкадаванне. Але была ў гэтым нейкая штучная дакладнасць тэатральнай ролі, калі акцёр не дапускае аніякіх адступленняў ад абранае методы.

Вядома, так можа паводзіць сябе і чалавек, бездакорна высакародны ў думках; аднак ён быў бы натуральны ў сваёй высакароднасці, а ўчынкі Другога дзеда заўсёды здаваліся нібыта адарванымі, адлучанымі ад яго самога: імі кіраваў толькі намер, а не ўнутраная немагчымасць зрабіць інакш.

Зрэшты, гэтая рэмарка з наступнага часу – а тады так ніхто не думаў; наадварот, наколькі я магу меркаваць, у сям'і казалі пра Другога дзеда як пра чалавека шчырага, хай і замкнёнага.

Другі дзед умеў быць карысным – узважанай парадай, патрэбнымі звесткамі; з ім з'яўлялася тое адчуванне дыхтоўнасці жыцця, якое ўзнікае, калі побач чалавек, які многае перажыў, прылаўчыўся існаваць сярод цяжкасцяў. Абодва мае родныя дзяды загінулі ў вайну, і Другі дзед паступова заняў месца старэйшага мужчыны ў сям'і, хоць сам сябе да сям'і адкрыта не прылічаў; ён не прэтэндаваў на гэтае месца, не стараўся выцесніць памяць пра родных дзядоў, наадварот, ставіўся да яе паважліва. Павольна, гадамі ён прышчапляўся: даваў саджанцы для ўчастка, вучыў прывіваць дрэвы, выбіраць самы жыццястойкі чаранок, зрошчваць яго са ствалом, абмазваць варам, даглядаць У першыя гады – і сам паступова зрошчваўся, далучаўся, быццам ведаў пра доўгую сілу часу, якая не трывае паспешлівасці, а дапускае толькі малое штодзённае намаганне, – так пішуцца тэксты, так вырашаюцца немагчымасці і супярэчнасці ў адносінах, – малыя высілкі, якія ствараюць і нарошчваюць поле; поле, якое спачатку прырастае колькасна, а з нейкага моманту пачынае валодаць уласнымі якасцямі, якія ўтвараюць новыя сувязі, новыя, раней немагчымыя падзеі, выпадкі, думкі і ўчынкі.

У канцы лета на дачы варылася сочыва – Другі дзед дапамагаў, мыў медныя тазы; нарыхтоўваліся саленні – ён падносіў апараныя кіпнем слоікі. Агрэст, парэчкі, яблыкі – летняя пладовая вільгаць, летні сок уварваўся, гусцеў, летні пладаносны час закаркоўвалі да зімы, да холаду і цемры; летнія духмяныя травы клаліся ў слоікі з агуркамі, памідорамі і патысонамі, імі перасцілалі ў вёдрах салёныя грыбы, якія пускалі пульхірковы, дзіцячы слінявы сок.

Сям'ю складае агульнасць адносінаў з часам у розных людзей, і Другі дзед быў паступова прыняты ў гэтае кола, прыняты спачатку як не чужы, а потым і як свой. Яму чыталі ўслых раманы, часопісы і газеты – ягоная хатняя работніца чытала драўляна, без інтанацыяў, кніга не пускала яе ў сябе, – а ён распавядаў нешта з мінулага, вельмі ўрыўкава, нібыта ўвесь час натыкаючыся на межы нейкай вобласці, пра якую ён загадаў сабе маўчаць, і ў маіх родных складвалася ўражанне, што там, у яго мінулым, – драма, несправядлівасць, можа быць, арышт, ссылка, тэрмін. Другі дзед любіў настольныя гульні, лато, карты, толькі нехта павінен быў сядзець побач з ім, дотыкамі рукі падказваючы, як хадзіць, і дачныя вечары пад кужэльным абажурам дзякуючы яму рабіліся вельмі правільнымі – такімі, якімі павінны быць вечары на лецішчы, дзе сабраліся людзі розных узростаў, дзе няма прабелу ў пакаленнях, дзе ўсе добрасардэчна звязаныя адзін з адным, бо ёсць той, чыя хвароба, немач ахайная і не прычыняе нязручнасцяў, каму лёгка і проста дапамагаць; каціліся па стале пузатыя бочачкі лато, клаліся на абрус карты, вечарэла, і было, напэўна, нават празмерна добра адчуваць, што вечар да кагосьці бліжэй, ад кагосьці далей; вечар жыцця.

Так – выключна сілай паступовасці – Другі дзед увайшоў у нашую сям'ю. Зрэшты, у справы чыста сямейныя ён ніколі не ўмешваўся; калі пры ім абмяркоўвалася нешта важнае, ён уладкоўваўся на крэсле так, каб было зразумела: ён мяркуе, што мае права прысутнічаць, а вось права голасу не мае; з кожным годам у такіх выпадках ён сядаў на крэсла ўсё больш упэўнена, міліметр за міліметрам набліжаючыся да той позы, у якой сядзяць не сябры дома, а дамашнія; ён стаў кімсьці накшталт натарыуса, і яго ўжо спецыяльна клікалі, калі мелася быць сур'ёзная размова.

Але вось аднойчы, калі мая маці была цяжарная мной, і лекары сказалі, што роды для яе будуць надзвычай рызыкоўнымі, і наўпрост параілі спарон; натуральна, гэта не абмяркоўвалася за сталом, але ўся сям'я ведала і перажывала. Ненароджаны, я як бы ўжо быў сярод людзей, ужо бабуля шукала па куфрах старыя пялюшкі і воўну – вязаць чэпчык і шкарпэткі; але ўсё вагалася, усё дваілася, і хатнія – са спазненнем – пастараліся быць стрыманымі ў словах, укарацілі, падабралі погляды; вырашалася жыццё, і ніхто не хацеў незнарок апусціць данізу не тую шалю вагаў.

Усе чакалі, што рашэнне саспее і разродзіцца само сабой; усё існаванне дома дэфармавалася, набракла, як жывот цяжарнай, налілося каламутнымі водамі чаканняў. Маці цвёрда думала нараджаць, але ў хаце ўжо сабралася занадта шмат нявыказаных перасцярогаў, няскончаных запытальных фразаў. І чым бліжэй падыходзіў дзень, пасля якога спарон ужо рабіць было немагчыма, тым з большым спалоханым і гідлівым здзіўленнем, – як перад слянкамі кунсткамеры, – частка родных, якія лічылі, што нараджаць не трэба, назіралі, як новае жыццё, пакуль яшчэ цалкам прыналежнае фізіялогіі і ў гэтым падобнае да хваробы, да пухліны, рыхтуецца з'явіцца на свет коштам магчымай смерці тае, што носіць яго.

Усе старыя разлады паміж дзвюма галінамі сям'і, мацярынскай і бацькавай, праявіліся ў той момант; сустрэліся дзве крыві, дзве спадчыннасці, і тое, што я – яшчэ ніхто, яшчэ толькі плод у лоне – рыхтаваўся нарадзіцца менавіта так, праз смяротную небяспеку, праявіла даўнія супярэчнасці; кроў ішла на кроў, род на род.

У бацьку – знікаючая, слабеючая кроў даўняй дваранскай дынастыі; трое маіх стрыечных дзядоў па бацьку зніклі без вестак падчас вайны – род, які пусціў карані ў васямнаццатае і дзевятнаццатае стагоддзі, гінуў, патрапіўшы ў чужародны для сябе час, як гіне арганізм у чужых умовах, і лёсы прыналежных да яго былі згубныя роўна ў той ступені, у якой чалавек нёс у сабе той род.

У маці – кроў паўднёвай сям'і, дзе дзяцей у кожным пакаленні нараджалася не менш за дзясятак, дзе яны заўсёды былі ў множным ліку і кожнае дзіця было ў большай ступені чыімсьці братам ці чыёйсьці сястрой, чым ён сам; дзе – калі збіралася ўся сям'я – сталы накрывалі ў садзе; дзе былі моцныя целам, гінулі, але не зніклі без вестак, як быццам злучанасць роднаснымі сувязямі, – па прамым сваяцтве, стрыечным, траюрадным, – нікога не пакідала без прыгляду, нікому не давала знікнуць без следу; нібыта кроў гэтага роду ў вядомым сэнсе грэбавала асобным чалавекам, і новыя адросткі ўзыходзілі, як трава пасля пакосу – утрая гусцей.

Дзве крыві, два родавыя лёсы перакрыжаваліся ўва мне; два мінулыя часы шукалі ўва мне дзеяслоў будучыні. І дзве роднасныя мне, але не роднасныя адна адной сілы, род маці і род бацькі, непрымірэнча сышліся між сабой: якім мне быць, у каго пайсці, і кожная гатовая была коштам смерці не дапусціць, каб верх узяла іншая. А людзі сталі толькі прыладамі гэтых сілаў, даннікамі крыві.

І я ведаю, што гэтая непрымірымасць, такая ж аб'ектыўная, як несумяшчальнасць бялкоў, непрымірымасць двух не супрацьлеглых, а неяк па-інакшаму розных і таму не ў стане сысціся ў адзінстве пачаткаў, і сёння складае супярэчнасць майго жыцця. Дзве любові, дзве нянавісці, два страхі – па маці і па бацьку. І пачуццё раз'яднанае ў сабе самім, і жаданне раздвоенае – два розныя жаданні аднаго і таго ж, што спрачаюцца і спаборнічаюць; і страх памнажаецца на два. Удвая больш сілаў, каб суцішыць,

здаволіць, насыціць; удвая менш упэўненасці, грунтоўнасці, цвёрдасці; дзве крыві – жыццеўстойлівасць і безабароннасць, прагнасць да жыцця і адкрытасць гібелі, – дзве крыві, дзве ўзаемавыключальныя спадчыны. І яшчэ тады, калі маці была цяжарнаю мною, яны схапіліся між сабою, завязаўшы вузел адкладзенай падзеі – родаў, што пагражаюць смерцю.

У той час да нас дамоў прыехаў Другі дзед. Пазбаўлены магчымасці бачыць тое напружанне схаванага канфлікту, якое праяўляецца ў позірках, жэстах, позах, дынамічна выбудоўвае агульнае поле рухаў, ён, аднак, заўсёды неяк іначай даведваўся пра сварку ці разлад. У тэмбрах галасоў, у гуках дома, якія змяніліся, – што ведаем мы пра тое, колькі можа сказаць сляпому рэзкі і дробны стук відэльца аб парцаляну, натужнае рыпанне дзвярных завесаў, вада, якая занадта доўга і гучна, супраць звычаю, льецца з крана на варыўні, – Другі дзед ўлоўліваў (як жывёлы загадзя чуюць землятрус, чуюць шум будучыні, бо ўсялякая катастрофа яшчэ і катастрофа часу, якая парушае плаўнасць яго плыні), – улоўліваў у гуках, што змяніліся, нейкую партытуру разладу. Маўчанне і цішыня для сляпога рэчавыя з'явы, для яго маўчаць, суціхаюць прадметы, і край крэсла або стала ёсць востры кут цішыні; Другі дзед адчуваў перамены ў маўчанні мэблі, штораў, люстры, дзвярэй, паркету; адчуваў – і быццам інжынер, кампазітар сталі і бетону, які чуе, што канструкцыя дзесьці гучыць не так, браўся шукаць гэтую вобласць пераменлівага гуку, вобласць каверны, сколу, надлому. Шукаў Другі дзед у роспытах – ён, верагодна, чуў не толькі словы, але і тое, як яны сутыкаюцца, у лоб ці па датычнай, размінаюцца, паглынаюцца атмасферай ці, наадварот, прымушаюць яе рэзанаваць; словы былі для яго тымі нябачнымі часцінкамі, чыё існаванне фізікі могуць вызначыць толькі па суме выробленых імі эфектаў, і вось гэтыя эфекты, інтанацыйныя, сэнсавыя, Другі дзед літаральна ўбіраў у сябе; ён распроставаўся, быццам бы слухаў целам, ператвараючы яго ў рэзанатар або радар, целам, яго паверхняю ўлоўліваў стоеныя токі падзеяў.

Даволі хутка – сям'я гадзіну як сядзела за сталом – Другі дзед, верагодна, зразумеў усю сітуацыю; адной абмоўкі пра тое, што маці не варта есці вострае, і тону, якім гэта было вымаўлена, яму было даволі, каб зразумець, што цяжарнасць для яе небяспечная. І тут – усе ведалі пра Другога дзеда, што ён бяздзетны, – ён нечакана, пасля доўгай задуменнасці, прамовіў словы, выказваючы ў іх усё тое, што складалася спакваля, уводзячы сябе гэтай прамовай у сям'ю на поўных і канчатковых правах сваяцтва.

Другі дзед казаў блытана, пераскокваючы з аднаго на другое, што само па сабе было дзіўна. У ягоных меркаваннях, пры ўсёй іх разумнасці і досведзе, заўсёды прысутнічала нешта завучанае, вучнёўскае; ён ніколі не думаў, не меркаваў пра магчымасці і верагоднасці, нібыта слепата прывучыла яго спадзявацца толькі на цвёрдыя – ва ўсіх сэнсах – факты. Гэтую цвёрдасць як уласцівасць ён цаніў, можа быць, больш зместу самога факта, з-за чаго рабіў ураджанне чытальніка энцыклапедыяў, аматара датаў, метрычных звестак і юрыдычных дэфініцыяў; але тут ён ступіў на незнаёмую раней глебу размовы пра жыццё як такое, і гэта надавала яго прамове дадатковае адчуванне шчырасці.

Ён казаў так, як загаворваюць зубны боль, – знарок паўтараючыся, адводзячы ад цяперашняга часу, у якім усё так ці інакш пра боль нагадвае; закалыхваў, супакойваў ненароджанае немаўля, нібы рабіў цяжарнай расслабляльны масаж. Ён пачаў чамусьці з трыццатых гадоў у вёсцы, дзе яму давялося жыць; там у пана раней быў велізарны яблыневы сад. У

старыя часы пан пускаў у яго вяскоўцаў, аддаючы ім трацiну ўраджаю, і хоць ён заўсёды прапаноўваў саджанцы, іх ніхто не браў – больш звыкла і працей было па восені збіраць яблыкі ў чужым садзе. А пасля рэвалюцыі сад стаў грамадскім, і кожная вясковая сям'я вырашыла мець у сваім двары яблыню; старыя садовыя дрэвы з каранямі выкапалі і на вазах павезлі ў вёску. Была восень, ураджайная на яблыкі, і жоўталістыя кроны яблыняў плылі праз палі, нібы сад вырашыў сысці з гэтых месцаў; ні адно дрэва не прыжылося – быў не той узрост, хоць у вёсцы выкапалі вялікія ямы, выклалі іх саломай і гноем; яблыні вымерзлі ў першую ж зіму.

Другі дзед гаварыў з крыўдай на яблыні, з крыўдай на законы прыроды, паводле якіх старому дрэву немагчыма ўкараніцца на новым месцы; потым стаў казаць пра Поўнач, пра нераст рыбы, якая ідзе з акіяна, пра тое, што ўвесь свет для яе становіцца сеткай рыбака, і яна імкнецца прарвацца праз сетку, праз тоні, венцеры, прабіцца праз парогі, пераадолець сілу сустрэчнае плыні, і такі магутны яе рух, што яна прарываецца – але прарываецца ў смерць, гіне, пакінуўшы прыплод, быццам бы існуюць тыя перашкоды, якія нельга перамагчы, не прымірыўшыся загадзя з будучай смерцю.

Але заўважым – па гэтых словах Другога дзеда нельга было зразумець, ці спачувае ён яблыням, рыбе, якая гіне ў сетках; то былі водгукі нейкіх ягоных думак пра сябе. Ён нешта задумаў і цяпер спрабаваў схіліць маіх родных да сваёй задумы, не называючы самой задумы. Ён амаль не паспяваў за ўласнай прамовай, ён занадта доўга, можа быць, дзесяцігоддзі вырашаў нешта, і цяпер энергія гэтых прыхаваных разважанняў, вызваліўшыся, лілася з яго, а ён толькі паспяваў ставіць на яе шляху плаціну за плацінай, мяняць рэчышча, падзяляць на пратокі, прыхоўваць маскамі ды іншасказаннямі, каб нешта, даўно сказанае самому сабе вельмі проста і ясна, не прагучала ў гэтай шчырасці.

Зрэшты, усё гэта слухалася і чулася інакш; тыя, хто сабраўся за сямейным сталом, адчувалі, што Другі дзед шукае нейкія падыходы да таго, каб зняць усеагульнае шматдзённае напружанне, трактавалі яго гаворку так, быццам ён казаў не пра сябе, а выключна пра сітуацыю, да якой зрабіўся датычным. Яблыні, якія перасталі пладаносіць, вымерзлі, рыба, якая гіне, аднераставаўшы – нешта цьмяна мігцела ў гэтым, і было незразумела, на якую шалю вагаў кладуцца словы Другога дзеда. Але раптам ён, апамятаўшыся, крута развярнуў размову: да ўсеагульнага здзіўлення, ён загаварыў, як бы раптам выказаўшы ўсе нявыказаныя перасцярогі – і адразу іх адкінуўшы. Ён сказаў, што абавязкова трэба нараджаць, медыцына цяпер добрая, а лекары дарэмна перастрахоўваюцца – і стаў пералічваць выпадкі родаў, калі немаўляты з'яўляліся на свет у трамвайным вагоне, лямпавым пакоі шахты, на кукурузным полі, у сярэднеазіяцкім стэпе ля касмадрома, у краме, у крэсле стаматолага, у бамбасховішчы. Больш уважлівы слухач зразумеў бы, што Другі дзед выхоплівае гэтыя выпадкі з паветра, бярэ месца дзеяння альбо са знаёмага яму жыцця, альбо з газетаў, але ён настолькі перапоўніў, перанасяліў пакой гэтымі нечакана народжанымі немаўлятамі, бясконцымі спазмамі родавых схватак, што ўвага слухачоў расфакусавалася. А Другі дзед ужо абяцаў уладкаваць маці ў самую лепшую бальніцу, у закрытую ведамасную клініку, абяцаў, што ўсё пройдзе ў найлепшым выглядзе, быццам сам быў акушэрам; ён казаў пра сябе, пра ўласную бяздзетнасць – я сам на сабе заканчваюся, і няма мне працягу – і гэтак ўпарта прасіў, маліў нараджаць, абавязкова нараджаць, нічога не баяцца, што нікому і ў галаву не прыйшло: ён просіць – для сябе.

З гэтай размовы ў сям'і ўсталявалася, што нараджаць – трэба; так сярод людзей, якія стаяць ля вытокаў майго жыцця, з'явілася фігура Другога дзеда. Родавыя схваткі былі вельмі доўгімі, маці спакутавалася мной; з кожнай гадзінай родаў ёй рабілася ўсё горш, нас трэба было хутчэй адлучыць адно ад аднаго, вызваліць яе ад мяне – але нельга было; пачаўся крывацёк, кроў не спынялася, і як казалі потым лекары, яны ў нейкі момант не ведалі, каго ратаваць – маці альбо дзіця. Я нарадзіўся часткова па чужым слове, нарадзіўся на валаску ад смерці, сваёй і маці; гэта была ўдача, выпадак, але заднім чыслом усё гэта ўмацавала веру ў добрыя прадчуванні Другога дзеда.

Так Другі дзед увайшоў у нашую сям'ю; так – негалосна – было ўстаноўлена, што я ягоны ўнук; праз мяне адбылася гэтая сувязь, праз мяне стварылася гэтае сваяцтва і мной потым трымалася. Сваім словам, сваёй жыццёвай сілай, што ўвасобілася ва ўпэўненасць, Другі дзед як бы адкупіў мяне ў не-існавання, зрабіў мяне – існым, адчыніў мне дзверы; сувязь выратавальніка і выратаванага, стваральніка – і створанага. І я быў у пэўным сэнсе аддадзены Другому дзеду; вельмі многія разлады між выхавацелямі адбываюцца з-за таго, каму належыць канчатковае права ўласнасці на дзіця, і вось гэта права ментальнай уласнасці, якое спараджае рабства больш тонкае, чым адносіны да чалавека як да рэчы, і належала Другому дзеду.

Зрэшты, у першыя гады майго жыцця ён не спяшаўся ім карыстацца; наколькі я разумею, ён самаўхіліўся, нібы ўзяў перадышку, калі асноўнае было зроблена. У дадатак ён неяк не вельмі любіў немаўлятаў, пазбягаў нават знаходзіцца з імі ў адным пакоі, нібыта яны яму былі агіднымі – агукаюць, смокчуць, плачуць, крычаць, не ўмеюць гаварыць; і ўвогуле на слых – няўцямныя істоты.

Ён, напэўна, чакаў, каб немаўля хутчэй вырасла, набыло розум і навучылася гаварыць – тады з ім можна размаўляць, ставіцца да яго як да маленькага дарослага – гэта значыць паводзіць сябе так, як Другі дзед паводзіў сябе з усімі людзьмі. Маленства ж патрабуе нейкага іншага стаўлення: зусім не абавязкова замілоўвацца, падлашчвацца, сюсюкаць, можна быць абыякавым, але ўнутры сябе адчуваць значнасць і маштабнасць таго, што здарылася; чалавека не было – і вось ён, пакліканы жыць. Уласна, праз немаўля і правяраецца здольнасць да сур'ёзных і бескарыслівых пачуццяў паміж людзьмі: яно яшчэ ніхто – і ўжо нехта зусім аўтаномны, адно сканцэнтраванае “я», якое гады будуць толькі разбаўляць. І калі дарослы сапраўды можа прасякнуцца падзеяй адкрыцця новага, прыналежнага толькі самому сабе жыцця, калі ў яго ёсць на гэта ўнутраныя слых і зрок – ён наўрад ці замахнецца ў адносінах на іншага чалавека; іншы для яго – мэта, а не сродак. А вось калі дарослому трэба абавязкова нешта рабіць з маленькім дзіцём, і ён не ведае, што, – тады можна ўбачыць у гэтым чалавеку шукальніка карысці і выгоды ў адносінах; з немаўлём не праходзіць ні адзін з яго звыклых спосабаў незаўважна кіраваць іншымі, і ён губляецца, трапляе ў дыскамфортную для сябе сітуацыю, якая пагражае выкрыццём.

І тое, што Другі дзед пасля майго нараджэння, якога ён так чакаў, самаўхіліўся, магло б даць пажыву разважанням; магло б – але не дало.

Я ўжо казаў, што Другі дзед жыў як чалавек без мінулага; адзін, знешні, недахоп – слепата – хаваў іншы: гэтую самую адсутнасць мінулага. Адбылося замяшчэнне – сляпога быццам бы няёмка, недарэчна пытацца, што

ён бачыў, як жыў, кім быў. Бо такія пытанні нагадваюць яму пра хваробу, пра страчанае здароўе, і Другі дзед схаваўся за сваю слепату гэтак натуральна, што ніхто не заўважыў манёўра. Ён не прыкідваўся нямоглым, не выпінаў сваю невідушчасць, патрабуючы асаблівага стаўлення – ён усяго толькі не бачыў, не бачыў з усёй сціпласцю ўсвядомленай і прынятай няздольнасці; не наракаў, не скардзіўся, і толькі я, пэўна, разумеў, што Другі дзед спецыяльна зрабіў сябе даважкам да ўласных невідушчых вачэй; ён наўрад ці мог вярнуць дар бачання, дыягназ перагляду не падлягаў, але пакора яго была няшчырай.

У ім была тая ганарыстасць, незнаёмая звычайным людзям, якія не ўяўляюць, што чалавек можа быць скульптурным злепкам сваёй пыхлівасці; пыхлівасці настолькі вялікай, што яе носьбіт палічыў бы за прыніжэнне выявіць яе; пыху – і пагарду.

Пасля я змог усё гэта ўбачыць толькі таму, што звычкі Другога дзеда, яго скрупулёзны самакантроль, утрая, у чатыры разы ўзмоцнены неабходнасцю ўлічваць выпадковы погляд, якога ён не заўважыць, усё ж былі разлічаныя на тое, як жывуць дарослыя; а яны не гуляюць у хованкі, не сядзяць ціхенька, дыхаючы праз нос, пад сталом, калі хтосьці ўваходзіць у пакой.

Другі дзед нібы забыўся, што ў доме з'явілася яшчэ адна пара вачэй. Ён ніколі, з самага нараджэння, мяне не бачыў, і, верагодна, я быў для яго спачатку чымсьці кшталту скразняку, які можа гаварыць. Ён мог толькі розумам адсочваць, як я расту, і няведанне майго аблічча, няздольнасць уразумець сабе маю сапраўдную асобу зрабілі мяне – у яго ўспрыманні – разумнай раслінай ці хатняй жывёлай. Другі дзед быў занадта засяроджаны на тым, каб заўсёды дакладна выглядаць перад дарослымі, утрымліваць у галаве разумовую карціну, пабудаваную па гуках – хто куды пайшоў, хто дзе знаходзіцца, хто адкуль можа глядзець, – і я «выпаў» з гэтай карціны, дакладней, да часу так і не з'явіўся ў ёй. Другі дзед не чакаў ад мяне праніклівасці, не паставіў на мне пазнаку магчымай небяспекі; ён мог меркаваць пра мяне толькі па размовах, якія вялі са мной дарослыя, і з гэтых размоваў – такая агульная ўласцівасць гутарак з дзецьмі, калі слухаць іх адцягнена, – мог паўстаць толькі вобраз маруды і незачэпы.

Калі б Другі дзед быў унутрана бліжэйшым да свайго ўласнага дзяцінства, калі б ягоная памяць не была настолькі перапоўненая падзеямі, якія засланяюць адна другую, ён бы, магчыма, зразумеў, што дзіцяці варта асцерагацца перш за ўсё; што няўважлівасць, якой мяне папракалі, на самой справе ёсць прыкмета іншага роду ўвагі: не звужанай, а пашыранай, бо ахоплівае і ўбірае ў сябе нейкую аблямоўку таго, што адбываецца, тое, што не месціцца ў сфакусаваны крышталік. Але Другі дзед – я здагадаўся пра гэта потым – пражыў такое жыццё, якое разводзіць чалавека з ім самім; і наўрад ці ён штосьці памятаў пра ўласнае ўспрыманне – у дзяцінстве.

Калі мне было сем гадоў, Другі дзед нарэшце прад'явіў свае правы на мяне. У апошнія дачныя дні – родныя ўжо выбіралі, якія гладыёлусы зрэзаць для школьнага букета – у мяне знайшлі вошы. Да школы заставалася ўсяго некалькі дзён, вывесці вошы за такі час было немагчыма; дарослыя сабраліся на раду, а я сядзеў у суседнім пакоі; я думаў, што мяне вырашаць коратка астрыгчы, і загадзя перажываў гэтую стрыжку: мала таго, што валасы былі, можа быць, маёй адзінай свабодай, але і самую справу стрыжкі я не лічыў нечым бытавым і бяспечным.

Маё ўнутранае хваляванне заўсёды было непамерна вялікім, калі трэба было стрыгчы валасы. Цыраваная прасціна, якой ухутвала мяне маці, здава-

лася старым саванам, яе бель пераставала быць звыклай беллю пасцельнай бялізны і набывала, – напэўна, таму, што прасціна была старая, засціраная, – тое адценне нябачнага змроку, які ўлоўлівае на белых смяротных покрывах: самі яны не кранутыя тленнем, але цень тлену ляжыць і на іх, быццам сонечнае святло ўбірае з паветра і пакідае на тканіне часцінкі той жа бэзавай сінечы, што праступае на абвостраных скулах нябожчыка.

Адзінота – пры позірку ў люстэрка – чалавечай галавы, аддзеленай прасцінай, блізкасць лёзаў нажніцаў, валасы, якія толькі што былі часткай цябе, а цяпер падалі на падлогу – і вось ужо змяталіся венікам; стрыжка здавалася мне маленькай смерцю. Я нават прыдумаў своеасаблівую іерархію, стрыжка ў ёй стаяла ўпоравень са смерцю коткі ці сабакі; жывёла гінула, а чалавека такая смерць не забівала, занадта яна была малая як доза – але я і сам быў невялікі і таму заміраў на крэсле. І дагэтуль я некалькі разоў праходжу, трывожачыся, паўз цырульню, перш чым зайсці ўнутр. Пахі мыла, пудры, пены, разагнаныя гарачымі хвалямі фена, салодкасць і ліпкасць – усё гэта адсылае мяне да чагосьці іншага, і два біблейскія сюжэты сплятаюцца ў адзін: Даліла абразае валасы Самсону, Саламея нясе на талерцы галаву Яна Прадцечы; адстрыжаныя валасы і аддзеленасць галавы ад цела – у гэтых вобразах угадана нешта пра жыццё і смерць, што дадзена ў перажываннях і дзіцяці; я толькі потым даведаўся, як падобныя адчуванні іншасказальна ўвасобленыя ў Кнізе.

І вось тады, калі трэба было нешта рабіць з маёй галавой, Другі дзед прапанаваў: пагаліць і нашмараваць газай.

Пагаліць. Нагала.

Мяне менш палохала тое, што задражняць лысым, будучыя насмешкі былі аддзеленыя ад мяне самім галеннем; яно было раўназначна і раўнасільна смерці, ужо не маленькай, як пры стрыжцы, а поўнапамернай, цалкам сапраўднай. Мяне збіраліся «абнуліць», зноў зрабіць немаўлём, гэта значыць пазбавіць таго нешматлікага, што было пражыта і бачна засведчана ў пастаяннай даўжыні валасоў.

І я спалохаўся яшчэ мацней, калі зразумеў, што дарослыя не запярэчаць Другому дзеду: яны нават рады, што ён прапанаваў тое, пра што яны думалі, але з жалю не адважваліся прапанаваць. Другі дзед як найлепш падыходзіў для такой прапановы: вошы, газа, пагаліць – ад гэтага пахла даўнім часам, беспрытульніцтвам, суровасцю ў сродках; калі б сказаў гэта хто іншы – дарослыя, можа, і заспрачаліся б, але тут была прывабнасць строгасці: хопіць ныць, пастрыжэм, уяві, што ты ў войску, там не пытаюцца, трэба ўмець пераадольваць непрыемнасці, вучыся трываць, для мужчыны справа патрэбная. Усё гэта казалася як бы па праве ўзросту і досведу, з той інтанацыяй павярхнёвых і таму жыццярадасных людзей, якія любяць фразу "не трэба рабіць з гэтага трагедыі". Такія ідуць у ваенрукі, у трэнеры, у настаўнікі фізкультуры, не любяць разявакаў і неахайных; ім здаецца, што і пачуцці павінны быць маладцаватыя, кароткія – тры хвіліны на развітанне; нішто іх не кранае, нішто не трапляе ў іх, усё гоіцца да вяселля. Другі дзед казаў менавіта так, дарослым, відаць, здавалася, што ён гуляе, што гэта слушны тон, які мяне падбадзёрыць, а ўва мне расло адчуванне, што справа не толькі ў стрыжцы; што Другі дзед вырашыў – а ніхто гэтага не разумее! – узяць мяне пад сваю ўладу.

Адчуванне гэтае мела перадгісторыю; я даўно заўважыў, што Другі дзед ставіўся да доўгіх валасоў раўніва і нават жорстка.

Ён, сляпы, адразу ж угадваў, што ў незнаёмай яму жанчыны, якая

ўвайшла ў пакой, валасы вольныя, а не сцягнутыя ў вузел. Жанчына, да прыкладу новая суседка, прыходзіла да нас упершыню, аднак Другі дзед нібы ўлоўліваў нябачнае абурэнне, якое зыходзіць ад распушчаных, кучаравых, доўгіх валасоў – і праводзіў рукой па сваіх сівых, астрыжаных «пад вожыка»; гэта азначала, што Другі дзед злуецца. У свабодзе валасоў, у лёгкасці раскіданых па плячах пасмаў ён, пэўна, улоўліваў смутную небяспеку: і сімвал, і крыніцу нейкай пачуццёвай свабоды – і таму надзвычай любіў, быццам забываючыся сваю мужчынскую прыроду, шпількі, заколкі, усю тую жалезную амуніцыю, якая закліканая ўтаймаваць, пазбавіць вольнасці жаночыя валасы. Хатняя работніца пры ім усё жыццё прахадзіла ў хустках, ён купляў ёй іх ці не з кожнай пенсіі; імі накрывалі тэлевізар, іх слалі на этажэркі, як маленькія абрусы, хатняя работніца ўпотай раздорвала іх, балазе Другі дзед не мог іх пералічыць; толькі шмат пазней я даведаўся, што аднойчы нібыта выпадкова Другі дзед прыпаліў яе валасы распаленымі шчыпцамі для завіўкі, якія ён занадта блізка паднёс да пасмаў.

Калі Другі дзед абдымаў мяне і гладзіў па галаве, яго рука зачэплівала валасы пад корань і рабіла такі рух, нібы сярэдні і ўказальны пальцы – лёзы нажніцаў. У нашым дачным доміку нажніцы віселі на цвіку за шафай, і Другі дзед часам падыходзіў праверыць – ці на месцы яны. Тое, што нажніцы віселі на цвіку, а не прыбіраліся ў скрыню камоды, стварала асаблівае адчуванне; яны былі старыя, зробленыя скабяной арцеллю ў дваццатыя гады, – кляймо яшчэ можна было разабраць, – счарнелыя, нібы ў метал за дзесяцігоддзі ўвабраліся свячны нагар, пячны дым, вугальны пыл; нажніцы віселі, быццам знак і напамін, знак улады. Роўным ім па сіле прадметам быў толькі аловак – раз у год, напярэдадні дня нараджэння, Другі дзед ставіў мяне да дзвярнога вушака, клаў на галаву кнігу, потым я адыходзіў, і па лініі кнігі Другі дзед праводзіў алоўкам рысу – наколькі я вырас, а затым рабіў па рысе засечку. О, як я баяўся гэтага алоўка, гранёнага, навостранага: мне здавалася, што аднойчы я не супаду з той меркай, якую Другі дзед загадзя азначыў мне, і мая віна – я не змог вырасці, дарэмна еў хлеб нашага дома – будзе такой вялікай, што мне нават ніхто нічога не скажа: проста адвярнуцца, і ўсё.

Нажніцы і аловак: калі б патрабавалася скласці герб, які ўвасабляе ўладу Другога дзеда нада мною, я ўзяў бы гэтыя два прадметы. Нажніцы і аловак, а яшчэ, можа быць, цыркуль: калі я ўпершыню ўбачыў у пакоі Другога дзеда гатавальню, убачыў аскетычную дакладнасць інструментаў, якія ляжалі ў ёй, сухапарую выцягнутасць іх ножак, я спачатку нават не ўцяміў, што гэтыя рэчы прызначаныя для чарчэння на паперы; я адразу падумаў, што прызначэнне іх – так бы мовіць, чарчэнне па чалавеку, антропаметрыя, і выказаў здагадку, што Другі дзед выклікаў мяне, каб зверыцца з дапамогай гэтых прыбораў з нейкім чарцяжом: прыдатны я быць чалавекам, ці няма ўва мне нейкае неадпаведнасці?

Такім чынам, я адчуў, што стрыжка будзе мець другі, дадатковы сэнс; што, выводзячы вошай, Другі дзед на самой справе хоча завалодаць мной, і стрыжаная мая галава ўяўлялася мне безвалосай галавой немаўляці. Можа быць, я не адчуваў бы так востра і балюча, калі б не яшчэ адно ўражанне – успамін.

Акрамя валасоў, другой загадкавай, асаблівай часткай арганізму былі пазногці; іх стрыглі маленькімі крывымі нажнічкамі, і для мяне гэта быў рытуал растання, рытуал росту і страты; на пазногцях часам з’яўляліся белыя плямкі, падобныя да зорачак ці аблачынак, і я гадаў па іх, думаючы,

што ў іх абрысах можна прачытаць знакі будучыні. Я ўжо ведаў, што пазногці растуць і пасля смерці, і таму лічыў, што яны – і на гэтым і на тым свеце аднначасова, што мы, таго не ведаючы, увесь час як бы стаім перад смяротнай заслонай і трапляем кончыкамі пальцаў за яе покрыва. І тыя белыя плямкі ды зорачкі – яны прыходзяць адтуль, са смерці, з адзінства часоў.

Я падносіў руку блізка-блізка да вачэй і глядзеў на пазногаць як на экран, небасхіл планетарыя, на які праецыруюцца – з таго, смяротнага боку – пасланні, цені надыходзячых падзеяў; таму нельга было проста стрыгчы пазногці, трэба было злавіць настрой і момант, зрабіць усё так, каб не спужнуць цені; пазногці здаваліся мне самай адчувальнай, – калі казаць пра прадчуванні і пра іншыя адчуванні, у якіх зведзены разам пачуццё і час, – і амаль забароненай, не прыналежнай мне часткай цела.

І вось вясновым днём, калі жабы адкладвалі ікру і ў лужынах свяціліся яе газавыя туманнасці, поўныя чорных кропак, з якіх узнікнуць апалонікі, я забег у дом да Другога дзеда; дом быў увесь прасвечаны, белыя плеценыя фіранкі ў дзвярных праёмах разгойдваў скразняк, і таму Другі дзед не пачуў мяне. Ён сядзеў сярод пакоя на дубовым зэдліку і стрыг пазногці на нагах; жоўтыя, як леташняе сала, урослыя ў пальцы, па-птушынаму крывыя пазногці. Другі дзед распарваў ногі ў місцы з цёплай вадой, пстрыкаў шчыпчыкамі; з той жа абыякавасцю да сябе можна калоць цукар або рэзаць каўбасу. І я ўразіўся: ён не толькі не бачыць знакаў, якія бачыў я, але і выказаць здагадку не можа, што такія знакі здараюцца; ён адшчапляе часцінкі сябе – спакойна, бессэнсоўна; ён сам для сябе – рэч.

Седзячы ў чаканні стрыжкі, – дарослыя раіліся, дзе дастаць газы, у лямпе засталося занадта мала, можа не хапіць, – я ўспомніў гэтыя імгненні; я ўпэўніўся, што Другі дзед хоча зрабіць мяне гэткім жа, як ён сам; рэч, рэч, рэч – круцілася ў галаве; я раптам убачыў пакой як змову рэчаў; маімі крокамі была натаптаная вузкая светлая сцяжынка – сярод цёмнага іх жыцця, і я зразумеў, што злоўлены; Другі дзед ведаў, з кім мяне пакінуць, каму мяне даручыць.

Ён адзіны з усіх дарослых сапраўды валодаў рэчамі; паміж ім і рэччу ўсталёўваліся адносіны менавіта ўлады, а не валодання альбо ўласніцтва.

Розніца ў тым, што валоданне і ўласнасніцтва забіваюць прадмет, ўкараняюць яго ў коснасці матэрыі; чалавек, па сутнасці, паўторна занявольвае рэчы, і так аддадзеныя яму ў слугаванне, – з-за страху, што ён страціць іх, што яны адмовяцца яму служыць, што імі завалодае нехта іншы; занявольвае, на самой справе не маючы над імі сапраўднай улады.

А ўлада – у дадзеным выпадку над рэччу – нясе ў сабе, як гэта ні дзіўна, крыху адухоўлення. Чалавек, у якога ёсць гэтая ўлада, не мае патрэбы ў праве ўласнасці: валодаючы ўладай, ён валодае любой рэччу, яна сама прызнае яго руку рукой гаспадара. Адухоўленне ж заключаецца ў тым, што такі чалавек як бы наўпрост звяртаецца да задумы, да сэнсу, увасобленнага ў рэчы, вызваляе яго.

Я бачыў, як Другі дзед браў калун – іржавы, з васкова ільсняным, рассохлым тапарышчам, і раптам рабілася ясна, што гэта яго калун; катэгорыя прыналежнасці была тут ні пры чым – проста Другі дзед і калун рабіліся адным арганізмам з плоці, дрэва і металу, чалавек падладжваўся да балансавання і цэнтроўкі інструмента, інструмент адразу ж схопліваў забытае прызначэнне ўласнай формы; я разумеў, што Другі дзед можа калоць цяпер, пакуль не трэсне дзяржальна калуна, але і тады калун –

калі б рэчы маглі гаварыць – будзе дабраслаўляць рукі Другога дзеда, якія падарылі яму на час сэнс існавання.

Так было не толькі з інструментам: Другі дзед мог узяць чужую асадку, лыжку ў чужым доме – і ў мяне было адчуванне, што ён пакідаў гэтыя рэчы ашчасліўленымі, пакідаў як завербаваных праз ідэю, праз перакананні агентаў, і цукарніца, адкуль ён дастаў кавалак рафінаду, была ўжо гатовая цягнуць свой шкляны жывот на кароткіх нікеляваных ножках да тэлефона, каб паведаміць Другому дзеду, што пра яго казалі за сталом, калі ён сышоў. Здавалася, што рэчы самі шукаюць заступніцтва Другога дзеда: яны падалі яму пад ногі, каціліся да яго па падлозе; ён, сляпы, пастаянна нешта знаходзіў і ніколі нічога не губляў; за любой з нешматлікіх стратаў урэшце рэшт выяўляўся чыйсьці промах ці недагляд.

Я быў адзін у пакоі; я быў не адзін; рэчы – выведнікі, слугі Другога дзеда атачалі мяне. Я быў злоўлены; я баяўся нават падумаць пра тое, каб уцячы. Здавалася, абіўка канапаў, старыя шторы – усё прыпадобнілася драпежнай расліне расянцы, наэлектрызавалася, выпусціла найтонкія ніцяныя вусікі і слухае мае ўнутраныя ваганні; пастка – я быў у пастцы, – я ведаў, што паставіў яе Другі дзед, я нават падумаў, ці не падпусціў ён мне вошай, ён сам распавядаў, як беспрытульныя падыходзілі на вуліцах са скрыначкай вошай і прапаноўвалі: альбо абсыплем, альбо давай грошы; я стаў шукаць дзірку, праз якую мог бы ўцячы – і яшчэ глыбей уграз у адчуванні злоўленасці, злучыўшы сябе і мышэй, чыімі ходамі быў прасвідраваны дом, мышэй, чыёй непрыкметнасці я пазайздросціў.

Другі дзед вынішчаў мышэй; некаторыя дарослыя лічылі гэтае паляванне праявай яго схільнасці да парадку: мышы ў гэтым выпадку выступалі як нешта іррэгулярнае, дробнае і шкадлівае; іншыя – яны думалі, што бачаць глыбей і дакладней, – меркавалі, што мышы занадта памятныя Другому дзеду па часах, пра якія ён нічога не распавядае; што ў вобразе мышэй, якія падкрадаюцца да цукру і крупаў, Другому дзеду мроіцца нэндза ягонага мінулага.

Але я бачыў, што ён знаходзіў асаблівае, іранічна-жудаснае задавальненне ў тым, што мышы гінулі ў пастках, пастаўленых ім, сляпым; што не трэба бачыць норак, прабробленых грызунамі, шукаць правільнае месца, дзе размясціць пастку, падбіраць асаблівую прынаду – дастаткова проста паставіць пастку, і мыш знойдзецца сама, быццам яе прыцягвае не прынада, а менавіта пастка, прыцягвае самім фактам свайго існавання. Другі дзед не мышэй знішчаў, яны, мусіць, былі яму абыякавыя – ён зноў і зноў шукаў пацверджання інтуітыўна адкрытага ім закона: важная пастка, а не дзічына, важна ўзвесці спружыну, прыпадняць зубчастую дужку, і ахвяра з'явіцца – з прычыны адной толькі наяўнасці пасткі.

Цяпер у пакоі – за дзвярыма ўжо маўчалі, згаварыліся наконт газы, вось-вось паклічуць мяне – я адчуваў, што меў рацыю; у Другога дзеда была свая пастка на кожнага чалавека. І я зразумеў, што калі дам астрыгчы сябе, сяду на крэсла, ахінуся прасцінай, над вухам металічна зачмякаюць у пасмах нажніцы, валасы смеццем пасыплюцца ўніз, а потым скуру на галаве кране сіняватае, звонкае, калі пстрыкнуць пазногцем, адпаліраванае аб замшавы спод рамяня лязо небяспечнай брытвы, – я пазбаўлюся будучыні. Будучы час – у перададчуванні – адняўся, закамянеў, страціў бачную перспектыву; ён адняўся і ў мове, дзеясловы нібы сталі на трацiну лягчэй па важкасці слова. Я адчуў, што калі лёзы нажніцаў рассякуць час на «да» і «пасля», «пасля» будзе чужым мне, але я не буду ўжо ведаць,

што яно – чужое, ужо не ўспомню, як баяўся, хацеў збегчы, думаў пра пастку. Зрабіць па-свойму, не дацца было нават не праявай уласнай волі; не воля – жыццё супраць не-жыцця, у якой мяне можна ўзяць, як рэч, астрыгчы – прысвоіць.

Раптам ува мне з'явілася перш невядомае адчуванне *прысутнасці духу*, быццам у гэты момант вырашалася ўся будучыня адразу, і чалавек, часткай якога я быў і буду ў кожны момант жыцця, уступіў у сціснутае імгненне сапраўднага, у пакой-пастку – і пастка трэснула, рассыпалася. Не трэба было ні смеласці, ні мужнасці – адно толькі прысутнасць духу; я ўбачыў, што я больш працяглы, чым любы момант сапраўднага; і гэтая працягласць «я» ў трох часах выгнала страх, разамкнула змову рэчаў.

Валасы – рост – час; лязо і рэмень; яшчэ хвіліну таму я думаў лязом разануць па горле, на рамяні засіліцца; але цяпер я проста выйшаў з пакоя. Дарослыя сказалі мне, каб я сеў за стол, але я паабяцаў вярнуцца праз пяць хвілінаў; яны засталіся ў доме, а я адкінуў кручок на брамцы і сышоў у лес.

Гэта былі не ўцёкі; я шмат разоў уцякаў, затойваўся, хаваўся, але ў той раз мне проста трэба было дайсці праз лес да поля. Адбылося нешта, чаму патрэбна была прастора, каб яно здарылася да канца, загаілася, задыхала ўва мне, і я ішоў да поля; на ім расло год за годам жыта, быў сыход лета, поле яшчэ не прыбралі, і я хутка пераступіў праз вывернутыя, парэпаныя земляныя губы вогнеахоўнае паласы.

У сухіх травяных люльках спалі зерняткі; дарога звівам уразалася ў поле, як доўгі язык, і знікала за краем; за лесам кранулася, стала набіраць ход, заспявала электрычка; і я адчуў, што я адзін; мабыць, упершыню адчуў гэта без спалоху, без інстынктыўнай унутранай аглядкі – дзе ж дарослыя.

Мяне шукалі; мне казалі потым, што Другі дзед дакараў сябе, паўтараў, што ўсё з-за яго; што ён спалохаўся так моцна, быццам бы аднойчы ўжо прапанаваў нагала пастрыгчы нейкага хлопчыка і абмазаць яму галаву газай, а з хлопчыкам пасля гэтага адбыўся няшчасны выпадак, ніяк не звязаны са стрыжкай, але дзве падзеі стаялі гэтак блізка, што воляй-няволяй аказваліся ў сувязі; Другі дзед падняў усіх, пагнаў на пошукі, але пры гэтым не перажываў пра крыўду, нанесеную мне; здавалася, крыўда яго не хвалявала – яму трэба было толькі пераканацца, што я жывы.

Пасля ўцёкаў Другі дзед на некаторы час перастаў мяне заўважаць; здаецца, ён зразумеў, што я ўсвядоміў патаемны сэнс яго намеру, і цяпер мы былі з'яднаныя гэтым веданнем; родныя гаманілі пра маю ўражлівасць, пра недазваляльную дзіцячасць, а Другі дзед маўчаў; ён, верагодна, разумеў, што я буду пра яго думаць, буду на свой страх і рызыку дашуквацца тлумачэнняў таго, што адбылося; ён быў упэўнены, што я не загавару пра гэта з іншымі дарослымі, – адна справа спалохацца стрыжкі, іншая – нават проста намякнуць, што ў чымсьці падазраеш Другога дзеда.

Ён пачаў паводзіць сябе так, каб мы часцей аказваліся адны. Я памятаю пакой на лецішчы, дзе на падлозе былі абрэзкі дывановых дарожак, набытыя, напэўна, у нейкай гасцініцы, калі іх спісалі, – бардовыя, з цёмна-зялёнай аблямоўкай; імі былі высланы ўсе пакоі нашага дома, да іх прывыклі і не заўважалі, што з імі ў дом пракраліся нячутныя крокі, доўгія калідоры, на якіх няма дзе прысесці. Дарожкі – іх дастаў па сваіх знаёмствах Другі дзед – прымушалі згадваць, вядома, не гасцініцу, а райкам, міністэрства, а то і ведамства, якое лічылі за лепшае не называць; Другі дзед, можна сказаць, уступіў у дом па гэтых дарожках – такі падарунак,

такая паслуга! – але мне здавалася, што ён паслаў іх сабе як нешта больш звыклае падэшвам, чым фарбаваныя дошкі.

Я памятаю гэты пакой, дзе я застаўся адзін – мне трэба было зубрыць ангельскую, якой мяне вучылі летам, а Другі дзед увайшоў, спыніўся каля вакна. Ён не рабіў выгляд, што проста ішоў міма, не маскіраваўся якой-небудзь патрэбай – проста стаяў, дазваляючы мне разглядаць сябе; я павінен быў убачыць у ім нешта, уцягнуцца ў нейтральнае нібыта разгляданне, паступова скараціць дыстанцыю між намі, падыходзіць – у поглядзе – усё бліжэй і бліжэй; так вялікая рыба, шырока разявіўшы рот, замірае ў вадзе, каб дробная рыбінка сама заплыла ўнутр.

Так і пайшло далей: Другі дзед больш не спрабаваў уздзейнічаць на мяне наўпрост; толькі ўзнікаў на перыферыі зроку то ў хаце, то ў садзе, нібы спрабаваў замыліць вочы – ці, насуперак уласнай незаўважнасці, па частачках запасці ў сятчатку. Неўзабаве я выявіў, што ў шмат якіх імгненнях пражытага дня, калі браць іх паасобку, як кадры, з'яўляецца ён. Пры гэтым Другі дзед не стараўся абавязкова пазначыць сваю прысутнасць – нібы разлічваў менавіта на перыферыйны зрок, ведаў, што ён – шчыліна, праз якую можна ўпотай пракрасціся ў свядомасць, проста зрокава паўтараючыся. Убачанае мімаходзь, няўважна, па-за сферай накіраванае ўвагі ўсё-ткі трапляе ў агульную плынь успрымання, але пераносіцца ў ім неспазнаным, назапашваецца і можа аднойчы ўчыніць пераварот у свядомасці.

Другі дзед правільна ўсё разлічыў, але недаацаніў мой спалох ад намеру пагаліць мяне; вядома, боязь з часам аціхла, але асцярога засталася, і, спрабуючы цяпер паводзіць сябе інакш, але зноў з нейкім падвойным дном, ён толькі насцярожыў мяне і, па сутнасці, сам даў пачатак майму перакананню ў адчуванні і думцы.

Калі мы кажам пра дзіцячую жвавасць успрыняцця, нам здаецца, што жвавасць – гэта амаль сінонім гарэзлівасці; што яна нешта жывое – у сэнсе пераменлівае, захапляльнае, непастаяннае. Але, можа быць, дзіцячае ўспрыманне менавіта жывое, гэта значыць надзеленае не дарам тонкіх адрозненняў, а дарам – гульня ў "горача" і "холадна" ў гэтым сэнсе не выпадковая – адчуваць, што жывое, а што не ў быційным сэнсе; праходзіць за падмененае аблічча, адчуваць не нюансы, а самую прыроду чалавечых адносінаў.

Вось гэтае ўхопліванне прыроды адносінаў, уласцівае дзіцяці, пазнаванне жывога і не-жывога і звязала мяне з Другім дзедам невырашальнай у той час сувяззю.

Я адчуваў, што ён унутрана мёртвы, разлучаны са светам жывых; не прывід, не дух, а грунтоўны, цялесны нябожчык, які доўга жыве (а што яму зробіцца); але пры гэтым у яго стаўленні да мяне быў дзіўны клопат, і, на свой манер, прыязнасць. Ён – можа, неўсвядомлена – спрабаваў выхаваць мяне, каб развязаць нейкі вузел у мінулым, вырашыць нейкую драму, якая зрабіла яго тым, кім ён быў. У гэтым жа часе тлумачэнняў яго ўчынкаў, ад спрыяння майму нараджэнню да стрыжкі і вывядзення вошай газай, па вялікім рахунку, не існавала. Родныя прывыклі ўспрымаць цяперашнія падзеі як дадзенасць і не асабліва дашуквацца іх прычынаў, але варта было паглядзець пад іншым вуглом – і ўся гісторыя паміж Другім дзедам і мной аказвалася лішняй, дадатковай, як валляк або апендыкс; ён цалкам мог бы пражыць, наогул ніяк са мной не яднаючыся, і ніякія абставіны не змушалі яго да збліжэння.

Я адчуваў, што жыцця, жывога ў адносінах Другога дзеда да мяне няма;

але было нешта іншае – безназоўнае; што – я змог зразумець толькі праз два дзясяткі гадоў.

Мяне любіла жанчына; яна прызналася мне ў сваім пачуцці і, не сустрэўшы ўзаемнасці, некаторы час надзвычай настойліва дамагалася яе: тэлефанавала ноччу, пісала лісты ад імя маёй сяброўкі, а потым кінула, і я падумаў, што жарсць яе вычарпалася ці яна знайшла кагосьці іншага.

Праз некалькі гадоў яна загінула ў катастрофе, яе не адразу апазналі, мы, яе таварышы па працы, сталі шукаць яе; разам з участковым адчынілі кватэру – раптам нешта здарылася ў доме.

Убачыўшы тое, што было за дзвярыма, я папрасіў, каб мае спадарожнікі выйшлі, выйшаў і міліцыянт.

На вешалцы ў пярэднім пакоі вісеў мой шалік; ён знік з агульнай распранальні нашай установы, ношаны ўжо, недарагі, і я не мог зразумець, каму ён спатрэбіўся. На стале, на падваконнях ляжалі лісты з пазнакамі, зробленымі маёй рукой, чарнавікі навуковых працаў. Усё, што можна як бы няўзнак папрасіць, незаўважна ўзяць, яна сабрала ў кватэры: мае аўтаручкі, запальнічку, пачак цыгарэтаў; дыскі з музыкай, бірулька, кніжка правілаў дарожнага руху, каляндарык, пяцьсот рублёў з надарваным куточкам, якія яна пазычыла, сказаўшы, што на таксі.

З гэтых дробязяў яна стварыла фантом маёй прысутнасці. Тут яна пражывала сваё сапраўднае жыццё – са мной, а ў звычайным жыцці была толькі ценем, які ўсё адсочвае. І я зразумеў раптам, наколькі вялікім было пастаяннае напружанне, якім яна – з нязначных рэчаў! – стварала гэтае быццё двайніка.

І тут жа я адчуў, што вакол мяне збіраецца мутны пазвоньваючы віхор; усё, што не адбылося з ёй, але сілкавалася моцай яе змрочных пачуццяў, пераўтвараецца ў падабенства існавання, у якім выяўляецца ўся шчыльнасць яе надзеяў, болю, пакутаў; затым разувасабляецца – і ў апошнім імкненні быць, ужо кранутае тленнем, знявечанае, усё ж кідаецца да мяне, спрабуючы выклікаць у адказ пачуцці і тым выратавацца, перарадзіцца.

У гэтым віхры перада мной адкрылася яе ўнутранае існаванне: згорнутыя ў тугое спляценне жаданне, жарсць, рэўнасць. Там, унутры, было іншае жыццё, у якім я быў рабом гэтай жанчыны, тым больш паслухмяным, чым менш мы былі блізкія на самой справе. Там караніліся тыя сілы, што вызваліліся пасля яе смерці; яны былі надзеленыя зрокам, які не бачыў іншых людзей ці ўвогуле сляпымі, асляпленымі пры нараджэнні яе безразважлівым выбарам, які адмаўляў іншых мужчынаў. Бязвокія ганчакі, яны знаходзілі след адным нюхам, спяшалі выканаць сваё прызначэнне, перадаць мне жарсць, што спарадзіла іх – і адначасова прыляпіцца да чаго-небудзь у гэтым свеце, свеце жывых.

Яна забіла сябе пры жыцці, знішчыла цалкам, каб жыць толькі адным мной, і таму каханне яе было каханнем нябожчыка; нейкім амаль тагасветным эквівалентам пачуццяў, здольным, аднак, удзельнічаць у спляценнях лёсу.

Стаўленне Другога дзеда да мяне мела менавіта такую прыроду. Тады, у дзяцінстве, я адчуваў толькі гэтую безыменную, невядомую сілу; я і ўявіць не мог, што ў галаве Другога дзеда разгортваецца нейкае іншае жыццё, у якім мне адведзена галоўнае месца, і ён, як – праз гады – тая, што кахала мяне, жанчына, ужо не суадносіць яе з рэчаіснасцю. Там, у ягонай галаве, – слепата ў гэтым выпадку грала яму на руку, – я ўжо быў тым, кім ён прызначыў мне быць; і тое, як ён паводзіў сябе ў рэаль-

ным жыцці, – я прымаў гэтыя паводзіны за адзіна існае, – было толькі ўрэзаным, частковым адлюстраваннем ягонае выдумкі.

Другі дзед асцярожна набліжаў мяне да сябе; ён папрасіў, каб у шпацырах і справах, калі ёсць магчымасць, я суправаджаў яго, і атрымаў згоду бацькоў. Я не проста стаў яго павадыром – я вымушана праходзіў яго дарогамі, рухаўся яго арбітамі. Іншым здалося б, што я вяду яго, сляпога, але на самой справе ён вёў мяне; мы маглі пайсці ў грыбы, я шукаў белыя або чырвонагаловікі, Другі дзед нёс кошык, і сустрэтыя грыбнікі замілоўваліся, хвалілі мяне за ўдзел і клопат; але я ж ведаў, што сляпы – я, а Другі дзед бачыць, што робіць, бачыць невядомыя мне ўласныя намеры. У лесе ў гарачы дзень ліпла на твар павуцінне, і мне здавалася, што гэтае павуцінне – арэчаўленыя задумы Другога дзеда, і я змахваў яго, мыўся чорнай гнілой вадой з ямаў, абы толькі не адчуваць гэтыя ніткі; у раннія прыцемкі – мы маглі гуляць доўга – лес пераатвараўся ў напластаванні ценяў, паміж ствaламі ўзнікалі чарнільныя крынічкі цемры, і я нават супакойваўся – цяпер не трэба было чакаць падвоху, сыходзіла пакутлівае адчуванне, што сонечны дзень – толькі падманка, што мы ўдвох ідзем нейкай іншай прасторай, якая толькі бачыцца светлай. Я брыў за бялеючай у прыцемках фігурай і ведаў, што менавіта так – цемра, бясформнасць, нябачныя дотыкі траваў і галінаў – і выглядае насамрэч усё вакол.

Мой узрост аддаваў мяне Другому дзеду; што б ні здарылася, паверылі б яму, а не мне. І Другі дзед, не спыняючыся на тым, што зрабіў мяне павадыром, стаў паступова весці са мной асаблівую гульню. Пачалася яна аднойчы ля калодзежа; мы пайшлі па ваду, Другі дзед круціў калаварот, а я наліваў вёдры. «Хочаш, ты сядзеш у вядро, а я апушчу цябе ўніз, – сказаў Другі дзед . – З калодзежа нават днём відаць зоркі».

Я паглядзеў у калодзеж. Было горача, хмаркай навісалі слепні – паўз нас нядаўна прагналі кароў; усё зіхцела, награвалася, спякалася; свет свярбеў, як расчасаны ўкус, успухаў пухіром, кусаўся крапівой, пыліў, горача мігцеў, а пад дашкам калодзежа, адкінуўшы дзверцы, ты адразу, без пераходу, апынаўся як бы ў падысподзе гэтага разгарачанага свету.

Мяне заўсёды трохі страшыла калодзежная вада – здавалася, што яе нельга піць, пакуль яна не пастаяла на святле, не прывыкла да паветра, да прасторы. Вядро накрывалі вечкам, а я ўпотай здымаў яго, каб вада не затаіла ў сабе тое, чым насыцілася пад зямлёй; бацькі аднойчы распавялі мне, што такое грунтовыя воды, як яны накапліваюцца, цякуць па схілах вадатрывалых пластоў, утвараюць падземныя рэкі і азёры; іншы ландшафт адкрыўся мне, іншы свет, у якім – таямніцы кругазвароту рэчываў, усё, што змыта, знесена, растворана, усё, што бачыла вада празрыстымі тугімі зрэнкамі кропляў; там – спарахнелае апалае лісце, расталы вясной снег, пазаўчарашні дождж; там пад сапраўдным – мінулае, якое цячэ сваімі шляхамі, і калодзежная вада ў вядры здавалася іншай, чым вадаправодная – больш шчыльнай, падобнай да трапяткога злітка, нібыта ў ёй большая сіла прыцягнення малекулаў. І вось Другі дзед прапанаваў мне апусціцца туды, у круглы створ калодзежа, у холад учарашняй вады.

Я баяўся апынуцца там, ля вады, якая яшчэ не пеpажыла пад'ём наверх, яшчэ падземнай, цёмнай. Другі дзед сказаў: калі не хочаш спускацца, проста выпі вадзіцы – горача. Мне забаранялі піць ваду з калодзежа, каб не прастудзіўся, і прапанова Другога дзеда выглядала гэткім зразумелым жэстам: пі, пі, усё роўна ж п'еш, калі ніхто не бачыць, чаго ўжо хавацца; але я ж ведаў пра сябе, што ніколі не піў такой вады.

Ля калодзежа быў прымайстраваны на ланцужку бляшаны кубак, Другі дзед зачэрпнуў яго напоўніцу і працягнуў мне.

Колькі іх было потым, кубкаў на ланцужку, – ля калодзежаў, ля тытанаў у "пяцьсотвясёлых» цягніках, ля цыстэрнаў на казахстанскіх рудніках; вада ў іх – то аддавала гніллю, то дзясятак разоў пракіпячоная, то з прысмакам іржы; арыштанцкі, кайданны кубак, памяты, падрапаны, абматаны брудным пластырам, з няроўным дном і бліскучым ад дотыкаў вуснаў краем; але то быў першы, самы запомнены кубак. Я не адважыўся адмовіцца і спачатку трохі адпіў; ледзяная вада апякла вусны, як метал зімой, а Другі дзед пачаў распавядаць, што далёка на поўначы вада і летам бывае настолькі халоднай, што ў чалавека спыняецца сэрца; гэта не вада ўжо, а сам холад. Я піў з кубка, а Другі дзед чакаў; потым ён зачэрпнуў яшчэ і выпіў сам.

З таго часу, з той фразы пра ледзяную ваду поўначы між намі канчаткова ўсталяваліся дзіўныя, поўныя недагаворак, паўзаў, доўгіх напружанняў адносіны. Другі дзед нібы абраў мяне ў малодшыя таварышы, у любімчыкі, загадзя ведаючы, што я амаль нічога не зразумею ў тым, што прытоенымі намёкамі, змоўчаннямі, загадкамі будзе шчыра распаведзена мне; менавіта мая няздольнасць зразумець, здаецца, і спакушала, вабіла яго распачаць са мной расцягнутую ў часе размову.

Часам ён даваў мне «адпіць з кубка» – быццам бы прычашчаў мяне, дазваляючы глыток мінулага, якое я не мог ні дакладна ўявіць, ні ўбудаваць у больш аб'ёмную карціну. Другі дзед распавядаў пра палярную ноч, калі людзі вар'яцеюць і выратавацца можна толькі выняўшы схаваны загадзя, выразаны з часопіса чый-небудзь партрэт – новы твар; пра горы, якія заўсёды схаваныя густымі аблокамі – падчас вайны там разбіваліся нямецкія самалёты; пра мошак і гнюс, што прабіраюцца пад любую маскітную сетку, поўзаюць па твары і шыі, шукаюць мёртвае мяса. Усё гэта было як бы падабрана, падагнана пад мой узрост – далёкія краі, незвычайныя выпадкі, – але чым больш распавядаў Другі дзед, тым мацней я адчуваў, што ўсё расказанае – не больш чым краёчак канверта; Другі дзед паслядоўна і няўхільна расстаўляў загонныя сцяжкі, разгортваў маё ўспрыманне ў патрэбны бок; накідваў контуры невядомага мацерыка, Атлантыды, якая ўсплыве па ягоным загадзе, і паступова рыхтаваў мяне да магчымасці ступіць на яе зямлю.

Часам ён нічога не казаў, а як бы перапыняў утрымліваць той вобраз, які выстаўляў напаказ, і гэта былі імгненні збянтэжанасці. Рысы Другога дзеда не мяняліся, але прыпынялася выпраменьванне прывычнасці, і перад маімі вачамі паўставаў незнаёмы чалавек.

Так бывае, калі ў крайнім бяссіллі глядзіш на таго, каго даўно ведаў, але ты зусім зняможаны – і спыняецца стваральная праца позірку, якая падаўжала цэльнасць знаёмага аблічча; перад табой з'яўляецца нехта новы, незнаёмы.

Аднак тут мой зрок не губляў яснасці і сілы, не «прасядаў» – гэта Другога дзеда адпускала жорсткае, выварочваючае, як сутарга, унутранае напружанне, і можна было ўбачыць іншага старога, які сядзіць унутры Другога дзеда.

Гэта здаралася дзе заўгодна – у тамбуры электрычкі, у чарзе да лекара, у лесе, на сажалцы. Другі дзед, ведаючы, што я яго бачу, раптам пачынаў абмацваць твар, церабіць пальцамі штрыфель пінжака, нахіляўся папраўляць шнуркі, праводзіў далонню па вертыкалі шэрага гузікаў, нібы правяраў, ці

ўсё зашпілена, ці ўсё прыкрыта. Іншыя, калі б заўважылі гэта, палічылі б за неабходную прывычку сляпога, але я ведаў – яшчэ хвіліна, і Другі дзед павернецца, стане так, каб я не бачыў яго цалкам, апынецца ў праёме паміж целаў, дрэваў альбо мэблі, як у выпадковым кадры, мімаходзь, на імгненне, – і я не пазнаю яго, не дапамогуць ні адзенне, ні месца. Ён будзе незнаёмцам з іншай эпохі, ён будзе аддалены на гады – і потым, прыкрыўшыся выпадковым мінаком, вернецца ў поле майго зроку ранейшым, быццам там, за шырмай чужога цела, змяніў аблічча, перакінуўся ў часе.

З боку нашая сувязь выглядала прыяцельствам старога і дзіцяці; так думалі ўсе, тлумачачы прыязнасць Другога дзеда да мяне яго стрыманымі жальбамі на бяздзетнасць. Гэтае тлумачэнне яшчэ больш абавязвала мяне: мелася на ўвазе, што Другі дзед – хутка, не хутка – але блізкі да магілы, і таму я не павінен быў яго “засмучаць”, “злаваць”, “расстройваць”, “прымушаць хваляваўца”. Я ж ведаў, што Другі дзед цалкам здаровы, ведалі гэта і родныя, але ўсё роўна выстаўлялі яго нямоглым старым, якога заб’е любое моцнае перажыванне – так было зручней, гэта быў цудоўны сродак прывесці маё жыццё ў падпарадкаваны стан.

У выніку Другі дзед умацаваў сваю ўладу нада мной; любы ўчынак, любое слова ацэньваліся – а як яны адаб’юцца на Другім дзедзе? Характэрна, што ніхто пры гэтым занадта ўжо моцна не любіў яго; я і сам у нейкія моманты, калі ён здаваўся цалкам бяскрыўдным чалавекам, разважаў: чаму я не магу палюбіць яго – гэта ўратавала б мяне ад пастаяннага адчування, што мной спрабуюць авалодаць, і я, можа быць, прыняў бы яго ўладу з радасцю. Я нават – цалкам па-дзіцячы – стараўся зрабіць так, каб палюбіць яго; спрабаваў уразумець карту свайго ўнутранага ўладкавання, знайсці на ёй мясціну, у якой нараджаецца тое, што складае фізіялагічны фон любові – цеплыня, адчуванне адкрытасці, нібыта ў грудзях разыходзяцца нейкія створкі; спрабаваў, але пацярпеў няўдачу – Другога дзеда немагчыма было любіць.

Да Другога дзеда, здаецца, у прынцыпе не адчувалі пачуццяў, адносіны больш ішлі ад розуму, чым ад сэрца; кожны, напэўна, саромеўся гэтага, думаючы, што справа ў ім, а не ў Другім дзедзе, і стараўся быць лепшым у фальшывых праявах пачуцця – не крыўдзіць жа старога, які гэтага нічым не заслужыў. Можа быць, калі б родныя аднойчы адкрыта пагаварылі адзін з адным і выявілася б, што Другога дзеда не любіць ніхто, хоць падставаў да гэтага няма, яны пра нешта задумаліся б; але такой размовы не адбылося, і кожны паасобку дадаваў сваю лепту ў ілюзію ўсеагульнай прыхільнасці да старога, не здагадваючыся, што астатнія, як і ён, толькі робяць выгляд.

Я шмат разважаў потым, чаму Другога дзеда нельга было палюбіць; і зразумеў, што любоў не магла ўзнікнуць побач з ім. Калі разумець баязлівасць як вышэйшую ступень эгаізму, Другі дзед быў баязлівец; ён мог праявіць вельмі розныя якасці, і самаадданасць, і клопат, але ўсе яны служылі ў рэшце рэшт ягонай баязлівасці: захавацца такім, які ёсць. І любоў да гэтага чалавека не з’яўлялася: ён сам любіў сябе так, любіў не ў сэнсе эмоцый, а ў сэнсе самазахавання, што да гэтай любові, здавалася, няма чаго дадаць, яна і без таго залішняя; і амаль усе ягоныя ўчынкі праслойваліся тонкім пластом страху за сябе, асцярогай, што падзеі могуць пашкодзіць яго планам, парушыць яго задумы.

Я зразумеў гэта яшчэ ў дзяцінстве; я часта пытаўся ў Другога дзеда, ці ваяваў ён, і ён адказваў, што не, у армію яго не ўзялі. Але ад ягонай

хатняй работніцы я ведаў, што дома, у каробцы з-пад цукерак, захоўваюцца ордэны; я вырашыў, што Другі дзед рабіў на вайне тое маўкліва-жудаснае, што стаяла за фільмамі, карцінамі, аповедамі; я думаў, што іх героі забівалі ворага першай смерцю – той, якая здараецца на паперы, палатне або кінаплёнцы; але павінен быў быць хтосьці, хто застаецца за палямі кніжных старонак, за рамкамі кадра, хто забівае немцаў сапраўднай, смяротнай смерцю, і мне здавалася, што такім чалавекам, адным з нямногіх, мог быць Другі дзед.

Але вось аднойчы мы з іншымі дзецьмі гулялі з дзядзькам Ванем-Жалезная шыя, які прыйшоў з вёскі; у яго ў шыі, ля самай соннай артэрыі, сядзеў асколак снарада, які не рызыкнулі дастаць, і нашай любімай гульнёй было прывешваць на шыю магніцікі, якія трымаліся на жывым целе. Дзядзька Ваня быў стары, ён гарэў у танку; яго стараліся не пускаць да дзяцей, бо твар ягоны і галаву пашкодзіла хвароба: кроплепадобныя наросты, падобныя да мяса пеўневага грэбня, які складаецца з крывяносных сасудаў, непрыкрытых скурай; здавалася, твар яго аплавіўся, і плоць застыла ў гэтых кроплях, дрыготкіх, вісячых на мясістых ножках, агідных менавіта тым, што яны агалялі – на твары! – нутро цела, жывёльнае, як гэты самы грэбень пеўня.

Але дзеці не баяліся, не адчувалі агіды; дзядзька Ваня-Жалезная шыя здаваўся нам адзіным чалавекам з усіх, каго мы ведалі, з якім здарылася нешта вельмі істотнае; мы ведалі, што ён ваяваў, і бачылі – ён ваяваў. Вядома, дзеці асцерагаюцца калекаў, хворых, неўсвядомлена аберагаючы ў сабе давер да жыцця і да будучыні; але дзядзька Ваня быў настолькі пачварным, што гэта рабілася ўжо карыкатурай на пачварнасць; разбурэнне асобы зайшло гэтак далёка, што ўжо не рэзала вачэй.

І потым – ён не меў патрэбы ні ў жалю, ні ў спагадзе; Дзядзька Ваня насіў у сваім целе даўнюю, адтэрмінаваную смерць сорак чацвёртага года, якая загубіла чацвярых яго таварышаў; ёй заставалася ўсяго некалькі міліметраў, на якія не прапусціла асколак цела, але асколак рухаўся ў ім, павольна, як дрэйфуюць кантыненты, набліжаючыся да артэрыі, і, па сутнасці, для дзядзькі Вані ўсё яшчэ доўжыўся той выбух, які накрыў танк – ён нёс у сабе траекторыю палёта асколка і заўсёды жыў на гэтай траекторыі.

Напэўна, іншы чалавек, які выратаваўся ад гібелі і потым быў так знявечаны хваробай, вывеў бы з гэтага нейкую апорную філасофію, дзе хвароба трактавалася б як адплата за тое шчаслівае выратаванне; але дзядзька Ваня, камандзір танка, які спальваў нямецкія бліндажы, доты і акопы разам з салдатамі, які ішоў праз поле бою ў полымі, і полымем караў немцаў, а да вайны быў начальнікам пажарнай часткі, – дзядзька Ваня нават не зняў люстэрка ў сваім вясковым доме. Пэўна, для яго ў тым полымі зніклі ўсе ўяўленні аб прапорцыях, аб прыгожым і пачварным; засталося толькі адно – што чалавек не мяса, хоць ён часцей бачыў згарэлых, чым жывых; і дух жыцця павяваў у ім лёгка і свабодна.

Мы гулялі з дзядзькам Ванем; ён навучыў нас рабіць хадулі, набіўшы планкі для ног на доўгія жэрдкі; мы хадзілі вакол яго на драўляных нагах, пасавалі мяч, а ён усё нахіляў шыю, каб магніцік, які прыляпіўся да асколка пад скурай, звісаў, але не падаў. Тады да нас падышоў Другі дзед; ён шукаў мяне, дзядзька Ваня з ім павітаўся. І па тым, як Другі дзед адказаў на прывітанне, як спытаў мяне, ці хутка я вярнуся, я раптам зразумеў, што Другі дзед баіцца; баіцца, што я занадта прывяжуся да дзя-

дзькі Вані, што не вярнуся, выслізну, карыстаючыся яго невідушчасцю. І такім выразным быў гэты дзіцячы крыўдлівы страх дарослага чалавека па суседстве з бескарыслівай прыязнасцю дзядзькі Вані, што я – па адным толькі пачуцці – усвядоміў, што Другі дзед сапраўды не ваяваў, што ён з іншай чалавечай пароды, чым дзядзька Ваня.

І мяне ўразіла, што дзядзька Ваня хворы, што жыццё яго перакручанае пачварнасцю, а Другі дзед адзначаны акуратнай, непрыкметнай слепатой; я ўбачыў раптам – зноў жа папросту адчуў, – што твар дзядзькі Вані, твар у мясістых кроплях, павінен быў належаць Другому дзеду, а чысты, некрануты твар Другога дзеда – дзядзьку Ваню.

Я цвёрда вырашыў тады даведацца пра мінулае Другога дзеда. І мне падалося, што кожны з дарослых нашага дома ў глыбіні душы рады таму, што Другі дзед скрытны і нейкае магчымае веданне пра мінулае застаецца непраяўленым.

Час, пра які мог бы загаварыць Другі дзед, дарослыя стараліся калі не забыць, дык, прынамсі, зрабіць прыдатным для прыватнай памяці. Яны дзялілі яго на дробныя ўражанні, на асабістыя сюжэты – якая лядовая горка была каля яру, цяпер засыпанага; якія арэхі, усе з гнілымі, зморшчанымі ядрамі, аднойчы купілі на рынку для варэння; які бледны, разведзены вадой атрамант разлівалі ў школе па чарніліцах, а потым настаўніца лаялася, што ў сшытках нічога не разабраць. Такое мінулае было як ключы, кашалёк і дакументы, якія можна рассоўваць па кішэнях, сыходзячы з хаты; было маленькім, абжытым – кожны старанна ўмацоўваў – апрацоўваў пятачок асабістай памяці – і ніхто не памятаў за ўсіх.

У думках агледзеўшыся, я зразумеў, што не магу злучыць апавяданні пра мінулае ў нешта агульнае; памяталі родных, памяталі сваё юнацтва, але ўсё гэта было вузка, цесна, як тыя пакоі новых мікрараёнаў, пабудаваных у шасцідзясятыя і сямідзясятыя на ўскраінных пустках, дзе ніяк не хацелі выводзіцца пыльная зямля, пустазелле і дзядоўнік; паўсталі новыя дамы, у іх ўзнікла новае жыццё, падзеленае тонкімі перагародкамі сценаў, і ўсе навучыліся жыць ціха – а як інакш, калі нават кашаль чутны ў суседзяў, – ціха і паасобку; жыць, як жывуць тыя, хто выжыў, агаломшаныя тым, што ацалелі, і назаўсёды захавалі гэтую падзеленасць ацалелых.

Напрыканцы таго дня, калі Другі дзед сустрэўся з дзядзькам Ванем, я падышоў да брамкі ў лес. Ад брамкі ў прытуманеныя шаты дрэваў ішла сцежка, салодка цвіла шыпшына ля плота; тлен, млявасць – і дрыжыкі былі ў гэтым паху. І я ўбачыў, што сцежка раптам страціла ў змроку рысы канкрэтнага, пазнавальнага месца, стала чымсьці, што спалучае рэальнасць і вобраз; нейкай сцежкай, якая невядома куды вядзе, цёмнай і прахалоднай, у чаканні крокаў. Я адкрыў брамку, ціха пракруціў яе іржавыя завесы, шыпшыннік абсыпаў мяне вялымі пялёсткамі. Я зрабіў некалькі крокаў, і блізкі дом, які свяціўся ў цемры, галіны яблыняў, лініі правадоў – усё адразу знікла, засталося далёка ззаду; толькі сцежка, змрок, бесцялесныя душы лісця, якія луналі ў сырым паветры, і адчуванне, што ты ступіў на нейкі шлях, дзе не можа быць затрымкі, аглядкі, – наперад, бясстрашна, як дзядзька Ваня, і тады вільготная, гнілая ноч не спародзіць страхаў, расступіцца, прапусціць.

Я ішоў знаёмым лесам, але ён быў чужым; дрэвы павялічыліся, рассунуліся ўшыркі; трава – начная трава, перагаворваючыся на мове туману і расы, – смактала з зямлі сваё пітво, ад якога мацнелі яе каленчатыя сцяблiны. Брынялі на лісці асіны тугія, як жаўлак на скуле, барадаўкі,

лес выганяў з сябе дзённае, развейваў чалавечыя пахі, зарошчваў сляды, падымаліся надламаныя травінкі і прымяты мох, сокі імкнуліся ўверх па ствалах. І я раптам адчуў пераможную, абыякавую сілу, бездань жыцця, якая зацягне любую рану, паглыне любую падзею. Лес пашырэннем каранёў разгладжваў пакінутыя з вайны стралковыя ячэйкі, у глыбіні ствалоў іржавелі рэдкія асколкі, ад якіх не засталося і следу на кары, у змацаваных птушынай слінай гнёздах спалі птушаняты, і я быў адзін, пакараны здольнасцю памятаць, – супраць аграмадзіны шапатлівага, скрыпячага жыцця, якое раскінула галіны – у неба і карані – у зямлю.

Я не даваў клятваў; нешта сумясцілася ўнутры, і я на імгненне адчуў сябе пазванком сярод пазванкоў; да знямогі сэрца ірвануўся ціск – штуршок крыві ўдарыў у звод чэрапа, урэзаўся іголкамі пад пазногці, перахапіў дыханне. Кроў мая – я ставіўся да яе проста як да вадкасці, нядбайна заляпляў рану размятым лістом трыпутніка, машынальна аблізваў трэснутыя вусны, – я адчуў яе шаленства, раз’юшанасць, гнеў, быццам бы кроў паўставала ў той момант супраць глухой аграмады лесу, кроў мая, якая была старэйшая за мяне. І каб суняць гэтую раз’юшанасць, я зрэзаў ножыкам тонкі і прамы дубец ляшчыны і з гэтым дубцом выйшаў да высокіх, гарачых зараснікаў крапівы; я сек яе пад корань, крапіва была ворагам, цэнтрам пустой травяной моцы; чым гусцей рабілася ноч, тым шчыльней крапіва абступала мяне, і я біўся, ссякаючы зубчастыя лісты, едкія суквецці; і толькі калі сціхла шаленства, я заўважыў, што стаю ля самага плота, ля брамкі – я ўжо выйшаў з лесу, а мне здавалася, што ён вакол, з усіх бакоў, і шляху не відаць.

Назаўтра ранкам, заўважыўшы пасечаную крапіву, мне загадалі прапалоць некалькі градак; калі мне так падабаецца вайна з травой – маё жаданне можна звярнуць на агульную карысць. Але калі я падышоў да градак, я зразумеў, што насуперак учарашняму імпэту не стану палоць траву; то было – адно, а тут – іншае; мне стала шкада пустазелля, нават аксаміціста-калючы, з доўгім коранем асот; я ведаў, што маіх тлумачэнняў не зразумеюць, і стаяў, думаючы, як бы ўцячы, калі падышоў Другі дзед. «Пустазелле трускалачкі душыць, душыць – сказаў ён. – Прапал*і*, трускалачкі табе дзякуй скажуць, ягадкай потым пачастуюць».

Я насцярожыўся: нешта было ў гэтай інтанацыі, ласкавай, пераконваючай, у гэтай гатоўнасці выполваць, вырываць, ачышчаць, рабіць сялянскую агародную працу такое, што было ўжо не сялянскім; дзень патух, знікла градка, чырвоныя бакі ягадаў – застаўся толькі голас, ціхі, але ўсёабдымны, які гучаў адусюль, які прыабдымаў, здушваў, шаптаў на вуха: «Пустазелле трускалачкі душыць, душыць» – і сам душыў, затыкаў рот, сілком закідваў галаву, абмацваў – як абшукваў – цела.

Памяццю, якой у мяне не магло быць, – памяццю крыві, – я пазнаў гэтыя словы; пазнаў шэпт – ласкавасць угавораў, нібыта бацькоўскі дотык рукі, патрабавальнасць голасу; пазнаў, быццам яны былі знаёмыя многім з бліжэйшых маіх продкаў.

І мне яшчэ доўга потым чуўся голас Другога дзеда, які паўтарае «пустазелле душыць», – і мне здавалася, што часам ён сам думае пра мяне як пра пустазелле, вырашаючы, ці не вырваць; я запомніў гэтае жаданне выдзіраць з коранем, гэтую старэчую пажадлівую радасць – каб выспелі трускалачкі! – гэтыя брыдкія, затоена здзеклівыя памяншальныя суфіксы; з таго часу я стаяў на бок пустазелля супраць трускалак і ні разу не з’еў падобную на мясістае сэрца ягаду.

Я хацеў даведацца пра мінулае Другога дзеда, але ўсё, што мог, я ўжо ведаў; я і так быў ягоным праваднікам, хадзіў ягонымі дарогамі, апускаў у паштовую скрыню рэдкія ягоныя лісты; была толькі адна вобласць, куды ён не ўпускаў мяне – ягоная прыхільнасць да рыбалкі. На сажалку ён ішоў адзін і вяртаўся адзін; гэта быў цалкам ягоны час. Аднойчы я крадком увязаўся за ім, але на паўдарозе ён пачуў мяне і загадаў варочаць дадому. Я тады толькі спадзяваўся даведацца, як жа ён, сляпы, ловіць рыбу, але Другі дзед відавочна адчуў у маім намеры жаданне падгледзець нешта іншае, пра што ведаў ён і не ведаў я. І тады я прыдумаў вакольны шлях, каб не ісці за ім па пятах; рыбалка была апошняй магчымасцю ўбачыць Другога дзеда сам-насам з самім сабой – на беразе сажалкі раслі вольхі і асака, у кожнага рыбака было сваё месца, закутак, схаваны ад поглядаў, куды трэба было праціскацца, рассоўваючы галіны.

Сляпы рыбак, Другі дзед не проста не выглядаў смешным – нават пры жаданні ў ім нельга было знайсці рысу, дэталь, з дапамогай якіх можна было б уразіць яго, зрабіць аб'ектам насмешкі. Пры ўсёй патэнцыйнай камічнасці аблічча – парусінавыя штаны, залатаны пінжак, саламяны капялюш – ён не быў камічны; нават бамбукавыя вуды, якія заўсёды надаюць даросламу мужчыну нешта несур'ёзнае, хлапечае, глядзеліся неяк асобна ад яго, не дапаўнялі штрыхом яго аблічча, хоць ён і нёс іх у руцэ.

Ён не быў залічаным у рыбацкае братэрства, на сажалцы ў яго было асаблівае месца, якое ніхто не займаў, і іншыя рыбакі не падыходзілі да яго ні па прынаду, ні па папяросіну, ні проста пагаварыць; так ён паставіў сябе з самага першага дня.

Такім чынам, я стаў употай прабірацца на сажалку і сядаць на некаторай адлегласці ад яго. Варта было падысці трохі бліжэй – як бы ты ні стараўся красціся нячутна, Другі дзед паварочваўся і звяртаў да цябе невідушчыя вочы; У гэты момант ты адчуваў сябе вадзяным пацуком, што выпаўз з нары проста на паляўнічага сабаку. Мяне дзівіла гэтая чуласць у стрыманым, абыякавым чалавеку, чые рухі былі настолькі мерныя, нібы ён манатонна круціў унутры сябе завадную ручку накшталт ручкі патэфона, якая давала ход розным сучляненням ягонага пастарэлага, але па-ранейшаму добра складзенага цела. Мне нават здавалася, што ён кагосьці чакае; кагосьці, хто павінен прыйсці і пра штосьці яго спытаць; чакае, каб яго не заспелі знянацку.

Чым больш я сядзеў на сажалцы, назіраючы, як Другі дзед ловіць рыбу, тым ясней – павольна, дзень за днём – я разумеў, што ў асобе Другога дзеда няма таямнічасці; ёсць толькі цвёрдая забарона, моцна замкнёныя дзверы, жалезны брусок засаўкі, тоўстая дужка навяснога замка. А там, за дзвярыма, хавалася нешта, чаму ў цяперашнім часе не было месца быць; Другі дзед насіў пры сабе ўсё сваё мінулае, як бежанец не распакоўвае на кароткім прывале ля дарогі скарб з гарадскога жыцця.

Аднойчы я мімаходзь бачыў, як Другі дзед піша ліст; напэўна, ён напісаў столькі папераў, што слепата яму не замінала, памяць пальцаў дакладна злучала літары. У канцы адной прапановы ён паставіў асаблівы, тонка, з нейкім дадатковым значэннем выведзены, знак пытання.

Другі дзед пісаў пёравай асадкай, і ад таго, што фіялетавага колеру атрамант адразу выпараўся, увесь ліст выходзіў як бы загадзя састарэлым, а вострае, па-змяінаму раздвоенае надрэзам пяро надавала напісанню літараў рэзкасць напорыстай інтанацыі. Знак жа пытання, столькі разоў выведзены мной самім у школьных пропісах, які здаваўся мне то абрысам паветранага шара з кошыкам кропкі, то вухам з кропляй завушніцы, –

гэты знак раптам паўстаў мне ў нейкім новым значэнні, якога я не мог тады растлумачыць сабе.

І толькі пазней, на рыбалцы, гледзячы на тое, як Другі дзед прывязвае да лёскі кручок, я зразумеў той пастаўлены ім у лісце знак пытання – пазнаў яго ў кручку з "барoдкай", якая не дае рыбе сарвацца, застравае ў яе чэраве.

Другі дзед вельмі дзіўна лавіў рыбу; я, відушчы, яшчэ не распазнаваў у рухах паплаўка паклёўку, дотык рыбіных губ да прынады, мне здавалася, што паплавок лёгка калыша рабізна ад ветру, а Другі дзед ужо асцярожна перахопліваў вуду, каб было зручней зрабіць падсечку. Здавалася, ён асаблівым чуццём даведваецца, што карась крануў прынаду: яму перадаецца праз лёску жывое біццё рыбы, якая ўзялася, ён адчувае гэтае біццё відушчымі пальцамі сляпога, яно вільготна і салодка аддаецца ў нейкім таемным, хітра ўладкаваным закутку яго душы.

Юрлівец смерці, Другі дзед, здаецца, адчуваў – наогул мог адчуваць – толькі пры пасродку ізуверскага прыстасавання вуды, у якім боль і страх жывой істоты перадаюцца ў нацяжэнне лёскі, у выгін бамбукавай вуды; ён адчуваў гэтыя рыўкі, гэты цяжар рыбы – як улоўленае жыццё; без вуды, судакранаючыся з жывым целам, ён, здавалася, не адчувае нічога.

Я памятаю ягоныя пальцы – я падкраўся блізка і бачыў, як ён насаджваў на кручок чарвяка. Бывае такі сялянскі спрыт, з якім рэжуць курэй, перахопліваюць горла гусі, колюць свіней; такое грубаватае, але без дамешку пакуты, хатняе, свойскае абыходжанне са смерцю падуладнае скаціны і птушкі. Тут жа было зусім іншае – пальцы Другога дзеда рухаліся так, нібы ён прасоўваў нітку ў іголку, але нават не для справы, а выключна дзеля цікавасці – ці пройдзе нітка ў вушка, ці трэба ўзяць іголку на два нумары большую.

У чарвяка чырвоная кроў, і чарвяк запэцкаў ёю ягоныя пальцы. На рыбалцы рукі пастаянна то ў зямлі, то ў рыбінай слізі, і абцерці іх аб траву або аб вопратку – машынальны жэст, які паўтараецца дзясяткі разоў. Але тут Другі дзед дастаў насоўку і пачаў старанна выціраць пальцы. Гідлівасці альбо залішняй ахайнасці ў гэтым не было ні на ёту, адна недарэчная, падкрэсленая – ён гэтага не заўважаў – акуранасць; дбайнасць, якая была толькі гранню, нечаканым выступам – так рэзкі рог скульптуры тапырыць накінутую тканіну – ягонай сапраўднай натуры. За гэтай акуратнасцю стаяла веданне пра самога сабе, настолькі для яго звыклае, хоць і хаванае, што ён, сляпы і не бачачы сябе збоку, не ўсачыў, як яно накіравала ягоны жэст: выцерці пальцы.

Ці адчуваў ён, што на пальцах кроў, проста адчуваў нешта вадкае, ці ўсведамляў, што гэта кроў, розумам? Я не ведаю; можа быць, адчуванне вільгаці на руках сумяшчалася ў яго галаве з нейкай карцінай са склепа ягонай зрокавай памяці.

Пазбаўленыя святла, большасць бачанняў ягонага мінулага ўжо, верагодна, распаліся, рассыпаліся ў прах; ён быў здаровы для цяперашняга часу, але ў вымярэнні часу мінулага ён быў хворы, зрокавая памяць яго, калі так можна сказаць, з'язджала з глуздоў: жывы абрубак, кукса, пакінутая сам-насам з самой сабой. У ягонай свядомасці доўжыўся – і павялічваўся! – разрыў часоў: ягонае мінулае, заключанае ў абалонцы цемры, не магло сустрэцца з цяперашнім. А калі спрабавала – невідушчая памяць злучала, рыфмавала з тым, што даносілі да яе нюх, дотык, слых, нейкія ацалелыя карціны, на якіх яна звар'яцела; аднак сустрэча часоў праз гэта адбыцца

не магла: толькі сляпое мінулае з дапамогай затоенага страху кіравала сляпым сапраўдным.

Цяпер я думаю, што кроў чарвяка, насаджанага на кручок, здавалася яму чалавечай крывёю; знешне ён заставаўся ранейшым, спакойным, выклікаў нават не пашану, а перасцярогу, нібы ён вось-вось расплюшчыць вочы і скажа – я ўсё бачыў! – і ў гэтым «усё» будзе рэнтгенаўскае, пранікальнае веданне пра тое, што ты хаваеш з глыбокага ўнутранага сораму, што ніколі не варта выдаваць, бо яно, пакутліва табой перажыванае, і служыць, можа быць, зарукай існавання ў табе сумлення, і растаямнічыць такое азначае ўчыніць маральнае забойства; знешне Другі дзед заставаўся ранейшым, але, я думаю, унутры сябе, асуджаны да цемры, ён быў аддадзены на разарванне параджэнням уласнай памяці.

Цяпер я разумею, чаму некаторыя яго ўспаміны атрымаліся больш устойлівымі ў часе, чым усе астатнія. То былі ўспаміны, якія выводзяць за мяжу жыцця; забойства, знішчэнне супярэчаць прызначэнню памяці – захоўваць у цэласнасці, таму памяць пра смерць, да якой ты датычны, ёсць трагічны аксюмарон; калі ачысціць такі ўспамін ад знешніх падзейных складнікаў, у яго аснове будзе не барэльеф прысутнасці, наяўнасці чагосьці, а жолаб адсутнасці, некампенсавальныя, але бесперапынныя, як вада ў пасудзіне Данаід, страты.

Гэты ўспамін ўжо не зусім успамін; яго падсілкоўвае нясдзейснае жаданне, якім караюць грэшнікаў; і праз яго не ўмацоўваецца, а змяншаецца ў чалавеку быццё.

Калі яднальны кантэкст памяці распаўся, гэтыя ўспаміны займелі асобнасць існавання, тыранічную свабоду; і чым мацней Другі дзед хацеў выгнаць іх з сябе, тым больш яны пладзіліся ўнутры яго; так узнікае прыжыццёвае пекла, з якога выйсця няма.

Але Другі дзед – так мне здаецца – ні пра што не шкадаваў; з маральнага боку да яго было не падступіцца. Аднак катэгорыі быцця і небыцця першасней за маральныя, і помста нагнала яго праз страх смерці; кроў чарвяка не нагадвала яму ні пра кроў ахвяраў, ні пра іх пакуты – чым менш ён быў здольны адчуць жах зробленага, тым выразней паўставала перад ім, выкліканая гэтай крывёю, смерць як голы, халодны факт; тое, што раней служыла яму абаронай, – так успрымаць яе – паўстала супраць яго, аказалася адзінай зброяй, здольнай знішчыць яго.

Менавіта гэтым тлумачыцца ўсё, што здарылася далей: гібель Другога дзеда і нашая з ім – пасмяротная – крэўная сувязь.

Усё адбылося на лецішчы, у пачатку жніўня, напярэдадні дня майго нараджэння. Была спякота, такая, што ў буфеце плавіліся, зліпаліся з абгорткай шакаладныя цукеркі; у паграбе забрадзіў, выбіваючы коркі, хлебны квас, скрозь шчыліны падлогі ў дом прасачыўся кіслявы хмель, на ліпучках дзясяткамі дохлі мухі, іх было столькі, што папера варушылася, быццам ад скразняку; але паветра стаяла нерухомае, мутнае, нясвежае, як вада ў шклянцы, дзе трымаюць устаўныя сківіцы; па дачных участках клалася, подломваючыся ў каленцах, трава, змялела сажалка – у цёмна-зялёнай, успучанай бурбалкамі, прысохлай ціне гніла рыба; да сажалкі зляцеліся вароны, абселі невысокія дрэвы на беразе, корпаліся ў ціне, размотваючы дзюбамі рыбіныя вантробы; наеўшыся, вароны пераляталі на правады высакавольткі, і здавалася, што драты правіслі не ад спёкі, а ад вагі чорнай птушынай масы; вароны сядзелі моўчкі, толькі часам сыта зрыгваючы; Другі дзед хадзіў па прасмердлым беразе сажалкі, адчуваючы над сабой

прысутнасць птушак, і пагражаў ім сваёй акаванай меддзю, вузлаватай, ружаватай ад увабранай дрэвам смалы палкай, падобнай на абцягнутую сухажыллямі костку муміі.

На лецішчах, дзе ў белым памараку карункавых фіранак цяжка дыхалі старыя, чырвоная нітачка тэрмометра дрыжэла, паўзла ўверх; кожны тэрмометр стаў падобны да шкляной трубкі, у якую бяруць кроў, і кожны тэрмометр адмяраў жыццё або смерць. Кроў распірала завапнаваныя сасуды, прылівала да твару, туга ўлівалася ў слабое, абмяклае сэрца; кроў нібы распылілася ў паветры, і сабакі, пахаваўшыся ў кусты язміну, у трубы, у канавы, вывальвалі распухлыя языкі, скраблі кіпцюрамі сухую зямлю. Лопалася ад спёкі ломкая скурка ўжо некалькі тыдняў як не сабраных вішняў – і густая сукравіца крапала з ягадаў, заплямліваючы кінутую пад карані яечную шкарлупіну; назапашвалася ў небе духата, і вялыя, у карычневых крапінах старэчыя рукі краталі цела, якое раптам стала чужым, далёкім – далей, чым бляшаны цюбік з таблеткамі, далей, чым уласны голас, які ўжо нікога не пакліча на дапамогу.

У навакольных палях пачалі з'яўляцца пылавыя смерчы, сутаргі прасторы; нешта спела, нешта збіралася сярод аўсу; каля дачнай вартоўні не знікала чарга ля адзінага тэлефона, людзі круцілі дыск, які патрэскваў пры зваротным кручэнні, сярод вялай зеляніны прымільгаліся белы з чырвоным – колеру «хуткай дапамогі», – і толькі Другі дзед быў бадзёры, дзейны, нібы на роўных са смерцю, як доктар, і спякота толькі высушала да лёгкасці яго цела, дазваляючы хутчэй крочыць.

У той дзень я выйшаў на «лінію» садовых участкаў; нашыя дзіцячыя зборышчы даўно перапыніліся, быццам з паветра знік той элемент, што збірае дзяцей разам, знікла тая гульня ветрыкаў, шолахаў, шэптаў, бегласць трымтлівых галінаў, якая складае матыў і асяроддзе дзіцячых гульняў; паветра было да млосці густое, ліпкае, як пенка сочыва, і аддавала меднай акалінай.

Навошта я выйшаў – ужо не ўспомніць; бываюць учынкі, якія робяцца ад невыразнага табе самому душэўнага руху і ў гэтым сэнсе без намеру, але і не па інерцыі або звычцы. Напэўна, мне было неабходна выйсці за агароджу, вызваліцца ад адчування, што з чатырох бакоў ты акружаны штыкетнікам; плот дачнага ўчастка вельмі ясна акрэслівае для дзіцяці месца, у якім ён і абаронены, і абмежаваны адначасова, а адразу за плотам пачынаецца вуліца, дзе магчыма тое, што немагчыма ўнутры ўчастка.

Плот – мяжа, якая аддзяляе жыццё, пабудаванае на паўтарэнні, як школьны ўрок, – паснедаць, прапалоць градку, прачытаць некалькі старонак кнігі – ад жыцця, дзе ты пакінуты сам сабе; брамка, якую могуць замкнуць, калі табе за правіннасць забаронена гуляць, замок і клямка – вартаўнікі, якія пільнуюць цябе ад выдуманых і сапраўдных бедаў: летась адзін хлопчык скочыў з берага і разбіў галаву, у пачатку лета іншы хлопчык пайшоў у лес і заблудзіўся, трэці хлопчык стаў пералазіць чыгунку, пад цягніком, які стаяў, а цягнік крануўся і зачапіў яго за кашулю, чацвёрты хлопчык стаў гуляць у пясчаным кар'еры і там праваліўся ў яму... Гэтыя ўяўныя нябожчыкі былі "прапісаныя" ў дачнай тапаграфіі, як паганскія духі азёраў і лясоў, у іх лік уваходзіў нават лётчык, збіты зімой сорак першага і пахаваны ля сажалкі пад пірамідкай з чырвонай бляшанай зорачкай; яны пазбаўлялі акругу бяспекі, але паведамлялі ёй сапраўднасць: лес быў не лес, а лес-у-якім, сажалка – сажалка-у-якой; дзякуючы ім мясцовасць як бы набывала дадатковае вымярэнне, пераставала быць

дачным прыгарадам і рабілася хутчэй вясковай акругай, якая змяшчае і жыццё, і смерць у такой блізкай, узаемапранікальнай счэпцы, як блізкія вёска і могілкі за яе ваколіцай.

Пад цёмным лясным вываратнем, апоўдні ў непрагляднай, дурманлівай гушчыні малінніку, ля берага сажалкі ў хвашчах і асацы, якія зліваюцца ў густую зялёную смугу над чорнай вадой, у вільготным моху балота, у таемным вытоку ляснога ручая, пахаваным пад каранямі дрэва, – паўсюль прысутнічала нешта, што як бы клікала цябе, дакраналася шукальна і запрашальна, нібы правярала, наколькі ты ў свядомасці, ці нельга цябе захапіць, адвесці, выкрасці. І яшчэ хлопчыкі з апавяданняў дарослых, з якімі здарылася «нядобрае», – ты разумеў, што гэта падман, але падман па няведанні, падман наўздагад, які з-за гэтага нечакана высвечваў вобласць праўды.

Таму плот дачнага ўчастка быў не проста ахоўнай перашкодай: усе драпінкі, усе сінякі, усе раны, усё, што прымушае ліцца кроў і пакідае шнары, адбывалася ў асноўным за ім. Парэзаўся дома – неасцярожнасць, якую тут жа палечаць зялёнкай і бінтам. А там, за плотам, паняццяў асцярожнасці і неасцярожнасці не існавала: светлыя паляны і цёмныя лясныя гушчары так непадзельна суседнічалі адно з адным, так лёгка і амаль весела цякла кроў з парэзу, што ты яшчэ не бачыў у гэтым парэзе, у любой ране замаху смерці на жыццё; не бачыў і ў гэтым сэнсе быў абаронены.

Выйшаўшы на «лінію», я раптам адчуў, наколькі яна працяглая і пустая, нібы падоўжылася ад нагрэву, як даўжэюць ад спёкі рэйкі, ледзь рассунулася ў шырыню, і гэтае непрыкметнае зрушэнне звыклых маштабаў змяніла адчуванне, ёю спараджальнае. Раней яна была вулачкай, прасёлкам, сціснутым платамі, а раптам стала дарогай; у любой дарозе ёсць нешта ад сцэны – прынцып скразнога руху, ад левай кулісы да правай ці наадварот; з'яўленне і знікненне, прыход і сыход, наяўнасць і пустата, сустрэча і растанне: дарога дваіцца, перамяжоўвае гэтыя станы, і калі ты ступаеш на яе, то адкрываешся плыні падзеяў, якая пачынаецца па-за межамі твайго жыцця.

Я ступіў на пясок «лініі» – і ўбачыў кавалак бетону з кулак велічынёй; з яго тырчала гладкая дробная галька колеру замарожанага мяса і вострыя асколкі крэменю. Кавалак бетону, верагодна, зваліўся з машыны, якая вывозіла будаўнічае смецце з якога-небудзь участка; упаў нядаўна і таму ляжаў неўмятым у пясок, прыцягваючы позірк.

Перш чым я нешта зразумеў і ўспомніў, мой рот напоўніўся смакам крыві – без самой крыві; ніжнюю сківіцу ператоргнула, як хірургічнай ніткай у незацягнутай ране, болем. Свет вакол стаў расплывісты, непразрысты, як рыфленае бальнічнае шкло, як сценкі ямкі з вадой; я глядзеў на кавалак бетону, ён, здавалася, ляжаў у глыбіні ямкі і быў чымсьці адзіна выразным у расплывістым свеце, але надзвычай далёкім, знойдзеным на дне памяці. Мяне кружыла, і вось кручэння праходзіла праз гэты камень; я павольна тануў сам у сабе. У мышцы ўступала немата, і я зразумеў раптам, што рукі ў літаральным сэнсе дранцвеюць, што ўнутры цела заўсёды ідзе хуткая, тэлеграфная размова паміж рознымі яго часткамі, а цяпер склад цела разладжваўся, змаўкала яго гаворка, яно рабілася пустым – як "лінія", на якой я стаяў, – пустым, нібыта кніга без літараў. Спынілася дыханне, і толькі ямка з камнем на дне, здавалася, уцягвае ў сябе мае вочы, каб выпіць іх, праглынуць, як вільготныя ягады.

Я выратаваўся – так вадалаз знаходзіць пад вадой «звон», дзе захавалася паветра, і робіць удых. Мая памяць выявіла ўнутры сябе тое імгненне, у

якім знаходзіўся такі ж камень, і ўва мне з кропкі, з адтуліны, якая злучае часы, як нервовы канал, разгарнуўся мігатлівы і адрывісты ўспамін.

Менавіта такой, ашчэранай крэменем і галькай, была глыба бетону, на якую я калісьці ўпаў тварам, занадта высока ўзлезшы на край вазка і пераважыўшы яго. Мне было каля года; памяць пра той час была падабенствам каляплодных водаў, яна лепш перадавала гук, чым малюнак, і я адчуў толькі ўласны даўні крык. Я не разумеў тады, што магу памерці, а крык быў старэйшы, чым мой тагачасны ўзрост, нібы гэта крычала не гадавалае немаўля, а нехта, хто ўсведамляе жах смерці і супрацівіцца гібелі – крыкам. Гук быў такі пранізлівы, што ён згушчаў, запавольваў час, і імгненне падзення і болю доўжылася ў ім – доўжылася ў памяці.

Ледзь толькі я пазнаў камень – варонка знікла, свет спыніўся, як юла; аднак адчуванне нетутэйшасці, якое зыходзіла ад каменя, не прапала. Я ведаў, што глыбу, на якую я ўпаў, бацька адвёз на тачцы, разбіў кувалдай і кінуў дзесьці ў далёкім лесе; распавядаючы мне пра гэта, ён так і сказаў – «кінуў у далёкім лесе», і мяне спалохала, што дзесьці да гэтага часу ляжыць гэты кавалак бетону з плямамі маёй крыві, які ледзь было не пазбавіў мяне жыцця, расколаты, але не знішчаны. Я хацеў знайсці яго, каб закапаць, а лепш – вывезці на лодцы ў цэнтр сажалкі і ўтапіць, каб яго зацягнула ў глей. Бацька толькі пасмяяўся і сказаў, што забыўся, дзе выкінуў глыбу; маўляў, усё гэта дурнота, і калі б не Другі дзед, ён выкарыстаў бы бетон, як і наперыўся – на падмурак для хлява; што вінаватыя яны з маці, бо недагледзелі за мной, а бетон – проста бетон, і ўсё. Бацька прызнаўся, што гэта Другі дзед настояў, каб ён адвёз глыбу ў лес; «дурная справа на такую падмурак ставіць», – сказаў Другі дзед, і бацька падпарадкаваўся.

Цяпер перада мной ляжаў такі ж кавалак бетону. Ці гэта была частка глыбы, на якую я ўпаў? Бываюць моманты, калі ты адчуваеш, што трэба жыць асцярожна: з цябе нібы знялі пругкія ахоўныя пласты, звыклыя, як адзенне, ты аголены, адкрыты, уразлівы, і выпадак, які каравуліў цябе, які ішоў па пятах па-за тваім полем зроку, ужо блізкі, але ты не ведаеш, з якога боку яго чакаць.

Перажыванне смерці вычарпала мае сілы – не фізічныя, а жыццёвыя, я не адчуваў слабасці, але адчуваў, што безабаронны, і безабаронны інакш, чым нават жывёла ў прыцэле ў паляўнічага; пад нагамі казулі ці ваўка ёсць зямля, яны ўпэўненыя хоць бы ў ёй, упэўненыя ў імклівасці бегу, а я стаяў, спрабуючы сабраць у сабе самую малую частку той сілы, якая робіць пэўнымі, устойлівымі бліжэйшы дзясятак хвілінаў, нібыта бяспечна падаўжае цябе ў будучыню; пра яе існаванне даведаешся толькі тады, калі яна знікае, і сучаснасць робіцца крохкім краем абрыву.

Пясок. Пад нагамі быў пясок. Кропля поту з твару ўпала ўніз, усмакталася, пакінуўшы набраклую, выпуклую кропку. Я бачыў, як у пяску паблісковаюць зярняты кварца, пласцінкі слюды, падобныя на часцінкі крылаў стракозы, светла-бурыя, як размолатыя крупы, кавалачкі палявога шпата; маё цела раптам падалося мне занадта мяккім, падатлівым, сумна асуджаным; так пры ад’ездзе глядзяць на мясціны, якія робяцца аслабленымі, пакорлівымі таму, што ў думках яны пакінутыя ўжо. Я адчуваў сябе так, як быццам выявіў у сабе расколіну, і асцярога, што разлом павялічыцца, спрачалася з жаданнем зазірнуць унутр, прайсці шляхам гэтага разлому, нібы ён адкрываў дарогу ў раней недаступныя – а можа быць і не існавалыя раней – глыбіні.

У самым канцы пустой “лініі”, ля далёкай брамы, што выходзіла на

месца, якое звалася Бетонкай – там была чыгунка на аэрадром, закінутая, з крывымі рэйкамі, там аднойчы звалілі з грузавых платформаў бетонныя блокі, падобныя да стэлаў, да разбітых танкаў, да каўпакоў дотаў, там пасвістваў над бітым шклом, над лёжкамі бадзягаў з кардонных скрыняў шалапутны ветрык ускраінаў, – ля далёкай брамы з'явілася чорная кропка, якая расла, быццам нарыў, чарвяточына ў жэлепадобнай, сальнай плоці дня.

Гэта быў сабака, чорны сабака, які мог прыбегчы толькі з боку Бетонкі: ён нёсся да мяне, хістаючыся ў бегу, гойсаючы ад канавы да канавы, разявіўшы пашчу, губляючы ў пыл дарогі ватную, падаючую шматкамі сліну. Нікога не было вакол: толькі я – і сабака, мы былі злучаныя «лініяй», геаметрыяй лёсу; сабака імчаў, раскручаны, збіраючы сам сябе ў бегу, – спыніся, і распадзецца, – а я стаяў, прыбіты тым, як ён набягаў на мяне, і ўжо адчуваў мясам нагі раздзіраючы дотык ягоных іклаў.

Чорны сабака – у наваколлі не было чорных сабак, – чорны, гнаны спякотай; ён падскочыў блізка, сабраўся быў для скачка, але цягліцы не змаглі падняць сабачае цела ў паветра, і тады ён наляцеў на мяне, збіў, перакуліў, угрызся ў левую нагу, нібы мая кроў магла вылечыць яго. Потым сабака наваліўся зверху, прыціснуў мяне лапамі, закруціўся, пацягнуўся да горла – і раптам віскнуў, застагнаў тонка і бездапаможна, выгнуўся, нібы смерць здымала з яго мерку, у якую ён, яшчэ жывы, не змяшчаўся. Над намі стаяў Другі дзед са сваёй палкай: ён перабіў хрыбетнік сабаку, ударыў меддзю па выступах пазванкоў; сабака здыхаў, Другі дзед павадзіў варанымі, бялковымі вачыма, не бачачы, але нібы адчуваючы, як ападае шэрсць, распростваюцца лапы, сыходзіць жыццё сабакі; з разарванай нагі булькаючы лілася кроў, і Другі дзед уважліва слухаў гэты гук.

Як ён апынуўся каля мяне? Я дакладна памятаў, што Другога дзеда не было паблізу, калі я выходзіў на "лінію". Мабыць, ён хаваўся за шыпшынай, што расла ля брамкі, – ён любіў забаўляцца з ёй, падносячы пальцы да калючых галінаў, паўтараючы рухам далоні іх выгіны, падносячы руку зусім блізка, так, што калючкі, здавалася, кранаюцца лініяў папілярных узораў, як іголка на грампласцінцы; ён нібы вывяраў, каліброваў, юстыраваў нейкае сваё пачуццё, якое замяніла яму зрок, і вельмі не любіў, калі яго заставалі за гэтым заняткам; тады ён знарок – толькі я здагадваўся, што знарок, – калоўся, рабіў выгляд, што хацеў сарваць кветку ці ягаду.

Здаецца, менавіта гэтым пачуццём Другі дзед даведваўся, што са мной адбываецца нешта важнае ці тое, што ўяўляе пагрозу; бацькі былі спакойныя, яны думалі, што я катаюся з сябрамі на ровары, а мы збіраліся лезці на вышку ЛЭП, каб зняць чужога паветранага змея, які заблытаўся ў правадах; змей трапятаў, я прымяраў ужо сцягнутыя з хлява гумовыя галёшы і пальчаткі, таварышы падбухторвалі мяне – і тут на дарозе з'яўляўся Другі дзед. Ішоў ён, хутчэй за ўсё, па сваіх справах, але поўнае прадчуваннем подзвігу імгненне адразу ж здзімалася; ён нібы абсякаў мяне, з'явіўшыся: куды? не смець!

Так што наўрад ці справа была ў супадзенні: Другі дзед стаяў за шыпшынай, пачуў мой крык... Ён вартаваў мяне, Другі дзед, песціў; не мяне нават – маю будучыню. Аднойчы дома бацькі адкрылі пакет з рэнтгенаўскімі здымкамі, якія трэба было назаўтра ўзяць з сабой у бальніцу, і Другі дзед, пачуўшы размову пра хрыбетнік, папрасіў патрымаць здымак. Бацькі здзівіліся, але далі, а я не паспеў, дый не здалеў бы – запярэчыць. Другі дзед узяў цёмны пластыкавы простакутнік, па якім слаўся светлы дымок, плавалі касмічныя туманнасці і прывідныя дыскі пазванкоў былі

падобныя да вежы, усярэдзіне якой ад паверха да паверха паўтараліся тонкія белыя жгуцікі, звітыя петлямі, быццам бы весяляцца, танцуюць духі, злоўленыя ў розных “па”, – узяў і стаў абмацваць яго пальцамі, якія ў гэты момант сталі падобнымі да пальцаў флейтыста, што пяшчотна і ўпэўнена закрываюць патрэбныя адтуліны; я спалохаўся – мне падалося: па недасведчанасці бацькі дапусцілі Другога дзеда да таго, да чаго і яны не мелі права па-гаспадарску дакранацца; што цяпер ён націскае на танцуючыя жгуцікі, нібы ўпраўляе альбо, наадварот, скрыўляе мой лёс.

...Потым ляцела праз палі “хуткая”, выла сірэна, убіваючы глыбей, да пятак, свядомасць, пахла тытунём і бензінам, і гайдалася, гайдалася над бальнічным дваром званніца, якую я шмат разоў бачыў здалёк, калі рыбаліў на возеры, пераўтвораным у сажалку; званніца была нібы стрэлка на прыборы, што адхіляецца то налева, то направа, яна нагіналася да мяне, як пытальнік, выстрэльвала ўгару, засціла неба, змяншалася, маячыла ў далёкім закутку зроку і зноў загароджвала агляд. У палаце адслойвалася са сценаў вапна, у куце столі сядзеў сярод павуціння чорны павук; я бачыў яго дзіўна змяніўшымся зрокам, які выпускаў з-пад увагі прадметы паблізу; павук рухаўся перад самым тварам, а разарваная нага – напэўна, такое было дзеянне наркозу – здавалася, яшчэ была ў двары, маё цела цягнулі па калідоры, а ў палату занеслі толькі галаву.

Павук рыхтаваўся абплесці павуціннем мой твар, залезці ў рот, развесіць унутры свае ліпкія ніткі і чакаць, калі да мяне зляцяцца мухі, якія гулі ў палаце; я хацеў замахаць рукамі, крыкнуць, каб павука прыбралі.

Але варта было паспрабаваць загаварыць, як мне з’яўляўся сабака, яго вочы, гнойныя, вылупленыя, нібыта дотык сухіх веек прычыняў ім боль, і я разумеў, што гэта не сабака глядзіць на мяне. Я дзесьці пераступіў нябачную рысу, адзначаную, можа быць, толькі завялымі казяльцамі ці рассыпаным жвірам; як падхопліваюць балотную ліхаманку – так я падхапіў смерць, убачыўшы раздзяўбанага крата, дохлага вожыка, аблепленага чорнымі рагатымі жукамі; забрыў на Бетонку ў вячэрні час, калі ў прыродзе ўзнікае трапятанне перад чыёйсьці прысутнасцю, якое адчуваеш і ты, і кожны куст глядзіць – здаецца, на цябе, але на самой справе на таго, хто быццам бы стаіць за тваёй спінай. У такую пару нельга гуляць у хованкі далёка ад дома, па-за яго прыцягненнем, там, куды не даносяцца галасы і пахі – можна знікнуць, залезці ў нейкае цёмнае сховішча, якое апынецца шчылінай паміж днём і ноччу; гэта пар*а* прамежку, нявызначанага часу, пар*а*, якую птушкі імкнуцца перачакаць у паветры. Я дзесьці ўпусціў у сябе гэты морак, прынёс яго дадому, не заўважыўшы, як спачатку не заўважаюць хваробу, думаючы, што лёгкі жар – ад беганіны, а ў горле перасохла ад смагі; упусціў, і ён разросся ўва мне, пасяліўся, як пасяляецца чарвяк у страўніку, і таму чорны сабака выбег менавіта на мяне – я быў неасцярожны і занадта рана даведаўся тое, ад чаго дзіця прыкрытае неразрыўнасцю цела і свядомасці, непадзельнасцю яго асобы і ўсёй светабудовы.

Усё вырашылася там, у бальніцы: страта крыві былі занадта вялікая, патрабавалася пераліванне, патрэбнай групы не было, і тады ўціснуты ў “хуткую” Другі дзед – бацькі былі ў горадзе, пакінуўшы мяне на ягоны нагляд – прапанаваў узяць яго кроў. Па ўзросце яму нельга было гэтага рабіць, але ён настояў – я гэтага не памятаю, але ўяўляю, як ён гаварыў з лекарамі голасам, які ламаў суразмоўцу гэтаксама, як ён палкай перабіў хрыбетнік сабаку, – і яго кроў узялі, узялі шмат, і я застаўся жыць, а ён

памёр, нібы тая частка яго крыві, што пераліплі мне, і ўтрымлівала ў сабе ягонае жыццё, а тая, што засталася ў ягоных жылах, была крывёю пустой, зжытай – крывёю нябожчыка.

Цяпер я мяркую, што ён не думаў памерці, спадзяваўся на моц здароўя; калі б ён застаўся жыць – ён, той, хто выратаваў жыццё мне, – дык я належаў бы яму цалкам, па праву крыві ў жылах; ён рызыкнуў – і выйграў бы, але здарылася тое, чаго ён не мог прадбачыць, разлічваючы, што яго перавязуць у Маскву, дагледзяць, папоўняць страту крыві: надлом нашых жыццяў, небяспечнае станчэнне іх нітак супалі з тэктанічным зрухам гісторыі; час – час Другога дзеда, у якім ён мог існаваць як у асяроддзі, – скончыўся; і ён не перажыў першых імгненняў усеагульнай невядомасці, імгненняў, якія адмянілі старое, але яшчэ не прынеслі новага.

Праз некалькі гадзінаў пасля аперацыі па бетоннай дарозе паўз бальніцу пайшлі танкі і бронетранспарцёры размешчанай паблізу дывізіі; я глядзеў на іх праз вокны трэцяга паверха, і ў памяці не засталося нічога, акрамя кручэння танкавых каткоў і колаў бронемашынаў – цэлую гадзіну, пакуль калона ішла, спынялася, скарачалася і падаўжалася, уцягвалася ў нябачную гарлавіну шашы, якая вядзе ў горад, перад маімі вачыма кружыліся гэтыя каткі і колы.

Раней я бачыў танкі на парадзе, але там былі ўрачыстасць формаў, зладжанасць руху, якія не пакідаюць месца дэталям, парад успрымаўся як нешта цэлае, як калі б тэкст замаршыраваў, трымаючы строй літараў. Тут жа, на бетоннай дарозе каля бальніцы, танкі ішлі адзін за адным, глохлі, тузаліся на месцы, гусеніцы то скрыгаталі, то абвісалі, – верагодна, не ўсе машыны былі гатовыя, калі абвясцілі трывогу, – і таму ва ўспрыманні, узрушаным болем і дзеяннем лекаў, існавалі два ўзаемавыключальныя вобразы.

Здавалася, што танкавая калона, якая раз-пораз спынялася, рассыпалася на часткі па два-тры танкі, салдаты, якія азвярэла махаюць сцяжкамі, афіцэры, якія гавораць са сваімі шлемафонамі, сам метал танкаў раптам страціў тую сувязь, што прыводзіла яго ў рух, паліва ў танкавых баках выдыхалася і не здольнае было ўжо дэтанаваць з патрэбнай сілай, штурхаць наперад тоны сталі, – усё гэта было прамовай дня, прамовай паралітыка, чые вусны забыліся форму гуку. Нейкія словы намагаліся сказацца, быць вымаўленымі, але занадта позна: вусны ўжо крануў мёртвы, падобны да наркозу, халадок. І пазней я даведаўся, што Другі дзед пачаў паміраць, як толькі паўз бальніцу рушылі першыя танкі; сястра думала, што яго забіваюць ляск і грукат, шчыльна зачыніла і завесіла вокны, аднак Другі дзед усё роўна кідаўся на ложку так, нібы танкі ішлі па ягоных нагах, што выпадкова апынуліся ў каляіне.

Быў і іншы вобраз, свядомасць то ўпускала яго, выцясняючы вобраз разбуральнай прамовы, то зноў ад яго сыходзіла; каткі, вядучыя «зорачкі», колы ператварыліся ў шасцярні гадзінніка, якому не хапае заводу, які ніяк не можа пайсці, закруціцца; гадзіннік гэты нібыта шмат гадоў стаяў, механізм раз'яднаўся, і цяпер усе шасцярні ад малой да вялікай круціліся самі па сабе, то змыкаючы, то размыкаючы зубцы, і стрэлкі на цыферблаце то рухаліся скачком, то спыняліся. Танкі прабуксоўвалі, злосна страллялі выхлапамі, раўлі рухавікамі, але напружанне людзей і матораў здавалася несувымерным павольнаму, рыўкамі, руху, нібы там, наперадзе на шашы, нешта ўпіралася, не пускала калону, нібы яна сама – і машыны, і людзі, – па сутнасці, не ведала, ці ёсць сэнс і неабходнасць у іх паходзе; быццам бы час мкнуўся пачацца – і не мог.

Жнівеньскі дзень доўжыўся доўга; далёка ў полі за бальнічнымі вокнамі

жалі жыта, і два розныя віды машынаў, што адрозніваюцца, як драпежнікі і траваедныя, танкі і камбайны, здавалася, глядзяць адзін на аднаго са здзіўленнем, адкрыўшы для сябе іншыя тыпы механічных істотаў. Маладыя салдаты, чакаючы, пакуль завядзецца танк наперадзе, забаўляліся, паварочваючы вежы ў поле, выцэльваючы камбайны і грузавікі, а тыя адсоўваліся ўсё далей, пакуль нарэшце праца ў полі не спынілася. Камбайны клінам адкаціліся да ўзлеску, спыніліся, задраўшы шыі жолабаў; на збочынах дарогі стаялі легкавыя машыны, на адной зверху была прыладжана канапа, і думалася, што яна, разадзьмутая, плюшавая, проста залезла наверх, ратуючыся ад танкавых гусеніцаў. У небе бессэнсоўна, як прывязаны на нітачцы чмель, кружыў самалёт сельскагаспадарчай авіяцыі.

Ад грукату танкаў, ад іх колькасці – у калоне было машынаў сто – дзень спачатку перапоўніўся, а потым, калі калона прайшла, апусцеў, як пусцеюць дамы, з якіх перад зносам выехалі жыхары, – канчаткова і ўжо непапраўна. Так бывае на мяжы сну, у паўдрымоце – паўза паміж ударамі сэрца здаецца нясцерпна доўгай, ты ўвесь правальваешся ў яе, перастаеш існаваць, пакуль аднекуль з даляў цела не прыхлыне штуршок крыві; ты здаешся сабе берагам: сэрца размешчана вонкі, кроў абмывае, накочваецца хваляй, а свядомасць утрымліваецца на лініі ўмоўнага прыбою, у пустаце прамежку. Той дзень пасля праходу танкаў і стаў такім прамежкам: ранейшае скончылася, новае не пачалося. Нават гукі, здавалася, не ведаюць, як ім гучаць, нібы шкло бальнічных прабірак забылася навуку звякаць, маснічыны развучыліся рыпець.

Бальніца была старая, драўляная, шчылiністая; і вось са шчылінаў пачалі вылазіць мышы. Дрэва сценаў і падлогі было такім трухлявым, што забіваць іх пралазы тоўчаным шклом было марна, і мышы бегалі бачком уздоўж сценаў, а зрэдку – наўскасяк праз палату. Але тут, нібы адчуваючы тое, чаго не адчувалі людзі, мышы асмялелі, выбраліся вонкі. Яны вынюхвалі, перабягалі, іх гналі швабрамі і анучамі, прынеслі ката, але мышы не сыходзілі, а кот залез пад шафу і сядзеў там, не спалоханы, але быццам таксама нешта ведаючы. Мышы лезлі ўверх па фіранках, па ножках ложкаў, іх былі сотні, і раптам стала ясна, што мышэй нашмат больш, чым людзей, што гэта іх жытло, што бальніца прагніла да апошняй дошкі; я ўявіў міжволі, як ва ўсіх іншых дамах у акрузе таксама вылазяць мышы, што бачылі толькі старыя газеты, якімі абклееныя сцены пад уздзьмутымі шпалерамі, а цяпер упершыню аглядаюць святло.

Вядома, мышэй растрывожылі танкі, гул выгнаў іх са шчылінаў і нораў, але мышыны зыход дакладна адказваў адчуванню людзей: медсёстры ўрэшце рэшт перасталі змагацца з мышамі, стараліся знайсці сабе які-небудзь манатонны занятак, але ні адна справа не ладзілася: ануча спадала са швабры, вада расплюхвалася, посуд падаў з рук. У гэтым не было трывогі, залішняй турботы: проста ўсялякая справа ёсць звяно ў ланцугу, які цягнецца з учора ў заўтра, і ўсякай справе надае сэнс яшчэ і суседства іншых справаў, суседства паўтаральнае і замацаванае ў часе; вымыць падлогу, папрасаваць бялізну, паліць кветкі, памераць тэмпературу, зрабіць уколы – кожны з гэтых заняткаў у звычайны дзень існуе ў канве іншых, у канве часу, які ідзе сваёй чаргой, канве, якая непрыкметна для чалавека падтрымлівае яго, не дае адчуць, што час зусім не добразычлівы, што поўнач дыхае ў патыліцу поўдню і святло згасае ўнутры кожнага імгнення.

У той дзень спыніўся час, агульны для ўсіх; кожны застаўся з тым, з чым быў у руках – са скальпелем ці са швабрай; ні адна справа не страціла

сэнс, але стала незразумела, у якім большым часе гэтыя справы адбываюцца – мінулае і сучаснасць ужо не спараджалі ясны вобраз блізкай будучыні.

Бальніца змяшчалася ў будынку былой панскай сядзібы; з яе вокнаў занадта шчодра адкрывалася прастора, перспектыва гэтая мела на мэце неіснуючы ўжо, высечаны парк, і цяпер здавалася недарэчным: з-за чаго невядомы архітэктар вырашыў гэтак шырока прад'явіць вачам пустку, якая папярэднічае хлебнаму полю, дзе цяпер цясніліся самазахопленыя агароды: іх платы былі збітыя з крывых жэрдак, перахопленыя металічнай стужкай, якой аббіваюць скрыні з садавінай, перавітыя абрыўкамі калючага дроту, умацаваныя няроўнымі лістамі іржавага жалеза, якія віселі і ляжалі так крыва, нібы іх прынёс павеў ветру і кінуў на плот; за агароджамі – абавязкова ў куце – стаялі гэтак жа неахайна збітыя халупы без вокнаў, дзе захоўвалі інструмент.

Пафарбаваны ў колер яечнай мукі бальнічны будынак з двума крыламі-флігелямі, з чатырма калонамі ля ўвахода, з высокімі вокнамі – калі кожнае адкрыць, дом выплюхне пену фіранак, стане скразным, хісткім, ветразевым, – зменшыўся, панізіўся ад віду танкаў, якія ідуць за агародамі; мне падалося, што столь стала бліжэй да твару.

Танкі сышлі, а агароды сталі напаўняцца людзьмі; хтосьці запаліў вогнішча, пацягнула дымам гнілля, і ў гэтым дыме – а дзень быў рабочы, агароды павінны былі пуставаць – мітусіліся мужчыны і жанчыны з рыдлёўкамі, добра не разумеючы, што рабіць: капаць бульбу было яшчэ ранавата, а агуркі былі ўжо сабраныя. Хтосьці нешта карчаваў, нехта капаў яму пад кампост, і ўзнікала дзіўнае адчуванне, што танкі абудзілі ў людзях ўспаміны, якіх у іх па ўзросце не магло быць; яшчэ трохі, і нехта першы зразумее, што ён капае акоп ці сховішча ад бамбёжкі; мяккая, распрацаваная за шмат гадоў зямля нібы клікала да сябе, прапаноўвала схавацца ў ёй, як ва ўлонні маці. Спачатку пад штыком рыдлёўкі пылілі сухія камякі, а потым адкрывалася вільготнае, некранутае засухай нутро, працятае бялявымі тонкімі каранямі траў, прабуранае хадамі чарвякоў і жукоў.

Ёсць нейкая бессаромная шчырасць ва ўзрэзанай рыдлёўкай зямлі, у яе мяккасці, быццам яна чорны тварог, чорнае сквашанае малако чорнай каровы; у яе бясформнасці, гатоўнасці рассыпацца – і мокрай, халоднай хватцы яе камякоў, якія не адпускаюць бот. Калісьці я бачыў у лесе заплылыя танкавыя акопы, поўныя непрагляднай, алеістай, як чыфір, вады, якая ўвабрала ў сябе гнілое – год за годам, да поўнага вынішчэння – асінавае лісце; гэтая вада была глыбокім, як непрытомнасць, смяротным настоем, і сярод яснага лісцёвага лесу, поўнага прасекаў святла, кожны акоп здаваўся згубным кубкам, напоўненым сокамі зямлі.

Вось да гэтай растваральнай чарнаты, да яе схованкі і імкнуліся людзі; пасёлак пусцеў, агароды запаўняліся, нібы жыхары, адчуваючы пах танкавай саляркі, пах вайны і бяды, загадзя сыходзілі з дамоў, сыходзілі ад усяго, што складала рэгулярны побыт – да часовых пабудоваў ля градак.

Хадзячыя пацыенты бальніцы, зразумеўшы, што медыцынскія строгасці на час не дзейнічаюць, таксама пацягнуліся на агароды; кожны ішоў асцярожна, быццам слухаў сваю хваробу, спрабаваў улавіць яе таемныя знакі, разабраць у стуку сэрца перабой, дадатковае каленца рытму, уплеценае хваробай; хвароба хавалася, і хворы стараўся яе адшукаць, зразумець, наколькі яна распаўсюдзілася ў целе, якія тэрыторыі, занятыя ёю; пацыенты выцягвалі шыі, выпросталіся і заміралі на аднойназе, у няўстойлівым становішчы,

каб грунтоўнасць апоры не перашкодзіла ўспрыняць тое, што распазнаецца толькі ў нераўнаважкасці, у прыпадабненні сябе найтонкай стрэлцы самапісца, які рэгіструе неадчувальныя чалавекам штуршкі зямной кары.

Аднак чужому погляду не трэба было шукаць хваробу – так ясна былі выяўленыя ўсе хваробы ў тварах і постацях тых, хто ішоў. Тое, што я бачыў, знаходзілася ўжо за тылавой мяжой непрыгожага і адштурхоўваючага; вызваленае ад эстэтычных значэнняў, яно ўяўляла сабой скульптурную, пластычную карціну таго, што жыццё можа зрабіць з людзьмі, калі ў іх не адбываецца ўнутраных пераменаў, якія далі б сілу выстаяць, не паддацца.

Выпнутыя жываты, запалыя шчокі, сухія адвіслыя грудзі, паралізаваныя рукі – калецтвы былі настолькі разнастайныя, што ў гэтым чыталася аднастайнасць. Бальніца, сумны дом, сабрала ў сябе ўсе магчымыя траўмы; але адсутныя, адсечаныя сякерай пальцы або адрэзаная цягнікам нага былі толькі зусім прыкметнай крайнасцю сярод іх; хутчэй, агульная пластыка чалавечых фігураў была такая, нібы людзі жылі ў згушчэнні пастаянных рознанакіраваных ціскаў, якія надломваюць, згінаюць, вывіхваюць, скручваюць; чалавека мясіла, размінала, выцягвала, ён і сам страчваўся ў працы, спустошваўся ў намаганнях, і цяпер, калі ён ужо не змог бы і цвіка забіць, не схапіўшыся за сэрца ці не зайшоўшыся кашлем, аказвалася, што праца не ўмацавала яго ўнутрана. Чалавек нават прывык, што яму надаюць форму гэтыя ціскі; а калі яны зніклі і наступіла доўгая паўза, разрэджанасць часу – людзі ступалі так, быццам адвыклі хадзіць без чужой дапамогі.

Хворыя і здаровыя – усе сабраліся на агародах, спехам былі засланыя газеткай тапчаны, з'явілася гарэлка; хтосьці прынёс радыёпрымач на батарэйках, хтосьці – партатыўны тэлевізар, і людзі збіліся ў гурт вакол іх, ніхто не спрабаваў сысці, паехаць услед за танкамі, у чымсьці ўдзельнічаць – усе паглядалі то на тэлевізар, то на лес, за якім на ваенным аэрадроме прагравалі рухавікі самалёты, і было адчуванне, што тэлевізар і радыёпрымач – найноўшыя сакрэтныя прылады, якія вырашаюць лёс, выносяць свой, пралічаны лямпамі і мікрасхемамі, вердыкт: чаму быць, чаму не быць.

Вось у гэтую паўзу, ва ўсеагульнае здранцвенне і спынілася жыццё Другога дзеда; не тое каб ніхто не рызыкнуў везці яго ў Маскву – на кароткі час распаліся ўсе чалавечыя зарукі, і нават трубку тэлефона стараліся не браць – хто ведае, што прынясе званок; "хуткая", якая везла патрэбныя яму лекі, затрымалася дзесьці на збочыне, прапускаючы танкавыя калоны, і ён памёр – новы час, можа, і прыняў бы яго, згубнымі сталіся прамежак, раз'яднанасць.

Так маё існаванне сумясцілася з ягоным існаваннем; я ўжо ніколі не быў да канца самім сабой – ува мне цякла кроў Другога дзеда, якая ратавала мяне; у целе хлопчыка цякла кроў хударлявага сляпога старога, і гэта назаўсёды аддзяліла мяне ад аднагодкаў; я рос пад знакам неацэннай ахвяры, якую Другі дзед прынёс дзеля мяне; рос як чаранок, прышчэплены на старое дрэва.

Падчас ягонага пахавання я ляжаў у бальніцы, а потым з цяжкасцю мог прыходзіць на могілкі: мне здавалася, што Другі дзед не памёр да канца, што ён пасяліўся ўва мне, і калі я стаю ля магілы – гэта дзве раз'яднаныя часткі душы Другога дзеда сустракаюцца адна з адной, адна – несупакоеная, другая – тая, якую я нашу пад сэрцам, як цяжарныя плод; сустракаюцца – і адчуваюць юрлівае задавальненне, бо ім удалося падмануць смерць,

зачапіцца за жыццё, а вакол ляжаць проста спарахнелыя целы, і ўся гэтая бутафорыя помнікаў, плітаў, датаў нічога не значыць.

І я глядзеў на іншых людзей, імкнучыся даведацца – а ці няма сярод іх такога ж, як я, хто носіць у сабе нябожчыка; раптам кагосьці яшчэ нябожчык прыводзіць на могілкі, глядзіць знутры на прыбіральшчыка, які падмятае прысады, зграбае апалую лістоту і адчувае сябе як хітрае і злое дзіця, якое ў помсту залезла туды, дзе ніхто яго не знойдзе.

Мне было амаль немагчыма знаходзіцца ў кватэры, дзе раней жыў Другі дзед: я думаў, што яго рэчы, пачціва захаваныя на сваіх месцах, ведаюць, хто я, і ўся кватэра, пераўтвораная ў маўзалей, у пахавальню, дзе чуйна супакоена памяць, ведае, хто я. Ягоны касцяны муштук на стале здаваўся часцінкай яго самога; хатняя работніца расклала па паліцах дзясяткі ягоных акуляраў са шклом рознай таўшчыні, якія назбіраліся, пакуль Другі дзед губляў апошнія рэшткі зроку; верагодна, яна спрабавала стварыць для сябе ў кожнай кропцы кватэры адчуванне, што ён не памёр, а толькі сышоў, паклаўшы акуляры на сервант, і вось-вось вернецца, але для мяне памутнелыя лінзы азначалі погляд Другога дзеда, ён быў ува мне – і адначасова бачыў мяне збоку, у любым месцы любога пакоя, дзе б я ні схаваўся, пад ложкам, за шторай, і толькі за высокім, у мой рост, люстэркам я мог схавацца, галоўнае было ў яго не глядзець – на супрацьлеглай сцяне вісеў фотаздымак Другога дзеда, і вісеў так, што калі я зазіраў у люстэрка, ён стаяў за правым маім плячом. Ягоны «Зіг-заўэр», нямецкая двухстволка, якая вісела на сцяне, таксама глядзела на мяне, праўда, скоса, цёмнымі зрэзамі руляў, двума нулямі, нібы ацэньвала, ці хопіць у ранейшага гаспадара сілаў узяць стрэльбу маімі рукамі, а ў глыбіні антрэсоляў ляжалі ў скрынках патроны, поўныя нестарэючай сілы пораху.

Цяпер, успамінаючы Другога дзеда, я часам думаю, што ён сам выклікаў сабе смерць якраз такую, якую хацеў, хоць, аддаючы мне кроў, ён і разлічваў выжыць.

Ён баяўся памерці, як звычайна паміраюць; ён прагнуў жыць – праз мяне, ува мне – і страшыўся смерці так адчайна, нібы ведаў, хто сустрэне яго там, у замагільным свеце; Другі дзед шукаў выратавання душы, выратавання, зразумелага на свой лад; і неўсвядомленая задума яго атрымалася нават дакладней, чым калі б ён застаўся жыць; яго смерць абавязала мяне цалкам і беспаваротна, абавязала ўдзячнасцю, якая не залежыць ад любога магчымага ведання пра яго; як бы там ні было, ён мяне выратаваў, ахвяруючы жыццём, – і тым тужэй зацягваўся вузел, што ахвяра была выпадковай, а дабро – рызыкоўна пралічаным наперад.

Часта дзівіліся, чаму Другі дзед абраў сабе такую хатнюю работніцу – удаву з пяццю класамі адукацыі, дзетдомаўскую, якая не ведала сям'і, якая перажыла голад у Паволжы і назаўжды захавала ў сабе гэты голад – ён жыў у глыбіні яе буйнога, набралага жаночую сілу цела, і ўсё яе гатаванне, уся яе хатняя ежа былі занадта здобныя або занадта тлустыя; мне памятаюцца бурштынавыя, выпуклыя, цякучыя кроплі гэтага тлушчу ў капусце, ружаватая, пяшчотная раса тлушчу на праслоеным мясам сале. Не заўважаючы, яна карміла не сябе, а той даўні голад, які не сціхае ў ёй; голад, які смокча, вярэдзіць, як нейкае прадчуванне, якое на самой справе ёсць голасам успаміну, які назваўся прадчуваннем, бо ўспамінам мы бачыць яго не хочам. Цяпер я разумею, што Другі дзед падабраў яе, нібы рыхтаваў сабе апраўданне – ён дапамог жанчыне, чый лёс не дазваляў разлічваць на нечую дапамогу, і яна адплаціла яму вернасцю.

Хатняя работніца выканала завяшчанне Другога дзеда: спаліла ў парку ўсе яго паперы, выкінула на памыйніцу вопратку, абутак; кажуць, у тыя дні – дні жніўня – яна была не адзіная, хто так рабіў; пакуль людскія натоўпы стаялі ля ўрадавых будынкаў, людзі ранейшай эпохі, самыя абачлівыя, хавалі дабро ці пазбаўляліся доказаў, часам – разам з самімі сабой; калі падлічыць, колькі ў першы і апошні раз стрэлілі тады ўзнагародныя пісталеты, атрымаецца найвышэйшае для многіх дзесяцігоддзяў значэнне. Бацькі займаліся тады мной, на пахаванне Другога дзеда ніхто не змог паехаць; хатняя работніца распавядала потым, што на выпадак сваёй смерці ён пакінуў ёй нумар тэлефона, і калі яна патэлефанавала, прыехалі людзі, мяркуючы па выглядзе – з ваенкамата; яны ўсё і зладзілі, хутка, па-ваеннаму дакладна, забралі пад вопіс ордэны, іх аказалася з дзясятак, якіх – хатняя работніца не запомніла; хавалі так, нібы чагосьці асцерагаліся ў няясныя яшчэ насталыя часы, быццам не ведалі, ці патрэбныя ўшанаванні ці, наадварот, варта зрабіць усё ціха, і таму спяшаліся; калі мы потым прыехалі на магілу, там быў толькі жалобны вянок без надпісу.

Другі дзед сышоў ананімна, як і жыў; так, нібы існавала спецыяльная служба, якая займаецца татальным выняццем з жыцця; хтосьці з родных паспрабаваў патэлефанаваць па нумары, узятым у хатняй работніцы, але нават не здолеў высветліць, куды тэлефануе: даведаўшыся, што размаўляюць не са сваякамі, там адмовіліся паведаміць што-небудзь пра Другога дзеда. Напэўна, калі б ён памёр у іншы час, нам удалося б нешта высветліць, адшукаць таварышаў, саслужбоўцаў, зразумець, з якой установы прыязджала пахавальная каманда; але распадалася краіна, спынілі працу ўсе ведамствы, ужо нічога не значылі ранейшыя пасады, званні, абясцэньсіліся пагоны, знакі адрознення, бланкі дакументаў, шыльды; і ў гэтым хаосе Другі дзед адышоў бясследна, нібы загадзя падрыхтаваў сабе такі сыход. Усе палічылі за лепшае не ведаць, не гаварыць, не паведамляць, забыцца, і доўгія росшукі, – хто ж быў Другі дзед, – ні да чаго не прывялі. Аднойчы ён намякнуў, што быў начальнікам буйнога будаўніцтва; цяпер гэты падман выявіўся, але замяніць яго не было чым; таму – напэўна, дзеля мяне – Другі дзед застаўся проста Другім дзедам, чалавекам, які выратаваў мне жыццё.

У завяшчанні яго было ўказана, што кватэра пераходзіць хатняй работніцы, а пасля яе смерці – мне; на маё імя быў зроблены буйны ўклад – я мог атрымаць яго да паўналецця; лецішча Другі дзед таксама завяшчаў хатняй работніцы – а пасля мне.

Так я стаў спадчыннікам; уклады хутка абясцэніліся, ранейшыя тысячы сталі нічым, і фактычна я атрымаў у спадчыну толькі таямніцу жыцця Другога дзеда; грошы, якія некалі мелі вагу, ператварыліся ў паперу, іх, як я даведаўся потым, вывозілі грузавікамі хаваць – грошы не паляць, у іх фарбе занадта шмат шкодных прымешкаў; а пазней у адной з паўночных абласцей я пабываў на шахце, куды ў пачатку дзевяностых звальвалі гэтыя купюры ў поліэтыленавых мяшках.

Дзесьці там, сярод звезеных з аддзяленняў Ашчадбанка фіялетавых дваццаціпяцірублёвак з профілем Леніна, ляжалі і грошы, завешчаныя мне Другім дзедам. Я ўзяў на памяць адну купюру – не дзеля ўспамінаў пра сваё страчанае багацце, а як сведчанне таго, наколькі хутка і незваротна знікаюць матэрыяльна ўвасобленыя сілы і магчымасці эпохі; сведчанне імгненнага наступу гістарычнай немачы; і я ўбачыў, як разам з часам

сышло і тое, што складала – у пасмяроцці – улада Другога дзеда нада мной; час, падумалася мне, разбурыў гэтыя повязі.

Але там жа, у грашовым схове, я ўспомніў, як аднойчы, ужо юнаком, я прыехаў прыбраць магілу Другога дзеда; мне здавалася, што цяпер я ўжо магу бяспечна прыходзіць на могілкі, дзе некалі з агідай адчуваў пахаванага ўва мне старога. Напэўна, я спадзяваўся ў думках прымірыцца з Другім дзедам, адпусціць тыя даўнія ўспаміны, замясціўшы іх новымі, і спецыяльна абраў час напярэдадні дня свайго нараджэння: мне думалася, што я прыбяру магілу і ступлю ў новы год жыцця ўжо ў іншых адносінах з мінулым.

На старых могілках было прасторна і прахалодна; на мазаіцы старадаўняга склепа лодачнік Харон вёз нябожчыка праз Стыкс, і ў такт рухам уключынаў паскрыпвала тачка могілкавага прыбіральшчыка; па дарожках звыкла лезла з-пад плітак зямля, быццам нябожчыкам не хапала там месца.

Я падмёў на магіле і вакол, паліў півоні і папараць; пакурыў, гледзячы на суседні ўчастак – там былі пахаваныя муж і жонка Бяссмертныя, Іван Паўлавіч і Соф'я Васільеўна; чорная глыба лабрадора пералівалася сінявамымі, вясёлкавымі, як «вочкі» на крылах матылька, бліскаўкамі; высока ў галінах перакрыкваліся вароны.

Было пуста і свежа, як на краі поля; мне падалося, што мінулае нарэшце сышло, Другі дзед пакінуў мяне ў спакоі; я нават думаў, што цяпер змагу бываць на могілках часцей – я перажыў яго ўладу над сабой, ёй выйшаў тэрмін даўнасці, вызначаны нейкімі няведамымі, але дзейснымі законамі, і ў новым часе я здолею яшчэ больш аддаліць тыя мінулыя перажыванні, перакрыць іх іншым стаўленнем да Другога дзеда: стаўленнем, якое ўжо, па сутнасці, не прадугледжвае адносіны, а толькі эластычную звычку памяці, пад уздзеяннем якой на самой справе толькі глыбей забываеш: памятаеш не тое, што было, а ўспамін пра ўспамін, і мінулае аддаляецца, драбнее, як прадмет, адлюстраваны ў двух складзеных адно да аднаго люстэрках.

Я пайшоў па дарожцы, не азіраючыся, выносячы ў сабе гэты новы настрой; быў толькі лёгкі смутак ад таго, што ўсё так проста і звычайна здарылася. Могілкавыя агароджы, крыжы, дрэвы – усё вызвалілася ад цяжкага ўражання, накладзенага ўспамінамі, паўстала ў непатрабавальнай навізне; я ішоў павольна – мне хацелася даўжэй пабыць тут, нанова запомніць усё. Могілкі памяняліся нават у каляровай гаме, праступілі светла-зялёныя, саламяныя адценні, якіх я раней не заўважаў.

Але раптам на старым, трухлявым пні я ўбачыў мучністы, складкаваты, падобны на заплылае тлушчам вуха драўняны грыб.

Вуха – падземны свет слухаў, ён быў тут, я толькі не распазнаў яго ў наскрозь сонечных прыметах дня. І ўсё вярнулася: страх, агіда, дрыжыкі; грыб быў падобны на плоць трупа – і жывы існаваннем раслінаў; Другі дзед не адпусціў мяне.

**III**

У маім юнацтве імкненне вырвацца з бацькоўскага дома таемна памножылася жаданнем апынуцца там, дзе нішто не нагадвала б мне пра Другога дзеда; на вуліцах роднага горада я ніколі не мог быць самім сабой – я заўсёды быў яшчэ і трохі ён: тут я вёў Другога дзеда ў абутковую майстэрню, тут мы ішлі з вакзала, тут куплялі яму гарнітур.

У гэтым горадзе я страціў магчымасць заставацца ананімам; бо сапраўд-

ная ананімнасць не ў тым, што ты нікім не пазнаны, а ў тым, што і навакольны свет не “люстэрыць”, не вяртае табе сябе з дапамогай успамінаў.

Ёсць аджытыя месцы: з імі многае звязана, але звязана для цябе мінулага; там ты ў большай ступені чалавек з дзён мінулых, а не сённяшніх. І ўвесь горад, усе яго вуліцы сталі для мяне такім месцам; калі я вучыўся ў апошніх класах школы, я нават стараўся знайсці нейкія новыя шляхі, новыя дарогі ў абыход звыклых маршрутаў, як бы накласці новую карту на старую; але дзесяцігоддзі жыцця без пераездаў робяць такі манеўр немагчымым: усё ўжо выхаджана, усё ўжо ўбачана. І тады я выбраў прафесію геолага; мне трэба было заехаць як мага далей, апынуцца ў чужых краях, пазбавіцца ад абавязваючай спадчыны.

Я пабачыў свет; але галоўнае – з краю ў край праехаў краіну. І аказалася, што ёсць прыцягненне лёсу; ёсць поле, якое заўсёды шырэй, чым мы яго бачым; мой ад’езд, мая праца ў далёкіх мясцінах стала толькі шляхам вяртання да таго, ад чаго я хацеў аддаліцца. Але я вярнуўся ўжо іншым – унутрана гатовым прыняць і пазбыць да канца спадчыну, што выпала мне, хоць я і не ведаў пра гэтую гатоўнасць, пакуль жыццё не паклікала мяне.

У старым горадзе, а асабліва ў сталіцы, эпохі, якія мінаюць, пакідаюць пасля сябе значнасць і пафас архітэктуры; спадчына розных гадоў становіцца супярэчлівым адзінствам агульнага гарадскога аблічча, зіхоткім і пампезным; будынкі ствараюць гэтае ззянне, і яно ахінае іх. Таму мінулае там не відавочнае: ад яго засталіся толькі цудоўныя фасады. А што за фасадам – без дапамогі архіваў і сведак зразумець немагчыма.

Але ў прыродзе ўсё, што зрабіў чалавек, застаецца ў аголенасці; там нельга нічога схаваць за архітэктурай, за «гмахамі», мастамі і помнікамі; гэтаксама мала што можна схаваць у горадзе, чый культурны пласт налічвае толькі адну эпоху, які створаны агульным аблiччам гэтай эпохі.

Таму, калі я ў першы раз падняўся на верталёце над тайгой, якая падступала да паўночнага гарадка, і ўбачыў, як зоркамі разбягаюцца праз гушчу лесу лініі лесасек, дзясяткі кіламетраў лясных высечак і нізкія, прытопленыя ў мясцовасць баракі лагераў, і дзеючых, і пакінутых, я адчуў больш, чым мог прачытаць у кнігах; я ўбачыў створанае лагерам асяроддзе катастрофы зроку, уладкаваную так, што ў ёй не распазнаецца зло.

Мноства людзей пазбавілі жыцця, пазбавілі лёсу, пазбавілі волі; і на фоне гэтага вялізнага, ўсёабдымнага зла любое меншае зло стала немагчыма разгледзець; стала магчыма жыць там, дзе ўсё – ад выгляду жылля да гаворкі – расчалавечвае, а не ўчалавечвае; лагер і лагерныя выселкі распаўсюдзіліся, ўмацаваліся – і пачалі ўтвараць, аднаўляць самі сябе ўжо без удзелу дзяржавы. І мой праход праз гэтыя змененыя лагерам краі і стаў шляхам вяртання: да Другога дзеда, да яго жыцця і справаў.

Усё, што я сустрэў і ўбачыў у падарожжах, немагчыма ўкласці ў тэкст, узаемазвязаць; таму я трымаю цяпер у руках тыя дваццаць пяць рублёў з шахты, дзе хавалі грошы; я адчуваю, што ў часе ёсць скразныя хады, якія найкаротка злучаюць тое, што павінна быць спазнана і зразумета; для мяне такім ходам, такой замочнай шчылінай стаў профіль Леніна – калі глядзець не на яго, а скрозь яго.

Першы погляд – праз партрэт – яшчэ да падарожжаў, у апошні школьны год.

За школай, дзе я вучыўся, быў двухпавярховы згарэлы будынак: паламаныя сцены агароджвалі завалы абвугленых бэлек і пакарабачанага ліставога жалеза; ад будынка зыходзіла адчуванне супакоенай бяды, і яно

заваблівала ўвайсці ў дом, вывучыць самае яго нутро, убачыць пачварна застылую агонію рэчаў – без рызыкі наблізіцца да зацвярдзелага, ужо не здольнага паглядзець у адказ твару смерці.

Я залез у той дом; разбурэнні ўнутры не былі настолькі вялікія, як гэта здавалася знешне. Але, адкрыўшы адныя з дзвярэй у калідоры, я ледзь не ступіў у пустэчу: дзверы расчыніліся пад столлю вялікага памяшкання, былой майстэрні скульптара. Лесвіца, якая вяла ўніз, разбурылася; майстэрню завалiла розным хламам, які абсыпаўся, калі будынак гарэў, з фасада яе нельга было ўбачыць; таемны пакой, сакрэт згарэлага дома.

На падлозе майстэрні стаялі дзясяткі Ленінаў: толькі бюсты. З гіпсу, з граніту, з металу, памерам з галаву немаўляці – і ў палову росту дарослага чалавека. Леніны глядзелі адзін на аднаго, прамень майго ліхтара быў слабы, і ў далёкіх кутах скульптуры ўжо лёгка зліваліся з цемрай, нібы прывіды, разувасобленыя балваны былых часоў, цені помнікаў.

Паветра пахла гарам, каменем, пылам; пыл ляжаў на галовах, на падлозе, на раскіданых інструментах скульптара; не хатні мяккі, бязважкі – шчыльны пыл, які мог бы быць прахам гіпсавай скульптуры; занадта цяжкі, каб яго здзьмула нават моцным скразняком.

Калі б хоць адзін з бюстаў быў не скончаны альбо, скажам, быў бы бракаваным, з бачнымі недахопамі, малюнак меў бы іншы прысмак. Але ўсе Леніны без варыяцыяў паўтаралі адзін аднаго, усе яны былі нават не копіямі, а копіямі копіяў; яны памнажаліся тут, у каморцы забыцця, за сто крокаў ад Садовага кальца, памнажаліся, як амёбы; яны ўжо ніяк не суадносіліся з рэальным Ленінам, кожны з іх быў нібы манумент манумента, бюст бюста.

Я раптам убачыў, што пыл, які ляжаў паўсюль, ёсць сухі астатак часу; ён трухлеў і абсыпаўся тут, бясплодны, не ў моцы пераадолець самога сябе. Мне падалося, што вялікія Леніны з'явіліся раней, а меншыя – пазней: у таемнай шчыліне ішла ланцуговая рэакцыя выраджэння, час, паміраючы, імкнуўся сябе аднавіць, захавацца – і не мог спарадзіць не толькі нешта новае, але і нешта хоць бы роўнае ранейшаму.

Тут, а не на Чырвонай плошчы, быў сапраўдны Маўзалей; тут я зразумеў, што такое на самой справе агонія – чалавек памірае не адразу, а на працягу памірання ўсіх ягоных “я”.

Помнікі таксама спрабавалі памерці, але небыццё не прымала ў сябе памножаны скульптурны вобраз, які ніколі ў якасці вобразу не быў жывым, які ўзнік мёртванароджаным, і ён толькі драбнеў, драбнеў, драбнеў. Напэўна, калі спусціцца ўніз і паглядзець, дзе-небудзь пад сталом, пад варштатам, пад кіпай газет, пад рыззём знайшоўся б пацучыны Ленін, мышыны Ленін, і так да самых часцінак пылу, якая складалася, верагодна, як крэйда – са скамянелых радыёлярый, з мікра-Ленінаў, вапнавых скульптураў, бачных толькі пад мікраскопам.

Смерць-у-смерці; мёртвы час – яны так і засталіся для мяне мноствам бюстаў на запыленай падлозе пакінутай майстэрні; хоць будынак даўно знеслі, распад гэты бясконцы і працягваецца дзесьці яшчэ.

Другі погляд – праз партрэт Леніна – у гады працы на поўначы, у горы, дзе экспедыцыя абследавала старыя радовішчы, пачатыя яшчэ працай зняволеных і потым пакінутыя.

У гарах тады быў туман; у тумане ўсе прадметы як бы губляюць рэчавы складнік, становяцца больш вобразам, чым рэччу; туман ператварае знешні свет у нешта падобнае свету ўнутранаму, населенаму бесцялеснымі

сутнасцямі ў прывідным асяроддзі; што б ты ні ўбачыў – хату, трыногу геадэзічнага знака, – усё спачатку паўстае ў значэнні сімвала, які выплыў з туманнай каламуці; туман быццам прад'яўляе тое, што звычайна стоена – тую сутнасна пэўную форму, душу рэчы, быццам бы яна – з'ява свядомасці. І свядомасць успрымае рэч ўжо інакш: нелітаральна, адчуваючы ўсю яе патэнцыйную вобразнасць і сэнс.

Менавіта так скрозь прарэх у тумане я ўбачыў баракі на перавале. Ледзь бачныя скрозь белаватую імжу, яны здаваліся чымсьці не належачым канкрэтнаму месцу. Выразаныя з пейзажу, размытыя, знікаючыя на мяжы зроку, баракі набліжаліся, не становячыся больш выразнымі; але дэталі і не былі важныя. З туману праступалі абрысы, контуры, не нагружаныя аб'ёмам лініі – і галоўнае было ў гэтых лініях.

Можна намаляваць дом, у якім не захочацца жыць; а можна ледзь прыкметна надламаць лініі малюнка так, што ў іх – хоць гэта па-ранейшаму будзе малюнак дома – праступіць нешта, што зразумелі б Філонаў або Кандзінскі: гэтыя лініі будуць гора, бяда, смерць; не кампазіцыя будзе ў суме нешта азначаць, а кожная лінія выкажа невымоўнае, здавалася б, у графіку з той яснасцю, быццам гэта не лінія, а бачны гук. Гэта будзе мункаўскі «Крык», але вырашаны не праз сюжэт і колер – перадсмяротны крык геаметрычных фігураў, якія забіваюць, рассякаюць на часткі, здушваюць катавальнымі ціскамі, усцягваюць на дыбу.

Абрысы баракаў як бы адсунулі на другі план самі баракі; нельга было сказаць, што ты бачыш нейкія будынкі, чалавечае жыллё. Баракі стаялі, як фанерныя скрыні для пасылак, куды складаюць людзей, ненатуральна выцягнутыя, доўгія – такія суадносіны даўжыні і шырыні бываюць толькі ў труны.

І вось гэтыя абрысы – яны адчуваліся як крык, які цягнецца, крык формы, якую нечакана нагнаў жах ад самой сябе.

У тым лагеры я пазнаў рысы многіх іншых месцаў, якія прысутнічалі ў іх непраяўлена, а тут выявілі сябе ў адкрытасці абсалюту. Гэта былі не літаральныя, фізічныя рысы – хутчэй, рысы таго эмацыйнага адчування, якое робіць на нас тое ці іншае месца; рысы яго пачуццёвага і ментальнага партрэта.

У кароўніках калгасных фермаў, у "хрушчоўках" гарадскіх ускраінаў, у складах ля чыгуначных станцыяў, у сельскіх аднапавярховых дамах і ў дамах рабочых пасёлкаў, у хлявах, у правінцыйных гасцініцах, у канторах лесасплаву, у вайсковых інтэрнатах, у раённых бальніцах, у мностве іншых будынкаў, якія былі раскіданыя па краіне, я чуццём пазнаваў гэтыя лагерныя баракі. Яны хаваліся як бы ўнутры будынкаў, апраналіся ў іх убогае архітэктурнае ўбранне – і ўсё ж праступалі агульнымі абрысамі, кутамі, а галоўнае – адчуваннем смяротнае, без пераноснага значэння, тугі.

Аднойчы я быў у гасцях у шахцёра; з вокнаў яго кватэры адкрываўся від на тэрыконы вугальных шахтаў – велізарныя конусы пустой пароды. Тэрыконы пылілі, дымілі, і я ўнутрана замёр: чалавек жыве з выглядам на марнасць сваёй працы – вось пустая парода, яе пыл разносіць вецер, разносіць далёка, нават помнік шахцёру ў цэнтры горада стаіць з чорнай прысыпкай на твары; жыве – але гэтым відам з вакна яго раз'ядае, як кіслатой, хоць ён пра гэта і не думае. Адсюль і туга, смяротная туга – туга чалавека, які апынуўся толькі матэрыялам або інструментам вялікага будаўніцтва.

Вось гэтае ж адчуванне – толькі памножанае ў шмат разоў – я адчуў там, у гарах; і не толькі памножанае, але перайшоўшае ў якасна іншую ступень; лагерныя баракі, адвалы штольняў на схіле хрыбта – усё гэта

азначала нейкую вялікую задуму, было часткай гіганцкага плану, але ў дачыненні да асабістага лёсу служыла сродкам абессэнсіць яго.

Рабская праца, якім жыло гэтае месца, была анахранізмам для дваццатага стагоддзя; анахранізм жа заўсёды «выпадае» са свайго часу, не ўдзельнічае ў ім, а толькі працягвае сам сябе, якой бы дзейнай ні была імітацыя ўдзелу.

Але акрамя часовага разрыву быў і разрыў прасторавы. Я зразумеў, навошта было высылаць людзей у тайгу, у тундру: іх выкрэслівалі з агульнага быцця людзей, высылалі з гісторыі, і паміралі яны не ў гісторыі, а ў геаграфіі.

Усё там было ўладкавана так, каб месца, дзе жылі і паміралі людзі, не ўбірала ў сябе нічога з іх жыццяў, каб не ўзнікла хай слабое, але прыцягненне гэтага месца. Можна папракнуць мяне ў адцягненасці погляду – але там не было чаму суперажываць, не было за што ўчапіцца пачуццю – і ў гэтым была непапраўная бяда.

Толькі дрэва і камень вакол; шэры, парослы лішайнікам, раскіслым ад дажджу, сланец – шэрыя дошкі і бярвёны. Гэты шэры колер дрэва – з тым адлівам ворсавай сівізны, які бывае ў дарагога шынельнага сукна, ужо быў знаёмы мне; дрэва ўсыхае, нібы мышцы старога, выразна праступаюць яго валокны, а зверху кладзецца гэты налёт шэрасці: някідкі глянец смерці. Такія дошкі я бачыў у закінутых вёсках, і вось цяпер тут, у гарах поўначы. Яны былі падобныя – у гэтым няма блюзнерства – на драўляныя мошчы: нават калі б ударыў мароз, я не стаў бы распальваць з іх вогнішча.

Я ішоў ад барака да барака: іх будавалі спехам, скупа, замест цвікоў выкарыстоўвалі драўляныя кліны; дрэва і камень, ніякага жалеза, ніякай охры ад іржы. Месца памірала ненатуральна прыстойна, імкнучыся цалкам знікнуць у прыродзе. І толькі ў адным бервяне я знайшоў цвік, каваны, чатырохгранны, з аплылай ад многіх udараў галоўкай. Цвік даваў надзею, што месца не знікне да канца, застанецца след, застанецца памяць; цвік паказваў, што гэтыя баракі – не марыва, не прывіднае паселішча ветру і туману, а тут былі людзі.

Я ўспомніў усе цвікі, якія калісьці ўбіў: як прыстаўляюць вастрыё цвіка да дошкі, як б’еш у пятую частку сілы, каб яно ўпілося ў драўніну, як потым, калі цвік ужо ідзе дакладна, стукаеш малатком, радуючыся гэтай дакладнасці – і апошнім ударам уганяеш цвік упоравень з дошкай, нібы ставіш кропку, злучаеш тое, што павінна трымацца разам, быць злучаным.

Цвік; ён лёгка выйшаў з трухлявага бервяна і лёг у далонь. Сама яго форма – форма кропкі, у якой ёсць глыбокі корань, якую не вырваць з таго месца, куды яна пастаўлена па сэнсе сказанага, – пра штосьці прасіла мяне. І, гледзячы на цвік, на бярвёны, на дошкі, я раптам зразумеў тое, чаго не разумеў раней: як могуць злучацца вера, якая грунтуецца на сабе самой, і тое, што мне здавалася разнавіднасцю патрабуючай прадметных доказаў прымхі: з глыбокай пашанай захоўваць цвік з Крыжа Збавіцеля або скепку ад гэтага Крыжа. Я ўбачыў, што размова не пра доказы, не пра літаральнае, музейнае захаванне рэчы – на тыя, што падаюцца нам неадушаўлёнымі, прадметы, якія былі прыладай ці проста сведкамі пакутаў, кладзецца грозны водсвет; яны атрымліваюць як бы другое быццё, нейкае падабенства голасу, прарываюцца праз уласную косназыкасць – сама душа падзеі, квінтэсенцыя яе правідчага значэння пасяляецца ў рэчы і размаўляе з намі.

Вось так, стоячы з цвіком у руцэ, я адчуў, што мне слаба адклікаецца месца, дзе я знаходжуся. Сярод каменю часам трапляліся малыя астраўкі

глебы, настолькі тонкай, што нават мох не мог у ёй укараніцца. І раптам я нібы зрабіў крок у бок ад сябе самога і ўбачыў мясцовасць зрушаным, па-за мной ляжачым зрокам – я ўбачыў, што гэтыя жменькі зямлі, якіх пазбягалі расліны, – гэта чалавечы прах; дакладней, тое, у што прах ператварыўся; тое, што было прахам, а стала зямлёй.

Я ўбачыў, што тое, што здарылася тут, здарылася канчаткова; смерць не імгненная, яна доўжыцца як бы пасля сябе самой: памірае чалавек, сыходзяць тыя, у чыёй памяці ён быў жывы; вымываюцца, знікаюць распыленыя, як часцінкі руды ў пародзе, сляды ягонага існавання. Гэтая вычакальная праца смерці, больш дасведчанай пра тэрміны, адпушчаныя людзям і рэчам, у аглядным часе рэдка паспявае скончыцца: людзі могуць ужо нічога не памятаць, але смерць патрабавальней да чысціні і паўнаты забыцця.

У тым месцы яна давяла сваю працу да канца – і нават сама выветрылася.

Разумовы ці пачуццёвы зварот да памерлых магчымы тады, калі нешта можа адказаць рэхам; калі быццё захавала злепак прысутнасці, сімвалічна адлюстраваны ў пасмяротнай масцы. А калі смерць разбіла і «пасмяротную маску», то ніхто і нішто ўжо не адгукнецца.

Менавіта гэтае адчуванне было там, сярод камянёў; адчуванне страты, якую не перамагчы ні пачуццём, ні думкаю. Зямля была занадта чыстая і ў тонкасці свайго пласта адкрытая погляду, каб можна было паспрабаваць працягнуць сувязь паміж ёй і людзьмі, якія памерлі тут. І толькі цвік, – нібыта ён адзін застаўся ад цэлага дома, – цвік быў у маёй руцэ; валодаючы ўсёй асэнсаванасцю формы, але ўяўляючы сабою адзінку, адзінкавы лік прадмета, а таму і значны, і бескарысны адначасова.

Туман развейваўся; вецер разганяў яго. Я падымаўся да штольняў па сцежцы сярод камянёў, паўтараў той шлях, якім ішлі ўверх зняволеныя. У гэтым не было спробы адчуць сябе на іхнім месцы; часам важна проста паўтарыць чыйсьці шлях, прайсці след у след; тут, на вузкай сцежцы, што вяла крута ўверх, туды, дзе над пустэчай віселі канцы іржавых рэек, з якіх скідвалі ў адвал пароду, рэек, якія заклікаюць кінуцца ўніз, – тут праз мяне, такога, якім я быў, штосьці адбывалася, што павінна было адбыцца ў гэтым месцы.

Адвалы штольняў раптам асвяціла сонца; бітыя крышталікі горнага крышталю, якія напаўнялі восыпы, пырснулі ў адказ ільдзянымі, падманліва асвяжальнымі погляд блікамі. І такім дзіўным быў выгляд гары, такое прыгожае, чыстае, без каляровых прымешак было ззянне, што я спыніўся: гэтае ідэальнае, яснае святло ўвасабляла ў сабе неадухаўлёнае жыццё прыроды, дзеянне яе законаў, у сваім выверaным характве адмаўляючых усё чалавечае. У адвалах штольняў была парода, якая ўвабрала ў сябе смяротныя намаганні людзей, удары кіркай, кроў і цяпло з параненых каменем рук – і цяпер гэтая парода халодна іскрылася пад сонцам; прыгажосць яе не аслабла, не пацьмянела і таму здавалася небяспечнай, дранцвеючай, як свячэнне тонкага вясновага лёду, пад якім – мёртвая, пазбаўленая паветра зімовая вада, поўная тленам рыбінага мору.

Каб перабіць, скінуць уражанне, я павярнуўся. Сонца напоўніла святлом возера ля падножжа хрыбта; выпуклы, быццам кропля на шкле, яго абрыс ударыў у зрэнкі. Нядобры жарт прыроды – жарт, які чакаў сваёй гадзіны некалькі мільёнаў гадоў: у возера былі абрысы профіля Леніна, урэзанага ў падкорку кожнаму з нас ордэнамі, значкамі, маркамі, статуямі, карцінамі, малюнкамі ў кніжках.

Возера ў густой, амаль кандытарскай пазалоце сонечнага святла здавалася жахлівым помнікам, жахлівым таму, што прыродныя формы лёгка і згодна прынялі абрысы формы рукатворнай, і ў гэтым прыняцці – без прымусу – раптам ясна выявілася безсэнсоўнае, бяспамятнае існаванне прыроды, якую мы занадта прывыклі ачалавечваць.

І бачачы гэтую здраду матэрыі, – здраду ў адносінах да тых, хто кожны дзень падымаўся да штольняў з баракаў, гледзячы на профіль памерлага правадыра, чыім імем іх прымушалі да працы, – я адрокся ад пачуцця блізкасці з гэтымі гарамі, ад той канвы ўяўлення – якая надавала ім нейкую антрапаморфнасць. Ува мне паўстала іншае, старэйшае пачуццё: магчымая чалавечнасць прыроды – толькі насмешка, дэманічная ўхмылка; чалавеку ў прыродзе няма на каго спадзявацца, апроч як на самога сябе.

Неўзабаве – экспедыцыя працягвала працу ў ваколіцах кінутага лагера – я выправіўся ў адзіночны маршрут. Праз два дні шляху на горы селі аблажныя воблакі, ішоў дождж, вецер гнаў кроплі паралельна зямлі; нават мне, у дыхтоўнай непрамакальнай вопратцы, было зябка. Непагадзь прыйшла надоўга, горная тундра прамокла, усё, што было прыдатным да вогнішча, – трухлявыя бярвёны, ягель і галінкі палярнай бярозкі – адсырэла; з захаду ішоў цяжкі фронт, і было зразумела, што да ночы дождж зменіцца снегам, паўночнай летняй завеяй, абледзянеюць камяні на перавалах.

Я ўжо думаў павярнуць назад, але заўважыў павець з дошак і толю над старым раскопам, адной з ям, якімі былі раскапаныя горныя схілы на некалькі кіламетраў вакол лагера, – зняволеныя ўскрывалі зямлю і каменную дрэсву, каб дабрацца да карэнных парод і ўзяць пробы. Паветку збудавалі зусім нядаўна, інакш вецер і снег развалілі б яе; хтосьці хаваўся ад непагадзі, не маючы намёта.

Пад паветкай ляжаў беглы зэк; бушлат, татуіроўкі, аблічча – усё выдавала яго; ад кірзавых ботаў, перавязаных дротам, адляцелі падэшвы, ногі былі ў кроў збітыя аб камяні; ісці без абутку ён ужо не мог, рваў бушлат і абмотваў ім ногі, але тканіна з ватнай набіўкай тут жа распаўзалася ад дажджавой вільгаці; ён бачыў над краем ямы снежныя хмары і, напэўна, ведаў, што ўначы памрэ.

Я разумеў, што ён зрабіў бы са мной, калі б заспеў спячым у намёце; уцякач быў вельмі худы, твар яго густа парос валасамі, у іх затрымаліся ніткі моху, лісце, трэскі, бруд; месяц ці больш ён бадзяўся па тайзе, рызыкнуўшы, відаць, бегчы не ў бок чыгункі, а праз горы ў зусім іншы край, дзе яго не будуць шукаць. У яме варочаўся, сагнуўшыся, сцяўшы трохгранную, з напільніка, заточку, ужо не чалавек і нават не нешта чалавекападобнае; лясун, лясны дух, які вылез з-пад зямлі. Месяц бачыўшыся толькі з дрэвамі, ён не быў падобны нават на жывёлу; быццам бы пад зямлёй, душачы адно аднаго, перапляліся карані розных дрэваў, дрэвы загінулі, а вузел каранёў – не расплесці – застаўся жыць жыццём зомбі, разросся, выпхнуў сябе на паверхню, перакочваўся, таіўся па ярах, па карчах, пад вываратнямі паваленых дрэваў; забіў чалавека, запоўз у яго вопратку, уціснуў драўляныя куксы ў боты, але чалавекам не стаў, а толькі даведаўся, як ламаюцца косці і лопаюцца мышцы ў захваце скурыстых, маршчыністых рук-карэнішчаў; калі б у мяне была стрэльба, я б застрэліў яго і заваліў камянямі – ад страху, ад адчування, што перада мной сапраўды падземны выкармыш, які забіў збеглага зняволенага.

Але стрэльбы не было; я спусціўся ў яму. Уцякач адкінуў ад сябе за-

точку; ён быў занадта слабы, каб цяпер забіць мяне з карысцю для сябе. Я мог проста сысці, нібы і не бачыў паветкі, і ўцякач замёрз бы там; хто ведае, за што атрымаў ён свой тэрмін, як бег, ці былі ў яго таварышы па ўцёках і дзе яны; чым ён харчаваўся – грыбамі ці чалавечынай; я спусціўся, распаліў газавую гарэлку і стаў варыць булён з кубікаў. Я разумеў, што ратую напэўна забойцу, можа быць – гвалтаўніка, рабаўніка, людаеда; занадта доўга ён хадзіў па тайзе, каб несці ў кішэнях бушлата прадукты на такі тэрмін, занадта дзіка глядзеў – быццам бачыў мяне разабраным, з успоратым жыватом. Я павінен быў сысці, вярнуцца ў лагер, выклікаць па рацыі міліцэйскі верталёт, але не мог гэтага зрабіць; я спрабаваў уявіць сабе тых, хто пацярпеў ад яго, хто, можа, быў бы гатовы яго забіць, адпомсціць, – але ўсё гэта не мела прамога стаўлення да ямы, да ледзянога дажджу, да снежнага фронту, які насоўваецца. Можна было б выказаць здагадку, што смерць, якая чакае ўцекача, – справядлівая адплата, і хутчэй за ўсё ён сапраўды яе заслужыў; але і думка пра адплату была нейкай ідучай ад розуму, які шукае, як бы чыстым выскачыць з гэтай ямы, ні ў што не ўмяшацца, нічога на сябе не прыняць. “Гэта адплата, яна справядлівая, ідзі, і хай яна здзейсніцца”, – казаў я сабе, але працягваў варыць булён. Аказалася, што бываюць такія сітуацыі, з якіх ты не выйдзеш маральна чыстым, і справа не ў выбары з шэрагу няшчасцяў, а ў тым, каб – калі ты ўжо спусціўся ў яму – не рабіць выгляд, што ты наверсе.

Уцякач выпіў булён праз край кацялка; бляшанка павінна была абпальваць пальцы, але не абпальвала: яны задубелі, пакрыліся арагавелай скурай. Нам не было аб чым размаўляць; ён ведаў, пра што я спытаю, я ведаў, як ён зманіць.

Я пакінуў уцекачу горныя чаравікі, кацялок, ежу, запалкі, дзве пачкі цыгарэтаў, сваю запасную вопратку і аптэчку. Я ведаў, што ён, калі выжыве, будзе кпіць з дзіўнага дурня, які яму сустрэўся, і шкадаваць, што не сустрэў мяне раней, калі быў бы ў моцы абабраць і забіць, каб я яго не выдаў. Выклікаць верталёт з міліцыяй – гэтую думку я пракручваў часцей за іншыя, часам мне здавалася, што дзесьці за дажджом грукоча вінт, што па выпадковасці ідзе борт, што ён сядзе, што іншыя вырашаць за мяне, уцягнуць уцекача ў “Міль”. Але самому пайсці за перавал і сказаць радысту «выкліч круцёлку» – тут, у ваколіцах былога лагера, усё набывала іншую цану; тут рэха занадта ахвотна адгукнулася б брэху аўчарак, стрэлам, калі б уцякач паспрабаваў схавацца; тут у прынцыпе нельга было заклікаць да ўлады, да дзяржавы, да яе суда і справядлівасці; у гэтага месца была свая гісторыя, і яна вельмі строга вызначала, што тут можна, а што – не.

Я вылез з ямы – паглядзець, ці далёка хмары; за спінай скрыгатнула жалеза – уцякач адкрываў кансервы. Я павярнуўся; булён надаў яму трохі сілаў – дастаткова, каб узяць заточку і выставіць яе; я не мог скочыць у яму – ён забіў бы мяне, ён думаў, што я адбяру ежу; я ўсё ж такі скочыў, каб забраць заплечнік, і ён шпурнуў у мяне каменем; я паспрабаваў адцягнуць яго ад кансерваў, але ён тыцкаў заточкай, рычэў, біўся, схапіў мяне свабоднай рукой, прыціснуў каленам; я ўдарыў яго, я быў мацнейшым, але сіла тут нічога не значыла – звар'яцелы, ён вартаваў яму, вартаваў ежу; я зваліў яго, але ён падняўся, кінуўся мне пад ногі, упіўся зубамі ў калашыну, глыбока прапароў заточкай лытку; я выбраўся з ямы, а ён стаў выкідваць адтуль кацялок, вопратку, абутак, бінты – усё, акрамя ежы; ён ужо не ведаў, што значаць рэчы, і толькі ежу розум яшчэ распазнаваў як ежу. Я перацягваў сабе нагу, а ён рычэў і давіўся ежай, чмякаў тушонкай,

піў згушчонку, прабіўшы банку, жор галеты з абгорткай; ён забіваў сам сябе – пасля доўгага голаду яго чакаў заварот кішак, – але не мог спыніцца.

Ён памёр праз гадзіну; нават у сутаргах ён не даваў да сябе падысці; нават паміраючы – я спрабаваў націснуць яму на жывот, засунуць у рот пальцы, каб ён званітаваў, – ён ударыў і ўкусіў мяне; у кішэні яго бушлата я знайшоў потым пусты карабок ад запалак і тры падвэнджаныя на вогнішчы пальцы; мяса запеклася і не пратухла.

Розум мой так саслаб, пачуцці так вычарпаліся, што я пачаў думаць, хаваць гэтыя пальцы асобна ці разам з ім, у адной магіле; потым я зразумеў, што той, другі, з'едзены ўцякач ужо неаддзельны ад першага; я заваліў нябожчыка камянямі і накідаў сапёрнай лапаткай глебу; пустыя бляшанкі і абгорткі я не стаў вымаць – не мог ужо спусціцца ўніз.

Ішоў снег; фронт цыклона разагнаў дробныя туманныя аблокі, і за завеяй, ціхай яшчэ, празрыстай, віднеліся развалiны лагера; прамень прарваў хмары, падсвяціў развалiны, і здавалася, што яны – так святло знікае ўнутры тулава смерча – паглынаюць халоднае ззянне снежнага сонца; і ў гэтай прасторы скажэнняў і прападанняў нядзейнае чалавечае, не здараюцца ні клопат, ні дар, ні ўдзел – скажэнні ўцягваюць іх у свае арбіты і абгортваюць міжвольным саўдзелам у зле.

Так я бачу той лагер, возера ў скальнай катлавіне; там я зразумеў усё, што паслужыла мне потым шляхапаказальнай ніткай.

Вярнуўшыся з экспедыцыі, я даведаўся, што памерла хатняя работніца Другога дзеда; кватэра, згодна з яго пасмяротнай воляй, пераходзіла мне. Я доўга марудзіў, перш чым паехаць туды; я разумеў, што гаворка на самой справе ідзе не пра кватэру; я не мог прыняць гэтыя квадратныя метры, яны мне не належалі і належаць не маглі – гэта жыццё вярнула мяне да таго, ад чаго я з'ехаў: да асобы Другога дзеда. І я ўжо адчуваў, што нічога добрага на гэтым шляху не будзе; лагерныя баракі, уцякач, які страціў усё чалавечае – так часам азіраешся і бачыш, як жыццё падводзіць цябе да разумення, што ўсё ў ім невыпадкова, узаемазвязана, і калі ты жывеш са слыхам на гэтую невыпадковасць – не з містычным успрыняццем, якое ёсць эрзац страчанай прамой размовы з жыццём, а менавіта са слыхам на невыпадковасць, з бачаннем, што і як табе даецца, – ты не можаш выбіраць шлях, гэта шлях і час выбіраюць цябе; тут няма нічога ад месіянства, абранасці або фаталізму; гэта якраз вельмі схаванае, цалкам прыватнае адчуванне: твая чарга, твой час, твой учынак.

Я ўсё ж паехаў па старым адрасе; з аднаго боку, мне было няёмка ўваходзіць у апусцелую кватэру; у гэтым была нейкая недакладная лёгкасць звароту, нібы кватэра павінна была адстаяцца, звыкнуцца з сыходам хатняй работніцы, перажыць яе смерць – і толькі тады, асцярожна, ні да чаго не датыкаючыся, туды можна было б увайсці. Але, з іншага боку, мяне вяло пачуццё, што ў момант, калі смерць яшчэ блізкая, калі ўсе рэчы як бы агаленыя сыходам, можна нешта ўбачыць, адчуць тое, што потым знікне, супакоіцца; рэчы зноў стануць рэчамі, закрыюцца, аддаляцца, і нічога ўжо не пачуеш – толькі дадзенасць бязмоўных прадметаў.

У дзяцінстве я любіў падглядаць за рэчамі; я рабіў выгляд, што сыходжу з дому, знарочыста доўга важдаўся са шнуркамі ў пярэднім пакоі, адчыняў і зачыняў дзверы, каб рэчы падумалі, што я сышоў – і хаваўся сярод адзення і абутку. Яны, ніколі да канца не ад'яднаныя ад людзей, якія іх насілі, і нат паводле свайго прызначэння былі вымушаныя стаць падвойнымі агентамі, маімі таемнымі памочнікамі; пашытыя па мерках

чалавечага цела, яны рабілі мяне недасягальным для няўважлівага зроку рэчавага свету, для якога, як мне здавалася, галоўнае – сілуэт, контур.

Я часта ўяўляў, што адбываецца ў кватэры, калі там нікога няма, і мне думалася, што, вычакаўшы нейкі час, – раптам хтосьці з людзей вернецца, нешта забыўшыся – рэчы, нібы крабы на марскім дне, якое агалілася ў адліў, перабягаюць з месца на месца, зыркаюць спадылба, нешта задумваючы, пра нешта змаўляючыся, нешта хаваючы пад панцырам звыклага вонкавага аблічча, заўсёды гатовыя прыкінуцца тымі паслухмянымі, бязвольнымі рэчамі, якімі іх ведалі мае бацькі.

Увайшоўшы ў кватэру Другога дзеда, я ўспомніў гэтую дзіцячую гульню, якая не была гульнёй; я пераступіў парог ягоных уладанняў яшчэ і як спадчыннік, запознены, няспрытны, які пражыў ужо іншае, вандроўнае, жыццё, якога абцяжарвае ўсялякая ўласнасць і які не ведае, навошта яму два пакоі ў “сталінскім доме”, дзе і тэлефон быў яшчэ ранейшы, з цяжкай чорнай пластмасы, ён вісіць на сцяне, нібы словы, якія маглі данесціся з трубкі, варта слухаць, стоячы навыцяжку; я падняў трубку, як ракавіну на беразе мора, – паслухаць сіплае дыханне часу, які сышоў.

У пакоях, дзе пасля смерці Другога дзеда жыла хатняя работніца, але жыла так, як сядзяць просьбіты – на краёчку крэсла, быўшы чымсьці другарадным у адносінах да рэчаў, цяпер праступалі ў расстаноўцы мэблі, убачанай нанава, чыстым позіркам, жыццё Другога дзеда, яго звычкі, яго хатнія маршруты, яго ўладны характар; мэбля была моцная, грузная, а ў горцы цьмяна блішчалі таўстасценныя чаркі на тонкіх халуйскіх ножках, і да іх не хацелася дакранацца ні рукой, ні вуснамі – за што пілі з іх, з якімі думкамі, што трымаючы ў сэрцы? Бутэлька гарэлкі, заткнутая папяровым коркам, знайшлася ў серванце, але папера рассыпалася найлёгкай карычневай трухой, а гарэлка напэўна выдыхалася, стала нясмачнай вадзіцай.

Рэчы глядзелі на мяне – сярод мэблі быў толькі адзін прадмет другой паловы стагоддзя, тумбачка з ДСП; я адсунуў яе, на фанерным задніку знайшлася жоўтая налепка: «выраб тумбачка, дваццаць чатыры рублі», і я ўнутрана ўлавіў, што яна адзіны мой саюзнік тут, а калі не саюзнік, дык прынамсі не праціўнік; «выраб тумбачка» – у гэтым спалучэнні слоў было нешта вельмі вядомае з часу, у якім я нарадзіўся, часу фанеры і ДСП, беспародных, неяк па-асабліваму бездапаможных матэрыялаў, нібы ўсё больш важкае, моцнае бяздумна растрацілі раней і засталіся толькі пілавінне, абломкі, з якіх людзі прыладзіліся рабіць і мэблю, і перагародкі ў дамах. А шафа, сервант, канапы, этажэркі былі з трыццатых гадоў; шчодра лакаваныя, яны былі грунтоўней за мяне, бралі вагой, груваcткай паставай, іх шкло стала цьмяным ад незлічоных адлюстраванняў, якія пакінулі на шкле свае часцінкі, а я быў як паветраны шарык, нешта бязважкае, нязначнае ў гэтым запаведніку іншых гадоў.

Ні адной кнігі не было ў доме, і не было месца, каб яе паставіць, палічкі або канторкі, – толькі сховішчы адзення і посуду, ложкі, шырокія, высокія, – на такіх добра кахаць жанчыну, злучаючы кроў і кроў, збіваючы, камечачы прапацелыя гарачыя прасціны, і на тых жа прасцінах, гарачых і вільготных ўжо ад спякоты хваробы, не цяжка паміраць. Пасцельнае бялізны па шафах былі цэлыя стосы, хапіла б на вялікую сям’ю, і ў гэтым складзе прасцінаў, падкоўдранікаў і навалачак угадваўся час, калі чыстая бялізна значыла больш, чым проста чыстая бялізна; там з’яўляўся пах акаліны ад праса, у які падсыпалі вугаль з печы, пахі простага мыла, рабрыстай пральнай дошкі, праточнай вады і драўлянай качалкі. Чысты белы абрус,

такі, што ні плямкі, ні абарванай ніткі, накрухмалены, дапаўняў у побыце каларыстычную пару галоўнаму дзяржаўнаму колеру часу – чырвонаму. Беласць адстойвалі як аснову дома; адны – таму, што выйшлі з гразі ў князі і яшчэ занадта добра памяталі бруд і ў літаральным, і ў пераносным сэнсе; іншыя нібы падсвядома адчувалі разліты ў часе бруд і, не бачачы магчымасці застацца чыстымі, захоўвалі чысціню звонку. Гэты «завод» на чысціню заставаўся на ўсё жыццё: у каморы былі швабры, вёдры, анучы, венікі – хатняя работніца да апошняй сваёй гадзіны вычышчала дом.

Апроч відавочнай непрыязнасці рэчаў у кватэры адчувалася яшчэ нешта; яна была як пасланне, ліст, што дзясятак гадоў праляжаў у ячэйцы «да запатрабавання». Пакідаючы мне ў спадчыну сваё жыллё, Другі дзед лічыў яго паведамленнем, якое мог бы зразумець толькі я. Недзе тут, ці то на віду, ці то пад шпалерамі, у швах адзення, у малюнку паркета, хаваўся нейкі надпіс, надпіс быццам бы сімпатычаскім атрамантам, які трэба або нагрэць, або заліць вадой, або падставіць пад святло, якое падае пад пэўным вуглом; кватэра была не пустая, пасланне чакала свайго часу – спячае насенне, зерне імгнення, у якім дрэмле рок.

Я пачаў перабіраць штучкі ў серванце і шафах, выпадковыя, як бы выкінутыя прыбоем на бераг; ключы ад невядома якіх замкоў, ад неіснуючых ўжо дзвярэй, лыжкі і відэльцы – адзіныя ацалелыя з набораў, набытых дзве траціны стагоддзя таму, згубленых у пераездах па розных гарадах; знайшлася ручка ад разбітага кубка – чымсьці ён быў каштоўны, памятны, гэты кубак; знайшліся пагнутыя або зламаныя аправы акуляраў і пенснэ; манеткі, нейкія капейкі даўніх гадоў, чамусьці вылучаныя сярод іншых і аселыя ў серванце; гузікі, парыжэлыя гаплікі для адзення, няпарныя запінкі – адна са счарнелым, як збіты пазногаць, перламутрам, іншая – самаробная, разьбяная, з ініцыяламі Другога дзеда, гравіраванымі па косці; усё гэта было падобна да смецця з сарочынага гнязда – або на тую дробязь, што пасля аварыі, крушэння разлятаецца па асфальце, непрыкметную звычайна, схаваную па кішэнях, на дне сумак і партфеляў, а тут раптам набываючых значэнне незапатрабаваных знакаў прыпынку: усё сказана, прапанова скончылася, і лішнія коскі рассыпаныя па зямлі.

Што застаецца, калі нічога не застаецца – вось гэтае несмеццевае, чыстае, апрыходаванае, як рэчавыя доказы на стале крыміналіста, смецце; застаюцца, насуперак славалюбнай надзеі, сведчанні нейкіх прахадных, мімалётных бедаў – вось акуляры разбіў, вось кубак трэснуў, вось запінку страціў, – нібы жыццё знарок збірае іх, як бы вяртаючы нам нашае ж нявартае хваляванне перад тварам дробных цяжкасцяў; застаецца тая рэчавая біяграфія, якая паказвае, што, па сутнасці, з намі нічога не здараецца, нічога па-сапраўднаму не адбываецца; у сухой рэшце – смецце гэтае, памяткі, засечкі сцізорыкам на школьнай парце.

Ніякіх асаблівых сведчанняў, ніякіх таемных пасланняў не магло быць сярод гэтых згубленых рэчаў, адбіліся ад сваіх, выпалых з рэчавай іерархіі, рэчавага парадку, дзе ёсць пары, дзясяткі, наборы, камплекты. Часам такія дробязі могуць скласціся ў рэбус, але тут было толькі адзінае, што аб'ядноўвала рэчы: усе яны былі надтрэснутыя, паламаныя, пагнутыя, сапсаваныя – у скрыні серванта ляжалі тры гадзіннікі, якія спыніліся ў розныя дзесяцігоддзі, – і сведчанне, якое яны ў сабе неслі, казала таксама аб адным: ад жыцця ніхто не выслізне незламаным, і ўздзеянне яго – уздзеянне механічнае, машынальнае, але непазбежнае і незгладжвальнае. Разарваныя сувязі, парушаныя адзінствы, страчаныя супольнасці; перапы-

неныя падзеі, раскіданыя, страціўшыя сябе саміх імёны; дзірка ў кішэні, прарэх у плашчы, праз якія ўсё высыпаецца, і толькі нямногае ўдаецца ўтрымаць у пальцах. Не таямніца, а адмаўленне таямніцы; апафеоз звычайнасці, маніфестацыя агульнаўжывальнага.

Што ж, гэта толькі даказвала (рэчы – самыя бесстароннія біёграфы), што Другі дзед, якім бы ні было яго мінулае, што б ён ні хаваў за слепатой, шмат у чым пражыў самае шараговае жыццё; рэчы яго былі бяскрыўдныя, як бразготкі, соскі і бутэлечкі для кармлення, а я, згодна з памяццю дзяцінства, чакаў, што яны хоць часткова ўбяруць у сябе ягоны маштаб. Але сапраўднага маштабу не было – ён быў не вялікі, а малы, сляпы стары, які ўмеў адно – выклікаць страх, не спалох, які мы часта блытаем са страхам, асабліва ў дзіцячыя гады, а менавіта страх – прыгнятаючы жывое, заганяючы псіхічную існасць у ненатуральныя станы і прымушаючы чалавека забіваць самога сябе; страх, аптычныя лінзы страху, – яны ўзвышалі постаць Другога дзеда, надавалі ёй дэманічнае жудаснаватае свячэнне. А сапраўдная жудасць была ў бескарысных ключах, у сподачках з пабітых за гады сервізаў, у пацёртых манетках – у ананімнасці існавання, у немагчымасці па гэтых рэштках, нібы прасеяных праз сіта археолага, зразумець хоць нешта ў маральным сэнсе пра чалавека, які нібы зліўся з агульным фонам эпохі, згубіўшыся сярод дробязяў, які прыняў, як схіму, штодзённасць – ці, што дакладней, які заўсёды жыў ёю; чалавеку, за якім адчувалася вялікае зло, але пра якога ніяк нельга было сказаць, што ён сам вялікі ці хаця б маштабны ў гэтым зле. Ні дробны, ні вялікі – асярэдненый; з асобы яго нібы быў канфіскаваны той элемент, які дае патэнцыю да гратэску, да гульні маштабаў, да пераўтварэння ў карліка або волата. Ён быў падобны помнікам, што – запаланілі краіну, ні вялікім, ні малым, бо яны бралі паўтаральнасцю, сілай агульнага месца.

Час ішоў, і я зразумеў, што такі, які я ёсць цяпер, дарослы, нічога не знайду ў кватэры; усё, што ляжала навідавоку, я агледзеў, і ні адна рэч не адгукнулася маўкліваму майму пытанню. А абшукваць шафы, метадычна адчыняць скрыначкі і шкатулкі, успорваць пярыны і падушкі, развінчваць спінку ложка, абшнырваць – ад адной гэтай думкі хацелася вымыць рукі, апарыць іх гарачай вадой да чырвані, да апёку. Мне трэба было вярнуць сваё дзіцячае ўспрыманне – я шмат часу правёў у пакоях Другога дзеда, – зноў прайсці шляхамі гэтага ўспрымання, якое крэсліла свой, пачуццёва рэльефны, план кватэры – улавіць, якія прадметы на ім заставаліся самі сабой, а якія злёгку расплываліся, мігцелі пераліўіста, паказваючы, што ўнутры іх нешта схавана; успомніць, якія куты, цёмныя праёмы за мэбляй, зацішныя месцы за шторамі цягнулі да сябе; адказ быў дзесьці там, у мінулым, у поглядзе з вышыні дзіцячага ўзросту.

Я лёг на канапу – гэтае становішча ўраўноўвае дарослага і дзіцё; у бок уперлася спружына, якая прадрала мякаць падушкі канапы; я доўга ляжаў так, за вокнамі змяркалася, аксамітныя шторы змякчалі святло, і хутка ў пакоі ўсталяваўся паўзмрок, такі, што нельга было разабраць колер вазы з цёмна-сіняга шкла; колер прапаў, нібыта ваза была звычайнай шклянкай, апушчанай у ваду. Накатвала дрымота, і толькі спружына канапы, як я ні варочаўся, усё роўна замінала, тыркалася ў цела, не дазваляючы расслабіцца, не пускаючы ў сон. Я адчуваў, што чагосьці не хапае, і завёў гадзіннік – стары будзільнік з дужкай паміж двух нікеляваных званочкаў, падобны да слімака, у якога замест ракавіны – цыферблат. Гадзіннік пайшоў, у яго быў асаблівы гук, бляшаны сухі клёкат, з-за чаго ў дзяцінстве

мне здавалася, што ён адлічвае свой, асобны час, час насталых альбо надыходзячых падзей, пра якія ніхто, акрамя Другога дзеда, не павінен ведаць. Цяпер усё сышлося – гадзіннік, змрок, які сінее, спружына, якая ўперлася ў бок, і я ўспомніў, як аднойчы прастудзіўся, прыехаўшы ў госці з бацькамі, і мяне пакінулі начаваць у Другога дзеда; я ляжаў на гэтай жа самай канапе, накрыты дзвюма коўдрамі, і ніяк не мог заснуць, гадзіннік і спружына ўтрымлівалі мяне ў хісткасці паўявы, паўсну, з пакоем ужо адбылося начное пераўтварэнне, яго засялілі цені, рухомыя, як водарасці, а прадметы скараціліся да кутоў, цьмяна выступаючых з цемры; цені і куты – пакой стаў сумяшчэннем дзясятка размытых лекалаў, цераспалосіцай крывых і прамых ліній; аб'ём яго паменшыўся, скурчыўся ад куба – да сферы, рухомай, дыхаючай, як лёгкія пры поглядзе знутры.

Я ўспомніў, як ноччу ў пакой прайшоў Другі дзед; яго мучыла бяссонне – толькі ў снах ён мог бачыць нешта, што выходзіць за рамкі памяці, але спаў ён кепска, часта хадзіў на кухню выпіць шклянку вады, затым другую, трэцюю, нібы спрабаваў запоўніць нейкую дзірку ў сабе, і толькі потым засынаў, перапіўшы вады, раздзьмуўшыся, як клоп; сляпы, ён рухаўся самнамбулічна, навобмацак чытаючы кватэру, і мне здавалася, што ў гэтых начных шпацырах ён можа забыцца, запамятаваць, што няспанне яго не заўсёды самотнае, і зрабіць нешта такое, чаго ён не зрабіў бы ў дзённы час; адкрыць якую-небудзь дзверцу, нешта дастаць, чаго ён не хацеў паказваць. І ў той раз я ўгадаў: на зваротным шляху – на кухні яшчэ падалі з крана кроплі – Другі дзед падышоў да мяне, паправіў коўдру – і прачытаў рукамі, ці сплю я; у спячага куткі павекаў расслабленыя, а ў неспячага, толькі заплюшчыўшага вочы – напружаныя, і ён ведаў кропкі, якія варта лёгка крануць, каб зразумець, ці заснуў чалавек; але я сапраўды драмаў, амаль ужо сышоў у сон, амаль ужо не адчуваў цела, якое стала чужым і цяжкім, як зімовая вопратка, і Другі дзед пайшоў да сябе, пераканаўшыся, што я сплю.

Ён у нечым корпаўся там, у сваім пакоі; калі б я рызыкнуў падняцца, ступіў бы на падлогу – Другі дзед адразу б пачуў; але атрымалася так, што ён няшчыльна прытуліў дзверы, насупраць іх стаяла шафа для адзення з вялікім люстэркам, і я мог бачыць, што адбываецца; Другі дзед адамкнуў верхнюю шуфлядку пісьмовага стала і нешта перабіраў унутры.

Я ведаў гэтую шуфлядку; дзіця памятае наперакор усе тыя мясціны, якія для яго забароненыя, і шукае спосабу пракрасціся туды; гэтая шуфлядка была заўсёды зачыненая, у яе быў урэзаны спецыяльны замок, не падобны да іншых замкоў у стале, і я ніколі не бачыў на звязцы Другога дзеда ключа, які мог бы да гэтае шуфлядкі падыходзіць. Я спрабаваў прасунуць унутр тоўстую лёску, каб зрушыць рэчы, якія там ляжаць, і па гуку паспрабаваць зразумець, што там такое; я свяціў у шчыліну ліхтарыкам, даследаваў, ці можна вывернуць шурупы і зняць бакавіну скрыні; усё было дарэмна.

Другі дзед зачыніў шуфлядку; ключ быў у яго ў руцэ, але ён сціснуў яе, і я не паспеў разгледзець ключа; Другі дзед лёг у ложак – кудысьці ж ён паклаў ключ! – і на гэтым начное здарэнне скончылася; раніцай я знайшоў момант і агледзеў пакой Другога дзеда, але так і не знайшоў, куды ён мог хаваць ключ ад скрыні.

Цяпер, праз два дзесяцігоддзі, тагачасная мая цікавасць да шуфлядкі была самым «цёплым» следам з таго, што ўспомнілася; я падышоў да стала Другога дзеда і лёгенька пацягнуў за ручку шуфлядкі. Я чакаў, што яна будзе зачыненая, але яна падалася, рыпнуўшы ў пазах; вера-

годна, за дваццаць гадоў кватэру не раз аглядалі – ці не захавалася чаго каштоўнага.

У шуфлядцы ляжала звязка абтрапаных лістоў, перацягнутых чамусьці ўзорыстым матузком – напэўна, перавязвала жанчына – скрыначка з пісчымі пёрамі і некалькі брытвеных лёзаў – падчысціць памарку альбо кляксу; каляндар з аб'явай аб выбарах Вярхоўнага Савета СССР і круглая бляшаначка з-пад манпансье, поўная канцылярскіх кнопак; была і меншая, з-пад ікры, пушачка – у ёй ляжалі зубы, з каронкамі і без, іклы, разцы, зубы мудрасці – уся стаматалагічная гісторыя жыцця Другога дзеда; здавалася, ён збіраў іх па нейкай дзіўнай прыхамаці, па дзівацтве вар'ята – накшталт таго, да прыкладу, што на Страшны суд неабходна з'явіцца ў поўнай камплектнасці костак, здаць сябе пад роспіс, усе трыццаць два зубы строга па ліку; нават золата і сталь каронак не маглі звязаць гэтыя зубы ў скрыначцы з вобразам чалавека – яны, здавалася, належалі нейкай жывёле, блізкай да ваўка ці сабакі; моцнакостнаму, магутнаму, рosламу, які прапусціў праз пашчу мноства іншых жывёлаў, тлустых ці худых – не важна; нейкае мноства – матэматычнае мноства – праглынутых мроілася пры поглядзе на гэтыя зубы; доўгая чарада жывых істотаў, з'едзеных, каб пашча магла паглынуць кагосьці яшчэ.

Другі дзед захоўваў свае іклы і разцы, быццам рыхтаваўся да новага жыцця, у якім яны яму яшчэ спатрэбяцца. У той жа пушачцы, загорнутыя ў васкаваную паперу, знайшліся і мае малочныя зубы – маленькія, бездапаможныя, як у шчанючка або лісяняці; мне захацелася неадкладна іх выкінуць – было нешта гадкае ў гэтым адчужаным ад мяне існаванні часткі мяне самога; на мяне накацілa старое, забытае ўжо адчуванне – як тады, калі Другі дзед трымаў у руках рэнтгенаўскі здымак майго хрыбетніка – што ён, кіруючыся нейкім інстынктам, збірае ўсё, што магло наблізіць мяне да яго, усё, праз што ён мог валодаць мной, і вобразна, і літаральна; навошта – адгадка ці, дакладней, пачатак шляху да адгадкі, быў дзесьці тут, у гэтай шуфлядцы; я адчуваў гэта, перабіраючы паганскія амулеты Другога дзеда.

Там жа ляжалі і ягоныя зубныя пратэзы – ружовая пластмаса, засаджаная гладкімі керамічнымі зубамі, і спецыяльны парашок – чысціць гэтыя пратэзы. Іх было чатыры штукі – Другі дзед рана пачаў губляць зубы, ці то з-за даўняга голаду і стомленасці арганізму, ці то таму, што цела падыгрывала яму ў жаданні здавацца не старым нават, а дзядком, шамкаць сівавалосым дзядулем зубы-ў-шклянцы. І Другі дзед, менавіта дзед – кароткае магутнае слова, як бы зараджанае каранёвай, заскарузлай сілай, – аддаў цела на водкуп прыкметам старэння, хоць быў яшчэ цалкам здаровы, і гэта дапамагло яму, дазволіла схавацца за ўзрост, але не да канца.

Устаўныя зубы, старэчы ўжытак жыцця, знарочыстае, дзетсадаўскае прымяншэнне ў мове – тваражок, кашка, яблычак, пінжачок, расчосачка; палка для хады, лекі па раскладзе, працёртая цюрка замест супу – усё гэта было маскай перад людзьмі і хітрасцю перад тварам смерці, самапрыніжэннем, паказной бездапаможнасцю: вось ён я, я сьляпы, бяскрыўдны і слабы, я як жучок на тваёй далоні, не тапчы мяне, Госпадзе. Але не жучок, а Скарпіён, які спіць пад халодным і сырым каменем у гарачы поўдзень; шуфлядку пісьмовага стала, ад якога зыходзіў колкі, дрыготкі, як дотык лапак скалапендры, пах шкіпінару і мэблевага лаку, здаваўся сховішчам атрутных стварэнняў – яны схаваліся, уцяклі, але адчуванне, што яны былі тут, засталося; я ведаў гэтае адчуванне па Сярэдняй Азіі, дзе ў зманліва расслабленым, абмяклым паветры заўсёды адчуваецца прысутнасць

сонечнага джала, вясёлая непрытомная атрута раствораная ў ім, і заўсёды блізкі ўкус.

У шуфлядцы стала была яшчэ адна скрыначка – жоўта-крэмавая, ад сметанковай памадкі. Гэтая памадка была маім любімым ласункам, Другі дзед гэта ведаў, і, калі я прыязджаў у госці, частаваў мяне; я падумаў нават, што цяпер адкрыю скрыначку і ўбачу цукеркі, калісьці адкладзеныя для мяне, знайду зацвярдзелыя мядовыя зярняткі цукатаў, у якіх захаваўся не смак ужо, а памяць пра ўласна смак. Другі дзед выдаваў мне часам адну, часам дзве, але не больш, цукеркі, і не ад скупасці, а быццам бы ён ведаў канчатковую колькасць цукерак, можа быць, недададзеных камусьці іншаму, і не спяшаўся выдаць мне ўсё адразу, каб надаўжэй хапіла; я не браў бы ў яго цукеркі, хоць любіў салодкае, – памадкі з ягоных рук рабіліся занадта прытарнымі, перасаладжанымі, – але я баяўся: у мяне было адчуванне, што калі я адмоўлюся, Другі дзед прымусіць мяне з'есці цукерку, упіхне яе ў рот.

Скрынка ад памадак была сігналам, знакам; ніхто, акрамя Другога дзеда і мяне, не ведаў пра звычай пачастунку; унутры ляжалі дзіўныя самаробныя цацкі: вінтоўка ў дзве запалкі даўжынёй, з вострым, зробленым з шыла штыком; конь, абабіты, здаецца, сапраўднай конскай скурай – скуру пад'ела моль, з конскага чэрава высыпалася сенная труха; аўчарка з пальчаткавай лайкавай скуры, з вострымі падклеенымі кіпцюрамі; некалькі чалавечых фігурак, ананімных, як кравецкія манекены – дрэва, шрубкі, гладкія закругленыя галовы; у іх рухаліся рукі і ногі, і ў далонях былі хітра прарэзаныя пазы – у іх дакладна ўваходзіла вінтоўка. Цацкі былі вельмі старыя – і занадта сапраўдныя для цацак; адразу станавілася зразумела, што яны толькі малая частка нейкага набору, і адразу адчувалася, што імі не пагуляеш, як пластмасавымі салдацікамі, – дрэва, жалеза, скура былі не цацачнай прыроды; штучкі са скрынкі былі занадта цяжкія, занадта падрабязна спрацаваныя – у іх адсутнічала ўмоўнасць цацкі, якая дае месца фантазіі; наадварот, яны былі вельмі рэальныя, рэалістычныя, нібы камусьці прыйшло ў галаву такім дзіўным спосабам адлюстраваць нейкага канкрэтнага каня, сабаку – і людзей; толькі людзі былі без адзення, і толькі ліліпуцкія скураныя боты памерам з напарстак былі ў аднаго на нагах.

Я не сустракаў нічога падобнага; успомніў толькі, што некалькі разоў Другі дзед казаў – намёкамі, няпэўна, і як бы трохі прыдумляючы, – што ён падорыць мне, калі я падрасту, нейкія асаблівыя – ён не казаў «цацкі» – ігралкі, ігрулькі. Яны былі перада мной – вінтоўка, конь, сабака, тры чалавечкі; яны не маглі належаць дзіцяці, хутчэй, самаробны сувенір для дарослага – і ў той жа час ад іх павявала вар'яцтвам, заскокам розуму, дзікай засяроджанасцю на дэталях, якая адбываецца ад няздольнасці ахапіць цэлае, балючай падрабязнасцю вар'яцкай задумы, тым жа паганствам, што было ў захоўванні зубоў. Фігуркі маглі б належаць састарэламу палкаводцу, які разыгрывае бітвы мінуўшчыны, але такія, у якіх драўляныя салдацікі, кіраваныя воляй звар'яцелага ад пралітай крыві маршала, гінуць па-сапраўднаму, паміраюць смерцю рэчы – таму яны і павінны быць зробленыя з простых, пачатковых матэрыяў – дрэва, жалеза, скуры.

Я стаяў збянтэжаны; сонечнае джала, памарачная атрута, – усё было як удар, як змяіны ўкус; я думаў знайсці дакумент, нейкае сведчанне, а знайшоў скрыню Пандоры.

Калі б Другі дзед быў жывы, ён напэўна падарыў бы мне фігуркі, нешта патлумачыўшы, распавёўшы пра іх паходжанне; гісторыя ці байка,

жартоўны сюжэт – і яны ператварыліся б у забаўных марыянетак або ў забаўныя штучкі з мінулага: вось, маўляў, чым здавольвалася дзятва, калі яшчэ не было крамы «Дзіцячы свет». І я ўзяў бы іх, у залежнасці ад узросту, як цацкі ці як сувеніры; захоўваў бы, не адчуваючы ўсяго таго, што адчуваў сам-насам з імі.

Фігуркі былі страшныя – іх не хацелася па добрай волі браць у рукі. Здавалася, што дотык да іх небяспечны; што яны неяк звязаныя з памерлымі ўжо людзьмі, паводле якіх яны зробленыя; так, фігуркі былі ананімныя, пазбаўленыя канкрэтных рысаў – але за кожнай з іх няяўна ўгадваўся гэтаксама пазбаўлены прыкметаў, бязлітасна абязлічаны, абкатаны часам да гладкасці чалавек.

У іх быў ёміста выяўлены дух часу: не тое агульнае і знешняе, што лунае ў паветры, утвараючы атмасферу эпохі – моды, лозунгі, прамовы, тэхнічныя навіны, – а тое, што глыбей і бліжэй да сэрца: паняцці дабра і зла, паняцці чалавечага і нечалавечага, сукупная дамінанта адносінаў, тое, што адзін чалавек можа зрабіць іншаму – і час прыме гэтае дзеянне за належнае.

Дух часу – што ёсць чалавек у гэтым часе, наколькі ў людзях свабодна або, наадварот, несвабодна чалавечае; і фігуркі належалі да часу, калі чалавек быў не цацкай нават – у гэтым вобразе ёсць дапушчэнне схільнага да гульняў, адрознага ад выпадку да выпадку лёсу, – а нейкай адзінкай, лёсу пазбаўленай.

Фігуркі ў скрынцы – конь, сабака і тры беспрыкметныя «чалавекі»; у іх была тая трохі каравая трываласць, якая адрознівае сялянскую вупраж ці самаробныя косы, вілы, рыдлёўкі; іх, відавочна, вырабіў не Другі дзед , яму не хапіла б умення, яго пальцы не былі гэтак чула дакладныя; па некаторых дэталях адчувалася, што майстру не хапала надфіляў, разцоў па дрэве, усё рабілася двума-трыма інструментамі: нажом, тачыльным каменем, шавецкай іголкай; старая скура, стары медны дрот, васкаваныя ніткі – фігуркам прызначаўся доўгі век, а можа быць, майстар і не ўмеў працаваць інакш.

Нічога больш у скрынцы не было; я развязаў стосік лістоў. Я не памятаў, каб Другі дзед часта пісаў каму-небудзь ці каб часта пісалі яму; ні паштовак да Новага года або Дня Савецкай арміі, ні тэлеграмаў, ні пасылак – Другі дзед жыў амаль без сувязяў, без сяброўстваў, без сваяцтва; толькі адзін раз, калі я быў у яго, зазваніў тэлефон, і ён казаў, прычыніўшы дзверы ў пакой, а я слухаў, як ён просіць прабачэння і просіць ператэлефанаваць заўтра – цяпер нешта нядужыцца, – нібы не хоча адкрываць сапраўдную прычыну, не хоча прызнавацца, што ў яго ў гасцях хлопчык. Лісты, пэўна, ацалелі толькі таму, што хатняя работніца не адразу знайшла ключ ад гэтай шуфляды, калі спальвала паперы Другога дзеда; шуфлядка засталася зачыненай, так і прабыла зачыненай гады, а потым, калі ключ знайшоўся, ужо непатрэбна было спальваць малыя рэшткі папераў.

У лістах – напэўна, адпраўнік разлічваў, што іх прачытае Другому дзеду хатняя работніца – былі пажаданні здароўя; у кожным лісце гаварылася пра цюленевы і мядзведжы тлушч, адпраўлены Другому дзеду; пыталася, ці дапамог сродак; цюленевы тлушч і мядзведжы тлушч – усё круцілася вакол тлушчу, той, хто пісаў, распавядаў, як здабылі цюленя, як застрэлілі мядзведзя; пісаў карэспандэнт Другога дзеда няўмела, словы яго не слухаліся, і ён груваснціў іх, падпіраў адным другое, каб сказ не рассыпаўся. Але як толькі гаворка ішла пра паляванне – халодная воля стралка арганізоўвалася, рытмічна выпроствала няскладны раней стыль. Цюлені і мядзведзі, мядзведзі і цюлені – той, хто жыў у Паўночным мястэчку, нішчыў іх, рабіў немалы

шлях да мора, выходзіў на зімовае паляванне, і справа, здаецца, была не ў патрэбах Другога дзеда; той, хто пісаў яму, паляваў не дзеля пасылак у сталіцу. Пра паляванне казалася так, нібы ён не страляў, а толькі назіраў, як страляе карабін; і ў гэтым вывядзенні зброі з падпарадкаванай ролі, у прыпісванні ёй уласнага значэння было нават нейкае стрыманае шанаванне. Чалавек як быццам знайшоў сабе апору, знайшоў прадмет, другі, чым іншыя прадметы, які валодае ўладай над жыццём, якой пазбаўленыя рэчы, і з тых часоў трымаўся толькі гэтага прадмета.

Ён прыхінуўся – да вінтоўкі, да карабіна, да стрэльбы, як прыхінаюцца – у пераносным сэнсе – павярхоўна веруючыя да царквы; зброя стала яго рэлігіяй, але без усяго таго пафасу, які звычайна яго акаляе; пах змазкі, пах дыму, асаблівая зухаватасць мужчыны з двухстволкай, патранташы, ягдташы, паляўнічыя апавяданні – усё гэта, падобна, таму, хто пісаў, было не важна. Ён вераваў строга і амаль цнатліва, вераваў у вышэйшую мудрасць механізма, у спускавы кручок, баёк, капсуль, набой і ствол; вераваў у законы фізікі, уладкаваныя так, што стрэл магчымы. Цюлені і мядзведзі, забітыя ім, гінулі таму, што вінтоўка павінна страляць; таму, што мушка шукае цэль; таму, што куля хоча палёту; ён быў малапісьменны, самачынны паэт стральбы, які бачыў свет плоска – у мішэні няма трэцяга вымярэння, – і тым страшней было чытаць ягоныя лісты; любы апантаны жаданнем вынішчэння забойца быў чалавечней, чым гэты знаўца варанення ствалоў, прамой і зваротнай нарэзкі, гатункаў пораху і тыпаў прыцэлу, прыкіпелы да зброі з-за яе бяздушнасці, які палюбіў у ёй гэтую бяздушнасць, што здавалася яму чымсьці вышэйшым, непрадузятым, справядлівым.

Можна сказаць, што той, хто пісаў, адкрыў новае, пазанацыянальнае, пазакультурнае адзінства – адзінства людзей з вінтоўкай, адзінства чыстай сілы, і ён адчуваў задавальненне – быць проста сілай, ніяк не афарбаванай у ідэалагічным сэнсе. Напэўна, ён радаваўся, уяўляючы, як растуць арсеналы, як поўняцца збройныя пакоі; радаваўся, чытаючы ў газетах пра новую ракету ці новую гармату – усё гэта для яго былі толькі формы сілы, сілы беззмястоўнай, сілы як такой, і ён яшчэ даўно, у юнацтве вырашыў быць часткай сілы – часткай самай непрыкметнай, самай безасабовай, якая не мае амбіцый і ў гэтым сэнсе бяспечнай для цэласнасці сілы.

Толькі ўскосна можна было зразумець, што той, хто пісаў, і Другі дзед некалі былі вельмі блізка знаёмыя; гэта разумелася па тым, што былі апушчаныя падрабязнасці і звесткі, без якіх ліст месцамі рабіўся незразумелым і якія, відавочна, ведаў Другі дзед. Мяркуючы па штэмпелях на канвертах, лістам было гадоў трыццаць-сорак; перадапошні прыйшоў за некалькі месяцаў да смерці Другога дзеда, а апошні – пасля таго, як ён памёр; у гэтым апошнім згадвалася пра сустрэчу з Другім дзедам, там быў згаданы і я – так, нібы той, хто пісаў, мяне бачыў. Але я, колькі ні стараўся, не мог нічога ўспомніць; у мяне заставаўся толькі зваротны адрас на лістах – вуліца ў невялікім Паўночным гарадку, дзе быў велізарны горны камбінат, пра які я чуў, калі працаваў геолагам.

Я пачаў перачытваць лісты – раптам я нешта выпусціў; цюленевы тлушч, мядзведжы тлушч – я ўявіў Другога дзеда, як ён па лыжцы есць пахкі, занадта натуральны, не апрыходаваны гатаваннем халадзец тлушчу; тлушч пах мускусам, падскурнымі залозамі, мясам, крывёю, поўсцю, пах зверам, і каб есці яго, трэба было пазбавіцца гідлівасці, якая была больш, чым проста гідлівасць: у ёй выяўляліся нейкія чалавечыя забароны, і той, хто пераступаў праз іх, рабіўся бліжэй да драпежнае жывёлы.

Я памятаў, як аднойчы ў экспедыцыі пасля доўгага голаду застрэлілі аленя і сталі есці свежую печань; праз тыдні непагадзі сонца гуляла ў лістоце, і я адчуваў, як унутры разгараецца такая ж цёплая гульня жыццёвых сілаў, як зыходзячае жыццё аленя наўпрост пераліваецца ў мае мускулы, і мускулы адклікаюцца гатоўнасцю гнацца, хапаць, раздзіраць. Сонца да дна прасвечвала вір, ад роўнай вады зыходзіла моц плыні, вецер згінаў бярозы, і я адчуў, як праз мяне праходзяць токі прыродных сілаў, што я – адно з вадой, з ветрам, адчуў сябе як злітак ясных, празрыстых і густых, як сонечнае святло тайговага жніўня, жаданняў. Я быў як рачная вада, рухам, бруеннем гэтых жаданняў, я быў бег і хватка – а праз хвіліну мяне скруціла сутарга, і не ад сырой печані, страўнік яе прыняў, а таму, што я праваліўся ў стан жывёлы і цяпер праз боль вяртаўся ў стан чалавечы.

Цюленевы тлушч, мядзведжы тлушч – сакрэт доўгага жыцця Другога дзеда пах дрымучай крывёю, крывёю пахлі лісты, і я больш не хацеў ведаць, што там, у ягоным мінулым; сысці з кватэры, выкінуць ключы – хай яна стаіць, як забытая пастка, стаіць зачыненая, закаркаваная; калі б гэта была не кватэра, а асобны дом, я спаліў бы яго, як зачумленага. Я зноў адчуў, як ува мне абарачаецца кроў Другога дзеда, як расце кароткі звярыны волас, растуць занадта цвёрдыя пазногці; мне хацелася саскрэбці мяса з костак, выліць кроў, вычысціць касцявы мозг.

Я прыгадаў, як на лецішчы бабулька з вясковых, якая не любіла дачнікаў за тое, што ўчасткі нарэзалі на самым ягадным і грыбным узлеску, на самым вільготным прыпёку, дзе яна збірала святаяннік, рамонак, мацi-і-мачыху, баркун, чараду, канюшыну, малінавы ліст і ліпавы цвет, – яна аднойчы сустрэла на лясной сцежцы Другога дзеда. Я краўся за ім бокам і бачыў, як яна паглядзела на яго, як ён нёс раскладное крэселка, бітон і вуды, акуратнага, з насоўкай у кішэні, – паглядзела і сказала гучна: «У, пярэварацень!" Другі дзед нечакана адказаў гучна: «Здурнела, старая» – і пайшоў далей; адказаў у меру абыякава, у меру пагардліва, як з'едлівы наогул стары мог бы адказаць знаёмай шкоднай бабулі, з якой не хоча спрачацца, – замітусіцца, замучае, прыставучая барадаўка, – але бабуля ж не была ні шкоднай, ні прыставучай, яе ведалі як маўчунню, а з Другім дзедам яны раней і слова адно аднаму не прамовілі; я сядзеў у кустах, каб не выдаць сябе траўніцы, Другі дзед сыходзіў, а яна глядзела яму ўслед і нешта шаптала.

Пазней я пастараўся патрапіць да бабулі дадому; хтосьці хварэў, і я падахвоціўся схадзіць па травяны збор ад прастуды. Бабуля ўпусціла мяне ў хату, занадта прасторную для яе адной; хата была вялікай, складзенай з бярвення таўшчынёй у ахоп, і відаць было, што яго будавалі вялікай сям'ёй. У цэнтры хаты стаяла велічэзная пабеленая печ, раздабрэлая, аплылая, як жанчына ў гадах, касмічная па адчуванні – усё круцілася вакол яе, яна была і вось, і апора, у яе ўлонні прэла каша, варыліся супы, нараджаўся хлеб – каравай, круглы, як сонца, вясковы хлеб; але побач з печчу больш выразнай і горшай рабілася пустата пакояў. У адным пакоі скрозь шторы я разгледзеў сцяну фотаздымкаў – дзясяткі мужчынскіх, жаночых твараў, якія глядзяць па-сялянску засяроджана і строга, як быццам фатаграфаванне – цяжкая жыццёвая праца, за якую трэба брацца, сабраўшыся; ад фатакартак хата на імгненне напоўнілася людзьмі, гаваркімі, якія абедаюць, бо прыйшлі з агарода, з поля, напоўнілася – і апусцела. Пакуль бабуля перабірала травы, я шукаў у сабе веданне пра тую сілу, што вымела, выкінула з жыцця ўсіх гэтых людзей, пакінуўшы бабулю захоўваць дом як

памяць пра тых, хто сышоў; бабуля дала мне травы, сухенькія, жорсткія, патлумачыла, як заліць кіпнем; я хацеў нешта сказаць ёй, суцешыць, але раптам зразумеў, што ёсць час для спачуванняў і суцяшэнняў, ёсць час для спагады і суперажывання, і час гэты даўно выйшаў; мае словы не прагучаць, бо нешта не было сказана раней – і не мной.

Безнадзейны быў стары дом, безнадзейная печ – адных дроваў колькі ідзе, перакошаны плот, на якім сохлі слоікі, і кульгавая котка, якая грэлася ў запеччы; я пайшоў, падзякаваўшы і паабяцаўшы сабе праведваць бабулю, але абяцанне не стрымаў – усё, што я мог зведаць, змясцілася ў адно ўражанне, і яно ўжо не магло павялічыцца і нават паўтарыцца не магло; была нейкая дакладнасць у адзінкавасці сустрэчы, у тым, што яна не ператварылася ў добрасардэчны догляд; бабуля не мела патрэбы ў ім, як не мае патрэбы той, хто моліцца, у падбадзёрванні, і праз некалькі гадоў я забыўся пра яе, забыўся ў росквіце дзяцінства, якое пазбягае старэчых бедаў.

І вось праз гады – жыццё часам на дзесяцігоддзі апярэджвае нашыя пытанні – я ўспомніў яе, успомніў словы «у, пярэварацень!»; яны супалі з маім азарэннем, з адчуваннем густой нечысціні крыві; і я збег з кватэры, зачыніў яе, а ключ, спецыяльна выбраўшы дарогу паўз раку, утапіў; з'ехаў у бацькоўскі дом з цвёрдым намерам не ўступаць у правы спадчыны, наогул не мець справы з гэтай кватэрай, скажам, прадаваць або разменьваць яе – хай стаіць, зачыненая, пустая, нібыта згубленая сярод іншых кватэраў, дамоў, вуліцаў, хай аддаляецца, памяншаецца да кропкі; я нешта зразумеў, і мая гісторыя завершаная.

У бацькоўскім доме я быў тады адзін; прыйшоўшы, я стаў звыкла шукаць апору ў кнігах – узяць любую, адкрыць на выпадковай старонцы, уключыцца ў сюжэт, перабіць кругазварот думак; толькі ў той раз я выбраў кнігу з намерам, каб апынуцца як мага далей ад сапраўднасці – і не атрымаць з тэксту якога-небудзь водгуку, супадзення; я ўзяў «Пра таго, хто ўсё бачыў: гісторыя Гільгамеша са словаў Сінлікіўніні, заклінальніка» – цёмна-зялёны, балотнага колеру том; узяў, успамінаючы апісанне Урука, ачалавечванне Энкіду, паход на Хумбабу; але кніга адкрылася зусім не на гэтым месцы. Я прачытаў:

*...Чалавек-скарпіён вусны адкрыў і мовіць,*
*кажа ён Гільгамешу:*
*"Ніколі, Гільгамеш, не бывала дарогі,*
*Ніхто не хадзіў яшчэ ходам горным:*
*На дванаццаць попрышчаў цягнецца ўнутр ён,*
*Цемра густая, не відаць святла –*
*Ты ўвойдзеш і больш адтуль не выйдзеш!*

*Гільгамеш яму адказвае, чалавеку-скарпіёну:*
*«У тузе маёй плоці, у смутку сэрца,*
*У спякоту і ў сцюжу, у цемры і ў змроку,*
*Ва ўздыхах і плачы – наперад пайду я!*
*Цяпер адчыні мне горныя вароты".*

«...Цяпер адчыні мне горныя вароты», – паўтарыў я; мне ўспомніліся якуцкія паданні пра мамантаў, якія жывуць пад зямлёй, і калі тундра ўздымалася ад намерзлага ў глебе лёду, якуты верылі, што там, у глыбіні, прайшоў мамант; калі знаходзілі ў абрыве тушу маманта – думалі, што ён загінуў,

выпадкова ступіўшы з зямлі на сонечнае святло. Я адчуў, як гэта вобразна дакладна – ісці скрозь зямлю, скрозь гару, скрозь зляжалы, скамянелы час; але я яшчэ не ведаў, што мне трэба будзе зрабіць, як дзейнічаць.

Ночы былі бяссонныя, а бліжэй да світання прыходзілі сны, тры сны; яны паўтараліся ў адным парадку, але паходжанне іх было іншае, чым у іншых паўтаральных сноў, якія якраз з-за паўтарэння цясней за ўсё звязаныя з нашым дзённым жыццём, нават калі гэтая сувязь няясная: так нырэц бачыць на дне свой уласны цень, які ўжо не адпаведны абрысам чалавека, аднак рухаецца сінхронна з ім.

Часам жа сон пашыраецца ў найглыбейшыя пласты свядомасці, якія залягаюць як бы ў баку ад магістральнага калодзежа, праз які мы апускаемся ўнутр сябе; менавіта яны, а не агульнавядомыя ўяўленні моманту, шмат у чым вызначаюць нашую прыналежнасць да таго ці іншага гістарычнага часу.

Гэтыя пласты ўбіраюць, упітваюць усё, што для нас знаходзіцца на перыферыі ўспрымання, што складае фон, што размыта, размазана, што ўелася паўсюль, як пыл. Не словы, але адценні словаў, не гук, але гучанне гуку, не колер, але пераламленне колеру ў паветры часу.

Трубы ваенных аркестраў у розныя гады гучаць па-рознаму, і гэта залежыць не толькі ад слухача; бывае цішыня напярэдадні вайны, якую можна разарваць гукам аднаго горна, – і бывае цішыня пасля паразы, у якой завязне, заглухне і гук цэлага аркестра.

Ёсць часы светлыя і часы цёмныя; змяняецца агульны тон, змяняецца асветленасць, і адзін і той жа колер выглядае па-рознаму, як у адрозных адзін ад аднаго аптычных асяроддзях: чырвоныя сцягі грамадзянскай, у якіх было больш пунсовага, і чырвоныя сцягі трыццатых, у якіх стала больш барвовага – адны і тыя ж толькі для чорна-белай кінахронікі.

Гістарычны час уваходзіць у нас не толькі праз свае сімвалы, якія заўсёды з’яўляюцца з некаторым спазненнем; не толькі праз наш прамы ўдзел у падзеях, не толькі праз адчуванне частковай або поўнай супадпарадкаванасці асабістага лёсу – агульнаму. Яно асядае ў нас штодзённа, штогадзіны, афарбоўвае нас у свой колер, падлажвае наш слых да свайго гучання, выбудоўвае нашу гаворку па сваёй інтанацыі. І гэтыя невідавочныя перамены будуць тым мацней, чым гэты час не проста больш працяглы – чым больш ён татальны, што азначае не багаты адценнямі.

І аказалася, што доля мінулага, невідавочна прысутнага ў сучаснасці, распыленага ў ім, была вельмі вялікая; то быў голас крупінак, смецця пад лаўкай, голас выпадковых асобаў, акордаў выпадковых мелодый скрозь шоргат рэпрадуктара, голас забітых вокнаў. Казалі пясок, пыл, попел, прах, касцявая мука, соль, цукар, газа, мыла, запалкі; казалі старыя дамы, лукавіны рэк, згнілыя ў затоках параходы, вугаль, згарэлы ў топках, порах, які выштурхнуў кулю са ствала, пазелянелы метал гільзаў; казала ўсё, што знікла, распалася, было выпіта, з’едзена, зрасходавана, выкарыстана – і ўсё ж такі не прапала, адгукалася сіле сну, якая шукае, якая збірае; дзённай свядомасці яно не паддалося б – толькі сну, які змяняе ўспрыняцце, які цягне сцежкі пазнання ўнутр рэчываў, да атамаў і малекулаў – і ўсвядоміўшаму ўжо не дух, а былую адзначанасць ім.

Пачынаўся першы сон: я бачыў вясновы рачны лёд, друзлы з-за саслаблай унутранай сувязі, і толькі ў адным месцы, што цягнецца паласой упоперак ракі, па-ранейшаму шчыльны.

Зімою там была пераправа, утрамбаваны снег амаль не раставаў, і толькі грудкі яго ад колаў, палазоў, падковаў, валёнак, дзіцячых чаравікаў рабіліся

ўсё больш выпуклымі. Яны раптам набывалі дадатковае значэнне: людзі ўжо загінулі – такое было веданне сну – але па выпадковасці захаваліся адбіткі іх падэшваў.

У скамянелым пяску археолаг знаходзіць ямінку, след ступні – і ў неўяўляльна далёкім мінулым, дзе нельга і ўявіць чалавечае існаванне, з'яўляецца засечка адліку быцця, знак сцвярджэння: я быў. Гэтая з'ява, якая мае двайную прыроду факту і сімвала, – адно ўзмацняе другое – графічна набліжаецца да пульсуючай кропкі пасярод ліста, па-за суседствам іншых кропак; кропкі пачатку.

Сляды на лёдзе гэтак жа пульсавалі, але былі ўжо не кропкамі: аб'ёмныя літары наборнага шрыфта, якія складваліся ў нейкія словы, радкі, тэкст. Здавалася нават, што кожны з іх быў пакінуты спецыяльна: людзі маглі б ісці бясследна і наогул жыццё ўладкаванае так, што слядоў, калі не прыкласці старання, не застаецца – але тыя, хто ішоў па лёдзе, ступалі з намерам, каб мокры снег адлігі прыняў вагу цела і зняў злепак іхняе падэшвы.

Умарожаныя ў лёд словы былі журботныя; кожны след азначаў зроблены крок, а крок набліжаў знікненне, якому супрацiвіўся след. Яны паўтараліся – так чалавек у роспачы паўтарае адно і тое ж, і ўзнікаў сатканы з многіх паўтораў рэчытатыў.

Паспешлівыя, перакрываючыя, перацякаючыя адзін у аднаго, як плач, сляды злучалі ў сабе множнасць лёсаў – і адзіннасць шляху. Здавалася, што нейкая неадчэпная пагроза суправаджала тых, хто ішоў, падштурхоўвала ў спіну, не дазваляла звярнуць.

Потым – такая здагадка паўстала аднойчы, але затым кожны раз здаралася ў сне нанова, – я дадумаўся, што недзе ў снежнай мешаніне ёсць і адбіткі ботаў канвою, які наўрад ці крочыў па цаліне, але іх ужо не распазнаць: яны згубіліся, уліліся ў агульны строй. І гэтая неадрознасць нявольнікаў ад наглядчыкаў – не пазнаць, хто быў хто, – выклікала жах, хоць у ёй была і падказка: не канвой паказваў накірунак, над ім таксама вісела пагроза, якая прымушала людзей ісці па лёдзе.

Тут сон змяняўся; дзесьці настолькі далёка, што яго маленькі сусвет ледзь змяшчаў у сабе такую адлегласць, нешта абвальвалася, узрушэнне паскарала час, да гэтага неадчувальны, узнікаў і нарастаў ледзяны гул – і лёд пераправы надвое разломвала расколіна, якая прайшла па звілістай лініі рачнога фарватэру.

Расколіна імкліва шырылася, ператвараючыся ў палонку, адтуль вырывалася ўспененая вада; лёд драбіўся, палонкі крэмзалі яго, раздзіраючы злітную карціну пераправы на кавалкі; крыгі перакульваліся, а вада напірала яшчэ магутней, заліваючы ўсе сляды, усе адбіткі. Гэтая вада донных плыняў, пазбягалая палонак, адстаялая ў вірах, пад ярамі, алеістая і нясвежая, нібы ў ёй доўга – з-за холаду – распадаліся тапельцы, была як пустата нічога не распазнаючага позірку, у якім знікаюць, перастаюць існаваць рэчы, з'явы, падзеі.

Раптам адзіным рухам падаваўся наперад увесь, не закрануты яшчэ расколінамі на фарватэры, лёд ракі – і рабілася зразумела, наколькі шырокае рэчышча. Тое, што здавалася пакатым берагам, аказвалася таросамі, а самі берагі былі настолькі аддаленыя, што не дасягнуць позіркам, не зачапіцца за іх свядомасцю. Рух лёду збіваў з ног, а потым пада мной расступалася палонка.

Тут я прачынаўся, але прачынаўся з аднаго сну ў іншы. Абодва яны – а будзе яшчэ і трэці – суадносіліся адзін з адным як некалькі сфераў, якія

маюць адзін цэнтр. І, пераходзячы са сна ў сон, ты пры гэтым заўсёды знаходзіўся ў сэрцавіне, у цэнтры падзеі, якая па-рознаму выяўлялася ў кожнай са сфераў сукупнага трохчасткавага сну.

Я апынаўся на пероне вакзала, бачачы яго не зрокам відавочцы, а як бы знутры таго, што адбываецца. І я бачыў у людзях, у іх узаемным размяшчэнні невыпадковасць лакальнай будучыні, настолькі пэўнай, як бліскучыя лініі рэек, што галіняцца на пад'язных шляхах і сыходзяцца ў дзве паралельныя на магістралі. Пазбаўлены ў гэтым сне цела, укаранёны, як крупінкі нейкай адчуваючай і думаючай матэрыі, ва ўсё жывое і нежывое, я таксама падлягаў гэтай невыпадковасці.

Вось сон пачаўся: да перона падышоў цягнік; два дзясяткі вагонаў былі нейкія непрыкметныя ў параўнанні з паравозам. Вугальны дым з яго топкі, насычаны сажай, задушлівы; тупыя рэжучыя краі колаў, чырвоныя іх спіцы, падобная да сукравіцы змазка, якая сочыцца з поршняў; рубінавая зорка ў тарцы безгаловага тулава – нібыта акляймілі магутную жывёлу, якая складаецца з адных цяглiцаў, акляймілі, правёўшы пяціканцовы надрэз – і сіла цяглiцаў выціснула з надрэзу пунсовае мяса, зрабіла кляймо выпуклай зоркай, – усё гэта аглушыла мяне, пазбавіла волі.

Я – той я, які існаваў па-за сном – зразумела, ведаў, як выглядаюць старыя паравозы: дзяцінства тэхнікі, аграмадныя машыны, зробленыя па лякалах цацак. Але ў сваім часе паравоз выглядаў ужо інакш. З-за недасканаласці канструкцый – такія недасканалыя з пункту гледжання эвалюцыі дыназаўры, – гэтая маса металу была чымсьці жывым; тэхніка – і першабытная сіла.

Паравоз спарадзіў час, чыя эстэтыка шукала натхнення ў прамысловай працы, час урачыстасці механікі; механіка давала метафары паэтам, ёй давяралі ўладкаванне чалавечага жыцця, а чалавека спрабавалі разабраць і сабраць затым нанова, каб вывесці гамункулуса – са сталі і алюмінія, з маторам замест сэрца. Паравоз стаў цудоўным сімвалам, трыумфам стваральнай моцы – але цяпер, як я адчуваў у сне, сам час баяўся яго, як антычныя багі страшыліся спароджаных імі сторукіх волатаў.

У яго топцы, як у вогненнай печы, згарэлі няверуючыя пакутнікі рэвалюцыі, паравоз прывёз у сталіцу цела правадыра, якому прызначана было быць несмяротным – і сам стаў адным з малодшых боствaў новай пантэістычнай рэлігіі. І вось цяпер на вакзале з прыходам цягніка распаўсюдзілася адчуванне бяды: у паравоза быццам бы было ўласнае разуменне, каго і куды везці, і паездка ператварылася ў трывожнае чаканне – у няўмольнасці і дакладнасці механізму чыгунак уяўлялася нейкая іншая няўмольнасць; ніколі не зразумееш, з якога моманту ты едзеш ужо згодна з чужой, над усім узнесенай воляй.

Паравоз спыніўся ля перона, з вагонаў пачалі выходзіць людзі. Шкляны купал вакзала, сталёвыя бэлькі, кожную іх заклёпку пакрываў халодны пот імжы туманнае раніцы, якая асела на часцінках вугальнага дыму. У шэсцярнях вакзальнага гадзінніка штосьці заела; хвілінная стрэлка замерла, уздрыгваючы, і цыферблат стаў падобны да круглага акенца багажных вагаў.

Ля самага канца перона, каля паравоза, узніклі некалькі чалавек у форме; колер яе і фасон былі не важныя: сярод паліто, кажухоў, плашчоў, ватовак істотнай падрабязнасцю была сама форма, аднолькавая, безаблічная і строгая. То быў вобраз – вобраз улады, паўсюднай, як закон прыцягнення, настолькі ўсёабдымнай, што яна не мае пазнавальных рысаў, якія заўсёды ёсць прыватнасцю.

Суседства паравоза і салдатаў у форме было не выпадковым: ад яго

чырвонай зоркі рабіліся лепш відаць зоркі на кукардах фуражак. Калі салдаты з'явіліся, перакрыўшы выхад з перона, усе, хто ішоў з цягніка, ужо былі той разнавіднасцю натоўпу, што ўзнікае на кароткі час, калі вялікая колькасць людзей, якія доўгі час вымушана прабылі разам, пачынаюць рухацца. Гэты няпэўна-дружалюбны натоўп, у якім яшчэ дзейнічае слабое прыцягненне выпадковага знаёмства, прывыкання адно да аднаго, рухаецца дзелавіта, амаль радасна – скончылася доўгае чаканне, – і адначасова ў ім кожны аддзяляецца ад спадарожнікаў, ідзе ў сваім рытме, і чым далей ад вагона, тым менш гэтую супольнасць людзей наогул можна назваць натоўпам, кожны чалавек ужо адасоблены, ён ідзе сваёй дарогай, для якой вакзал толькі адпраўная кропка, і законы, якія вызначаюць паводзіны менавіта натоўпу, над ім не ўладныя.

Аднак варта было з'явіцца салдатам – і ўсе, хто выйшаў з цягніка, спачатку няўлоўна запаволіліся, потым кожны павярнуў, патупаў, збіўся з кроку, каб прыкрыцца ідучым наперадзе ад позіркаў салдатаў. Глядзелася гэта так, нібы мішэні на стрэльбішчы, выстаўленыя на рознай адлегласці, бачком-бачком пахаваліся адна за другую. Чалавек ішоў, схаваўшыся за чужую спіну, і не бачыў, што за ім гэтак жа хтосьці ідзе след у след, а за ім – яшчэ адзін, а за ім – яшчэ... Гамонячы, бадзёры натоўп, які запоўніў перон, раптам сціснуўся да некалькіх нароўных ланцужкоў, быццам адбылася нейкая хімічная рэакцыя, якая прымусіла чалавечыя атамы злучыцца ў працяглыя гнуткія малекулы.

Я чакаў, што адчую страх усіх гэтых людзей – ён павінен выплюхнуцца, імгненна перамяніць паветра вакзала, пераўтворанага ў пастку. Аднак замест рэзкага выплюхвання ўсюды адчуваўся нейкі атупляльны наркоз; страх быў, але ён быў звыклым, заўсёдным, толькі трохі ўзмацніўся; напружанне не ўзнікала, людзі нібы загадзя кожны ад сябе адмаўляліся, развітваліся самі з сабой – і неслі сябе да выхаду, як складзеную стосам вопратку ў армейскай лазні або ў турме.

Хоць людзі і хаваліся, асэнсаванасці ва ўсім гэтым было не больш, чым у рухах чарвяка, рассечанага рыдлёўкай. Сапраўдны страх можна зведваць, прадчуваючы хуткае расстанне з жыццём – а тут расстанне быццам адбылося нашмат раней, чым гэтыя людзі выйшлі на перон і нават селі ў цягнік; адбылося ледзь ці не пры нараджэнні. Жыццё забралі ў іх – і выдалі назад, але ўжо як бушлат са склада, у часовае карыстанне; а цяпер, на пероне, запатрабавалі выдадзенае вярнуць – хай і раптоўна, але з поўным на тое правам.

Побач з салдатамі паўстаў аддзелены кут: там, цесна збіўшыся, стаялі тыя, каго выцягнулі з натоўпу; па цеснаце целаў гэтая група была астраўком у адносна разрэджаным чалавечым моры, але ўражанне астраўка якраз і не ўзнікала; успрыманне адразу рэгістравала асаблівасць: гэтых людзей як бы няма – і толькі потым атрымлівала ёй тлумачэнне.

Усе астатнія – многія сотні людзей – не глядзелі на арыштаваных. Група схопленых стала кропкай адсутнасці поглядаў, усеагульнай «сляпой плямай"; здавалася б, гэта магло, наадварот, вылучыць яе, падкрэсліць яе прысутнасць, але не: арыштаваныя таксама не глядзелі за межы свайго кола, і таму іх група канчаткова «выпадала» са звязанасці суцэльнага поля зроку.

Арыштаваныя былі – я бачыў іх; і ў той жа час успрыманне, якое, аказваецца, прыкмячае і ўмяшчае значна больш, чым даносіць да нас, але гэты зазор выяўляецца толькі ў асаблівых выпадках, паведамляла мне, што іх няма; мой погляд нібы трапляў у сукупнае прыцягненне поглядаў іншых

людзей, адхіляўся згодна з вектарам сілавых лініяў гэтага прыцягнення, і тое, як гэтыя вектары размяшчаліся, – мінаючы групу побач з салдатамі, – казала мне, што групы на самой справе няма, што там пустата, раз туды ніхто не глядзіць.

Я спрабаваў утрымаць позірк, не даць яму сысці ўбок – але, як стрэлка компаса ўслед за магнітам, ён ішоў за напрамкам накіроўваючых вектараў. Аказалася, што чужыя позіркі – гэта гаворка ў загадным ладзе, гаворка тым больш уладная, чым менш кожны з тых, хто глядзіць, самастойны і здольны выбіраць, куды яму глядзець.

Каб вырвацца з плыні пoглядаў, якія цягнулі мяне да выхаду, міма арыштаваных, я глядзеў праз шкло вакзала на таварныя шляхі – і бачыў там паравоз, двайнік першага, да якога чаплялі цяплушкі з рэдкімі закратаванымі вакенцамі. У гэты момант я ўспамінаў – успамінаў у лакальнай, «наведзенай» памяці сну, – што ўжо перажываў усё гэта, у папярэдні раз бачачы гэты сон, і заракаўся надалей глядзець на таварныя шляхі, нібы тыя вобласці сну, што заставаліся за межамі майго погляду, знаходзіліся ў свайго роду забыцці, і толькі мая ўвага замыкала праз іх ланцуг падзеяў, – заракаўся, бо другі паравоз, другі цягнік, а дакладней, эшалон, прызначаўся для арыштаваных на пероне.

У цяплушкі пачалі заводзіць людзей, і я зразумеў, што тыя, каго затрымліваюць на вакзале, – гэта спісачная нястача, іх бяруць, каб эшалон пайшоў поўным, наўзамен тых, каго не ўдалося ўзяць у горадзе. З поглядам за межы вакзальнага купала мне адкрывалася і прычына трывогі, якая ахоплівала мяне ў самым пачатку пры выглядзе паравоза. Арыштанскі эшалон ужо стаяў на сваім месцы, калі цягнік толькі падыходзіў да вакзала, пад'язныя шляхі выгіналіся, і нейкі час людзі, якія ехалі ў цягніку, бачылі з вокнаў сваіх купэ гэтыя цяплушкі; два часы, сучаснасць і будучыня, прайшлі блізка-блізка, як караблі на сустрэчным курсе, аднак сучаснасць не даведалася і не магла даведацца будучыню, а будучыня, здавалася, была абыякавай да сучаснасці. Для пасажыраў цягніка цяплушкі на таварных шляхах былі тады апошнімі, ужо нічога не значнымі кадрамі ў кінастужцы відаў іх падарожжа, і калі спытать любога з іх праз пару дзён, што ён бачыў, калі цягнік набліжаўся да вакзала, – ён у лепшым выпадку ўспомніў бы, што на суседніх шляхах стаяў нейкі эшалон, але не змог бы сказаць больш нічога пэўнага.

І вось цяпер гэтая прыватнасць, гэтая нічога не абазначальная дэталь – эшалон на бакавых шляхах, шэраг шэра-зялёных цяплушак, – для тых, каго арыштавалі, стаў, быццам клеткі ракавай пухліны, памнажацца, пажыраць здаровую плоць светабудовы, расці, перакрываючы сабой далягляд, які сціскаўся, пакуль не ператварыўся ў адну іржавую пашчу вагона.

Па тых жа шляхах, па якіх яны прыбылі сюды, арыштаваных павязуць у той бок, адкуль яны прыехалі. Але калі сюды кожны з іх ехаў кімсьці, хто мае імя і прозвішча, знаходзячыся паміж домам і мэтай падарожжа, кожны мог пра сябе сказаць: я такі і такі, еду адтуль і туды, дык цяпер яны стануць нікім, яны не будуць ведаць нават, куды іх вязуць.

Я бачыў, як людзі пераходзілі з яснага, асвятленнага вакзала, чый ячэісты зашклёны купал утвараў на пероне сетку каардынатаў, старанна, як у сшытку па арыфметыцы, прамаляваную сонцам, раптам заззяўшым над ранішняй смугой горада, – пераходзілі ў цень, якую кідалі на таварныя шляхі іншыя будынкі, у цень, дзе не раставаў, трымаўся прыхоплены лёгкім марозчыкам змрок ночы.

Я ўбачыў вакзал, убачыў гадзіннік, які ўсё яшчэ марудзіў перакідваць

стрэлку на дзяленне далей, велізарнае мазаічнае пано на тарцавой унутранай сцяне вакзала, якое было яшчэ не скончана, з-за чаго здавалася, што намаляваныя на ім безгаловыя чырвоныя гіганты-салдаты складаюць, надбудоўваюць самі сябе, а будаўнічыя рыштаванні толькі дапамагаюць ім стаяць прама, – убачыў усё гэта як адно застылае імгненне.

Мяжа святла і ценю зрабіла больш выразным сэнс таго, што адбываецца: людзей выводзілі – у літаральным сэнсе слова – з цяперашняга часу; яго тэрыторыя сканчалася там, дзе пачыналася ачапленне, шэрыя салдаты стаялі, закінуўшы за плячо вінтоўкі з прымкнутымі штыкамі, і двое канвойных з палатняным мяшком адбіралі ў арыштаваных наручныя гадзіннікі. Мяшок, здавалася, вось-вось заварушыцца, нібы ўнутры шчанюкі, якіх нясуць тапіць, але не, ён толькі рабіўся цяжэйшым, і салдат ужо не мог трымаць яго адной рукой.

Гадзіннікі падалі ў мяшок, і дні жыцця, якія яны адмералі, знікалі ў цёмнай зяпе. Побач салдаты здымалі з пальцаў затрыманых заручальныя пярсцёнкі – скасоўвалі шлюбы; калі пярсцёнак моцна ўрос, клікалі фельчара; ён трымаў напагатове нашатыр, раптам камусьці стане дрэнна, каб не прыйшлося несці арыштаванага ў вагон, але, апроч нашатыру, у яго ў сумцы былі алей і мыла. Фельчар змазваў палец, звінчваў, пакручваючы, пярсцёнак – і здаваў спецыяльна прыстаўленаму ахоўніку. У таго на грудзях вісела фанерная скрыначка з прарэзам, а калі пярсцёнак у яго не праходзіў, ахоўнік пакідаў яго на вечку скрыначкі, каб лішні раз не адкрываць замок, і каштоўныя камяні ў залатой або сярэбранай аправе, два-тры брыльянты, рубін, сапфір – здаваліся каляровымі шкельцамі: іх каштоўнасць ужо нічога не значыла.

Аднак усё гэта толькі падрыхтоўвала арыштаваных; галоўнае адбывалася на мяжы святла і ценю. Гадзіннік і пярсцёнкі адбіралі яшчэ на святле, і далей чалавек павінен быў ступіць у паўзмрок, ведаючы, што ён знікне ў ім, як зніклі тыя, хто ўвайшоў туды перад ім.

Тут быў самы пакутлівы момант сну: людзі не паміралі, але пераставалі быць для гэтага часу. І сучаснасць спакойна доўжылася далей без іх, кожнае новае імгненне адсоўвала ранейшыя – тыя, у якіх гэтыя людзі яшчэ былі.

Я адчуваў, што забыццё прыходзіць не ў паступовасці, працягласці, з адтэрміноўкай, – яно ёсць неадʼемная ўласцівасць самога часу, яно здзяйсняецца яго безразважлівай сілай тут і цяпер; сляпы Кронас вечна пажырае сваіх дзяцей, і ўсякае наступнае імгненне імкнецца не прымножыць, а знішчыць папярэдняе. І толькі памяць можа супрацьстаяць забыццю; праўда, зусім не заўсёды.

Пазбаўленыя імя, пазбаўленыя волі, назаўжды адарваныя ад родных, людзі не перастаюць быць людзьмі. Але яны знікаюць, як знікае з радараў пацярпелы катастрофу самалёт, і для сваіх блізкіх, і для пакалення яшчэ ненароджаных нашчадкаў.

Жыццё пераўтвараецца ва ўспамін на той мяжы, дзе сыходзяцца часы: без спазнення і без перапынку. І калі чалавек выкрэслены з гэтага – калі цяперашняе стане мінулым, яно не захавае памяці аб ім.

Арыштаваных будуць памятаць, як памятаюць нябожчыкаў ці тых, хто зʼехаў на іншы мацярык: такія ўспаміны ўжо не дадаюцца, і пасля гэтая абарванасць памяці наўрад ці папоўніцца.

А мы – мы можам меркаваць пра мінулае толькі па тых сведчаннях, што ім самім – пра сябе самога – захаваны.

Пра мінулае нам можа распавесці толькі мінулае. Але яно нясе ў сабе

ўсе тыя супярэчнасці і прабелы, якія, уласна, і прымушаюць нас шукаць нейкую прыхаваную праўду пра яго; нясе як пустоты, маўчанне, якое доўжыцца замест размовы.

Мінулае адкладваецца пластамі, якія не надта добра ўзаемазвязаныя. І калі тыя, хто выжыў, змогуць расказаць усю праўду пра тое, што адбывалася два дзесяцігоддзі таму, то яна захаваецца ў тым часе, у якім прагучала, стане яго падзеяй. Але ў адносінах да карціны дваццацігадовай даўніны, якая ўжо склалася як фігура змоўчання, гэтая праўда – якой бы маральнай сілай ні валодаў яе голас, якой бы значнай яна ні была, – на жаль, будзе ў чымсьці падобная ўдакладненню ці зносцы.

Ілжывы час, які сам сябе рэтушуе ва ўгоду той ці іншай мэце, сам сябе фальсіфікуе, фабрыкуючы, атручаны гэтай атрутай падману, час – дзе хлусяць не толькі факты – дзе сам ягоны дух хлуслівы, – такі час спародзіць толькі татальна хлуслівую памяць пра сябе; і тое, што я бачыў, – людзі пераходзілі са святла ў цень, – было злачынствам антрапалагічным; не памяць спынялася – род чалавечы спыняўся.

Я паспяваў убачыць толькі твары, самыя звычайныя, у якіх не было ні прыгажосці, ні значнасці, ні рэзкіх рысаў пароды. Па сутнасці, твары гэтыя, нягледзячы на розны ўзрост, былі такімі ж, як у далёкім ці не вельмі далёкім юнацтве: час змяніў іх, сціснуў, выцягнуў, пакрыў маршчынамі, і перамены, якія занадта кідаліся ў вочы, перашкаджалі ўбачыць, што калі з твару ў зваротнай паслядоўнасці прыбраць, як грым, усе зморшчыны, усе ўзроставыя прыкметы, то ён у дакладнасці вернецца да юначага аблічча.

Час запаў у рысах твараў, але механічна, нібы эрозія, якая змяняе выгляд горных хрыбтоў, як сіла прыроды, сіла фізічнага ўздзеяння; падзеі ўнутранага жыцця, якія неадменна змяняюць, вылепліваюць твар, робяць яго не паддавальным зваротнаму адліку гадоў, – тут не выявіліся.

І цяпер, калі абрынулася бяда, чалавек бездапаможна шукаў у сабе самім апірышча – і не мог знайсці. Пражытыя гады сыходзілі, вылузваліся, як абпаленая скура – да ўзросту, у якім усё, што адбываецца, яшчэ ўспрымаецца з папраўкай на невымяральную працягласць будучыні, і здаецца, што хопіць часу на зусім іншае жыццё, і не адно; узросту, у якім няма досведу падзеяў канчатковых і непапраўных.

Людзі былі разгубленыя ў літаральным значэнні слова – нібыта ў чалавека спыталі дакументы, ён палез у кішэню, але не знайшоў ні кішэні, ні паліто, ні памяці пра тое, куды гэта ўсё падзелася. Шукаць спагады адзін у аднаго яны не адважваліся, быццам бы падазраючы ў суседзе тую ж самастрату, што адчувалі ў сабе.

Магчыма, калі б ведалі яны пра арышт загадзя, хтосьці здолеў бы знайсці мужнасць і волю супраціўляцца, але вось так – выйсці з цягніка і ўбачыць палец салдата, які паказвае на цябе, – гэта было нешта большае, чым проста быць узятым знянацку: злавесны здзек з лёсу наогул і з кожнага канкрэтнага лёсу ў прыватнасці.

Жыццё арыштаваных пераламалася ў такі будзённы, нічым не адметны момант, што адзін кантраст паміж падзеяй арышту, які ўбірае чалавека цалкам, і тым, што гэта не з'яўлялася звяном ні ў якім падзейным ланцугу, ніяк не было наканаванае і перадпадрыхтаванае, а здарылася з нічога, без прычынаў, без падставаў, – адзін гэты кантраст адмяняў асабісты лёс як такі.

І справа не ў фатальнай несправядлівасці арышту; яна была толькі адным з вынікаў яго беспадстаўнасці. Палец салдата, які адвольна ўказвае на людзей, што ідуць міма, стаў яе прад'яўленнем, увасабленнем, сімвалам;

гэта была не тая ўяўная беспадстаўнасць, калі даводзіцца думаць, чаму ўсё адбылося так, а не інакш; абсалютная адсутнасць тлумачэнняў як бы ўзвяла беспадстаўнасць у статус адзінай прычыны ўсяго на свеце; з гэтага часу любая падзея ў гэтым перакуленым свеце адбывалася не паводле прычыннасці, а паводле самавольства, і таму самавольства і гвалт занялі месца закону светабудовы.

Чырвоныя гіганты-салдаты на мазаічным пано краналі штыкамі чырвоных вінтовак купал вакзала, безгаловая варта, былі ўвасабленнем гэтага закона; з-за дробнасці мазаікі думалася, што яны пазбаўленыя чалавечай анатоміі і складаюцца толькі з клетак раскормленай плоці; пано было настолькі вялікім, што чырвоныя салдаты амаль не змяшчаліся пад шкляпеннямі вакзальнага даху, і велічэзны будынак, поўны паветра, святла, ад гэтага суседства раптам рабіўся затхлай і гнюснай пячорай людаеда.

Там, дзе адбіралі гадзіннікі, стаяў апошні з арыштаваных. Тым жа шляхам да эшалона ішоў машыніст з памочнікам і качагарам, іх суправаджалі салдаты. І я ведаў цяпер – гэтае веданне было як бы аддадзена сну, але ўзнікала не адразу – што гэты арыштаваны – малодшы брат машыніста, з якім яны даўно не бачыліся. І прыехаўшы ў горад, малодшы – у яго не было гадзінніка, і канваіры абшуквалі яго даўжэй за іншых, думаючы, што ён яго схаваў, – малодшы думаў зрабіць старэйшаму сюрпрыз, раніцай пастукаўшы ў яго дзверы: з апошняга ліста ён ведаў, што брату далі кароткатэрміновы адпачынак.

Машыніст ішоў да свайго паравоза; яго паднялі з начы падмяніць хворага таварыша, ён быў злы, каўнерык рэзаў шыю, і ён чакаў, калі ў кабіне можна будзе зняць кіцель і надзець звыклы швэдар. Канваіры павярнулі малодшага брата тварам да сцяны, працягваючы абшарваць кішэні, манеўровы паравоз на шляхах свіснуў і даў задні ход, адцягнуў на сябе ўвагу машыніста, і два браты не ўбачылі адзін аднаго. Машыніст падняўся ў кабіну, скінуў кіцель, і пакуль ён нацягваў праз галаву швэдар, яго брата правялі паўз паравоз да цяплушак.

Нават ува сне мяне ўразіла будзённасць, лёгкасць, з якой здарылася гэтая не-сустрэча; падзеі не злучаліся адна з адной, існавалі разрознена, бязладна, і тое, што магло стаць трагедыяй – у фатальны момант брат пазнаў брата, – ёю не стала.

У гэты час на далёкім пероне пастроіўся аркестр; рэпеталі сустрэчу нейкай дэлегацыі. Але музыка не ладзілася, музыкі не фальшывілі нават, а проста не змаглі вывесці мелодыю. Тады выйшаў хлопчык – ён павінен быў чытаць прывітанне ад піянерыі; аднак і рыфмаваная прывіталка запнулася, чытальнік быццам праглынуў палову тэксту.

Ні музыкі, ні вершаў; чамусьці вершы спынілі маю ўвагу. Я зразумеў, што словы ў іх з дапамогай рыфмы павінны, быццам вартавыя, паклікаць адно аднаго, бачыць адно аднаго, і дзякуючы гэтаму заўсёднаму няспанню словаў, іх узаемнага бачання, узнікае адмысловая сэнсавая оптыка тэксту, якая стварае паэтычнае прасвятленне: узнікае сэнс, якога не атрымаць інакш, чым праз такую оптыку.

Вершы – і трагедыя; першыя трагікі пісалі гекзаметрам, узвышаючы склад падзеяў – да трагедыі, да кропкі, у якой разрываецца сляпая прычыннасць і чалавек атрымлівае абсалютны зрок у адносінах да сябе і ўласнага лёсу, бачыць драматычны сэнс усяго яго космасу. Гэтае прасвятленне і робіць трагедыю – трагедыяй, адкрыццём быцця, а калі быццё не адкрыта чалавеку ці ён не здольны ўспрыняць гэта адкрыццё, ёсць толькі безвыходнасць пакуты.

І падзеі, якія павінны пераўтварыцца ў трагедыю, але не пераўтварыліся, у пэўным сэнсе ніколі не здараюцца ў поўнай меры; яны адбываюцца, але не вычэрпваюць сабой дзеянне прычынаў, якія іх спарадзілі; рок не вырашаецца праз іх, а памнажаецца і паўтараецца.

І наступныя пакаленні захаваюць раздваенне памяці, будуць вымушаныя рэтраспектыўна, з дапамогай маральных адзнакаў ставіцца да трагедыі часу, у якім яе ў быційным сэнсе не здарылася, а тое, што здарылася, называецца неяк інакш.

Я ведаў, што машыніст ніколі не даведаецца, каго ён вёз у арыштанцкім вагоне, і ягоны брат, сасланы на пасяленне туды, дзе пратаколы пасяджэнняў райкама вяліся на бяросце, дзе папера была даражэй за цвікі, ужо ніколі не пашле пра сябе вестачкі.

Эшалон адыходзіў з запасных шляхоў. У дзяцінстве, выходзячы да чыгункі лічыць вагоны і гадаць, што ў іх, ты часам сустракаў занадта доўгі састаў, які здаваўся цягнікам які-не-канчаецца, адзіным на свеце. Так і эшалон цягнуўся, цягнуўся за паварот, клубілася пара, мігцелі семафоры; потым вагоны ўсё ж такі заканчваліся, і погляд чапляўся за замкнёныя дзверы хваставога; здавалася, яны ледзь-ледзь прыадчыненыя, і ў гэтай прыадчыненасці была апошняя магчымасць нешта зрабіць, высілкам волі пераламаць працяг сну; але цягнік сыходзіў, а дзверы заставаліся перад вачыма: так пачынаўся трэці сон.

Дзверы гэтыя спачатку захоўвалі свой выгляд, потым рабіліся проста дзвярыма, потым змяняліся – кожны раз, калі сон паўтараўся, яны былі новымі; дзвярыма пакоя, параднага, кабінета; дрэва, метал, ручка, замок – усё змянялася. Заставалася толькі адно – прачыненасць, быццам бы імгненне, калі дзверы ўжо амаль зачыніліся, апусцілі ў суб'ектыўнае, якое не мае для таго, хто спіць, працягласці сну, і яно бясконца доўжылася, але я не мог адчуваць гэтай працягласці – я адчуваў толькі адно пакутлівае «амаль»; тое, што азначала гэтае слова, стала з прыслоўя падобным да назоўніка, адказвала на пытанне «што?», а не «як?». Дзверы былі ўжо не адчыненыя, але яшчэ не зачыненыя; прычым я ведаў, што калі яны зачыняцца, то не адчыняцца ўжо ніколі, знікнуць, і застанецца толькі непранікальная, глухая сцяна.

Я цягнуўся да яе, шукаючы клін, каб убіць яго паміж дзвярыма і вушаком, – і амаль паспяваў, але і не паспяваў; адначасова, каб хоць у поглядзе выратаваць тое, што за дзвярыма, я глядзеў у замочную шчыліну – і правальваўся ў яе, ляцеў у прасторы, дзе памнажаліся іншыя дзверы, аканіцы, вароты, брамкі, люкі, вечкі калодзежаў. Там зачынялася ўсё, што магло зачыняцца – сакрэтэры, шкатулкі з лістамі, паштовыя скрыні, сейфы, дзверцы печаў, нататнікі, школьныя сшыткі, альбомы марак; увесь свет, здавалася, складваўся, як адна вялікая кніга, якую трэба абабіць жалезнымі палосамі, павесіць на яе замок і пакласці пад спуд.

Там, за кожнымі дзвярыма, паміралі пакінутыя вывезенымі ў эшалоне людзьмі рэчы; трэскаліся шкельцы акуляраў, выгіналіся тонкія драцяныя дужкі пенснэ, чорнымі ракавымі плямамі сыходзіла амальгама з люстэркаў, бляклі, раствараліся прывіды твараў, што некалі адлюстроўваліся ў гэтых люстэрках, адслойваліся са сценаў шпалеры, пласт за пластом скручваючыся ў папяровыя струпы; раз'ядаючы коркі, выпараўся ёд з флакончыкаў цёмна-жоўтага шкла, трухлелі прываднныя рамяні швейных машынаў, крышыўся графіт алоўкаў, надломваліся патэфонныя іголкі, чорным парашком абсыпаліся грампласцінкі; дрэва і цэмент вырывалі з сябе цвікі і шрубы, рассыхаўся клей, які змацоўваў лісты фотаальбомаў,

рассыхаліся гумкі ў сапрэлай бялізне, выпадалі гузікі з адзення, вылазіў мех каўняроў; сточваўся шрыфт друкаваных машынак, лопаліся струны піяніна, западалі іх клавішы і педалі, а са старонак, у якія, як кроў, уелася іржа ад металічных сашчэпак, з выцвілым атрамантам адлятаў лёгкі дух рукапісных літараў.

Ні ў адным з памяшканняў сну не было людзей; пакоі, калідоры, пралёты сходаў, гарышчы, падвалы, парадныя, каморы то зліваліся ў галавакружную паслядоўнасць, то разляталіся, як аскепкі, то зноў злучаліся, нанізаныя на траекторыю майго руху; але ніводнага чалавека не сустракалася мне. Адсутнасць людзей было такім, якім яно бывае толькі ў сне ці ва ўспамінах ранняга дзяцінства: здаецца, што людзі толькі што былі тут, яны кудысьці сышлі, знарок схаваліся, і чым ясней паветра захоўвае рэшткі цяпла жыцця, рэха галасоў, а маснічыны памятаюць нядаўнія крокі, тым пакутлівей немагчымасць зразумець, куды ж яны сышлі, дзе іх шукаць. У дзяцінстве ад гэтай немагчымасці плачуць наўзрыд, бо яна ёсць першы, можа быць, досвед адчаю: маці, бацька – іх так відавочна, так канчаткова *няма*, што іх адсутнасць роўназначная крушэнню ўсяго быцця; і не адшукаўшы іх, нельга зноў уверыцца ў свеце, нельга здабыць сілы жыць, бо *няма* азначае, што ў свеце ёсць дзірка, дзе людзі знікаюць – і ты можаш гэтаксама прапасці.

Рэчы паміралі не маўкліва; амаль кожны гук, які выдае рэч, узнікае таму, што з ёй нешта робяць, а тут выявіліся ўласныя іх галасы; іх гаворка тысячаразова запаволеная, расцягнутая, і звычайна мы не чуем слабы шоргат, які ўтварае, карабацячыся, папера газетаў, ціхае патрэскванне старэючае парцаляны або шкла, камарыны гуд нітак напальвання ў лямпах. Але ў пустых пакоях, дзе імкліва цёк час, усё гэтае рыпанне, скрыгат, шолахі злучыліся ў адно першабытнае гучанне.

Часам той, хто паміра, хрыпіць так, быццам і чалавечае, і жывёльнае ў ім ужо перастала жыць, і застаўся толькі трэці, нязнаны ім самім складнік яго істоты, роднасны нежывой прыродзе: так вільготна пульсуе, узбухае пульхірамі, якія лопаюцца, гліна ў гразевых вулканах. А потым, перад самай смерцю, да яго вяртаецца мова.

Рэчы таксама спачатку крычалі, быццам сталі адзічэлымі, а затым, наадварот, здабылі ў злітнасці выдаваных імі гукаў нешта чалавечае; яны ўвабралі галасы гаспадароў, іх інтанацыі, і цяпер, гінуючы, спрабавалі загаварыць у рытміцы гэтых інтанацыяў. Узнікала дзіўная гаворка: для чалавечага слыху яна здавалася выклічнікамі пра-мовы, якія – няхай гэта будзе стогн болю або выкрык радасці – проста выказваюць эмоцыю ў гуку, не апасродкваючы яе ў слове. Чацвёртая струна скрыпкі бліжэй за іншых па гучанні да чалавечага голасу, і ў кожнай рэчы нібы адкрыўся дар гэтай чацвёртай струны; аказваецца, у іх жыло маўклівае напружанне, якое толькі праз паміранне магло стаць гукам.

Цяпер здавалася, што рэчы падаюць у нейкую бездань, сутыкаючыся, круцячыся і амаль па-чалавечы лямантуючы ад жаху; пакоі ды іншыя памяшканні бясконца змянялі адно аднаго, з гэтай паслядоўнасці не было выйсця і ёй не было канца.

Раптам я пазнаў гэтую какафонію, і ў кропцы пазнавання запаволіўся, а неўзабаве і зусім спыніўся рух скрозь пакоі. З дзіцячай памяці, з успамінаў таго ж узросту, што і ўспамін пра ўяўную страту бацькі і маці, паўстаў вобраз: падвясны мост праз раку, нацягнуты на тросах, сухажыллі гэтых тросаў пераразае піла з дробнымі злымі зубчыкамі, падобнымі на мышыныя, тросы

лопаюцца, але мост яшчэ трымаецца ў паветры, як быццам сілай звычкі тых, хто хадзіў па ім, і толькі праз некалькі секундаў абвальваецца ў ваду.

Скрып і скрыгат, трэск – і доўгі, па-жаночы далікатны спеў лопнулых тросаў, што працягнуўся дугой над рачной вадой, які нібыта мкнецца ўзнавіць мост – у гуку, у арцы, якая гучыць.

І мой – унутры сябе – плач, бо ніяк нельга зразумець, навошта знішчаць стары мост, каб пабудаваць новы, і ўпэўненае веданне, што новы не будзе лепшым, хоць не было выпрабавання страшней, чым ступіць на трухлявыя дошкі, пакалыхацца над камянямі перакату ў рытме чужых цяжкіх крокаў, – не будзе лепшым, бо магчымасць быць лепшым у яго загадзя адабралі, вось так, у адно імгненне, у жывадзёрскім натхненні, у жаданні рашучай перамены абрынуўшы стары мост у ваду, хоць яго можна было разабраць, знайсці яшчэ службу і дрэву, і металу.

Успамін пра разбураны мост, выняты з памяці даўніх гадоў, быў падобны да куста, вырванага з глебы з камяком зямлі, у якім хаваюцца карані: разбурэнне моста ўяўляла сабой эпіцэнтр успаміну, а ўсё астатняе, па законе кантрасту, сышло ў цень: зніклі хаты вёскі з берага ракі, знікла царква, ды і самі берагі страцілі рысы строга пэўнага месца, стаўшы хутчэй вобразам берагоў наогул.

Рака ж, нібы пачалася паводка, узнялася; ужо не вада цякла па рэчышчы ракі, а ўвесь адчувальны ва ўспаміне свет стаў рэчышчам, і аплываючыя берагі, і неба – усё стала адзінай плынню, сярод якой рака была як бы быстрынёй, языком, у якія збіраецца вада перад перакатамі.

Рух, прыпынены ўспамінам пра мост, пачаўся зноў, але ўжо ў іншым вобразным увасабленні; рака, былая часткай сну, раптам апынулася больш за яго, быццам бы там, дзе знаходзяцца сны, ёсць вобразы неўяўляльнага на яве, існуючага толькі як абстрактныя паняцці; вобразы тым больш дакладныя і выразныя, што іх асновай з'яўляюцца знаёмыя нам аб'екты рэальнасці, якія ў снобачанні, аднак, успрымаюцца не зрокава, а пачуццёва, успрымаюцца не як сімвалы, а як сілы, дзеянню якіх цалкам належыш і ты, і сам свет снабачання.

Мая свядомасць – свядомасць таго, хто спіць, адчувальная для яго як святло, якое робіць бачнай рэчаіснасць сну – скарацілася да шкарлупіны арэха; плынь ахоплівала мяне; гэта была дзіўная плынь, плынь-на-месцы, нібы тут былі і выток, і вусце; плынь, якая зацягвала мяне не ўдалячынь, а ўглыб, плынь без працягласці. Яна не зносіла, а спрабавала разувасобіць, як быццам гэтая рака – падземны Ніл, чорны ход, зваротная плынь часу, па якім бог сонца штоноч плыве ў барцы з краінаў захаду, каб раніцай зноў заззяць на ўсходзе.

Аднак плынь не толькі разувасабляла. У ёй, як у дажджы альбо ветры, быў і намёк на чыюсьці прысутнасць; было няпэўнае і ўсё ж яснае адчуванне – “там нехта ёсць”.

Хтосьці маўкліва змагаўся з плынню, не хацеў ёй саступаць; здзяйсняўся чыйсьці подзвіг – даўні, забыты, але ён усё яшчэ працягваецца. І я зразумеў, што там – людзі; тыя, хто пакінуў апусцелымі пакоі, каму адрасавалі свой крык паміраючыя рэчы; мост – нейкая дарога да іх – паваліўся ўжо, але я як бы паспеў прайсці ім.

Так – праз сон – чалавек атрымлівае прасвятленне памяці: ён адчувае грозную прысутнасць зацененых вобласцяў мінулага, якіх не кранулася святло свядомасці; там, у турме часу, пахаваныя людзі, падзеі, веды пра сябе самога, выключаныя са сферы ўнутранага жыцця.

Выключаныя – але не перасталі існаваць: бо нават забываючы нешта, мы толькі адмаўляем гэтаму ўспаміну ў праве з'яўляцца ў полі нашага ўнутранага зроку, а пазбавіцца ад яго канчаткова мы не ў моцы. І гэтыя ўспаміны, здавалася б, аддадзеныя нябыту, на самой справе абарочваюцца на далёкіх арбітах душы, астываюць ці працягваюць свяціць; усе нашыя нягоды, усе любові, усе пакуты існуюць у нас, як згаслыя свяцілы, і доўга яшчэ доўжыцца святло былых сонцаў – адно гэта можа паказаць, наколькі малая частка ўнутранага космасу нам знаёмая.

Празорлівец памяці – вось кім стаў я ў сне. Плынь ракі, у якую ператварыўся сон, вызваліла мяне ад сябе самога, разарвала ўсе ніткі, якімі звязаныя свядомасць і памяць, дзякуючы чаму ты ў любы момант у падрабязнасцях мінулага ведаеш, хто ты; стаўшы нікім, пазбавіўшыся наканаванай асобай выбіральнасці ва ўспамінах, я нібыта набыў усю сваю памяць цалкам.

Улада вады адступілася ад мяне; і я даведаўся, што памяць аднаго чалавека – гэта не лядашчая лодка. Памяць – такая, якой яна адкрылася мне, – была каўчэгам.

У той плыні, у тым руху вады, што здаваўся пустым, раптам сталі праступаць выспы, у аддаленні зноў паўсталі берагі, і рака стала ракой; я нібыта дасягнуў самай глыбіні сну, дзе вобразы не ведаюць канкрэтных рысаў, і цяпер вяртаўся назад, бліжэй да дзённай явы.

Выспы, плоскія, сумныя, былі падобныя да выспаў паўночных рэкаў; іх, якія складаюцца з галькі, пяску і зямлі, кожная паводка перамывае наноў, і яны блукаюць па рэчышчы, іх праклінаюць лоцманы і бакеншчыкі. Выспы гэтыя бываюць вялікія, але на іх не ставяць нават рыбацкай хаты; часам толькі, калі выспа зляжалая, сапрэлая ад рачной гнілі, там прымаецца ў прагны рост трава, і, пакваліўшыся на густатраўе, летам па рацэ вязуць у шырокіх лодках, быццам на вазах, стагі сена. Але скаціна неахвотна есць гэтую траву, нібы адчуваючы, што сцяблiны і лісце яе так разрасліся ад пустой вады, што трава гэтая дашчэнту галодная і таму адбярэ сілы, а сама не аддасць ні кроплі, не насыціць; разбавіць кроў, зробіць вадзяністым малако. На наступны год і пакосу ўжо не знайсці, замест выспы будзе водмель; такія выспы не наносяць на карту, і толькі ў прыбярэжных вёсках памятаюць, дзе, калі якая была.

Я заўважыў, што некаторыя выспы нясе вада – гэта былі велізарныя тарфяныя плывуны; дзесьці ў вярхоўях рака размывала радовішчы торфу, выносіла іх; на адной з тарфяных выспаў стаялі старыя, пацямнелыя драўляныя крыжы – рака вырвала кавалак могілак.

Іншыя выспы не рухаліся; іх берагі былі быццам абкладзеныя валунамі, умацаваныя. І калі я наблізіўся да адной такой выспы, я ўбачыў, што гэта быў бераг чалавечых твараў; людзі збіліся цесна, пярэднія па горла ўвайшлі ў ваду, наступныя стаялі крыху вышэй на адлогім дне, наступныя – яшчэ вышэй, і так шмат шэрагаў, якія для таго, хто глядзіць з ракі былі толькі тварамі.

Вада гэтыя твары не адлюстроўвала: у рацэ нібыта вычарпалася сіла самаабнаўлення, і рака несла даўнія адлюстраванні, размытыя, няясныя, у якіх ледзь угадваліся то воблака, то сіне-белы борт парахода, то шэры ад дажджу яловы лес на строме.

Вада ракі струменілася без напору альбо замяшання, як кроў у жылах таго, хто спіць; калі б магчыма было перанесці гэтую раку са сну ў рэчаіснасць, аддзяліць яе ад смутных берагоў снобачання і ўставіць, як у аправу,

у пагоркі і адхоны любой вядомай даліны, яна б здалёк здавалася звычайнай ракой. Але апынуўшыся на беразе, чалавек раптам адчуў бы, што гэта ўчарашняя рака; яна толькі цячэ тутэйшымі месцамі, але ні адзін прыток не сальецца з яе водамі, ні адна крыніца не праб'ецца скрозь донны пясок, каб напоўніць яе.

Калі ў ясны дзень ля вады здаецца, што рака – арэчаўлёная мова дня, бязгучны і ўсёпранікальны рух жыцця ў ім, то каля ракі, перанесенай са сну, адчуванне было б іншым.

Мова адгучала, мова, чые словы падобныя на пустыя, трэснутыя ракавіны з пацьмянелым перламутрам, з якіх вынятыя перліны значэнняў; жыццё скончылася, цякучае, як вада са збана, разбітага ля крыніцы на строме, яшчэ доўга цячэ ўніз па схіле, пракладваючы рэчышча сярод апалай лістоты, хоць наверсе, ля крыніцы, ужо даўно сабраныя ці ўтаптаныя ў гліну чарапкі, – вось чым была тая рака. Па яе берагах не магло быць прыстаняў, лодак, якія калышуцца на прывязі, сцяжынак, якія вядуць да вады, і рыбацкіх рагулек на водмелях.

Твары людзей, якія стаялі ў вадзе і ля вады, былі цёмныя; плынь раптам падхоплівала то аднаго, то другога – і на месца знесенага заступаў той, хто стаяў услед за ім; так рака размывае карэнны бераг, непрыкметна падточваючы глебу пад камянямі. Твары былі такія цёмныя, нібы людзі доўга ішлі пад зямлёй, ішлі не па тунелі, а скрозь саму зямлю, і крупінкі яе ўеліся ў скуру; зямля была ў іх у роце, у страўніку, у лёгкіх, усе пустоты цела былі запоўненыя ёю.

Людзі былі нібыта жыўцом пахаваныя, але не памерлі ў магіле, а блукалі падземнымі шляхамі да той пары, пакуль не выйшлі на бераг ракі, не адчынілі, як дзверы, зямлю. Але выйшлі яны ў свет, дзе насупраць імя кожнага з іх у даўно спарахнелых спісах стаяў прочырк, які засведчвае іх небыццё, і цяпер смерць у лічаныя імгненні давяршала адтэрмінаваную працу.

Так рассыпаюцца вынятыя са старажытных курганоў скруткі – само паветра новага свету робіцца забойчым для іх. Тысячагоддзі часу, ад уздзеяння якога яны былі схаваныя, працякаюць для іх у адно імгненне, і як паскоранае гарэнне становіцца выбухам, у іх адбываецца «выбух» часу, знішчаючы іх – і выпраўляючы агульную часавую тканіну, для якой яны былі стрэмкай мінулага.

Людзі, якія стаялі на беразе, былі такімі ж стрэмкамі – і час расправіўляўся з імі, хоць яны і стараліся трымацца разам; рака выносіла іх, вада паглынала без усплёску; яны стаялі, нібы сход вёскі, затоплены шмат гадоў таму, вёскі, чые хаты сышлі ў глей, і толькі абкатаная плынню цэгла печаў яшчэ зрэдку чырванее на пясчаных косах. Гэтыя людзі, рэшта даўно сыйшоўшага пакалення, выкрасленыя з яго, уведзеныя ў душную цемру зямлі, былі быццам састарэлае слова, забытая частка мовы. Ім ужо не было месца ні ў мове, ні ў свеце: слова іх гучала глуха, як скрозь зямлю, і даносілася з-пад ног тых, хто жыве.

Я занадта добра адчуваў, што гэтыя людзі звяртаюцца да мяне з *таго* берага; адзін з берагоў, да якога быў бліжэй мой погляд, маё месцазнаходжанне ў сне, быў бераг *гэты*, я ўспрымаў яго так, як марак бачыць зямлю, што набліжаецца, адчуваючы за вузкай паласой усю яе жаданую працягласць; а бераг *той* быў зямлёй пакінутай, што – якой бы вялікая яна ні была – заўсёды па меры аддалення ператвараецца для адплываючага ў выспу.

Выспа людзей сярод водаў; іх земляныя твары невідушча прасілі пазнаць іх, але адначасова над роўнай плынню ракі слаба, як шолах крылаў

насякомых у бязветранасць, салодка, як пах эфіру з-пад дзвярэй у пакой хворага, разносіўся ціхі бясслоўны голас, як бы спяваючы песню; у ёй рассыпаўся колас, слабеў чаранок ліста, чарвяк пралазіў у шкарлупіну ляснога арэха; усё тое, што часам служыць элегічнай паэтыцы, было сабрана разам у яго сапраўдным абліччы, у бессаромнай натуральнасці смерці. Гэта былі тыя гукі, якія гучныя толькі ў могілкавай цішыні ў будні дзень, калі адзіны наведнік дзівіцца, наколькі бяссільныя агароджы і помнікі абараніць мёртвых ад прыроды, якая, калі б не было прыбіральшчыкаў і вартаўнікоў, за дзесяць гадоў ператварыла б могілкі ў буралом, дзе рэдкія фотаздымкі і надпісы на плітах глядзеліся б гэтак жа чужародна, як пластыкавая пляшка, кінутая ў лесе, сярод птушыных гнёздаў і звярыных нор.

У голасе чуўся той выдых, з якім выганяецца з думак цяжар; той выдых, з якім людзі, якія не надта блізка ведалі нябожчыка, пакідаюць сцены могілак і шаты могілкавых дрэваў. Радасць, вымушаная выдаваць сябе за пачуццё выкананага абавязку, жыве ў гэтым выдыху: радасць ад таго, што страта спрашчае жыццё; радасць, падобная да той, што адчувае выпадкова выздаравелы хворы, які можа цяпер забыцца пра рэжым, аб прадпісаннях лекара і, самае галоўнае, – пра той цень, які пасяліла хвароба ў яго свядомасці, цень, які пачынае адкідаць унутр сябе чалавек, які прызнаў уладу смерці хоць бы над часткай тэрыторыі свайго цела і розуму.

Гэты доўгі выдых, гэтая песня загадзя асуджалі людзей, якія стаяць на беразе, на знікненне; яны бачылі мяне, усе глядзелі на мяне, і сукупная сіла іх поглядаў стварала відзеж унутры сна: пясчаная водмель, туман і дым, высокі жалезны борт, плёскат вады, велізарныя жалезныя вароты, адчыненыя на карме баржы, сходні з вяроўкамі над вадой. І па гэтых сходнях ішлі ў агульным страі арыштанты, канваіры, афіцэры, матросы, матарысты – ішлі, не паварочваючыся, і знікалі ў труме, дзе відналіся толькі выгнутыя металічныя рэбры. Потым жалезныя створкі пачыналі зачыняцца – самі сабой, іх ніхто не прыводзіў у рух, ні людзі, ні механізмы – і пайшоўшыя азіраліся, арыштанты і канвойныя стаялі разам, але іх рабілася ўсё менш – іншых засланялі ад мяне жалезныя пліты варотаў, якія сыходзіліся. І зноў я хацеў спыніць створкі, убіць клін, зноў цягнуўся – і прачынаўся, і погляд мой не пазнаваў дома, бо погляд – як каўчэг – быў поўны твараў, якія шукалі ў ім выратавання.

Сны прыходзілі тры дні; на чацвёрты я зразумеў, што павінен ехаць у горад, адкуль прыйшлі лісты, знойдзеныя ў стале Другога дзеда, адшукаць таго, хто іх адпраўляў. Што гэта адзіны шлях нешта знайсці ў мінулым, было ясна і так, але цяпер я адчуў, што гэты шлях адкрыўся; мы былі ўзаемна гатовыя, я – рушыць, шлях – прапусціць мяне.

*(Працяг будзе).*

Акутагава Руноскэ



...хіба жаданне –
не страшная рэч?..

# Бессмяротны

***Два апавяданні***

### У гаі

*Распавед дрывасека на допыце ў судовага прыстава*

Вось як усё было. Гэта я знайшоў цела, так. Сёння раніцай, як звычайна, я пайшоў секчы крыптамерыі на дальнім схіле гары. У гаі пад гарой і ляжала тое самае цела. Дзе дакладна, кажаце? Бадай што за чатыры альбо пяць *цё*[1] ад паштовай дарогі да станцыі Ямасіна. Бамбук там расце, яшчэ маладзенькія крыптамерыі, а людзі зусім не ходзяць.

На нябожчыку была светла-сіняя дарожная вопратка, а на галаве – старая чорная шапка, высокая, як у гарадскога пана, і ляжаў ён тварам дагары. Забілі яго, напэўна, адным ударам мяча, але трапілі ў сонечнае сплячэнне, вось таму ўсё лісце бамбука навокал афарбавалася

*Пераклад з японскай Аляксандры ПЯТРОВІЧ.*

чырванню. Не, кроў з цела больш не лілася. Краі раны, і тыя, здаецца, падсохлі. Што праўда, на ёй сядзеў авадзень і смактаў кроў, быццам і не чуў маіх крокаў.

Ці не знаходзіў я там мяча альбо іншай зброі? Не, нічога такога. Толькі пад адной крыптамерыяй ляжала вяроўка, абкручаная вакол камля. А яшчэ... Так-так, паблізу валяўся грабеньчык. Толькі гэта і было каля трупа. Траву і лісце бамбука ў гаі добра так патапталі – мусіць, перад тым, як яго забілі, мужчына адчайна супраціўляўся. Кажаце, ці не заўважыў я каня? Дык там такое месца, што ні конь, ні іншая жывёла не зойдзе. Гай той надта далёка ад усіх праезных шляхоў.

*Распавед будыйскага манаха на допыце ў судовага прыстава*

Так, учора я сустрэўся з забітым. Учора... Ну, прыкладна апоўдні. Я ішоў з паштовай станцыі Сэкіяма да Ямасіны і пабачыў яго ўжо бліжэй да апошняй. Ён быў з жанчынай, што ехала на кані, а накіроўваліся яны ў бок Сэкіямы. На жанчыне быў вялікі капялюш і вэлюм, таму я не разгледзеў ейнага твару. Заўважыў толькі, што сукня на ёй была фіялетавая, здаецца, з ліловай падкладкай. Конь быў светла-руды... Дакладна, і кароткагрывы. Ці высокі, пытаеце? Мо на чатыры *суны*[2] вышэйшы за іншых. Самі бачыце, я вандроўны манах, зусім у гэтым не знаўца. А мужчына... Не, ён меў пры сабе і меч, і калчан са стрэламі. Вось цяпер я добра ўзгадаў той чорны лакіраваны калчан – стрэл дваццаць з яго тырчала, не менш, ён мне асабліва запомніўся.

Я і ў сне б не прысніў, што той мужчына так скончыць, але праўду кажуць, жыццё чалавека згасае хутка, як пробліск маланкі... Вох, што ж яшчэ тут дадаць, сумная гэта справа.

*Распавед каравульнага на допыце ў судовага прыстава*

Мужчына, якога я арыштаваў? Так, гэта той самы Тадзёмару, знакаміты бандыт. Я знайшоў яго, калі ён зваліўся з каня на каменным мосце ля брамы Аватагуці[3], ляжаў там і жаласна стагнаў. Калі дакладна гэта здарылася? Увечары, у першую варту[4]. Мінулым разам, калі я не здолеў яго схапіць, ён таксама быў апрануты ў цёмна-сіняе і меў меч на поясе. А цяпер, як бачыце, у яго і лук са стрэламі пры сабе. Разумееце, пра што я? Гэта рэчы, знятыя з трупа, дык выходзіць, што забойца – менавіта Тадзёмару. Лук, абцягнуты скурай, чорны лакіраваны калчан, сямнаццаць стрэл з пер'ямі сокала... Усе яны належалі забітаму. Так. І конь, як вы кажаце, руды і кароткагрывы. Мабыць, гэта лёс, што бандыт уласна з яго зваліўся. Сам конь скубаў свежы міскант каля моста, а доўгая аброць яшчэ вісела на ягонай шыі.

Тадзёмару, трэба сказаць, слыве распуснікам нават сярод падонкаў, што швэндаюцца па нашай сталіцы. Мінулай восенню на гары за храмам Торыбэ, дзе пакланяюцца Піндоле Бгарадваджы[5], забілі дзвюх паломніц – прыдворную даму з маленькай дачкой, і я ўпэўнены, што гэта віна Тадзёмару. Невядома, што ён зрабіў з жанчынай, якая ехала на рудым кані, калі ўжо прыкончыў мужчыну. Выбачаюся, што сую нос не ў сваю справу, але неабходна далей гэта расследаваць.

*Распавед старой на допыце ў судовага прыстава*

Так, забіты – муж маёй дачкі. Толькі ён сам не сталічны. Ён служыў самураем у губернатара правінцыі Вакаса. Звалі яго Канэдзава-но Такэхіра, і яму было дваццаць шэсць гадоў. Не, чалавек ён быў лагодны, нікога не мог раззлаваць.

Мая дачка? Яе завуць Масаго, і ёй дзевятнаццаць. Характар яна мае цвёрды, не раўнуючы як мужчынскі, але да Такэхіра яна ніколі ні з кім не бачылася. Твар у яе смуглявы і маленькі, авальны, як дыннае семя, а ў куточку левага вока – радзімая плямка[6].

Такэхіра з дачкой учора выправіліся ў Вакасу, і хто б мог падумаць, што лёс так складзецца, няўжо гэта карма? Я нават змірылася са смерцю зяця, але моцна хвалююся за Масаго. Аб адным вас прашу, я, старая жанчына: перашукайце ўсё навокал, толькі знайдзіце маё дзіця. Гэты Тадзёмару ці як там яго – ён жа бандыт, ён... Не толькі зяця майго, але і дачку... (Плача, больш не можа гаварыць.)

*Прызнанне Тадзёмару*

Я забіў мужчыну. Але жанчыну не забіваў. Куды яна падзелася? Ведаць не ведаю. Гэй, не спяшайцеся. Колькі мяне ні катуйце, а чаго я не ведаю, таго не скажу. Да таго ж, калі ўсё так выйшла, я і сам не хачу хаваць ад вас праўду, як нейкі баязлівец.

Тых мужа з жонкай я сустрэў учора, адразу пасля поўдня. Вецер падзьмуў, узняў вэлюм з твару жанчыны, і я на момант пабачыў яе. Усяго на момант... Вось я бачу яе, вось ужо не бачу, але мне хапіла імгнення – я заўважыў на ейным твары спагаду, вартую бадгісатвы[7]. Тады я і вырашыў: гэтая жанчына будзе маёй, нават калі давядзецца забіць ейнага мужа.

Ды не, мужчын забіваць не так складана, як вам здаецца. Каб прыўлашчыць жанчын, без гэтага не абысціся. Вось толькі я ўжываю меч, што вісіць у мяне на поясе, а вам і зброя не патрэбная: вы забіваеце сваёй уладай, сваімі грашыма, а часам і проста сваімі хлуслівымі словамі. Чалавек можа жыць цудоўна, не праліўшы ні кроплі крыві... І ўсё роўна забіваць пры гэтым іншых. Калі так падумаць, цяжка зразумець, чые грахі страшнейшыя – вашы ці мае. (*Цынічна ўсміхаецца.*)

Зрэшты, я мог авалодаць жанчынай і абысціся без забойства. Не, у той момант я вырашыў, што так і зраблю. Але на станцыі Ямасіна я дакладна б не здзейсніў свой намер. Таму і прыдумаў, як зазабіць мужа з жонкай у горы.

І гэта было няцяжка. Я расказаў ім, быццам знайшоў на бліжэйшай гары стары курган, дзе было шмат мячоў і люстэрак, выцягнуў усё адтуль і схаваў у дальнім горным гаі; калі яны толькі хочуць, я гатовы танна прадаць ім гэты скарб. Мужчына слухаў і паволі пачынаў мне верыць. Вось так... Бачыце? Хіба жаданне – не страшная рэч? Прайшло зусім мала часу, а гэтыя двое ўжо скіравалі каня на горную сцежку следам за мной.

Калі мы наблізіліся да гаю, я сказаў: скарб закапаны ўласна тут, хадзем, я пакажу, дзе ён. Мужчыну асляпіла сквапнасць – канечне, ён не запярэчыў мне. А вось жанчына сказала, што не злезе з каня і застанецца чакаць нас. Разумнае рашэнне, бо гай зарос бамбукам, і ясна было, што конь там не ўшчэміцца. Па шчырасці, гэта якраз адпавядала маім намерам, таму мы пакінулі жанчыну адну і заглыбіліся ў гай.

Спярша мы прабіраліся толькі праз густы бамбук. Аднак недзе праз паўцё дайшлі да невялікай прагаліны, дзе пабачылі крыптамерыі... Найлепшае месца, каб завяршыць задуманае. Я развёў рукамі ствалы бамбука і сказаў, быццам скарб закапаны пад вунь той крыптамерыяй – праўдападобная хлусня. Як толькі мужчына пачуў мяне, адразу кінуўся з усіх ног да маладзенькіх дрэў. На паляне, дзе рос рэдкі бамбук і ў радок стаялі крыптамерыі... У той момант, як мы апынуліся там, я выцяў мужчыну, зваліўшы яго на зямлю. У мужчыны быў меч і, відаць, хапала сіл, каб ім скарыстацца, але супраць раптоўнага нападу ён нічога не змог зрабіць. Я адразу ж прывязаў яго да ствала адной з крыптамерый. Адкуль вяроўка? Вяроўка – найлепшы сябар рабаўніка: ніколі не ведаеш, ці давядзецца пералазіць праз сцяну, таму я заўсёды трымаю яе на поясе. Канечне, мне не трэба было, каб мужчына пачаў крычаць, таму я напхаў яму ў рот бамбукавага лісця.

Калі я разабраўся з мужчынам, то вярнуўся да ягонай жонкі і сказаў, нібыта яму раптоўна зрабілася блага, дык няхай яна паглядзіць, што з ім. Тут я ўгадаў, няма чаго гаварыць. Жанчына зняла свой вялікі саламяны капялюш, і я за руку павёў яе ўглыб гаю. Але калі мы дайшлі да паляны, дзе мужчына стаяў, прывязаны да дрэва... Калі жанчына гэта пабачыла... Я амаль не заўважыў, як яна выцягнула з запазухі бліскучы кінжал. Далібог, я ўпершыню сустрэў жанчыну з такім ваяўнічым норавам. Калі б я зазяваўся, яна б немінуча пырнула мяне ў бок. Вось толькі я паспеў адхіснуцца, а потым ніводзін з udараў, што яна наносіла з упартай зацятасцю, не трапіў у мяне. І не быў бы я Тадзёмару, калі б не выбіў кінжал з яе рук, нават не падняўшы мяча. Жанчына, хай моцная духам, не абароніць сябе без зброі. У рэшце рэшт яна стала маёй – я зрабіў з ёй усё, што хацеў, і абышоўся без забойства.

Без забойства... Менавіта. Нават тады я не збіраўся забіваць мужчыну. Аднак калі я пакінуў жанчыну ляжаць у слязах на зямлі і думаў ужо ўцякаць адтуль, яна раптам схапіла мяне за руку, моцна, нібы вар'ятка. І стала бязладна крычаць: маўляў, альбо я, альбо ейны муж павінен загінуць, бо знесці такую ганьбу на вачах двух мужчын горш за смерць. Не, хай застанецца жыць толькі адзін з нас, а яна будзе ягонай жонкай... Яна амаль задыхалася, калі казала гэта. Вось у той момант мне адчайна захацелася прыкончыць ейнага мужа. (*Змрочнае ўзбуджэнне.*)

Мабыць, калі я так кажу, то здаюся вам жорсткім чалавекам. Але вы проста не бачылі твар гэтай жанчыны. Асабліва... Яе позірк, які ў той момант нібыта палаў. Я зазірнуў ёй у вочы і зразумеў, што хачу зрабіць яе сваёй жонкай, і хай мяне за гэта заб'е пярун. Сваёй жонкай... Ні пра што іншае я думаць не мог. Гэта не была звычайная брыдкая пажадлівасць, як вам, напэўна, здаецца. Калі б тады я адчуваў адну толькі пажадлівасць, то адпіхнуў бы жанчыну і ўцёк. І мне б не прыйшлося запэцкаць свой меч крывёю мужчыны. Аднак у тым змрочным гаі, у тое імгненне, калі я пільна ўглядзеўся ў жаночы твар, я вырашыў, што не сыду адсюль, пакуль не заб'ю яе мужа.

Тым не менш, я не хацеў забіваць яго вось так адразу, як баязлівец. Я разблытаў вяроўку і загадаў яму брацца за зброю. (*Гэта, мусібыць, тая вяроўка, якую знайшлі ля крыптамерыі.*) Твар мужчыны перакрывіўся, ён агаліў свой вялікі меч. Умомант ён моўчкі, ярасна кінуўся на мяне... Не трэба вам доўга тлумачыць, чым скончыўся наш двубой. Дваццаць тры ўдары – і я ўсадзіў меч яму ў грудзі. Дваццаць тры ўдары... Не забывайцеся на гэта, калі

ласка. Я дагэтуль у захапленні. Ва ўсім свеце толькі гэты мужчына біўся са мной так доўга, каб нанесці больш за дваццаць удараў. (*Радасная ўсмешка.*)

Калі мужчына рухнуў на зямлю, я апусціў свой акрываўлены меч і адразу ж павярнуўся да жанчыны. І што б вы думалі? Яе нідзе не было. Я паблукаў трохі сярод крыптамерый, стараючыся вызначыць, куды яна збегла. Але не знайшоў нават ейных слядоў на апалым лісці бамбука. Напружыўшы слых, я пачуў толькі хрыпы агоніі, што даносіліся з горла мужчыны.

Магчыма, у той самы момант, як мы пачалі біцца, жанчына проста ўцякла, каб паклікаць людзей на дапамогу... Калі я гэта зразумеў, то вырашыў ратавацца: зняў з мужчыны меч і калчан і вярнуўся да горнай сцежкі. Конь жанчыны спакойна скубаў там траву. Няма сэнсу распавядаць, што было далей, усё гэта будзе адно пустой балбатнёй. Скажу толькі, што пазбыўся мяча перад тым, як дабраўся да сталіцы. Вось вам маё прызнанне. Я заўжды ведаў, што маю галаву насадзяць на высокі кол, дык давайце ўжо, пакарайце мяне смерцю. (*Ганарлівы выгляд.*)

*Споведзь жанчыны, якая прыйшла ў храм Кіёмідзу*[8]

...калі той мужчына ў цёмна-сінім адзенні скончыў гвалтаваць мяне, то зірнуў на майго звязанага мужа і здзекліва пасміхнуўся. Як мусіў пакутаваць муж! Але колькі б ён ні круціўся ў спробах вызваліцца, вяроўка, што звязвала яго па руках і нагах, толькі мацней уядалася ў цела. Я паднялася, кульгаючы, без адзінай думкі ў галаве, і кінулася да яго. Не – хацела кінуцца. Аднак мужчына ў сінім зараз жа паваліў мяне на зямлю ўдарам нагі. Гэта быў той самы момант. Вось тады я пабачыла ў вачах майго мужа бляск, якога словамі не апісаць. Словамі не апісаць... Я дагэтуль дрыжу, калі ўзгадваю той позірк. Муж не сказаў ані слова, але ў ягоных вачах адлюстравалася ўсё, што жыло ў душы. Але гэта быў не гнеў і не смутак... Толькі халодны бляск пагарды да мяне, хіба не так? Ад яго забалела мацней, чым тады, калі мяне выцяў мужчына ў сінім, і я з нейкім няўцямным крыкам урэшце страціла прытомнасць.

Калі я прыйшла ў сябе, мужчына ў сінім ужо кудысьці знік. На прагаліне застаўся толькі мой муж, прывязаны да дрэва. Я нарэшце прыўзнялася з апалага бамбукавага лісця і пільна зазірнула ў твар мужу. Яго позірк зусім не змяніўся. Ён глядзеў на мяне з пагардай, нават з нянавісцю. Сорам, жальба, гнеў... Не ведаю, як патлумачыць, што рабілася тады ў маёй душы. Ледзь-ледзь падняўшыся, я падышла да мужа.

«Любы... Пасля таго, што здарылася, мы не можам быць разам. Я цвёрда вырашыла памерці. Але... Але я хачу, каб і ты таксама загінуў. Ты бачыў, як мяне зганьбілі. Я не магу пакінуць цябе аднаго з такім сорамам».

Усю сваю моц я ўклала ў гэтыя словы. А муж толькі пагардліва глядзеў на мяне. Сэрца маё разрывалася, пакуль я шукала меч. Аднак той бандыт, відаць, скраў у нас усё: ані мяча, ані калчана не было. На шчасце, пад нагамі яшчэ ляжаў кінжал. Я занесла яго над галавой і ў апошні раз звярнулася да мужа.

«Цяпер аддай мне сваё жыццё! А я адразу пайду за табой...»

Калі муж пачуў гэта, то нарэшце паспрабаваў адказаць мне. З рота ў яго тырчэла лісце бамбука, таму голасу, канечне, было не чутно. Але, заўважыўшы, як рухаюцца ягоныя вусны, я зразумела, што ён хацеў вымавіць. Ён грэбаваў мною, ён мог сказаць адно: «Забівай». Нібыта ў паўсне, я пацэліла кінжалам у грудзі мужу і прабіла іх наскрозь.

Відаць, пасля я зноў страціла прытомнасць. Калі я ўрэшце расплюшчыла вочы, то ўбачыла, што муж, па-ранейшаму звязаны, ужо сканаў. На яго бледны твар, на прагаліну з крыптамерыямі, якія раслі пасярод бамбука, падаў самотны прамень вячэрняга сонца. Я залілася слязьмі і пачала разблытваць вяроўку. Вось тады... Што здарылася са мной тады? Мне не стае сілаў, каб пра гэта расказваць. Чамусьці я не змагла развітацца з жыццём. Я думала пранізаць сабе горла кінжалам ці кінуцца ў возера ля падножжа гары, але не змагла, і ганарыцца тут няма чым. (*Сумная ўсмешка.*) Ад такой нікчэмнай баязлівіцы, як я, адвярнулася б нават бадгісатва Канон[9], вядомая сваёй нязмернай міласэрнасцю і спагадай. Я забіла ўласнага мужа, мяне згвалціў бандыт, дык што мне цяпер рабіць? Што мне цяпер... Што мне... (*Раптоўныя, адчайныя рыданні.*)

*Распавед памерлага з вуснаў сінтаісцкай[10] жрыцы*

...калі бандыт скончыў гвалтаваць маю жонку, то сеў побач з ёй на зямлю і пачаў суцяшаць яе. Канечне, я не мог нічога сказаць. Да таго ж я быў прывязаны да крыптамерыі. Але раз за разам спрабаваў зазірнуць жонцы ў вочы. «Не вер гэтаму мужчыну, усе ягоныя словы ілжывыя...» Вось што я хацеў перадаць ёй. Аднак жонка з няшчасным выглядам сядзела на апалым лісці бамбука, утаропіўшыся на ўласныя калені. Хіба я мог не падумаць, што яе спакушаюць абяцанкі таго бандыта? Мяне трэсла ад рэўнасці. А хітры бандыт усё дурыў ёй галаву. «Калі цябе ўжо раз сапсавалі, ты ніколі зноў не памірышся з мужам. Дык навошта табе быць ягонай жонкай, мо станеш лепей маёй, га? Я моцна цябе пакрыўдзіў, але толькі таму, што ты вельмі мне падабаешся...» Вось так гучала яго нахабная балбатня.

Бандыт гаварыў, і жонка, быццам зачараваная, падняла твар. Я ніколі не бачыў яе такой прыгожай, як у той момант. Але што адказала гэтая прыгожая жанчына бандыту, пакуль я, звязаны, стаяў перад імі? Нават цяпер, калі я блукаю па тагасвеце ў чаканні перараджэння, успаміны пра ейны адказ запальваюць ува мне небывалы гнеў. Яна сказала, і гэта дакладна: «Тады забяры мяне з сабой куды заўгодна». (*Доўгае маўчанне.*)

І гэта быў не адзіны ейны грэх. Інакш я б не пакутаваў так сярод гэтай цемрадзі. Нібы ў сне, яна ўзяла бандыта за руку, і яны ўжо накіраваліся былі прэч, як раптам яна пабялела і паказала на мяне, прывязанага да дрэва. «Забі яго! Пакуль ён жыве, я не магу быць з табой...» Яна выкрыквала гэта зноў і зноў, быццам вар'ятка. «Забі яго!» Гэтыя словы нават цяпер здаюцца мне парывам буры, што валіць з ног і кідае на самае дно цемры. Ці чалавек наогул казаў штосьці настолькі ненавіснае, як яна тады? Ці чалавек наогул чуў штосьці настолькі варожае, як я тады? Ці чалавек наогул... (*Рэзкі, нядобры смяшок.*) Нават бандыт пабялеў, пачуўшы ейны лямант. «Забі яго!» Яна вісела на руцэ бандыта і ўсё крычала. Ён пільна ўгледзеўся ў яе і не сказаў нічога: не абяцаў забіць, не абяцаў не забіваць... Я нават не заўважыў, як ён адным ударам нагі паваліў яе на апалае бамбукавае лісце. (*Ізноў нядобры смяшок.*) Бандыт моўчкі склаў рукі на грудзях і зірнуў у мой бок. «Што мне рабіць з гэтай бабай? Забіць яе ці злітавацца? Можаш проста прамычаць у адказ. Забіваць?» За адное гэтае пытанне я гатовы ўсё яму прабачыць. (*Ізноў доўгае маўчанне.*)

Пакуль я вагаўся, жонка ўскрыкнула і стрымгалоў кінулася прэч у гушчар. Бандыт імгненна скочыў услед, але не паспеў нават схапіць яе за рукаў. Я проста глядзеў на ўсё гэта, быццам на нейкі морак.

Жонка ўцякла, бандыт жа забраў меч і калчан, а пасля надрэзаў вяроўку, што звязвала мяне. «Ну, я пайшоў сваёй дарогай». Я памятаў, як ён прамармытаў гэта, ужо амаль схаваны ў гушчары. Навокал было ціха. Не, усё ж такі мне пачуўся чыйсьці плач. Я ўважліва прыслухоўваўся да гэтых гукаў, пакуль разблытваў вяроўку. Але калі засяродзіўся, то зразумеў: хіба не я сам плакаў? (*Доўгае маўчанне ў трэці раз.*)

Стомлены, я ўрэшце сеў на зямлю між каранёў крыптамерыі. Перад маімі вачыма ляжаў бліскучы кінжал, які кінула жонка. Я ўзяў яго і адным махам усадзіў сабе ў грудзі. Нейкі смярдзючы камяк крыві выплюхнуўся з маіх вуснаў. Аднак я зусім не адчуў болю. Толькі пахаладзелі грудзі, а навокал запанавала поўнае безгалоссе. Ах, якая гэта была цішыня... У небе над гаем, схаваным у ценю гары, не пралятала ніводная птушка. Толькі галіны бамбука і крыптамерый кідалі на зямлю самотныя цені. Цені... Нават яны паволі зніклі... Я не бачыў ужо ані бамбука, ані крыптамерый. Я ляжаў як упаў, ахутаны глыбокай цішынёй.

У той час хтосьці падышоў да мяне мяккімі крокамі. Я паспрабаваў зірнуць на гэтага чалавека. Але ўсё навокал ужо ахінуў змрок. Хтосьці... Гэты хтосьці нябачнай рукой асцярожна выцягнуяў кінжал з майго цела. Вось тады мой рот ізноў набрыняў крывёю. І так я занурыўся ў бясконцую цемру замагільнага свету...

*Снежань 1921 г.*

---

[1] *Цё* – традыцыйная мера даўжыні, прыкладна 110 м.

[2] *Сун* – традыцыйная мера даўжыні, прыкладна 3 см.

[3] Адна з брам Кіёта, які ў апісаны гістарычны перыяд (эпоха Хэйан, 794-1185 гг.) быў сталіцай Японіі.

[4] Прыкладна з 19:00 да 21:00.

[5] Піндола Бгараваджа – адзін з легендарных вучняў Буды Гаўтамы. Будыйскі святы, які быў надзелены дарам лячэння і, згодна з японскімі вераваннямі, асабліва апякуецца здароўем немаўлят і маленькіх дзяцей.

[6] Паводле ўсходнеазіяцкіх павер'яў радзімка каля вока прарочыць яе носьбіту цяжкае жыццё, бо асацыюецца са слязьмі.

[7] Бадгісатва – прасветлены чалавек, буда, які адмаўляецца сысці ў нірвану да таго, як усе іншыя жывыя істоты перастануць пакутаваць і таксама дасягнуць духоўнага прасвятлення.

[8] Кіёмідзу-дэра (Храм Чыстай Вады) – будыйская святыня ў Кіёта, заснаваная ў 778 г. Назва паходзіць ад вадаспада на тэрыторыі храмавага комплексу.

[9] Бадгісатва Канон – японскае ўвасабленне бадгісатвы Авалакітэшвары, надзвычай папулярнай фігуры будыйскага пантэона, сімвала спачування і дабрыні.

[10] Сінта (сінтаізм) – нацыяльная рэлігія Японіі. Форма політэізму, заснаваная на веры ў мірыяды духаў і багоў, якія засяляюць розныя прыродныя аб'екты. Будызм і сінта традыцыйна суіснуюць у рэлігійнай свядомасці японцаў: так, шматлікія народныя богі лічацца ўвасабленнямі заморскіх будаў.

## Бессмяротны

Шаноўнае спадарства!

Цяпер я ў Осацы, і таму хачу расказаць вам мясцовую гісторыю.

Некалі даўно ў гэты горад прыйшоў адзін мужчына, каб наняцца ў слугі. Як яго звалі, дакладна невядома. Быў ён усяго толькі памочнікам кухара, вось і кажуць пра яго проста – пахолак.

З'явіўшыся ў канторы па найме слуг, той пахолак прайшоў праз заслону

на ўваходзе, укленчыў і адразу звярнуўся з просьбай да чыноўніка, што трымаў у зубах люльку:

– Пане чыноўніку! Я хачу стаць бессмяротным[1], дык падбярыце мне, калі ласка, адпаведную працу.

Ягоны суразмоўца быў так агаломшаны, што спярша не знайшоў ані слова ў адказ.

– Пане чыноўніку! Вы, мабыць, мяне не пачулі? Я хачу стаць бессмяротным, дык падбярыце мне, калі ласка, адпаведную працу.

– Вельмі прыкра вам адмаўляць, але... – чыноўнік, нарэшце апрытомнеўшы, зноў пачаў жвава пыхкаць тытунём. – У нашую кантору ніколі яшчэ не звярталіся, каб наняць бессмяротнага, таму ласкава прашу вас пашукаць іншае месца.

Тады незадаволены пахолак прасунуўся наперад на каленях і заявіў:

– Штосьці вы не тое кажаце! Ці забыліся, што напісана ў вас на заслоне над уваходам? «Уладкоўваем на ўсялякія працы», хіба не так? Раз на ўсялякія – значыць, на любыя, так мусіць быць. Мо хочаце сказаць, што на гэтай вашай канторскай заслоне накрэмзалі хлусню?

Калі так паглядзець на справу, то ў пахолка сапраўды была прычына, каб раззлавацца.

– Не, што вы, аніякай хлусні там няма. Калі хочаце, каб мы абавязкова знайшлі да вас месца бессмяротнага, прыходзьце заўтра. Ёсць у мяне адна думка, і сёння я да сяго-таго звярнуся...

Чыноўнік згадзіўся на просьбу пахолка, бо марыў хаця б ненадоўга ад яго пазбыцца. Канечне, ён не ведаў і ведаць не мог, на якой працы можна навучыцца таму, што павінен умець бессмяротны. Таму, калі пахолак выйшаў з канторы, чыноўнік пабег да лекара, што жыў па суседстве.

– Дык што? Пане доктару! Як вы думаеце, дзе можна хуценька вывучыцца на бессмяротнага? – устрывожана запытаўся ён, пераказаўшы ўсю гісторыю з пахолкам.

Лекара гэта таксама збіла з панталыку. Нейкі час ён, склаўшы рукі на грудзях, бяздумна глядзеў на сасну, што расла ў ягоным садзе. А вось жонка лекара, якую за хітрасць празвалі старой лісіцай, падала голас адразу ж, калі пачула расказ чыноўніка:

– О, запрасіце яго да нас! Мы за два-тры гады зробім з яго бессмяротнага, не сумнявайцеся.

– Сапраўды? Вы мяне ашчаслівілі! Я гатовы ва ўсім вам даверыцца. Зрэшты, мне заўжды падавалася, быццам у дактароў і бессмяротных ёсць нешта агульнае...

Адбіўшы лекару з жонкай мноства паклонаў, чыноўнік радасна, без ценю падазрэння вярнуўся ў сваю кантору.

Лекар правёў яго змрочным позіркам, а потым павярнуўся да жонкі.

– Навошта ты выдумала нейкае глупства? Колькі гадоў не вучы гэтага лапцюжніка, а бессмяротнага з яго не зробіш, ён яшчэ пачне прылюдна скардзіцца на нас, і што тады? – незадаволена бурчэў лекар.

Аднак жонка замест таго, каб прызнаць віну, захіхікала сабе пад нос.

– Ай, змоўкні ты лепш! Такія чэсныя дурні, як ты, у нашым жорсткім свеце нават ежу самі сабе не здабудуць! – сказала яна і ўсё ж пераканала мужа ў тым, што мае рацыю.

І вось назаўтра, як і было абяцана, чыноўнік прывёў вясковага пахолка

ў дом лекара. Каб зрабіць на гаспадароў добрае ўражанне, пахолак апрануў накідку з фамільным гербам, але з выгляду ўсё роўна нічым не адрозніваўся ад звычайнага селяніна. Таму ўражанне атрымалася хутчэй адваротным. Лекар утаропіўся ў яго так, нібыта пабачыў дзівоснага заморскага аленя-кабаргу.

– Кажуць, ты хочаш стаць бессмяротным, але адкуль у цябе наогул такое жаданне? – запытаўся ён.

Пахолак адказаў:

– Няма ў мяне асаблівай прычыны, проста калі я прыбыў у Осаку і паглядзеў на тутэйшы замак, то падумаў, што нават такая выбітная асоба, як яго светласць былы рэгент[2], мусіць аднойчы памерці. Дый увогуле, колькі б хвалы і багацця ў яго ні было, чалавек – істота недаўгавечная...

– Дык, значыць, ты, каб стаць бессмяротным, гатовы ўзяцца за любую працу? – пацікавілася хітрая лекарава жонка.

– Так. Я буду выконваць якую заўгодна працу, каб толькі зрабіцца ім.

– Тады наймайся да нас на дваццаць гадоў, пачаўшы з сённяшняга дня. Міне той час, і мы навучым цябе правільным заклёнам.

– Напраўду? Слоў не хапае, каб выказаць вам маю ўдзячнасць!

– Але ў аплату ты не атрымаеш аніводнай манеты.

– Добра! Добра. Я згодны.

З таго самага дня пахолак дваццаць гадоў рабіў на лекара. Насіў ваду. Сек дровы. Праў адзенне. Да таго ж кожны раз, калі гаспадар выходзіў да хворых, пахолак мусіў цягаць за ім куфэрак з лекамі. Другога такога добрага слугі, які ніколі не прасіў, каб яму заплацілі, не знайсці было ва ўсёй Японіі.

І вось, калі дваццаць гадоў прайшлі, пахолак стаў перад сваімі гаспадарамі ў той самай гербавай накідцы, у якой аднойчы перад імі з'явіўся. Спярша ён пакланіўся ў знак удзячнасці за тое, што ўвесь гэты час яны клапаціліся пра яго.

– Цяпер я прашу вас споўніць даўняе абяцанне і навучыць мяне хаця б аднаму заклёну бессмяротных, каб і я здабыў неўміручасць і вечную маладосць.

Так сказаў пахолак, агаломшыўшы лекара дазвання. Як ні круці, ганебна было б прызнацца таму, хто дваццаць гадоў задарма на яго шчыраваў, што ён насамрэч не ведае аніякіх таемных сакрэтаў. Таму лекар прамармытаў:

– Гэта мая жонка знаецца на заклёнах, вось хай яна цябе і вучыць, – і адвярнуўся, утаропіўшыся ў іншы бок.

Жонка ж яго захоўвала поўны спакой.

– Я гатовая цябе навучыць, але ты павінен рабіць усё, што я скажу, якім бы цяжкім гэта ні было. Калі не зробіш – мала таго, што не станеш бессмяротным, дык будзеш працаваць тут яшчэ дваццаць гадоў без заробку, інакш нябёсы нашлюць на цябе пагібель.

– Слухаюся! Якім бы складаным ні было заданне, я абавязкова выканаю яго да канца.

Узрадаваны, пахолак чакаў загадаў лекаравай жонкі.

– Тады ўзбярыся на сасну, што расце ў нашым садзе, – сказала яна.

Канечне, ёй невядомыя былі розныя там заклёны бессмяротных, аднак яна вырашыла: трэба прыдумаць для пахолка такую няпростую справу, якую ён нізавошта не выканае, і тады можна будзе чарговыя дваццаць гадоў выкарыстоўваць яго задарма. Але пахолак, пачуўшы ейныя словы, адразу ж узлез на сасну.

– Яшчэ вышэй! Давай, давай, узбірайся вышэй!

Стаўшы на ганку, жонка лекара падбухторвала пахолка, а той ужо сядзеў на вершаліне дрэва. Яго гербавая накідка развявалася на ветры.

– Цяпер выцягні правую руку!

Левай рукой пахолак моцна ўчапіўся ў тоўстую галіну, а правую паволі выцягнуў наперад.

– А цяпер і левую!

– Эй! Эй! Калі гэты лапцюжнік адпусціць абедзве рукі, ён жа зваліцца! Унізе голае каменне, жывым ён напэўна не ўстане!

Сам лекар урэшце выйшаў на ганак, і па ягоным твары відаць было, як ён хвалюецца.

– Табе няма чаго тут рабіць. Проста давер усё мне... Ты, працягвай левую руку!

Не паспела яна дагаварыць, як пахолак адважна выцягнуў другую руку. Зразумела, нельга не зваліцца з самай вершаліны дрэва, калі не трымацца за яго абедзвюма рукамі. Умомант і цела пахолка, і яго гербавая накідка адарваліся ад сасны. Але ў гэтае ж імгненне замест таго, каб упасці на зямлю... ён завіс у паўдзённым небе, быццам лялька на прывязках.

– Дужа дзякую! Праз вас я сапраўды зрабіўся бессмяротным.

Пахолак пакланіўся і, узняўшыся ў блакітнае неба, патроху знік сярод высокіх аблокаў.

Ніхто не ведае, што здарылася пасля з лекарам і ягонай жонкай. А сасна, якая расла ля іх дома, стаяла там яшчэ доўгі час. Кажуць, сам Ёдоя Тацугора[3] загадаў перанесці гэтае дрэва – а было яно тоўстае, у чатыры абхваты – да ўласнага саду, каб узімку сузіраць яго заснежаныя галіны.

*Сакавік 1921 г.*

---

[1] Бессмяротны (яп. *sennin*, кіт. *xianren*) – постаць з даоскіх вераванняў, характэрны персанаж усходне-азіяцкай культуры. Гэта духоўна прасветлены чалавек, які жыве ў гарах, далёка ад людзей, і валодае амаль боскімі здольнасцямі: перадусім неўміручасцю, а таксама магчымасцю падымацца ў паветра, абыходзіцца без ежы, не рэагаваць на холад, гарачыню і г. д.

[2] Маецца на ўвазе Таётомі Хідэёсі (1536-1598) – славуты палітык і самурай, народжаны ў сялянскай сям'і. Пасля шматгадовых феадальных войнаў ён аб'яднаў Японію і кіраваў ёю спярша на пасадах вялікага міністра і рэгента пры імператары, а потым – як рэгент у адстаўцы.

[3] Ёдоя Тацугора (каля 1688-1705) – купец з Осакі, прадстаўнік уплывовага сямейства, якое нажыло неверагодныя багацці на гандлі рысам. Вядомы сваім шыкоўным ладам жыцця: так, ён наведваў вясёлыя кварталы ў вопратцы з белага шоўку, што было дазволена толькі самураям. У рэшце рэшт сёгун канфіскаваў ягоны маёнтак, а яго самога асудзіў на выгнанне.

Васіль Бондар



...даражэюць

нарачоныя...

# Ножыкі

***Апавяданне***

Удвох з братам мы прадавалі сястру. Звычай такі ёсць на вяселлі. Стаялі пры расчыненых насцеж варотах на зялёным у верасні спарышы, перад намі нізкі ўслончык з вышытым ручніком, хлебам і соллю, па баках два вядры, поўныя чыстай крынічнай вады. Два хлапчукі ў сандалях на босую нагу, у плюшавых карычневых касцюмчыках (рэдка апрананых, святочных) і гэткіх жа плюшавых картузіках, трохі завялікіх, з самаробным газетным абадком пасярэдзіне.

Нам наказалі: прадаваць толькі за Леніна. У той год якраз грошы памянялі: чырвонец – быў вялікімі грашыма. Значыць, без чырвонца з Ленінам не пускаць за вароты нікога.

*Пераклад з украінскай Андрэя НАЛІВЫ.*

І вось ужо насоўваецца на нас шумнае вяселле. Паперадзе дружкі ды шаферы ўздымаюць пыл, вішнёвае ў

стракатых стужках дрэўца вытанцоўвае над галавою старэйшага шафера, далей малады ступае горда, самотна, за маладым гурт астатніх (бацькі, сваты, свяцілкі і так, цікаўныя) і ззаду за ўсімі музыкі – бліскаюць на сонцы трубамі ды дзьмуць у іх так, што ажно ўнутры штосьці скача... Наўкруг музыкаў дзятва, як рой, уецца. Гэта ж і нам там быць бы цяпер, калі б чужое вяселле, але... Прадаем сястру.

Пад самымі варотамі дружкі і шаферы расступіліся, далі дарогу маладому. Музыкі ж не спыніліся – грымелі на ўсё наваколле.

– Што, казакі, просіце? – запытаўся малады гучна, так, каб яго можна было пачуць і за музыкамі. Ён стаяў перад намі ў белай просценькай кашулі, шырокіх на скураным паску чорных штанах з высокімі манжэтамі, за якімі чаравікаў не відаць, буйначубы, высокі – сапраўдны малады.

– Дык што, казакі, хочаце?

– З Ленінам! – выгукнулі мы ў адзін голас, як нас вучылі. Упэўнена выгукнулі, без кроплі сумневу, што малады нас паслухаецца. Немінуча паслухаецца, бо сястра ж нашая: захочам – прададзім, а захочам – не прададзім. А яна ўжо задарма была гатовая пусціць маладога на падворак. Яна ўжо ў думках гарнулася да яго (лёгенька так, падручку), ва ўсім белым, у белым вяночку цнатлівым, як свечачка белая й тоненькая нашая сястрыца.

– Ці не дарагавата? – усміхнуўся з вышыні свайго росту малады.

– Не-е-е!!! – загуў натоўп за нашымі спінамі. – Адзін раз на вяку купляеш!..

– З Ленінам і ўсё! – прапішчаў мой малодшы брат.

Стаялі мы на сваім нязрушна, як скала. Бо адчувалі падтрымку за спінамі. “Правільна, хлопцы! І не прапускайце, калі не дасць з Ленінам!” Але тут здарылася непрадбачанае. Малады падклікаў да сябе старэйшага шафера, узяў у яго свой пінжак, доўгенька корпаўся ў ім, а потым выцягнуў два невялікія ножыкі-складанчыкі і падаў нам кожнаму.

– Не бярыце, хлопцы! – загучала з-за нашымі спінамі.

Аднак было ўжо позна... Дзе й падзеўся ўслончык з хлебам і соллю, што стаяў перад намі, старэйшы шафер хвацка перакінуў вёдры з вадою, аж запырскаў пярэднім вясельным ногі, нас укруціў у сябе людскі вір, а музыкі ажно захліпаліся. “Стойце, пачакайце, як жа так?” – крычалі нашыя вочы, але пра нас ужо ўсе забыліся.

Мне было балюча і крыўдна за такі нахабны падман. Я забег за хату, падалей ад людскіх вачэй, упаў у лопухі і горка заплакаў. Плакаў ажно ўсхліпваў. Не ведаў я тады, што пра такі ножык (сцізорык, з касцянымі тронкамі, з шыльцам і свярдзёлкам) марылі, пэўна, ці не ўсе хлапчукі ў нашай вёсцы. Не ведаў я й таго, што малады на свой заробак (авечак пас у калгасе) даглядаў старэнькіх бацькоў (тады яшчэ не плацілі калгаснікам пенсію) і двух малодшых братоў-школьнікаў. Не ведаў і не хацеў ведаць: нас прыўсялюдна абдурылі, нас амаль не заўважылі, адгарнулі рукой, каб не перашкаджалі на дарозе.

Меншаму майму брату выкуп спадабаўся. Цяпер ён нават і не памятае той маёй крыўды. Ён памятае іншае: як пазней, потым, пасля вяселля, гуляючыся, ён незнарок упусціў дарагі падарунак у расколіну старога глінянага ганка і нічым не змог яго адтуль дастаць.

А куды падзеўся мой ножык? Выкінуў я яго, згубіў ці аддаў каму, ці падараваў?.. Не памятаю. Нібыта й не было таго ножыка ў мяне.

Прыгадалася ўсё гэта, калі ўжо на сваім вяселлі я “выкупляў” сабе жонку ў ейных стрыечных пляменнікаў. Не ў варотах пры кучаравым спарышы, а высока над зямлёю, на сёмым паверсе гарадской кватэры, за доўгім, шчодра застаўленым стравамі ды напоямі сталом. І яны, пляменнікі, таксама пажадалі “з Ленінам”. Я, памятаючы тую сваю даўнюю крыўду, уклаў кожнаму ў маленькія цэпкія далонькі па чырвонцы, аднак, яны доўга яшчэ дзьмуліся на мяне, а меншы дык і не размаўляў колькі тыдняў, адварочваючыся пры сустрэчы. Выявілася, што яны хацелі зялёную – соценную – купюру з партрэтам Леніна.

Даражэюць нарачоныя...

Цікава, скольки каштавацьме маладая, калі пляменнікі самі будуць жаніцца? І якімі грашыма?

пераклады

## Фістон Мванза Мужыля



Фота: Jürgen Fuchs

...Я аддаю перавагу святлу
Нават калі яно слепіць вочы...

# Ноч і трымценне

***16.***

Дні дэфілююць
Як тыя цягнікі, якія не спыняюцца ні на адным
вакзале
Мы заўважаем хіба зморшчыны
Дні пры дні

З'яўляюцца згрызоты
З'яўляюцца выбачэнні
За нескарыстаныя шанец і спадзеў

*Са зборніка "Расколіны" / Craquelures, L'Arbre a paroles, Amay 2011.*

***17.***

*Пераклад з французскай Уладзіслава ГАРБАЦКАГА.*

Нацыянальнасць – гэта стварэнне чалавека
Гэткае ж самае, як і чырвонае віно, ровар
ці радыятар.

Цяжка жыць у птушыных клетках
Цяжка валэндацца ў адной з трох нацыянальнасцяў
Якія замінаюць вам дасягнуць крыніцаў сваіх мараў

### *36. СВЯТЛО ДЛЯ ПРАЎДЫ*

Я аддаю перавагу святлу
Нават калі яно слепіць вочы.

### *38. СЛОВЫ*

Словы здраджваюць нам
Словы здраджваюць мне
Словы здраджваюць табе
Такая іх прырода ўцякаць ад нас
На небяспечных віражах

Магчыма мне трэба
Стварыць іншую мову
Пазбаўленую бессэнсоўных словаў
Такіх як: кветка, сяброўства, юстыцыя
Мяккасць, натхненне, дэмакратыя
Правы чалавека, свабода, дызентэрыя

Магчыма нам трэба вывучыць
Тэлеграмную мову, напрыклад
Так / Магчыма / Згода / Паесці /
Куртка / Млын / Глеба
Замест таго, каб надаваць паэтычнасць рэальнасці
Якая спараджае мор і няўдачу

### *41. НОЧ І ТРЫМЦЕННЕ*

Ноч нясе мне няшчасці
Я баюся заплюшчыць вочы
Інакш яны больш не расплюшчацца ніколі
Крохкасць, мажліва
Баязлівасць, можа быць
Пакора, канечне
Страх смерці, амаль што
Сабачае жыццё, без усялякага сумневу

Адам Глобус



...Забораў, пэўна, у лепшым свеце п'е віно
з Шагалам і Сезанам ды ўсміхаецца...

# Забораў

***Словы пра кніжнага графіка Барыса Заборава***

### Стыльнасць

Стыляга, стыльная штучка, піжон, моднік – усе гэтыя вызначэнні цудоўна падыходзілі да Барыса Заборава ў Мінску шасцідзясятых і сямідзясятых гадоў. Ён першы, хто зразумеў, што нонканфармісту варта займацца аздабленнем дзіцячых кніжак. Ён першы, хто, займаючыся кніжнай графікай, стаў папулярным у моладзі і суперпаспяховым фінансава. Ён першы, хто стварыў у Беларусі вобраз стыльнага, усмешлівага і пазітыўнага мастака. Звышмодны вельветавы строй, супермодная кепка, найноўшыя макасіны. На Барыса Заборава заўсёды было прыемна глядзець. У свой час ён ці не адзіны, хто супрацьстаяў брутальнасці, змрочнасці і чырвона-карычневай халтурнасці тутэйшага мастакоўскага жыцця. Ён выйграваў у гэтым супрацьстаянні, бо любіў гумар, паважаў іронію і цаніў гратэск. Персанажы ягоных малюнкаў смешныя і трагікамічныя, але і ў трагічнасці яны заўсёды захоўвалі кроплю святла, калі не сонечнага, дык святла ад агеньчыка танюткай свечкі. Такім Забораў быў у Мінску, а ў Парыжы ён стаў

іншы, бо ў малюнках прапаў гумар, святло на карцінах прыгасла, нібыта крышталік у мастакоўскім воку памутнеў. Барыс Забораў і ў Парыжы застаўся піжонам. Ён і ў Францыі навучыўся добра прадаваць свае працы. Але там ён нікому не супрацьстаяў, ні з кім не змагаўся, а таму страціў выключнасць, якая адрознівае мастака ад рамесніка.


*Барыс Забораў у мінскай майстэрні. Фота Алены АДАМЧЫК.*

## Моднасць

Постаць Барыса Заборава ў беларускім культурным жыцці помніцца яшчэ і тым, што ён першы, хто паспрабаваў у Мінску стаць модным мастаком. Забораў нават працаваў у часопісе “Мода”, дзе друкаваліся новыя мадэлі і фотаздымкі з беларускімі прыгажунямі ды модніцамі. Адна справа – жанчына ў часопісе “Работніца і сялянка”, іншая – у часопісе “Мода”. Да Заборава беларускія мастакі не бачылі і не паказвалі гэтай вялікай розніцы. Часопіс “Мода” выдаваўся з удзелам “Мінскага дома мадэляў”. Забораў працаваў там з модніцамі, бо цалкам адпавядаў гэткай наватарскай у нашых мясцінах справе. Калі Забораў з’ехаў у Парыж, месца самага моднага мастака ў Беларусі заняў Мікола Селяшчук. Можна казаць, што Селяшчук стаў першым модным мастаком Беларусі, бо Забораў быў занадта сур’ёзны для гэткага легкадумнага звання. Шкада, што лёс павярнуўся да Міколы Селяшчука спінаю: Мікола паехаў у Італію адпачыць і патануў у моры. Месца самага моднага мастака дасталося Уладзіміру Цэслеру, які пратрымаўся на ім значна больш за свайго папярэдніка, але і ён пакінуў Беларусь... Мне цікава, хто цяпер сядзе на месца самага моднага мастака Беларусі. Хацелася б, каб гэта быў творца не горшы за Барыса Заборава, а калі і горшы, дык каб ненамнога.

## Лана

У паэта Данііла Хармса ў паплечніках хадзіў празаік Канстанцін Канстанцінавіч Вагінаў. Пры ўсёй экстравагантнасці псеўданіма Хармс, прозвішча Вагінаў, у якім на першым плане стаіць вагіна, значна больш экстравагіннае і эпатажнае. Так мне падумалася. Таму я і пацікавіўся, адкуль пайшло такое анатамічнае прозвішча. Высветліў: яно штучнае, яго зрабілі з нямецкага прозвішча Вагенгейм. Бацька Вагінава – Канстацін Адольфавіч Вагенгейм служыў у Піцеры жандарам. Калі ў Расіі напярэдадні Першай сусветнай вайны пачаліся нямецкія пагромы і насіць нямецкае прозвішча стала небяспечна, цар Мікалай Другі дазволіў некаторым з немцаў абрусець, памяняўшы нямецкае прозвішча на рускае. Канстанцін Адольфавіч і ягоны сын Косця сталі Вагінавымі. Можна зразумець жандара, які баяўся пагромаў, які спехам перарабляў дакументы, які не пачуў слова “вагіна” ў новым прозвішчы. Цяжэй зразумець паэта Рыгора Барадуліна, які назваў сваю дачушку

навамодна – Ілона. Зрэшты, назваў і назваў. Мы неяк усе хутка прывыклі да звышсучаснага і паралонавага імя Ілона. Але не паспелі мы прывыкнуць да Ілоны, як узнікла новая праблема – скарочаны варыянт імя гучаў, скажам так, звышэратычна – Лона. Паэт усё ж не жандар, паэт вырашыў памяняць імя дачкі. Дзеля гэтага Барадулін напісаў кнігу вясёлых вершаў "Раскідач" для дзяўчынкі... Увага! Для дзяўчынкі Ланы. Рыгор Барадулін не проста напісаў такую кнігу, ён запрасіў мастака Барыса Заборава зрабіць партрэт любімай Ланы. Гэтага Барадуліну падалося замала, і ён папрасіў Івана Бурсава перакласці кнігу на рускую мову. Так Ілона Барадуліна, можна смела казаць, атрымала ў 1969 годзе новае імя і пашпарт у выглядзе кніжкі з фотапартрэтам ад майстра Заборава.



*Барыс ЗАБОРАЎ. «Сымон-музыка».*

## Забароненыя кнігі

Усе кнігі можна падзяліць на забароненыя і дазволеныя. Зараз модна абвяшчаць кнігу забароненай, калі адзін асобнік такой кніжуленцыі нейкі маладасведчаны міліцыянер ці звышпільны мытнік выкіне ў сметнік. "Забаранілі! Не пусцілі! Выкінулі! Гвалт, гвалт, гвалт..." – лямантуе хітрадушны аўтар выкінутага ў сметніцу асобнічка, а яму дапамагаюць хайпаваць прагныя да скандалаў сябрукі. Можна было б і паспачуваць такому гвалталюбіваму аўтару, каб ён не лгаў, каб ягоныя кнігі і сапраўды забаранілі і павыкідалі з кнігарняў. Не забаранілі і не павыкідалі, ідзі і купляй. Падобны лямант віруе вакол малазначнай падзеі і закрывае сабою падзеі больш важныя і больш драматычныя... Каб не засяроджвацца на пустапарожнім, але застацца ў тэме, я згадаю некалькі кніжак, якія забараняла савецкая цэнзура. Пачну з рамана Караткевіча "Леаніды не вернуцца да Зямлі". Яго забаранілі пасля часопіснай публікацыі. Цэнзары ўгледзелі ў назве зняважу кіраўніка дзяржавы Леаніда Брэжнева, а сам раман палічылі малакаштоўным і несацрэалістычным. Раман выйшаў асобнай кнігай ажно праз дваццаць гадоў, і на вокладцы стаяла новая назва "Нельга забыць". Калі Караткевіч усё ж змог выдаць свой раман на радзіме, дык Алег Бембель быў вымушаны выдаваць забароненую кнігу "Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс" у Лондане. Шмат хто, у тым ліку і Караткевіч, спрабавалі дапамагчы Алегу з выданнем кнігі, прысвечанай рэпрэсіям, скіраваным супраць беларускай мовы, але забарону цэнзуры ніхто адмяніць не змог. Кнігі Караткевіча і Бембеля забаранялі за тэксты, а вось кнігу, якую афармляў Барыс Забораў, забаранілі і знішчылі за малюнкі. Напрыканцы 70-х у СССР вялося актыўнае змаганне з "сіянізмам", прыкметы "сіянізму" цэнзары знаходзілі ў кожным трохкутніку. Барыс Забораў зрабіў малюнкі да "Казкі пра цара Салтана". У той час Барыс Абрамавіч захапляўся жывапісам Марка Шагала, таму ілюстрацыі да Аляксандра Пушкіна, як і да Якуба Коласа, як і шмат да каго іншага, Забораў рабіў у постмадэрністычнай неашагалаўскай стылістыцы, што моцна раздражняла змагароў з "сіянізмам", і яны напружыліся і знайшлі да чаго прычапіцца. Зоркі на казачным небе Пушкіна мелі шэсць канцоў. Не пяць, як савецкія маскоўскія крамлёўскія зоркі, а шэсць, як зоркі самых сапраўдных сіяністаў. Акрамя шагалаўскіх матываў, у малюнках Заборава цэнзары ўбачылі і наследаванне рускаму іканапісу. Богашукальніцтва і спробу прапаганды рэлігіі ў творах Заборава цэнзары таксама асудзілі. Увесь шматтысячны

наклад казак Пушкіна з малюнкамі Заборава быў знішчаны. Барыса Абрамавіча прымусілі зафарбаваць усе шасціканцовыя зоркі, а на іх месцы папастаўляць правільныя – пяціканцовыя. Гучалі прапановы: прымусіць Барыса Заборава заплаціць за знішчаныя па ягонай віне кніжкі, але да гэтага, дзякуй Богу, не дайшло. Здарэнне з забаронай і знішташэннем кнігі моцна паўплывала на Барыса Заборава. Менавіта пасля гэтага здарэння ён і прыняў канчатковае рашэнне назаўсёды з'ехаць з Мінска ў Парыж.

## Другараднасць

Другарадныя літаратары паплакалі, пачуўшы вестку пра смерць іх паплечніка – Ігара Шклярэўскага. Я не плакаў, бо ў мяне ёсць па кім плакаць і без Шклярэўскага. Пагатоў, не люблю пошласць у вершах, а ў Ігара Іванавіча Шклярэўскага яе шмат... "Сам себе говорю: – Покороче! – Обожаю красоток и деньги, я еще подрабатываю в литейке!" – "А я с дорогой сигареткой, как будто я лучше людей" – "Еще я – великий поэт". Ігар Іванавіч паэт невялікі, ён паэт маленькі, правінцыйны і другарадны. Пантоў у яго шмат, але ягоны пераклад "Слова аб палку Ігаравым, Ігара сына Святаслаўлева, унука Алегава" горшы за пераклады Янкі Купалы і Мікалая Забалоцкага. Другараднасць – яна ва ўсім другараднасць. Дык што пра яе так шмат пісаць? Скажу. Зборнікі паэзіі Ігара Шклярэўскага афармляў мастак Барыс Забораў. Атрымлівалася прыстойна, свежа і з густам. Забораў афармляў паэтаў першарадных: Шэкспіра, Уайльда, Коласа, Купалу – і другарадных: Шклярэўскага ды Кісліка. Так атрымалася, што Барыс Забораў, седзячы ў Мінску, сваімі малюнкамі і шрыфтавымі кампазіцыямі аздобіў высокі стос другараднай літаратуры. Пазней, жывучы ў Парыжы, Барыс Абрамавіч не любіў згадваць пра сваю кніжную графіку. Чаму? Задаваў я сабе пытанне. Ён выдатна папрацаваў з "Каралём Лірам" і "Сымонам-музыкам", з казкамі Пушкіна і лірыкай Райніса... Цяпер, перачытваючы пераклады Шклярэўскага, я знайшоў адказ. Барыс Забораў не хацеў згадваць навакольную другараднасць, ад якой уцякаў і ўцёк у Францыю.

## Шкадаванне

Звычайна я не пераймаюся тым, што нейкі мастак ці музыка з'ехаў з Беларусі за мяжу. З'ехаў, бо яму там лепей жывецца і працуецца, за такіх можна і варта парадавацца. Праўда, ёсць у мяне адно выключэнне – Барыс Забораў. Ён не толькі з'ехаў, ён яшчэ пакінуў кніжную графіку. Мне страшэнна падабаюцца кнігі з ягонымі малюнкамі і з ягоным шрыфтавым аздабленнем. Нават пасрэдную кнігу прыемна трымаць у руцэ, калі над ёю папрацаваў такі майстар, як Барыс Абрамавіч Забораў. Для яго кніжная графіка была заробкам і збольшага халтурай, але ён рабіў кнігі на такім высокім узроўні, што іншым нашым графікам такія вяршыні майстэрства нават і не сніліся. Ягоны Сымон-музыка і Оскар Уайльд, ягоны А.С. Пушкін і кароль Лір для мяне не проста любімыя



*Барыс ЗАБОРАЎ. «Дзед Мароз».*

кнігі, яны для мяне – узоры для натхнення. Шкада, што да такіх узораў ужо даўно нічога не дадаецца.

### Чаканне

У Мінску Барыс Забораў любіў шматколернасць і жывапіснасць, але лічыўся кніжным графікам. У Парыжы Забораў лічыўся жывапісцам, але жывапіс ягоны быў графічны і манахромны. Калі я гляджу на шэрыя палотны Барыса Абрамавіча, напісаныя ў парыжскай майстэрні, у мяне ўзнікае адчуванне, што па дарозе з Беларусі ў Францыю ён згубіў скрыню з каляровымі фарбамі. Пэндзлі, простыя алоўкі, палотны даехалі, нават белая і чорная фарба перабраліся разам з майстрам з мінскай у парыжскую студыю, а каляровыя фарбы недзе прапалі. Я ўсё чакаў, што скрыня з фарбамі Заборава знойдзецца, і Барыс Абрамавіч вернецца да сезанаўскай жывапіснасці і шагалаўскай шматколернасці. Мае чаканні марныя, мае спадзевы не спраўдзіліся. Забораў, пэўна, у лепшым свеце п’е віно з Шагалам і Сезанам ды ўсміхаецца, чытаючы пра маё чаканне і згубленую скрыню з фарбамі.



*Адам ГЛОБУС.*
*«Партрэт Заборава з чорнай барадой».*

### Пахаванні

Жывучы ў Мінску, графік Барыс Забораў хадзіў пеўнем. Ён свяціўся поспехам. Ён апранаўся модна. Ён падабаўся маладым і сексуальным жанчынам. Ён марыў пра падарожжа ў Парыж. Яго не пускалі. Мінскія мастакі вялікімі групамі наведвалі горад мастакоўскай мары, а Барыс Забораў ім зайздросціў. Урэшце Забораў узяў квіток у адзін бок і з’ехаў назаўжды. У Парыжы Барыс Забораў зрабіўся змрочным. Ён пачаў перамалёўваць на палотны фотаздымкі, зробленыя на пахаваннях. Ёсць у Беларусі такая традыцыя – фатаграфавацца побач з труною і нябожчыкам. Такіх урачыстых фотаздымкаў у кожнай беларускай сям’і хапае. Менавіта яны і натхнялі новага парыжскага мастака Заборава. Цікава, што толькі гэткія фота з нябожчыкамі яго і натхнялі. Саму труну і самога нябожчыка Барыс Абрамавіч Забораў маляваў не часта. Ён маляваў тых, хто стаяў побач з труною, а сама труна сыходзіла ў падтэкст. Мастак яе бачыў, а глядач не бачыў, але мусіў адчуваць яе зусім блізкую прысутнасць. Так увесь парыжскі перыяд Барыса Заборава і прайшоў пад лацінскімі словамі “Memento mori”.

### “Свежая вада!”

У Вільні, у старых – некалі яўрэйскіх – кварталах пачалі з’яўляцца натуралістычныя скульптуры, адлітыя з бронзы: хлопчык з галёшай, які вырасце ў французскага раманіста Рамэна Гары, доктар Айбаліт з дзяўчынкай і яе хворым кацяняткам, стары барадаты ваданос у кепцы... Скульптуры зроблены з гумарам, выкананы старанна, яны – цацкі для малых і дарослых. У іх мала палітычнага пафасу і шмат добрай літаратуршчыны. Падобныя скульптуры ў Мінску рабіў Валодзя Жбанаў: маладая незнаёмка на лавачцы, дама з сабачкам, дзяўчынка з парасонам... З такімі скульптура-

мі прыемна вітацца, загаворваць і развітвацца. Мне прыемна... З барадатым віленскім ваданосам, які высока задраў падбароддзе і вось-вось крыкне: “Вада! Свежая вада!” я вітаюся так: “Добры дзень, Барыс Абрамавіч!” Чаму Барыс Абрамавіч? Бо знешне віленскі ваданос рыхтык наш беларускі графік Барыс Абрамавіч Забораў. Нават каромысел з цяжкімі вёдрамі не замінае віленскаму гандляру чыстай вадой быць для мяне мастаком Заборавым. Зрэшты, калі палічыць па найвялікшым з рахункаў, дык для многіх звычайны правінцыйны ваданос – фігура, болей важная нават і за таленавітага сталічнага мастака, бо без вады – і ні туды, і ні сюды.

## “Чорны квадрат”

“Журналіст мае права на памылку!” – чуў такое, спрачаўся, дамагаўся выпраўлення памылкі. Што прыемна, у мяне нават і атрымлівалася выпраўляць такія памылкі. Аднаго разу я паспрачаўся з галоўным рэдактарам газеты «Имя»: паспрабаваў пераканаць Пятра Марцава ў тым, што яму не трэба было друкаваць глупства, якое сказаў мастак Забораў. Сказаў і сказаў. Ён мае поўнае права на сваё меркаванне, але, друкуючы падобнае, не толькі Забораў губляе статус, яго губляе і газета, бо робіцца больш правакацыйнай і “жоўтай”. Пётр не пагадзіўся, маўляў, ён друкуе словы мастака, а чытачы самі разбяруцца ў тым, што ўзвышае і што прыніжае прэстыж выдання. Вось глупства пра Малевіча і Кандзінскага, якое было на старонцы газеты: “Калі грымяць гарматы, мастацтва памірае. У нашым стагоддзі яны ні на хвіліну не змаўкалі, а мастакоў столькі, нібы мы ў часы Рэнесансу жывём. Галерэй у Парыжы тысячы. Да XX стагоддзя быў стагоддзямі сфарміраваны табель адзнак. Каштоўнасць твора вызначалася закладзенай у ім мастацкай якасцю. А пасля «Чорнага квадрата» Малевіча на ўсім гэтым была пастаўленая кропка. Шкала ранейшых каштоўнасцяў знікла. Вось і атрымліваецца, што людзі, якія паставілі некалькі тэлевізараў, на якіх нешта мільгае, або засыпаюць выставачную залу пяском, камянямі, дзярмом, лічаць сябе мастакамі толькі таму, што назвалі сябе такімі. Малевіч і Кандзінскі – хутчэй фігуры ідэалагічныя. Як мастакі яны для мяне – нуль поўны. Мастацкай якасці ў іх творах няма. Я разумею, што гэтыя словы выклічуць шалёны гнеў у шматлікіх калег, але гэта мяне не бянтэжыць...” Зразумела, што выказванне Барыса Заборава не выклікала “бешеный гнев”, на які ён з Пятром Марцавым спадзяваліся, але пакінула ў душах аматараў мастацтва лёгкае расчараванне.

## “Гумно”

Нацыянальны мастацкі музей зрабіў Барысу Забораву персанальную выставу з рэкламай, з віп-персонамі, з тэлесюжэтамі і пышным адкрыццём, на якое прыйшло шмат добразычлівай публікі. Паглядзеўшы на ўсё гэта, Барыс Абрамавіч Забораў расчуліўся і падараваў музею карціну “Гумно”. Карціна напісана акрылам на вялікім палатне. Памер у палатна выставачны, музейны, прэзентабельны. Палатно такога памеру ў кватэры не павесіш, дый сюжэт, скажам так, не кватэрны. Каму ў сучаснай кватэры на сцяне патрэбна манахромнае старое гумно? Зрэшты, можа і знойдзецца які аматар гумна. Свет вялікі, густы розныя, і кватэры бываюць вялікія. Доказам пра розныя густы можа стаць меркаванне мастака Мая Данцыга пра забораўскае “Гумно”. Вясёлы і аптымістычны Данцыг так казаў пра падарунак Заборава: “Паглядзеў я на тое “Гумно” і скажу, што карціну трэба называць не “Гумно”, а “Гувно”, бо назва “Гувно” больш адпавядае карціне”. Мэтр Данцыг жартуе, усе смяюцца, бо мэтр жартуе і ўсе мусяць смяяцца, бо спрачацца са старым мэтрам не паспрачаешся, калі сам ты не мэтр.

## Вішнеўскі

У маладосці Барыс Забораў хадзіў у паспяховых савецкіх кніжных графіках. Яму давалі замовы на аздабленне палепшаных выданняў сусветнай і айчыннай класікі. На кніжных выставах і кірмашах яго ўзнагароджвалі граматамі, дыпломамі і медалямі. Ад Саюза мастакоў ён атрымаў новенькую майстэрню над крамаю "Трыкатаж", што за паркам Горкага ў Мінску. Цяпер у той майстэрні працуе іншы паспяховы кніжны графік – Валодзя Вішнеўскі. Валодзя расказаў мне, што аднойчы з акна майстэрні пабачыў у двары Барыса Заборава, які прыехаў з Францыі адведаць радзіму. Забораў прагульваўся ў двары былой майстэрні, спыняўся і фатаграфаваў краявіды. Вішнеўскаму падумалася, што Барысу Забораву захочацца завітаць у сваю майстэрню, пабыць у знаёмых сценах, дзе так многа і так плённа працавалася. Валодзя Вішнеўскі прачакаў Заборава гадзіны са дзве, але той у майстэрню не зайшоў.

## "Дзесьці пад Баранавічамі"

Аўтабіяграфічная аповесць Барыса Заборава мяне расчаравала. У ёй многа манернасці і зашмат зорных імёнаў, а шчырасці і праўдзівасці мала. Асабліва моцна мяне раздражняла публіцыстычнасць, з яе падзелам на светлае дабро і чорнае зло. Таму я не адразу знайшоў цытату для таго, каб сказаць, што кніга "Тое, што нельга забыць" вартая прачытання і ўхвалення. Цытата знайшлася: "Нішто не арыентуе мяне з такой дакладнасцю ў часе і адчуваннях, як пахі, якія выклікаюць чараду ўспамінаў пра месца, дзе яны ўвайшлі ў мяне назаўжды. Неапісальны пах суніцаў – лясная высека. Вакол яловых і сасновых пнёў сунічныя россыпы. Незвычайна высокія кусцікі з вялікімі і духмянымі ягадамі. Іх можна есці з кусціка ротам. Ці незабыўны пах груздоў і мокрай лістоты ў лясной шэрай нізіне дзесьці пад Баранавічамі. Гэтаму сюжэту я мог бы прысвяціць старонкі. Толькі не тут і не цяпер". Прачытаў, пераклаў і пашкадаваў, што Барыс Абрамавіч Забораў не прысвяціў яшчэ некалькі старонак сюжэту пра пахі і водары, бо менавіта такія ўспаміны і дадаюць вобразнасці да літаратурнага аўтапартрэта мастака.

## Ружа

Ёсць мастакі, чые карціны не патрабуюць дадатковых тлумачэнняў. "Сланечнікі" Ван Гога – цалкам самадастатковая рэч, як і "Стог сена" Клода Монэ. Іншы кшталт – "Дынар Кесара" Тыцыяна. Каб напоўніцу зразумець значнасць палатна з дынарам, трэба ведаць фрагменты "Новага Запавету", якія праілюстраваў венецыянец Тыцыян. Без ведання слоў Хрыста "...кесарава кесару, а Божае Богу..." правільна прачытаць і зразумець карціну ў цябе не атрымаецца. Чытанне тэкстаў, якія цалкам пазбаўлены візуалізацыі, – занятак занадта сур'ёзны, а часам і нудны, таму так шмат кніжак складзена з тэкстаў і малюнкаў. У Беларусі шмат выдатных ілюстратараў, пачынаючы са Скарыны, які гравюрамі аздабляў пераклады біблейскіх тэкстаў, і завяршаючы Татарнікавым, які цудоўна ілюструе кнігі пра гісторыю нашай краіны. Шмат культавых кніжак зрабіў у Мінску і Барыс Забораў. Разглядаючы ягоны малюнак пяшчотнай ружы, ты па-сапраўднаму захопішся ім, калі прачытаеш думку Оскара Уайльда: "...Каханне даражэйшае за Жыццё..." Ты вернешся да малюнка з ружай, ты зноў перачытаеш сумную казку пра Салаўя, які дарэмна ахвяраваў уласнае жыццё дзеля чужога Кахання. Ты на нейкае імгненне заплюшчыш вочы, і Ружа Барыса Заборава застанецца з табою на ўсё жыццё, як і казка Уайльда "Салавей і ружа".

## Секс-сімвалы

Кінаіндустрыя, акрамя агітацыі і прапаганды, займаецца яшчэ і стварэннем секс-сімвалаў. Марлен Дзітрых і Мэрылін Манро, Любоў Арлова і Одры Хепбёрн, якіх мы ведаем і любім, былі створаны на кінапляцоўках. Згадваючы гэта, я падумаў пра тутэйшае кіно і збянтэжыўся, бо ў беларусаў у секс-сімвалах апынуліся геніяльныя бабулі: Галіна Макарава і Стэфанія Станюта. Я нават і напісаў пра беларускі феномен кінематаграфічнага секс-сімвала. Але я памыліўся, бо ў другой палове дваццатага стагоддзя не кіно, і нават не тэлебачанне дыктавала моду ў секс-сімволіцы і эратызме, яе рабілі часопісы, дакладней – часопісныя вокладкі. Такія вокладкі ў Беларусі пачаў рабіць Барыс Заборaў. Мая добрая знаёмая Тамара Ганчарова нават нейкі час у вузкім коле сяброў мела мянушку “Тома Обложкина”. Яна, дзякуючы лёгкай мастакоўскай руцэ Заборава, і стала першым сапраўдным секс-сімвалам Беларусі, а Барыс Заборaў застанецца ў гісторыі стваральнікам першага такога сімвала для нашай сціплай радзімы. Яшчэ дадам дзеля справядлівасці некалькі слоў пра нашае малапапулярнае кіно... Тамара Ганчарова знялася ў рэжысёра Рубінчыка, яна сыграла прывід у фільме “Дзікае паляванне караля Стаха”.

## Падарунак

Найлепшы падарунак – кніга. Шмат хто так думаў і ўсё яшчэ думае. Так склалася, што самая каштоўная кніга ў маёй прыватнай бібліятэцы з’явілася дзякуючы мастаку Забораву.

Напрыканцы шасцідзясятых гадоў мой тата сябраваў з паэтам Навумам Кіслікам, які перакладаў татавы апавяданні на рускую мову. Адзін з тых перакладаў Аляксандр Твардоўскі надрукаваў у часопісе «Новый мир». Разам з папулярнасцю тата нажыў шмат зайздроснікаў і ворагаў, але і новыя сябры з’явіліся – гэта было кола таварышаў Навума, сярод якіх самай яркай постаццю можна назваць Заборава, які вылучаўся кідкім мастакоўскім стылем сярод звычайнааблічных мінскіх пісьменнікаў.

Калі тата святкаваў саракагоддзе, да нас у госці прыйшоў і Барыс Абрамавіч Заборaў. Ён падараваў «Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі» Вацлава Ластоўскага. Густоўную вокладку да знакамітага фаліянта рабіў Мсціслаў Дабужынскі. Цяпер «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі» захоўваецца ў мяне і нагадвае пра светлыя часы культурнай «адлігі».

Генадзь Лапацін



...як памру, ты ня бойся мяне,
я ж акрамя дабра,
нічога плахога ня дзелала...

# Паслядоўніца

***Алена Грэцкая ў расповедах Варвары Грэцкай***

***«У яе чэцвяра дзяцей было нежывых...»***

* * *

Наша баба набажлівая была, Богу малілася, у яе чэцвяра дзяцей было нежывых, дак яна ўсё нам казала: «Не гнявіця Госпада Бога». Я малілась Богу, і цыганка мне сказала:

«Будуць у цябе цяпер дзеці». За што мяне, кажа, Бог наказаў? Ці што я з маткай сварылася?! Мы гаворым: «Баб, за што ты сварылася?» Яна нам расказывала, за што сварылася. Была, гаворя, сястра... Сляпая. Радзілась. Вочы глядзяць, а нічога ня бача. Дак яна яе... Бацька мой харошы, бабы нашай бацька, а матка ўрэдная была, гаворя, ету самую, сляпую дзевачку, яна Веру ету, сястру маю, пасылала па міласці. Бацька плакаў і казаў: «Ня нада! Пашлеш яе па міласці, няўжо мы яе не пракормім?» Яна: «Ніхай ідзець кускоў прынясе хоць хлеба!»

*Працяг. Пачатак у №3 (118).*

Асаблівасці гаворкі захоўваюцца.

Жадная была. І найшла павадыря, штоб яе вадзіў. Дзень пахадзіў, кудысь на сяло вадзіў, прышоў дамоў, хлопец такі, прывёў яе, у слязах. Я гавару: «А чаго ты ў слязах?» – «Алёначка, я пайду ў Закружжа (возера там такоя бальшоя), дак гаворя, пайду ў возера і ўтаплюся». – «Чаго ты пойдзіш?» – «А, – гаворя, – не пайду з етым хлопцам. Ён мяне валяя. Абы што хацеў дзелаць. Дак я не пайду з ім». Я за яе, прывяла дамоў, кажу: «Вера, ты больш ы нікуды ня пойдзіш!» І паатбіраў у яе сухары, а даў трошкі, там, хлеба, хто што даваў. Дак я сказала: «Пайдзём ка мне жыць. У мяне ўжо Саша ёсця. Дак пайдзём ка мне». Чацвера ж нежывых. І ў мяне жыла. І так жа Бог даў, што мы ўжо плакалі: і я, і Ягор, дзед мой, а яна харошая, дзяцей, Сашу етага глядзела. Купіў ёй дзед, бабы нашае бацька, купіў на ярмалку нейкаю ляльку, во як нажмеш – і крыкне. Ён прывёз і кажа: «Верка, за то шта дзяцей нашых глядзіш, дак на гасцінцы». Ужо накупляў. І ляльку. Яна ж не бача. Яна туюляльку сціснула, яна: «А-а-а!!!» І крыкнула, і ўпала, мы і калыхалі, і папа пазвалі, і, гаворя, часы два ішчо трохі падыхала. Мая матка і кажа: «Ета ты забрала... Добра, што яна і памёрла». Дак гаворя: «Можа мне Бог і нежывых даваў?»

* * *

Як ряжалі, скрозь нашу бабу звалі. Баба сама, у мае бабы было чатыры нежывых. Ну, данося да парядку, да дня да тога. І роды, і родзіцца, ці трудныя роды былі, ці што? А тады ехала цыганка, цыгані ехалі, а завея была страшная. Ціперь во снег, які тут снег? А калісь жа – вышэй чыстаколу! Ну дак, яны ехалі, і дзьме – рады німа. Дзед вышаў на вуліцу, цыгані папрасіліся: «Праехалі скрозь дзярэўню, і ніхто не пусціў начаваць». Ну, дзед і гаворя: «Я пушчу начаваць». Яны: «А хазяйка?» Ён пайшоў у хату: «Алёна, цыгані просяцца». – «Ягорачка, нада пусціць. Яны ж з дзеткамі». Ну: «Як памажыцё адкапываць, дак заедзця на двор. Каня ў сарай паставім. Сані накрыім». Ну дак, яны чуць лі ні нядзелю. «Я, – гаворя, – хадзіла бярэменая. А чэцвера нежывых. Ну, дак яна і гаворя: «Ета вы прыплоду дажыдаіця?» – «Во чэцверя нежывых». Цыганка тая стала і гаворя: «Нежывыя? « – «Да». – «Давай, я табе пагавару». – «Ай! Не памажэ нічога. Я і папову жонку звала, як ряджаць». І яна мне ўзяла і пачала шаптаць. Што яна па-свойму там шаптала? І гаворя мне: «Не даслуховывай, што я гавару, ты не навучышся». Яна мне пашаптала і сказала: «Родзіш ты хлопчыка первага. І будзя жывы». Я гавару: «Ой! Ета не праўда!» Я ўжо прывыкла і плачу. Яна і гаворя: «Усё здзелаю для твае дабраты, што ты нас. Памерзлі б». Дак яны нядзелю жылі. Ужэ ехалі, цыган і кажа: «Я з вамы расчытаюся». – «Ня нада расчот. Пабылі. Бог ніхай з вамы». Ужо ряжаць стала. І таксама тых людзей звала. Радзіўся мальчык. Крыку на ўсю хату. «Я, была, з ума сышла». Думаю: «Госпадзі! Няўжо цыганка памагла?» І падрос. Годзікі тры было. Яўляіцца зноў цыганка. Едуць пряма, фортачку адчынілі, выходзяць, я гляжу: «Нейкія знакомыя». – «Вы ўгадалі міне, Максімаўна?» – цыганка. «Угадала няточна. Но бачу, нейкія знакомыя». Тады цыгані часта ездзілі. Дак я абняла іе, пацалавала. «Мы прыехалі. Ну, давольна ты нашым, што гаманілі, што я шаптала? Табе было здзелана. Ты бярэменая ходзіш, а штоб яны на хаду замірали». Я гавару: «Жывіця, неўма колькі! Снег ці холад, прыязжайця ка мне». Дак яны багата раз заязжалі. Гады чэряз два – чэряз тры. Хоць і нас дома не было. Яны прыязжаюць, каня распрягаяць. Дак яна мне сказала: «Усі жывыя будуць, сколькі будзя». Я ўжо Богу малюсь: «Будзя ў міне дваццаць і будзя. Як забярэменяю, ні аборта, ні што, штоб ряджаліся, так хочу дзяцей!» Ну, яна сказала: «Ну, яны ў цябе, толькі адна будзя даўгавечная... А тыя ў цябе ўсі ўбяруцца. Дак, больш ы слёз. Лучшы на маленькім паплакаць, чымся на бальшом». Маруся, дзеўка была, красавіца, і завалка, дак яны баню вытапілі, у баню павялі, яны там распарылісь, прыйшла дамоў, заняло саўсім. Памёрла. І хлопец заба-


Варвара ГРЭЦКАЯ і Генадзь ЛАПАЦІН. 2015 г.

леў, ці нага забалела, ці заражэніе, тожа памёр, васімнаццаць гадоў, і адзін паехаў у Амерыку, а бацька наш, пяць нас было, дак аперацыю здзелалі, лопнула язва. Ён таргаваў там, у магазіні, у Сівенцы, усё недачот да недачот, бацьку становяць, яна гаворя: «Я не даверю, штоб чужая была. Пайдом, удваіх будзім. Ня будзя недачот. Ета яны крадуць». Ну, матку ўзяў, недачоту не было. Ён з'еў рыбы, пайшоў у баню, у бані лопнула. Ну, вот адна засталася. Яна і гаворя: «Цыгані ўмеюць гадаць. Яны праўду кажуць». А то і дзячыху звалі, і папоўну, і, як роды, прыходзя. Вот яна і сказала цыганка, бацюшка, малітву чытая – нічога, а вот, як цыганка прышла, доўга шаптала. Я гавaрю: «Баб, ты наўчылася?» – «Не наўчылася». А так іе звалі, яны пры родах былі, і замуж ішлі, завуць бабу. Калі-та падаркі былі, то чулкі падорюць, то метру якога палатна: «Ета – захаджываюць. Ета цябе, ліхія былі, ты бярэменая. А ў іх баня была, венік падпаху, а ў бані мыяцца і паряцца, а венік папрасі, гаворя, што мужчыны спаряць наш венік, яны не дадуць веніка, я сама папарюсь, не дам нікому. Я падазрявала, там, на адну, што яна: «Давай, я цябе цапану! А то ты бярэменая, дак нільзя. Давай я цябе папарю». Баба наша плахога нічога ня знала. Дак, ета захаджыюць.

* * *

Як хто красіва пяе... Па цілявізару хто красіва пяе...Калісь баба наша... Дзеўкі пяюць, яна будзя ў вакно слухаць... Кажа: «Маруся мая памёрла, голас харошы быў, і пела красіва, дак я думаю: «Можа, і мая Маруська там?» Яна ж пела, як салавейка...»

<*У бабы дачка была?*>

Памёрла, васімнаццаць гадоў было...» Гаворя: «Мая ж Маруся пела, як салавеечка...»

* * *

Усюдых пелі: і на Пянном, і марозаўцы... Па вячарах пелі дзеўкі, і бабы пелі, maладыя бабы, бабы і пажылыя, калісь выдуць пяюць. Наша баба ня пела: «Як папамёрлі дзеці, я сказала: «Ня буду пець нікалі, патаму шта мае дзеці ў зямле ляжаць, а я буду...» Чэцвяра нежывых... Маруся памёрла, васімнаццаць гадоў, Васька памёр, васімнаццаць гадоў...»

* * *

Баба Алёна казала: «Дзеткі мае някрышчаныя, усё раўно, я на кладаўе іх клала, адзін паўз адзін». Дак, Гогаль гаворя, поп быў, фамілія такая – Гогаль, усё казаў: «Не, Гасподзь іх на Спаса, яблачкі свеця і дзетак крысця. І чыя матка да

Спаса яблакі есць, тому палавіначку Бог даець. А чыя матка не есць, тому цэлае яблачка». І вот баба колькі жыла, нікада да Спаса дажэ ў рот не брала. Матка здзелая кампоту, яблак накрыша да наваря: «Вон, падсаладзіця, да ешця!» А баба ня будзя. «Баба, ну, еш! Ета ж вареныя». – «Усё раўно, тут яблакі ё. Што б маім дзеткам давалі цэлая. А то будуць мае дзеткі завідаваць. А ў мяне іх – цэлых чатыры, пяць, шэсць, сем – чэцвера нежывых да трое жывых памерла. І Маша, у мяне сястра, Віцька ў яе памёр, і яна і ціпер, ішчэ ж маладая, первы Віцька быў, да памёр, і яна нікада ня есць яблака. Ігрушы, дак, можна есць, дак яна ігрушы ела. А яблакі яна ня ела, гаворя: «А!. Не... Усім дзеткам Гасподзь Бог на Спаса будзя яблачкі дзяліць, а майму палавіначку толькі. Дак будзя Віцька хадзіць да плакаць, казаць: «А палавінку матка з'ела да Спаса». І ў Томкі Лідка памёрла. Яе не хрысцілі, ні што. Баба калісь і кажа: «Мая ўнучачка, яе Гасподзь на Спаса пахрысця».

* * *

«.Нармальныя дзетачкі, – кажа, – нармальныя, я іх не закапывала так, а грабочык дзелалі, дзед зделая, і панясу на кладаўё. Ета Божжыя, даў мне Бог, і палажу. На канаві не клала, а клала, там месца заняла і клала. <*На канаве каго кладуць?*> Кажуць, няхрышчаных дзяцей на канаві нада класць, штоб з хрышчанымі не быў. А баба мне і кажа, што Мацерь Божжая кала рэчкі хадзіла і ўсіх дзетак хрысціла і Бога прасіла...» На Спаса, як яблакі свецяць.

* * *

<*Дзед Ягор – бабы Алёны мужык.*>

Бабы мае Алёнкі мужык.

<*Баба пра яго расказывала?*>

Расказывала. Ён харошы быў. Ета ўсі людзі знаюць, што ён харошы. Вумны. Ён вумны быў дужа. У школу ні хадзіў і чытаць умеў, і пісаць умеў. І школ тады не было. І чытаць, і пісаць. Яму раз пакажы, ён ужо і зная, ужо большы ні нада. Дурному даўбі ў галаву, і ўсё раўно, ён атойдзя і забудзя. Ён вумны дужа быў. Бацька наш... Дзядзька Трахім... У Амерыку паехаў... Ён і ні прыехаў. Ета бацькі майво брат. А матка ўжо Адарка тупіца была. Ужо ні такая.

<*Вы самі дзеда Ягора ня знали?*>

Не. Дзед Ягор памёр, толькі Ваня наш радзіўся. Малінькі быў. І ён памёр.

### *«Усё раўно забрала баба Алёнка сястру…»*

* * *

Я вас так вучу, як мяне баба вучыла. І бабу калісь вучылі. Калісь баба вучыла. Пойдзіма, яна і кажа: «Во так во, мая ўнучка, дзелай...» Тусі ўсё калісь казала: «Ой, Туся, будзя цябе мужык, як пойдзіш замуж, будзя мужык біць, біць. Паслухая, жывая, ізноў будзя біць, пакуль даб'е...» <*А бабу хто вучыў?*> І бабу. Яна гаварыла: «У мяне баба харошая была, і мяне вучыла ўсё. Бацька харошы быў, матка ўрэдная была. А бацька харошы быў...» Я гаварю: «Баб, а чаго ўрэдная была матка?» А яна і гаворя. Быў Нікіфар, баба Алёнка, ета – брат і сястра, Вера, ну, яна сляпая была, бачыла, як пагода, як хмарныя дні, яна сцежкі даже не бачыла, кастылём цапая, дзе крэпкая, яна ідзець, дак баба яе вучыла: «Во так во хадзі...» А матка: «Ідзі ў лес. Завязома ў лес, кінім. На чорта ты нам, інвалідка». Ужо дзевачка была гадоў дзвінаццаць. Прыду, плача, расказывая мне...» Усё раўно забрала баба Алёнка сястру Веру к сабе. Дзед Мікеля быў і дзед Андрэй быў, дзед Нікіфар, бабіны браты, і Вера, і баба наша. А матка сказала: «Ідзі!» – Нашла

павадыря такога. А тэй павадырь стаў валяць яе, да хацеў знахальнічаць. Дзядзька адзін ехаў, дак атрятаваў ужо яе. І ўсё раўно гаворя: «Чорт яе бяры. Усё раўно яна інвалідка». Інвалідка, дак закапай яе жыв'ём. «Дак за ета ўрэдная, – гаварыла баба. – Куска хлеба ні давала: «Ты ні работаіш, табе хлеба німа!»

***«Баба Алёнка ўсё знала на свеці...»***

* * *

Баба Алёнка ўсё знала на свеці. Як дваццаць утарога дзікабря, яна і кажа: «Ужо мядзведзь сёдні перяварячывіцца на другі бок. Будуць сікунды тэя ці мінуты будуць болець».

* * *

На Вялікадня, на Троіцу, на Ражаство – ўсё баба казала –Маша пашла замуж, мы ішчэ дзеўкамы былі, дак баба ўсё казала: «Мая ўнучачка, мы жывом, ета ўсё прырода, грэху ня дзелайця ў пасцелі на празнікі. А то будуць дзеці плахія». Мужык із жонкай штоб ня спалі, штоб грэху ня дзелалі, а то ня дай Бог да і дзіцёнак будзя». Дак усё каліісь казала, як родзіцца ў каго-нібудзь... там радзіўся ў нас абы-які, дак баба і кажа: «Наверна, гряшок здзелалі...» Баба і гаворя: «Нас учылі і баба, і прабаба. Каліісь казала: «Ня спі, Алёначка... Ідзеш ты замуж, ня спі з мужыком па празніках, ня спі. Па вялікіх празніках і па васкрысеннях».

* * *

«С подала нільзя есць, патаму шта папрасімка дзіцёнак будзя». Усё матка казала, мы ці бульбы, ці пірага ў подал набярома, карманаў не было, дак яна і кажа, матка: «Не бярыця! А то Козыриха ўсё ідзець, у фартух набярэ, з фартуха бярэ – во і дзеці злыдні такія, усе папрасімкі ходзяць. Вот прыдзя, абы што ўбачыў: «Баба Алёна, дай мне! Дай мне!» А наш Ягорка нікагда не папрося». І яшчэ: «Баба наша ўсе казала Машы: «Машачка, а то панісіцё дзіцёнка хрысціць, дак умажыцца, хоць абмоча пялёнкі, дак ета ж нехарашо перад бацюшкам. Дак ня нада з подала ці з хвартуха...» І яшчэ: «Усё баба казала на Козыриху, яна: «Вой, пісяіцца мой!..» А яна гаворя: «Нельзя, як ясі, штоб із рота не падала, а то ісцё, аж із рота падая, дак нельзя, і плеваць нельзя на людзей, а то будуць сцыклівыя дзеці».

* * *

Баба казала: «Дурна не даюць...» Каліісь малака прынясуць. У цябе німа малака. Знаюць. Ці німа каровы ў цябе. Сіраты жывуць. Глёк малака баба налівая: «Нясіце Лёшавым малака». Вот панясом малака. А яны... Іх ужо навучыла баба Івоніха. Прынясуць... Коржыка ці што-нібудзь да нада ўкінуць... Ці хлебец, ці солькі... Німа нічога, солькі сыпні. А штоб пусты чылавек ня йшоў адтуль. Штоб і ў яго была, і ў цябе. І баба... Каліісь і к нам прынясе хто што. «Ну, на ж і табе». Уб'юць кабана, прынясуць мяса, сала – кусочык. Па-суседні свяжыны. А баба ўжо возьмя кусочык хлеба, дасць ім ці солькі – што ё. Штоб было і ў тога, і ў тога.

* * *

Баба наша. Еслі яна ні зная, значыць, кажа: «Дзеткі, я ня знаю. Мы каліісь казалі... Я прышла са школы, да кажу: «Баба, адзін хлопец казаў, што казаў яго дзед, што на трёх нагах, не на чытырёх, а на трёх – слон, і зямля дзяржыцца на том слану». Яна паківала галавой: «Ну, і верылі ж вы яму?» Мы гаворым: «Мы ж

сядзелі на партах, і ён: «Дзед мой так і так. На трёх нагах, а еслі на дзвёх нагах, то разломіцца зямля». Баба кажа: «Ня слухай нікога». Я кажу: «На чом дзяржыцца?.. Ці на вярёўках, ці на чом? Я прыду, буду там казаць». Яна мне і кажа: «Гасподзь даў з усіх бакоў бальшушчы воздух, і на воздусі ціхонічка кружыцца зямля. У воздусі кружыцца, а не на сланах. Ета бряхня! Слану нада і вады напіцца, і травы наесца. Ня слухайце яго». Я прышла заўтряга ў школу, кажу: «Ну, Пецька, брэша твой дзед». Ён: «Чаго?» Я гаварю: «Баба казала так і так». – «Я дзеду раскажу, што твая баба так і так казала». Прышоў і кажа: «Праўда. Дзед сагласіўся з тваёй бабай. Гаворя: «А, можа, і на воздусі. Я ж там ня быў, канца краю ні бачыў зямлі».

* * *

Баба казала пра Пятра Первага. Пётр Первы быў... Усё казалі: «Ета дурачок». Быў Пётр Первы дурачок, дак была і бульба пятачок. Усё ж дзяшовае была. А як стаў. Дак не дакупіцца ўсяго было. Як харошы прыдсідаціль, дак ён думае пра людзей перва.

* * *

Кукушка, гаворяць, рэдка плача. Усё баба казала: «Кукушка рэдка плача, а ўсё на ветках скача». Мы гаворым: «А чаго яна рэдка плача?» – «А толькі рэдка плача, што гнязда ня ўе, ні ўмея...» Гаворяць: «Ета кукушка, яна ня ўмея нічога дзелаць...» Кілун, які не плахі, кілуны, ну, вераб'і, а яны сабе гняздо, ого!.. Мягкія такія. Во кроквы, ета хрантон, а тутака жэрдкі, і вот яны тамака пралезяць і там гняздо дзелаяць.

<*Кукушка рэдка плача. А калі яна плача?*>

А тады плача, як... Мы калісь: «Баба, чаго яна рэдка плача?» – «А таго, шта прыпрэ несца, а гнязда німа. Яна ўжо дзе нагледзя гняздо тамака. А тады ішчэ пагуляя с самцом і зноў у другом гняздзе ў чужом... У вароннім, дак у вароннім, ці дзе сарока якая... У чужых гнёздах. Дак тады толькі плача, як яйцы раскідая».

### *«Бабачка мая мілая, сасніся ты…»*

* * *

Наша баба... Я кажды дзень іе памінаю. Як і памёрла. І малюся... Кажды вечар «Вотчэ наш» за іх памалюся. І памяну і бацьку, і матку – мамых дарагіх людзей для мяне.

* * *

Німа такіх людзей, як я кала бабы была, дзелала. Німа такіх... Туся... Я ўздумаю, як яна бабу босаю ўвярцела ў тряпку і вязла на саначках ка мне: «На!.. На што яна мне!..» А я не атказалася. Я бабу ні кідала.

* * *

<*Баба Алёна калі на вас абіжалася?*>

Нікада! Вот памёрла... І плакала... Узяла за рукі мяне: «Варячка мілая, адну цябе жалею. Ну, Машу жалею. Як табе без мяне будзя жыць?» І паляжу. Схілілася. «Ой, серца становіцца...» І так во... Я была адурэла, плакаўшы па бабе.

* * *

Прыдзіш з работы ўтомлены. Баба: «Ну як, мая ўнучачка, ты сёдні патамілася?» – «Ой, баба (а калі ні баба скажу, ой, Алёнка Максімаўна), так ужо ўтамілася,

што... Трошкі на грубцы сяду, да пасяджу...» І баба: «Сядзь, мая ўнучачка. Есць табе паднесць?..» Я гавару: «Ні нада, баб...» Ну, што я на бабу буду крычаць. Ні зла, ні што... Поваду німа. А ён. Прышоў, дак абрацiся, як чылавек. А што ты глотку разявіў. «Маскву, – гавару, – глоткамы не крычалі: «Ідзіця, немцы адсюль!» А мудрасцю, хітрасцю... А не дапусцілі – Маскву ні ўзялі. Які Гітлер ня быў сілён».

* * *

Нас было Туся, Маша... А я ж бабу дагледзіла... Ніхто ня ўзяў... А я ж дагледзіла бабу... І пахавала... Я ад бабы каплі ня ўзяла... Сама ня з'ем...

* * *

Калісь баба наша Алёнка. Царства табе нябеснае!.. Кажды дзень памінаю. Ужо колькі. Ужо шэйсят гадоў будзя ўвосень. І я бабу кажды Бога дзень. Німа тога дня, штоб я ні памянула. Увечары паміну... Нанач... Лажуся спаць. «Вотчэ наш» за ўмёршыя душы памалюся і бабу, і ўсіх сваіх памяну. Так я бабу люблю. І матка... Ну, я матку люблю сваю і жалею. А вот... Мы ўсягда з бабай. Што-нібудзь расказаць, я перва бабі раскажу. «Баб, можна матцы казаць?» Яна скажа: «Во ета кажы, а ета не кажы». Тады я і матцы не кажу.

* * *

Учора гавару: «Бабачка мая мілая, сасніся ты...» Ня сніцца. Во пражыла!. Кажды Бога дзень я бабу памяну. А баба гаворя: «Будзіш ты мяне памінаць. Памру я...» Я гавару: «Баба, нікада ні забуду. Буду ўсягда цябе памінаць...» Ета первы чылавек. Адзін ядзінствінны яна была ў мяне. Вот і кажаць: «Баба і дзед – не радня. Толькі бацька да матка, да сястра, брат. А я бабу не памяняю ні на кога. Дзеда ня знаю. Дзед памёр, я шчэ на свеці не была. Адзін Іван быў, і Машы шчэ не было. Бог так дае. Паспараваліся. Усё калісь казалі: «Во Бог даў. І баба была харошая. Нікога ні абідзіла. І дзед такі дабрэнны быў. Усё парядкам. Ня то шта на ўрэд сказаў. Усё будзя пасаветывацца: «Во так во дзелай...» Штоб усё была харашо...»

* * *

Сны сняцца. Вот баба мая к харошаму сніцца, матка – к плахому. Як прадказывая. А баба ўсягда к харошаму. Яна мне калісь казала: «Варячка, ты мяне ня бойся. Я табе плахога не пажалаю. Толькі харошая». І вот, як баба сасніцца – к харошаму. І вот толькі па етаму думаю: «Ці ета Бог так дае?»

* * *

Я б хацела, штоб міне пахавалі на Амяльном рядам з бабай.

* * *

Я калісь у бабы свае: «Баб, чаго Вялікадня?» Яна гаворя: «Вялікадня... Гасподзь жа даў Вялікадня. Дак прымецця, які дзень вялікі. Самы вялікі дзень па-божжаму. Тыя дні – малыя, а еты дзень такі ўжо бальшы. І ўсе гаворяць: «Госпадзі! Святоя Вялікадня прышло!» Позжэ ўжэ постаяць, а матка ўжо зажарыя, калісь бывая, што і карова ня доіцца, дак пашчагаяць дзеці, а старыя, дак яны паставалі. Баба наша постуя, тады ўжо дак з кастылём чуць ходзя. Матка і кажа: «У цябе ўжо малакровіе. Ужо счытай, што ты ў магіле. Еш! Не пастуй! А то падхіліш хвост у магілу! Сын твой аставіў пяць дзяцей, і ты ня будзіш памагаць!» Баба наша на агародзі толькі работала, печ тапіла, нас карміла, свіней карміла – ну, дамашняе, а матка ў калхозі. А наша баба была! Я калісь сяджу, расплачусь: «Баб, калі б ты вярнулась з таго свету!» Кажуць, тый свет ё! Хоць адзін бы прыйшоў. Памёр, да і

прыйшоў назад. Калі баба памёрла, я была многа плакаўшы па ёй. Баба памёрла і ўвечары бабу ўжо схавалі, яна ўвечары начавала, і я адна кала бабы сядзела, не баялась іе нішто, гаворaць: «Мёртвых баяцца». Баба і кажа: «Мая ўнучачка, як памру, ты ня бойся мяне, я ж акрамя дабра, нічога плахога ня дзелала». І вот вышла, пашла к Тусе, к сястрэ сваей, пашла, пагуляла там, ужо цёмна: «Пайду, – гавару, – дамоў». Ну, мне цераз колькі двароў... Пяты двор мой быў. Ну, дак я іду дамоў. А там Анюта бярэ ваду да: «Ета ты шчэ гуляла?» – «Ну, гуляла». А яна і гаворя, калі б, можа, не гаварыла, і добре б было, а яна гаворя: «Дак ета ты пойдзіш у сваю хату начываць?» – «Да». – «Ой-я-ёй! А я б не пашла. Толькі мяртвіца паклалі, бабу ў ямку. Дак яны ж прыходзяць, мертвяцы». – «А я бабы не баюсь. Прышла б, я б іе з хаты не пусціла».

* * *

Бачыла ва сне, як стаялі, уродзі, і баба, і бацька наш, і матка. Ну, многа... Павел Адамачкаў. Ну, гурт такі, табунок такі. Як коней табун. І матка, уродзі, трошкі далей. Баба наперядзі стаяла, і бацька. Вот як січас гляджу: чорныя штаны, і такая, уродзі, палосачка, крывулічка, белая рубаха. Вот у чом клалі яго ў гроб. І яны сталі. І Машы не бачыла. І вот стаяць: і дзед Жаваранка. Мёртвыя. Адны мёртвыя стаялі!.. Баба ў міне пытая: «Варячка, ну як ты?» Я гавару: «Ой, баба!..» Як глянула, і заплакала. Хацела беч ік ёй. А яна рукой вот так (перагарадзіла), кажа: «Ня нада. Ня нада...» І хтось мне з гурта. Я гавару: «Баб, я ж ляжала ў бальніцы. Можа, вы і ўперяд прыходзілі. Мяне дома не было». Баба: «Ня нада!.. Ішчэ прыдзіш». А вот хтось ізбоку, ці мужчынскі голас, такі вот мяккі, тонкі, сказаў: «Ня нада! Ты прыдзіш на дзевяноста первым гаду». І я кажу (радасна): «Праўда?..» І ў мяне ў вачах светла, я прашнулася. Светла ў вачах... Я зноў закрыла. Іх ужо німа нікога. І рада б я закрыць вочы. А вочы стоўбам. Уродзі, я на Амяльном, і на дварэ. І дзе мы жылі, на том месці, на вуліцы стаяць. Там праізашло. Пабачыла матку, бацьку, суседзяў. І табуном стаялі. І вот хто сказаў, не паняла я: «Ня нада! Ты прыдзіш на дзевяноста первым гаду». Працяжна так: «На дзевяноста первым гаду».

* * *

*<Пра бабіны рушнікі.>*

Я: «Баба, адзін астаўлю». – «Ой, мая ўнучачка, пажалей ты нашага труда. Іх жа нада...» Я ня ўмею так ткаць. Я: «Баб! Што тут красівае? Я здзелаю!...» <Баба>: «І як памру я – на хрэст». Я пажалела. Думаю: «Сагніе ад дажча, да і ўсё!» Я пытала: «Баба, а чаго на хрэст?» – «На хрэст павесця, ета мой труд, ніхай гніе». Ну, я не павесіла, параздавала. Адны пагарэлі, дак я рушнічок ім аднясла. Я: «Баб, я ў кружыві звяжу». – «Ня нада! Ніхай так, па старынушке». Дак я адзін аставіла. <Рушнік кароткі>. А наша нявестка Вольга прыязжала сюды, я ей паказала, дак яна: «Дай мне». Я гавару: «Еты вешаяць, ідзе мертвяцы. Для мертвяцоў спецыяльна ткалі. Такія бёрдачкі білі. А ён жаніцца будзя, віконай благаслаўляюць, дак ета не гадзіцца». *<А, як жэняцца, які?>* Длінны. Калісь адны такія былі, тканыя. І не ўмелі вышываць. Наша матка накавырзакала, а, ужо, пачала вышываць, дак яна: «Я так не сумею».

### *«У каждым гасударстві ё прэзідзент, у каждай хаці – хазяін…»*

Не абцяжараная вызначэннем Канфуцыя «Дзяржава – гэта вялікая сям'я, а сям'я гэта маленькая дзяржава, і трымаецца яно на любові», спасылаючыся на сваю бабулю, Варвара Аляксандраўна па-філасофску разважае: «Сям'я – ета малінькая гасударства». У гэтым «гасударстве» бацьку адводзіцца роля прэзідэнта, міністра,

гаспадара, і ён, паводле Варвары Аляксандраўны, вырашае самыя розныя пытанні: эканамічныя, ідэалагічныя, выхаваўчыя, адукацыйныя: «У каждым гасударстві ё прэзідзент, у каждай хаці – хазяін... А хата, сям'я – ета малінькая гасударства. Ты – прызідзент у хаці, хазяін, бацька: знаіш і грошай колькі, і хлеба колькі пракарміць дзяцей, і пра ўсё ты знаіш: і сэканоміць знаіш, што нада прадаць, да дзецям тоя і тоя».

Ролю Аляксандра Ягоравіча Грэцкага для сям'і пераацаніць проста немагчыма. Гэта прызнавалі як свае сямейнікі, так і аднавяскоўцы, праўда, у некаторых гэта выглядала своеасабліва, з адценнем зайздрасці. Нават прадказвалі, што пасля смерці бацькі, за якім сям'я жыла як за каменнай сцяной, яна проста прападзе: «Усі казалі на матку: «Прападзёш!..» Калісь былі такія задзіры: «Прападзёш ты, Грэцкая! Німа ўжо ў цябе каменная гары». Мол, бацька памёр...<...> Маю матку ні любілі. <...> Калісь сказалі на матку. Былі такія мужчыны. «Во памёр Сашок, дак ціперь яна паглядзіць. Ня будзя ўжо так жыць. <...> І баба Алёнка: «Во, Полячка, як быў Сашка, дак і добря было... – <А як памёр бацька наш> – дак ты і хвост абсерыш...»

Паводле Варвары Аляксандраўны, менавіта бацька нясе ў сям'і самую вялікую адказнасць. Адсюль і наступнае: «Страна, як сямья бальшая. А ён хляпнуў да пайшоў. Ён быў важак. Ляксанаў, калісь, сядзім, цілявізар глядзім, ён гаворя: «Во гад! Кінуў страну бальшушчаю. І хляпнуў дзвярямі і пайшоў. Ён жа, як бацька... Сямью такую!.. Страна такая мошная. Дак ета сям'я яго. Ты ж глядзі... Закрыў дзверы і пайшоў... Кінуў усё... Гад ты гад! Разваліў страну. Чорт страшэн, а ён ішчэ страшней... Столькі народу пагубіў, паразліваў слёзы. Во Расія ўжо аддзельна, Беларусія аддзельна». Зразумела, што гэта пра Гарбачова і развал Саюза.

### *«Як путны бацька...»*

* * *

У дурных дзяцей бацька вінаваты. А еслі дурныя дзеці, ён ім рады не дае. Еслі дурныя дзеці, гаворяць: «Бацька не васпітаў!» Васпітай яго. Яму гавары, ён будзя дзелаць другоя.

* * *

<...> Ну, я кажу: «Баб, чаго ты так... Гасударства?» Яна гаворя: «У гасударстве бальшом... У нас Сталін вядзе парядкі, камандуя, а ў раёні свой... А сям'я, тут ніхто, тут бацька, матка камандуя. Тут бацька глаўны, тутака свой прызідзент, сваё хазяйства, ён камандуя, што нада дзелаць, што купіць, што есць... <...> Семь'я – ета малінькая гасударства. У сямье штоб хто-та вот вёў парядкі да ўсё – хазяін. Бацька доўжэн. Як путны бацька, ён дзелая парядак у хаці. Дак вот сямья – малінькая гасударства. Даўжон хто-та быць міністрам. А матка даўжна, фінансы штоб зберягала».

* * *

<...> «Сям'я – ета малінькая гасударства. Пётр Первы калісь забоціўся. Дак ета ён над усім гасу-



*Мой бацька харошы быў. Казалі. Дзед Майка казаў: «Ну, Сашок, ты – з залатой бальшой буквы і ў залатой рямцэ памешчаны. І памрэш, ты будзіш у Бога на первам месці ў раю».*
Здымак 1916 г.

дарствам. А мы – бацька забоціцца, а мы работаім. Ён нам загадывая і эканомію дзелая, і пракарміць, і надзець, і абуць, і пражыць, і штоб цёпла было. Бацька – хазяін з маткай. І штоб якую скаціну дзяржаць. Усё ета нада. А дзеці падчыняяцца. Дзеці работаяць. І калісь кажэн сваю работу зная».

* * *

<...> Гаворяць: «У каждым гасударстві ё прэзідзент, у каждай хаці – хазяін. А хата, сямья – ета малінькая гасударства. Ты – прызідзент у хаці, хазяін, бацька: знаіш і грошай колькі, і хлеба колькі пракарміць дзяцей, і пра ўсё ты знаіш: і сэканоміць знаіш, што нада прадаць да дзецям тоя і тоя».

* * *

<*Але ж кіраваў сям'ёй Аляксандр Ягоравіч Грэцкі не аўтарытарна.*>

Казаў наш бацька: «Маё дзела – паправіць. Поля, што будзіма дзелаць?» Матка: «Ну, ты ж – хазяін у дварэ». – «Ну, я ў цябе спрашываю. А я папраўку табе дам: вот ета – можна, а ета – нільзя. Я ў сваей галаве твае словы, як на сарціроўку, сарцірую. К пуцю яно – значыць, я прымаю, а не к пуцю – скажу: «Ета во адкідай. Ета – не нада».

## ***«Штоб людзі вас не судзілі...»***

* * *

Нада бацьку харошаму на пуць наставіць дзяцей. А як дурны бацька, ён сам сябе не глядзіць.

* * *

«Кацялкі развязыйця! А то аны ў вас пазавязываны. Дак вазьміця драты развяжыця. І ніхай кацялкі ў вас работаяць». Галава – кацялок. І бацька мой усё казаў, пачану што ні так: «Ну , кацялок жа не зварыў». Галава думая, кацялок варя.

* * *

<*Пра аднгаго з аднавяскоўцаў.*> Ета бацька? Ці ён іх на пуць навёў? Сказаў: «Дзеці, дзелайця харашо, штоб людзі вас не судзілі, і вам было добря: работайця, ня крадзьця. Вообшчэм, дзелайця па-людскі. <*Вы калісь казалі, што бацька доўжэн на пуць наставіць дзяцей. Гэта як?*> Штоб сказаў, што вот ета харашо, а вот ета плоха. Вот ета нада дзелаць так, ета так нада дзелаць.

* * *

Путны бацька, ён скажа: «Тоя ня так... Дзеці, ідзіцё гуляць, штоб шкоды ні якай. Вы пазору не сабе наносіця, а мне стыдна будзя на вуліцу выці, што будуць казаць: «Ідзі-ка сюда, Сашок. Што твой сын нарабіў?»

* * *

Бацька мой так сказаў: «Бога ніхто ні бачыў, а нада Бога чуствавать. Бог дзелая дзісцыпліну ў дварэ. З дзецтва вучаць дзяцей: «Тоя няльзя дзелаць, тоя няльзя дзелаць. Украсць, там, няльзя. Бог усё бача. Нада быць харошым дзіцёнкам». І нашы хлопцы так і выраслі. У такой традзіцыі. Ні адзін ні пайшоў ні ў камсамол, ні ў камуністы. А бацька сказаў: «Жывіця ў адной стране, дзе ты радзіўсь, ні зміняйця ей нікада...»

***«Бацька нас дажэ пальцам ня тронуў нікалі…»***

* * *

А шчэ бацька быў, ён падойдзя, абнімя да пацалуя мяне і Тусю, і Машу: «Ой, мае-та вы, дзевачкі, залатыя ў мяне дзевачкі!»

* * *

Калісь на нас. Крывец, вон дзядзька, прыдзя, мацюкі лупя на дзевак і на хлопцаў – на дзяцей. Бацька будзя казаць: «Васіль, дзеці шчэ несмышлёныя, ета ангелы. Нельзя на іх мацюкацца».

* * *

<У нас і бацькі не было.> Ну, наш бацька спакойны быў. Толькі гляне... Можа, ён бы і біў, як бы большыя былі. Не, ён дужа спакойны быў, дзяцей жалеў.

* * *

Бацька нас дажэ пальцам ня тронуў нікалі. Падойдзя, скажа: «Дзеці, няльзя. Матка сказала, зачыць, правільна». Ён падцвердзя, што матка. Мол. Толькі на яе паругаіцца: «Поля, штоб я нікагда не бачыў, штоб твая рука да дзіцях была».

* * *

Наш бацька жалеў нас. Ён нікалі пальцам нікога не ўдарыў. Божа ты мой!.. Матка дак тая, бывае, як чысцяне!.. Ён: «Што ты дзелаіш?! Ня нада етага дзелаць, Поля...» – будзя ўгаварываць. Яна: «Я буду з імы чыкацца, калі ты іх папатворыў». Во калі пачаном. То калі даганяімся ў пярэдняй хаце, стукацім. У «Угоду» іграім, адзін аднаго даганяім: Туся – мяне, я – Тусю. Яна: «Цішына штоб». Мы ізноў бегаім. Яна абору возьме. Ці шкоду якую... Ці загадае дзелаць што. Мы ня здзелаім. Яна падыходзя, не разгаварывая. Як урэжа!.. «Вот вам! Штоб вы зналі, загадала – здзелай, тады сваім дзелам займайся». А бацька нікалі пальцам ня трогаў. І казаў: «Бой атмянён. Цялеснае наказаніе атмянёна». Калісь жа было, што роскамы білі людзей. У нас аднаго Бізуном дразнілі. «Бізуном біў», – баба казала. Казаў пан: «Хто правініцца, мне нада, штоб бізуном біў, скількі раз я скажу. Скажу: «Пяць раз». Лажыцца, і ён як учысця тым бізуном. І ўнука яго... «Хто-та пайшоў?» – «Бізун...» І дзеда тога: «У-у-у! Бізун...» Ён біў людзей. Гад такі!» Ён старэнькі ўжо быў. Пры пану білі. А тады ўжо атмянілі. А то ж білі бізунамы.

***«Бывая, я ўперяд памру, Полька, не бяры другіх бацькоў…»***

* * *

Бацька прыходзя, мы скарэй ужо, Туся, я і Ягор, на улоння лезіма. Ён перва: «Падаждзіця, дзеткі», – возьмя Ягора, не раздзеваўшы быў, абы толькі ў бацькі на ўлонні пасядзець. Матка: «Во ўжо віслівыя етыя! Німа ў бацькі нічога вам даць!» А ён у магазіні ў Закружжы работаў прадаўцом. Прыходзя адтуль, і вот такая круглінькая, ламапасе, там, такія канхветачкі, ён усім прынясе, ня то шта нам, Ягорку ўсягда дзве, еслі нам па адной, а Ягорку – дзве, самы маленькі, і дасць і бабі, і матцы, усім дасць. Гаворя: «Я пасчытаў скольк і нас – восем душ, прынясу дзесяць», і сабе ў рот укіня. А мы, еслі, он сабе ня кіня, мы гаврым: «Ну, аткусі». Там і такія канхветачкі, падушачкі, былі, і ён нам дасць па падушацы, а сабе ўжо німа, і мы ўжо будзім казаць: «Тат, ну, вазьмі аткусі! Ну, аткусі!» Ліпнім усі. Ягорка будзя казаць: «Ну, аткусі... Татачка, аткусі!» Штоб ужо і бацьку было. А ціпер сажралі і пашлі.

* * *

Бацька казаў: «Купілі Варвару, дак яна матцы палавіну ночы атрывая, не дае спаць». А дзед прыдзя Буцькаў і кажа: «Ну як, Варвара, палавіна ночы табе атарвала?» Матка кажа: «Не. Сёдні спала спакойна». – «Ты ей мачку дай». – «Не. Я сваім дзяцям маку ня буду даваць».

* * *

Бацька сказаў: «Варвара палавіну ночы атарвала». І пашло. Сталі гаварыць: «Варвара палавіну ночы атарвала».

* * *

Бацька мой казаў, як знаў: «Бывая, я ўперяд памру...Полька, не бяры другіх бацькоў. Ніхай ён будзя лопацца, не бярі. Ён жалець дзяцей ня будзя. Еслі ты, не дай Бог, пamрэш, ці з радоў, ці забалееш, век ня буду жаніцца. Як сумею, так дагляжу. Мачыхі ў дварэ штоб не было. Ета звяр'ё!..»

### *«Бацька наш на ўсе рукі быў…»*

* * *

Мужчына доўжэн усё глянуць: «Во ета нада здзелаць! Во ета нада зделаць...» Я счытаю, ета паганы чылавек, што не ўмея нічога дзелаць... Бацька наш на ўсе рукі быў. І вярёўкі віў. Ён сам і рямы дзелаў, і стаўні сам дзелаў, і сталы дзелаў, і канапку здзелаў. Як немцы, дак пагарэла ўсё. І усё сваё было. Вайна началася. Бацька мой малады памёр. Бацька памёр трыццаць сем гадоў была, а матка памёрла – сорак сем гадоў».

* * *

Бацька маткін аддаў машыну. І бацька сам ладзіў. Чуць толькі, матка: «Саш, наша машына што-та пачала...» Ён прыдзя, наладзя. І прясць умеў.

* * *

Струг ё. Бацька наш каліcь дзелаў начоўкі. Мы малыя былі ішчэ. Бацька памёр, мне восем гадоў было. Дак мы струг тый узялі. Сілы ж німа. І мы так удзяўбнём яго. Выкалывыіма. Бацька прышоў: «Хто шкоду здзелаў?» Мы, Туся, і Маша, і я маўчым. Ён: «Хто здзелаў? А то матку пазаву». Бацька нас дажэ пальцам ня тронуў. Ня біў. А матка бярэ, жаря аборай. Начоўкі – стругам выструганае, а карытца – збіванае.

* * *

Бацька ўсё ўмеў. Нада залапіць штаны, ён садзіцца, сабе штаны залапя. Еслі парвецца, тады з другіх штаноў лапік крапчэйшы выбіраяць. І ён залапя, і ты ні скажыш, што ета муджчына дзелаў. Як баба.

* * *

Бацька ўсё ўмеў мужчыская. У яго былі і напільнікі, і рубанкі, і фуганкі. Сам і рубіў хату. Баня ў нас сагніла. Бацька паедзя з маткай, Ваню возьмяць, Машу. І я бягу: «Бацька, і я паеду». Кары возьмя, і мы ззаду памагаім. Якая ад мяне помашч. Кары такія длінныя, палазы шырокія. І на баню навазілі. Паедзім гуртам. Сам дзелаў, нікога ні прасіў. Рямы дзелаў на вокны. Хамут нада, дак ён сам дзелаў.

* * *

Бацьку што нада па кузнечнаму, ён сам сабе скуе. Пойдзя, папрося ключ у кузняца. Кузня у нас была за гародамы калхозная.

* * *

У бабы кубел быў бальшы, а тады бацька здзелаў сундук, з крышкай адкрываўся.

### *«Давай любімаю спяёма...»*

І Адарка, матка Пашкіна, пела красіва... І бацька наш... Бацька наш пеў – ой!.. Красіва! Бацька з маткай... У маткі нашай голас харошы быў тож... Дак яны, як празнік... Помню, матка бутылку паставя, бабе валле, сабе валле і бацьку... І празнік, які... Троіца... Ён і кажа: «Давай любімаю спяёма...» Пелі «Салавей-салоўка смуцён не вясёл, павесіў галоўку, зёрна не клюёць...» І пелі: «То не вецір ветку клоня, не саловушка паёт...» І ўсякія пелі... І бацька красіва пеў.

* * *

Калісь хлопцы пелі. Мы ня пелі. Ета рэдка калі пелі. А яны ўжо пяюць. Хлопцы ж пяюць. Голас так калышыцца. Жалкім такім. Наша баба ўсё казала: «Хлопцы, як будзіця пра коней пець, дак хадзіця кала нашае хаты пейця. У нас ляжалі такія дубы коланыя. Дак мы на тых дубах сядзім. Места хватая. І яны пелі тую песню. Мужчынская песня. Бацька наш пеў калісь яе...»

### *«Ета будзя гарманіст...»*

* * *

Ягор... На гармоні. Бацька казаў: «Ета будзя гарманіст. Я бачу...» Будзя малы. Чацвёрты гадок. І бацькі як німа: «Баба, дай мне гальмоську!. Дай мне гальмоську!..» Баба: «На. Да ціхонька. Сядзь долі, што б хоць не ўпусціў. А то, бывая, на караваці ўпусціш...» Тряпку якую расцеля, ён ужо сядзя. А так. Што ён будзя дзелаць. Чатыры гадкі дзіцёнку.

* * *

Ягорка наш... Наш Ягор сіратой астаўся, бацька памёр, яму чацвёрты гадок быў, чатырёх не было. Ён сядзеў і па бацьку плакаў: «Татачка родны, чаго ж ты мне гармонь не адказаў?» А матка будзя сядзець і кажа: «Ну, табе ж яна астанецца. Не дзеўкам, а табе». – «А чаго ён паміраў і ні сказаў?» У бальніцы ён памёр, нежывога прывязлі. І плача: «Татачка, хто мне тоя будзя дзелаць?» Усі людзі стаяць, гаворяць: «Ета нада, чэтырёх гадкоў німа, ён ужо сядзіць і гладзя па руках, і цалуя бацьку бесканечна». А другія...

* * *

Восем гадоў яму было, ён ужо іграў на гармоні. Прыродны гарманіст. Увесь ён на гармоні падавіўся змалку. І будзя казаць: «Мам, вазьму я бацькаву гармонь...» Бацька памёр жа. Яму тры гадкі было... Ён і кажа.... Як-та ён усё казаў?.. «Гоп-ца дрыца гоп ца-ца! Гоп-ца дрыца гоп ца-ца!» І ён ножачкамы выбівая. Бацька гаворя: «Будзя гарманіст класны».

* * *

Ягор змалаланству. Ішчэ бацька памёр, яму тры гады было, чацвёрты. І ён

прэданы быў. Калісь бацька і казаў: «Ета будзя гарманіст». – «А чаго?» – «Ён прэданы». Бацька толькі заіграя, ён ідзець і стаіць роцічэк разявіўшы. І, праўда, памёр бацька, і ён на яго гармоні іграў.

* * *

Бацька іграя, а ён падойдзя, маліні, вот я помню, пальчыкамы варсая ў кнопачкі тыя. І бацька... Мы ўжо танцуім, а ён будзя стаяць, і пальчыкамы. Яно ўжо не туды іграіцца, а бацька: «Вот маладзец! Ой, Ягорка, сыночык. – І пагладзя яго. – Маладзец. Гарманіст будзіш». І ён тады аж рукамы ўсімі. Бацька і кажа: «Будзя з яго толк». І ён жа іграў класна, Ягор наш. Ніхто так не сыграя. Вот і Закружжа, і Амяльноя. Ну, у Шэйцы харашо іграў – Цішка быў... Ну, і ўсё раўно Ягор сказаў: «Буду канцэрты дзелаць, штоб у міне класнасць была дзействіцільна». Ну, прэдсідаціль гаворя: «Ідзі ў Гомелі падвучысь».

### *«Прыдзя марэц ...»*

Ішчэ ж у марце холадна. Усі так казалі: «Прыдзя марэц, атмарозя палец». Мы гаворым: «Баба, ужо март прыдзя. Учора сонца было». А баба: «Ідзіцё, хусты бярыця цёплыя, да завязыйця. Марэц атмарозя палец». І бацька казаў: «Цёпла надзявайця. Март ішчэ халодны. Ішчэ ў Пост толькі, на Соракі пачынаяць праталкі».

### *«У нас багата было кніжак...»*

* * *

Бацька наш вучыў, паставілі яго. Лекпункты былі. Звалі лекпункт. Каторыя саўсім у школу не хадзілі, дак лекпукт ідздзелалі. Бацька вучыў іх. Наш бацька вумны быў. Дак ён вучыў іх ад раяно.

* * *

У бацькі столік быў, як у нас кухонны. Кнігі нанізу ляжалі і навярьху. А на хаці дак там ляжалі. Я палезла на хату раз, дак паскладаны. Ужо бацька памёр, баба ня ўзлезя туды на хату, дак мы палезіма, абы баба ня бачыла. Пытая: «Дзеці, дзе вы?» – «Да во сядзім». – «Што вы там шкоду дзелаіця?.. Кнігі...» А мы аберніма і перабіраіма: дзе карцінак болей. Дак бралі. Павышыла. Партрэт у мяне, дак с калісяшніх тых. І ці то ў журнале былі ў якім, ці, можа, ў календарэ. І во што ў прастыне. <*Што ў бацькі за кніжкі былі?*> Бацька чытаў... І бажэствінныя багата было, і казкі былі ўсякія. Мы чытаім з Тусяй. Я пачытаю, тады Туся. Туся чытая, я буду слухаць. Тады я чытаю...

* * *

Калісь бацька наш вучыў лікпункцаў. Хадзілі. Жанатыя. І дзеўкі. Матка наша: «Ну, як там харашо вучацца?» – «Ё прылежныя, каторыя хочаць вума набрацца, а ё, прыдзя, прахіхікая, і паняція яму німа, што ўрок...»Лікпункты. Лікі. Штоб считаць вучыліся. Гасударства так назвала...»

* * *

<*Дзе вы навучыліся чытаць і пісаць?*>

Я вучылась. Ваня хадзіў у школу. І Маша. Ну, яны ўжо... Матка будзя казаць. Наша матка строгая была. І будзя казаць: «Туся і ты, Варячка, учыцісь. Загадаюць вам па букві. Сёдні – *а*, заўтры – *б*. Пішыця. Учыціся...» Ну, ішчэ ж бацька быў. Дак бацька казаў: «Дзеці, большыя вучацца, а вы... Вот букву *а* я пішу...» Наш бацька вучыў у вячэрняй школі... Узрослыя, да ня знаюць, якія буквы пісаць.

Прыказ такі быў ленінскі, штоб хадзілі ў школу. Штоб кажды чылавек распісацца мог. А то ў нас былі і хлопцы, і дзеўкі. Яны распісацца ня ўмелі. Дак прыехаў Аляксеянка і гаворя: «Сашок, ідзі. Я знаю, што ты справісся з етым дзелам. Я табе планы дам». Дак бацька вучыў.

* * *

Бацька напіша букву. Сёдні – *а*. «Багата ня дам...» Вот сёдні а будзім пісаць. Напіша на бумажцы, а мы глядзім. Ну, і пішыма мы. І строчкі тры напішыма...

* * *

А баба кажа: «Вы, дзеткі, сядзіця... Ня ў хаці, дак на вуліцы... Як у дзень... Свіней пасвіце да курэй. Вот вы і пішыце на зямле... Сцярыце і зноў пішыце...» І мы на дарогах пішыма. І вучылісь. А Крыўцовы... Цётка іхняя зусім ніграматная. Яна чытаць і букваў ні знала. Маруся ў школу пашла, у первы клас пахадзіла. Крывец: «Хваця з цябе. Распісацца ўмееш. Хваця...»

* * *

Бацька напіша на лістку такую бальшую букву і мне, і Тусі: «Пішыце...» Перва *мама* мы пісалі. Перва *а* мы напісалі, тады *мэ* наісалі. «Напішыце, мама штоб было». І так во мы навучыліся».

* * *

<*Кніжкі вы любілі чытаць?*> «У нас багата было кніжак. Столік такі. Згарэў ён. Там поўна было!.. Казкі ўсякія, бажэствінныя былі... К аднаму боку. «Не чапайце, дзеці...» Мы меншыя былі, дак мы толькі з карцнікамы выбіралі. Гартаім карцінкі. А матка будзя казаць: «Што вы карцінкі вычытаіце? А будзіце хадзіць балваны дурныя!» Так і вучыліся. Прыдзім у школу. Пакуль хадзіць у школу, дак мы ўсю азбуку знралі.

* * *

Я ў школу пашла, чытаць і пісаць умела, бацька навучыў. Гаворя: «Дзеці, падрыхтоўвацца будзім. Штоб вы ў школу пашлі, ні сядзелі, як асталопы, а штоб вы ўжо зналі. Хто-та ня зная?» – «Алёна Крыўцова». – «Ты з такіх дзяцей не бяры прымер, а бяры с харошых, а с такіх не бяры. Плахоя ад цябе далёка не адыходзя».

* * *

Бацька казаў: «Гэтыя кніжкі чытаць, гэтыя не чытаць». <*Якія не даваў чытаць?*> Былі. Тады цэркву разграбляі, дак бралі людзі, не выкідалі. Мы ж па-тому ні знаім. Там напісана была ні па-нашаму. Якіясь кавычкі, да кропелькі. Бацька наш пеў, як Вялікадня. Дома прачытае. Хадзіў на клырус. Матка і баба, і бацька хадзілі на клірус. Пелі ў цэркві.

* * *

Кніг у нас багата было. Усё казалі: «У Грэцкава бібліяцека». Бацька кнігі ўсё. Сняжкі пачытаяць: «На, Сашок! Чытай дзіцям...» І казкі ўсякія калісяшнія. Пагарэлі, як хата гарэла...»

* * *

<*Не казалі матка і бацька, для чаго ўмець пісаць, счытаць?*> Ну, казалі: «Нада ж і грошы пасчытаць...» І авечкі. Казалі: «Во авечкі ідуць дамоў, пасчытаіце. Колькі авечак. Усі ці не». І пісьмо напісаць нада.

***«Я не для кароў сялюся, а для дзяцей…»***

* * *

У нас у вішнях увесь двор быў, дак усё казалі: «У Грэцкіх двор у вішнях утапая...» Як расцвіце, бела кругом... І дзе якоя месцечка, бацька... І паўз забор, і за хатай... Ён места шырокая кінуў, штоб свае вішні былі... Бацька гаварыў: «Насаджу вішні, ніхай у вішнях мой двор утапая... І дзеці будуць есць даатвалу... Ня будуць у чужых красць...»

* * *

«Бацька кажа: «Я план вазьму там». Матка: «Бяры на самам краю, карова прыдзя...» Ён: «Я не для кароў сялюся, а для дзяцей. Мае дзеці выдуць, і з тога краю ідуць людзі на сярёдак, і з тога...» І ў нас вешна тут людзі! То новасці, то штонібудзь, пасмяёмся. І чось не сварыліся, ні брэхняў не было, ні зводаў ні было. А ціперыка адзін аднаго ненавідзяць. А тады садзяцца і начынаяць пець. І мужчыны рявуць, ні знаю як! І бабы будуць сядзець. Жаваранка будзя казаць: «Да якога хрэна вы сядзіцё? Давайце-ка!..» І начыная пець, песню заводзя, усі пяюць. І мы... Нам места ж німа, плойме. Пасадзімся. А у адніх поставачках. Матка: «Плацце ідзі, раздзень, а то парвеш...» Сядзіш на кортачках. Каленцы. І пяёма мы. Каторыя бабы: «Ідзіця, сабе кудлычця! А нам не мяшайця...» А другія, як наша баба, тая не прагоня, скажа: «Ніхай вучацца дзеці...» А як баба Іванюшкава Куліна: «Ідзіця вы адсюль!» Харошы хазяін, ён хоць дубец да пасодзя... А хяровы, ён лазу і тую ня высячэ, а на яе места яблыны ні пасодзя. Былі такія, што дажэ на агародзе дубца не было. Напрымер, у нас, у бацькі... Пересяліліся з Закружа у Амяльное, дак бацька начынаў ад смароды... І смарода, і маліна, і сліва, і вішні... Да ігрушыны, да яблыны пасадзіў... Штоб дзеці ні лазілі к людзям... Амерыканцавы насадзілі... Амерыканцавы былі, у бабы Парасуткі, у Коршунавых дажэ дубца не было, у Касцючкавых сад тожы харошы быў, у Барысавых не было, жадавались зямлёй, мол, цень будзя...

* * *

Клён на вуліцы рос. Во мяжа... Хата наша, а во іхняя. І тут клён. Пасадзіў бацька так. І ёлка была, і дуб, якія ё дзікія, і рябіна, усякія дзярэўі бацька на вуліцы панасаджываў.

* * *

Калісь баба ўсё казала. Там сусед жыў: «На агародзі дубца ня ўсоджана». Як мы перясяляліся з Закружжа сюды, далі ўчастак, сяленія новая, усе рынуліся, дак бацька адтуль, з Закружжа, і вішэн накапаў, і маліны, што на агародзі было, і папасадзіў. А Крывец не пасадзіў дажэ дубца, што дубец укінь, і ён будзя рэсць...

***«Жыві так, штоб жонка табе спасіба казала…»***

* * *

Усякія ж сём'і ё. Усякія мужыкі і жонкі. Другія ў ласкі пражывуць і ў дабраце. А другія ўсё прасваряцца. Так і жывуць клычана. Наш бацька, напрымер... Матка болей на яго, што ня так. Бацька: «Ну, ладна. Ніхай па-твойму».

* * *

Жыві так, штоб жонка табе спасіба казала. А як жыць будзіш... Січас с табой гаварыць... Сійчас мацюкоў такіх во, дак ета не мужык ужо... Чаго сварка ў двары... Адзін аднаму ні ўважаць і разыходзяцца...

***«Залатой буквы ў залатой рямцэ напісаны...»***

* * *

Ты ўжо з залатой буквы ў залатой рямцэ напісаны – такі ты харошы. Ета ўжо чылавек – лучшэ быць не нада. <*На каго так казалі?* > Ну, еслі вот харошы чылавек. Каліcь мой бацька харошы быў. Казалі. Дзед Майка казаў: «Ну, Сашок, ты – з залатой бальшой буквы і ў залатой рямцэ памешчаны. І памрэш, ты будзіш у Бога на первам месці ў раю».

* * *

Казала каліcь Марынка, падруга мая, пашла замуж у Папсуеўку. Дак гаворя: «Якія бабы ўрэдныя – маскалі. Дак ім кажу: «У нас ё баба адна – Грэцкая, век нікога ні абідзіла. Яны: «Што за яна?» – «А вы ня знаіця. Яе сын таргаваў у Сівенцы ў магазіні, да і захварэў, да і памёр, дзелалі аперацыю. Дак ён памёр». Дак яны: «Ета Грэцкі, можа?» – «Да, Грэцкі». – «А, да мы ж яго знаім. Такі мужчына вежлівы. І яго ж матка такая харошая была».

* * *

Наш бацька вабшчэ не мацюкаў. І быў прыдсідаціль калхоза. Другія прыдсідаціліі, знаіш, якія... А ён спакойны быў. Усі казалі: «Сашок, ні кідай нас...»

* * *

Як у нас бацька быў, дак на свеці, можа, німа такіх бацькоў. Німа і ні будзя!.. Такі ён харошы. Ета Пашкінай маткі родны брат. Ён, наверна, мацюкаць ня ўмеў. Ён добры быў. Ён і на клырусі пеў. І малітвы знаў усі. І ў яго кніг было.

* * *

<*Вы калісь казалі: «Сашка быў, як ціхае лета».*> Ціхае лета... Бяз буры, бяз гразы, бяз молніі. Харошы такі. Ён вады ні замуціў нікому. Усі так казалі: «Што ета за чалавек?» – «А ён – як ціхае лета». Ета прыказка такая. І дзеці биваяць. Биваяць, што глотку разяўляюць, глоткі малыя, а биваюць ціхія.

* * *

Бацька мой харошы быў. Бацька наш ісключыцільны быў харошы. Ета ўсі знали. Ён век нікога не абругая.

* * *

Ня крадзь у чылавека. Лясаніха кажа: «Як жа Грэцкавых можна пасудзіць? Мая сястра замужам тут была, дак ішла, вузлы несла сціраць, захацела па-маламу на двор. Яна ўзяла, паклала. Бацька наш, ішоў, мы ішчэ малыя былі, за тэй вузёл, прынёс, гаворя: «Найшоў, ляжаў вузёл. Чылавек будзя плакаць. Я ўжо ўзяў за таго, што нада ж аддаць. Дак расчувай, хто тут ішоў...» Рушнікі грязныя, скомчаныя. Палядзела матка наша, да кажа: «Знаіш, чые ета?. Ета ішла Яўгіння Гарыстава. Яна скрозь насабірая туды, там жа возера, дак ета яна». І пяряказалі Просі: «Прося, прыдзі. Ваш ці не?» Прося прышла, гаворя: «Ета Яўгіння. Ета яе...» І аддалі. Дак яна і кажа: «Во як чылавек путны, ён ні захацеў, а другія б вешалі...»

* * *

<...>Я прышла да матцы расказала, дак матка гаворя: «А ты не гавары нідзе: іжыцу прышыяць ні за што. Ціпер я не знаю, як гавораць, а тады – іжыца. А

«іжыца» – чорт яго зная, што-та за слова. Калісь дзед Марцін быў у нас. Дак гаварыў: «Тутака нада гаварыць, да ішчэ, – на бацьку нашага, – Сашок, нада гаварыць, да прыдзержывацца. Я магу з табой пагаварыць, з Поляй тожа <на матку> магу пагаварыць. Ета такія людзі, што замкнутыя. Нідзе не скажаць нічога. А, як такія... Як пачане гаварыць. Зразу іжыцу прышыяць – і прашчай, родзіна.

* * *

Дзед Ягор – бацькаў бацька. Нашага бацьку звалі Ягоравіч. Аляксандр Ягоравіч. Ета ж ціперяка завуць па бацюшку... А тады звалі... Я вот помню, мне восем гадоў была, як бацька памёр... Дак прыдуць... Усі звалі: «Сашок, Саша, Сашка...» Вазьмі Пашку... Міне Варька завуць, я ні абіжаюсь... Баба завуць. Мне ета наравіцца. Мой бацька быў Сашка. Вот ў яго імя, а ў міне Варька. Ніхай Варька. А яна – Сяргеяўна.

* * *

Бацька наш калісь казаў: «Сам не даеш, но сіратаў пакармі».

### *«Ета ж бацька сабе трошкі атламіў...»*

* * *

На кожнаю Радуніцу, баба казала, трэба печ... Ніхай лёгкі пар ідзець мертвяцу. «Табе, Сашычка!.. – і ўсіх мертвяцоў памяне, і Богу памоліцца. – Во блінчыка спякла, хай парачка вам ідзець. Вы ўжо ні з'ясце бліна, а пара». Да канончыку здзелая з тога бліна. <*Канончык, гэта як*?> Кусочык атломяць, паламаяць, крошачкамы, па тры крошачкі каждаму: «Наце канончыку бацькава, з'ешця». А мы ўсё думалі, малыя, бацька прыдзя. «Баб, скора, ён прыдзя?» – «Скора прыдзя. Ждзіця. Пар ўжо пашоў. Яны ўжо мёртвыя, на неба пашлі». Блін тэй пачануць ішчэ мёдам памажаць, а тады вадзічкі кіпячоныя і бліна тога...»

* * *

Вот дзелаяць памінкі па мёртваму. Ну, ці ён есць? А ўсё ў сваю глотку. Усё казалі: «А-а-а! Памінкі да ўгодкі – да ўсё для сваей глоткі». Правільна. Мяртвы ж ня з'есць. Ці ён прыдзя есць? Калісь баба наша: «Дзеці! Бацька прыдзя на Радзіцілей. Садзіцеся на печы і глядзіця, хто цераз комін, хто за грубай». Сядзім, сядзім – і бацька німа: «А дзе бацька?» – «Ён палядзеў на вас, да і пайшоў». Ета так дурыла нас. А бліны? «Ешця бліны!» Ужэ пячэ бліны на радзіцелей. «Ешця! Ета бацькавы бліны». А бацька ж ня есць і ні прыходзя. На радзіцеляў баба ўчыняя багата бліноў: радзіцілі прыдуць, штоб каждаму па бліну была, пасчытая – усіх: і дваюрадных, і. Матка і кажа: «Ну, куды ты, як на свадзьбу, напякла?» – «Няхай! Паядзіма!» І паядзім за дзень. Яна лічыла жывых ці тых, хто памёр? Хто памёр: для тых толькі пячэ. <*А елі вы?*> А елі мы. Вот табе, і гаворяць: «Памінкі да ўгодкі, а ўсё...» Матка і будзя казаць: «Ну, во напякла бліноў! Мёртвыя не ядуць!» Мы: «А чаго не ядуць?» – «Ета ж матка паддурыя». Баба апраўдаіцца: «Ета матка паддурыя. Яны прыдуць: хто панюхая, там іх накормяць, а яны, то панюхая, хто трошкі адкуся». І баба, як пячэ, трошкі атломя, сабе ў рот укіня. Наш Ягорка калісь казаў: «Баб, я яго есць ня буду! Ці кот, хтой-та?» Яна гаворя: «Ета ж бацька сабе трошкі атламіў». – «А бацька! Дак буду есць».




Калі глядзець прама на здымак.

Во бацька. Ета халасцякамы былі, дак яны. Бачыш, якая мода. Не аборачкамы, а такія былі сучаныя пояскі, вот сарочка навыпуск. І пояскі падпярязывацца. А ета бацькаў дваюрадны брат (злева). А ета (у цэнтры) Захар быў. Ну, яго Зоська ўсі звалі.

<*Хто вам гэты здымак даў?*>

А ета бацькава ішчэ калісяшняя была, як ён халасцяком быў, дак калісяшняя малая была. А тады Захар прыехаў, ужо жанаты, мы ўжо павыраслі, бацька памёр. Дак ён прыехаў, Зоська еты. Еты во паехаў дзядзька Максім, нам ён ўжо дваюрадны дзядзька, а бацькаў дваюрадны брат. Браты былі бацькаў бацька і яго бацька, родныя былі – Грэцкія. Ну, дак ён паехаў у Карэлафінск, тамака ён жыў і памёр. А еты прыехваў к дачцэ. Ішоў, кала нас сеў, сядзеў, разгаварывалі, і пачалі гаварыць, дак ён гаворя: «Бацька ваш і я...» Я гавару: «І дзядзька Максім...» Ён гаворя: «Да. Такія ўжо былі друзья, што нет сіл, такія былі друзья. І вот ні Сашавыя німа фатаграфіі...» Я гавару: «Дзядзька Захар, а ў нас ё». А ён гаворя: «Варячка, дочачка, прынясі мне». Я пашла прынясла. Яна жо была так атломана. Ён гаворя: «Я табе пяряфатаграфірую і сабе». Ну, і павёз. З месяц ён ня ехаў. Тады прывозя, картачку мне, кажа: «Во табе картачка. І сабе я здзелаў і засцяклїў у рямачку.



<*А там ззаду напісана. Хто пісаў?*>

Ета ён пісаў. У шэйсят шастом бацькі ж не было. А ета Зоська пісаў.

Ваня стаіць, а ета Маша, а ета я, а ета Туся. Чагось Ягоркі не было. Ці Ягоркам яна была бярэмінная матка. А ета бацька, а ета Пашкіна матка Адарка. А матка ня стала хватаграфіравацца, ня пусцілі яе. Яна бярэмінная была, дак тады ж,

знаіш, прыхамеці: «Ня нада бярэміннай хватаграфірывацца!» Дак матка ня стала. А бацька хацеў усей сямьёй, штоб ужо схватаграфірывацца, штоб і матка была, і баба. Ета ў Закружжы мы хватаграфірываліcь. Калі б на Амяльном, дак баба б была. Ён бабу шанаваў. Ета матка бацькава. Дак матка Адарка: «Ну дак я стану з вамы». А ён: «Ну хадзі, Адарка». Адарка нам хрёсная і бацькава сястра. Пашкіна матка і мой бацька – брат і сястра родныя».

### *«Харошая была матка…»*

Маці Варвары Аляксандраўны – Пелагея Пятроўна Грэцкая, у дзявоцтве Пікуліна – нарадзілася ў 1903 годзе, пражыла сорак сем гадоў.

У сем гадоў, пасля рэвалюцыі, магла паехаць у Еўропу альбо ў Амерыку, атрымаць добрую адукацыю. І як вызначыла Варвара Аляксандраўна: «Еслі б матка вучылася, яна б высокім чылавекам была». Але нікуды ня з'ехала, дзядуля і бабуля пабаяліся адпусціць яе з панскай сям'ёй. Хаця мясцовы пан ставіўся да яе, як да сваёй дачкі і абяцаў яе апекунам: «Я сваіх дзяцей навучу грамаце і Полю ня кіну. Мы палюбілі яе, як роднаю». Верагодна, гэта было праўдай... «Толькі ў пана я дзецтва і пабачыла. Як у пана служыла... І жаласць бачыла ад пана». Потым не аднойчы яна са шкадаваннем выказвала сваім апекунам: «Во калі б вы мяне аддалі...» «Наша матка талковая была...»– вызначае Варвара Аляксандраўна...»Ета дзевачка талковая...» – казаў на яе мясцовы пан. Яе прыродныя здольнасці, тады яшчэ сямігадовай дзяўчынкі, вызначала і настаўніца панскіх дзяцей, якая казала пану: «Вот вашых двое дзяцей і ета. Ета сільна скора ўсё пераяхватыя. Толькі скажу, яна ўсё пераяхватыя». Сапраўды, гэта было прыроднае: «Мяне матка ряджала і розум укладала... Ряджала і такога вумнага сабражала...» Жыццё падтвердзіла... Розум Пелагеі Пятроўны вызначалі ў Амяльным самымі адметнымі выслоўямі: «За руб дваццаць ні возьміш... <...> «Не падмазаўшы рукі, сухімі ня возьміш...» <...> «К чорту за пазуху і то залезіш...» <...> « К Царю Давыду і тому даб'ешся...» <...> «За словам у карман не палезіш...» ... «Жыдоўская галава» <...> «Цыганская галава» <...> «Сталінская галава» <...> «Хай цар Гвідон сядзіць, яно ўсё адно не пабаіцца...» І эпітэты: «талковая», «цямкая», «дасцепная».

Не аддалі... І яе лёс склаўся так, што пасля смерці мужа засталася без «сваёй каменнай гары» з пяцю дзяцьмі і свякрухай і ўсё жыццё «цягнулася з жыл», «з кожы лезла», «цягнулася ў нітку», «у кроў білася», «кідалася з агня ў полымя», «кідалася, як Марка ў пелі», каб дзеці «не пайшлі по міру», не былі галодныя і халодныя, хадзілі «чык на чык». І як узгадвае Варвара Аляксандраўна: «Мы і не галадалі, і босыя, і голыя не хадзілі. <...> «Мы нарядна хадзілі. Ну, сіццавая было. Я дзяўчонкай была послі вайны, дак хадзіла нарядна...» < ...> «Мы раслі, як з бацькам, з маткай...» Паліна Пятроўна выцягнула сям'ю насуперак меркаванням зайздройснікаў і нядобразычліўцаў: «Маю матку ні любілі. Калісь сказалі на матку. Былі такія мужчыны. «Во памёр Сашок, дак ціперь яна паглядзіць. Паабсірая і хвост. Ня будзя ўжо так жыць...»

А да смерці мужа яшчэ тры – дзве дзяўчынкі і хлопчык у Пелагеі Пятроўны памерлі: «Дзве дзевачкі і хлопчык Васька. І дзве Тані. Радзіліся, дак: «Хай будуць дзве Тані». Памёрлі. Ад коклюша. І Васька ад коклюша. Тады пагалоўна памiралі ад коклюша. Пачане кашыль, счарнея і німа.

Ня менш істотнае значэнне, чым матэрыяльнаму забеспячэнню сям'і, маці Варвары Аляксандраўны надавала выхаванню дзяцей: «І ціперя-ка дзеці, як дзеці, а бацькі да маткі губяць іх... – кажа Варвара Аляксандраўна. – Вот гаворяць: «Учыцеля даўжны...» Не. Што ўчыцель мажэ? Як калісь у нас было па сорак пяць учынікоў. Класы бальшыя. Утрёх сядзелі на партах. Дак што? Учыцель усіх

навуча? Ета ў сям'е даўжны дзісцяпліну дзяржаць». І парадак у сям'і Грэцкіх быў такі, што любое «маткіна» слова было для дзяцей законам. І нават не слова – хапала нават таго, што «наша матка толькі гляня, мы баялісь яе». Гэта дапамагло яе дзецям у будучым жыцці... «Матка добря дзелала. Дзісцяпліна. Пайшоў Ваня ўжо ў армію, дак у пісьме піша: «Мама, дзяржала ты над намы дзісціпліну жалезнаю дзяржала. Ціпер дзяржы стальную. Дзісціпліниpraванаму ўсюды добря. Я ў сям'е такой жыў, што дзісцяпліну знаю, што дзелаць – што ня дзелаць, плахоя і харошая разлічаю. Дак мне і ў арміі харашо». Урокі маці дзеці, па меншай меры, Варвара Аляксандраўна засвоіла назаўсёды: «Мая матка дасцепная была. < ...> Матка ж умея і ткаць, і прясць, і вышываць. Яна ж і навуча. І вот пакажа мне раз, я ўжо запомню. Стаіць яно ў мяне ў вачах. Што ета так. Нада вот так дзелаць...» Любая вясковая сям'я не існуе асобна ад вёскі... Адсюль: «Там у нас адна была: «Ой! Мае ж та дзеці!» А наша матка, усё ж дзелаім, як і нада: «Хваліць ніхай вас людзі пахваляць, я не я буду хваліць вас...» < ...> «Дзелай так, штоб пазавідывалі люді і пахвалілі цябе... А ня то што – цяп-ляп і пашоў. Мне ета ня нада!» < ...> «І ўсё дзелалі, і спраўляліся, і прыдсідаціль на сабраніі хваліў. «Во, – гаворя, – вазьміця Грэцкія. Я знаю, што ім цяжола, ну, ўсё раўно, дзеці памагаюць, дзеці рабочыя».

---

Праз шмат гадоў Варвара Аляксандраўна пэўным чынам паўтарыла лёс сваёй маці:

«Калісь Сняжкова Нінка (Сняжкова Ніна Лявонаўна, зямлячка Варвары Аляксандраўны Грэцкай, яе аднагодка, партыйны і дзяржаўны дзеяч, намеснік Старшыні Савета міністраў БССР) усё казала: «Давай! Я табе і памагу. Дагоніш. Давай вучысь». Матка бальная і баба бальная, Ягор яшчэ які. І Туся, і хазяйства...» Яна была журналісткай. І вунь папала. Яна была вумная дзеўка». <...> Яна мне казала послі вайны: «Пайдзём са мной вучыцца». Я ў маткі папытала. Яна мне: «Едзь! У Нінкі матка ё, да і здаровая. Ідзіця, разыходзіцеся, а мы з бабай будзім падыхаць». Ні пусціла. Вайна началася, я ў шосты клас пераяйшла.

Яшчэ адзін шанс змяніць своё лёс Варара Аляксандраўна змарнавала ва ўзросце прыкладна дваццаці пяці гадоў, калі разам з маці ездзіла на пахаванне брата, які загінуў у Заходняй Беларусі: «Міне прыглашалі. Як Ваню ўбілі. Котаў там быў. На похараны ездзілі, ён гаворя: «Варя, аставайся. Будзіш работаць у абкомі, я цябе дам работу. Буду памагаць і паказываць...» Я ні пашла. Думаю: «Кіну ў таком горы сваіх...» Матка зусім ніякая была і баба...» Ня кінула... Гэта быў яе асабісты выбар... «Матка на мяне казала: «Спасіба Госпаду Богу. І спасіба табе! Што Бог нам даў цябе, што ты з горя нас выручаіш. Што пры такім, пры галодным урэмі (послі ж вайны), а ты ўсё сама дзелаіш, а вазьмі-ка заплаці за ўсё!» Але падчас адной з нашых размоў Варвара Аляксандраўна ўзгадала: «Баба Алёна сказала: «Мая ўнучачка, пра нашу старасць думаіш, пра маю, да пра маткіну, а пра сваю ты маладосць забыла. Будзіш каіцца». Вяртаюся да слоў Паліны Пятроўны, звернутых да сваіх «дзеда» і «бабы»: «Во калі б вы мяне аддалі...»

### *«З залатыя гліны злеплена...»*

* * *

Казаў дзед пра матку: «Ты з залатыя гліны злеплена!» Яна вумная была. І вумная, і рабацяшчая. Харошая была матка. Яна і ў магазіні таргавала, і кароў даіла, і свіней даглядала, і нас расціла. І ўсі казалі: «Прападзёш!» Калісь былі такія задзіры: «Прападзёш ты, Грэцкая! Німа ўжо ў цябе каменная гары...» Мол,

бацька памёр. А матка і кажа: «Не! Мае дзеці хлешчы вашых будуць хадзіць». І праўда! Яна ў магазіні... Прывязуць... Матку ж ня любяць. Яна гаворя: «А я сваіх дзяцей перва надзену». Тады ж тавар які послі вайны? Дак што прывязуць, яна ў сяльпо набярэ, прыносіць дамоў. Яны: «Будзім па ведамасці, па накладной». Яна: «Хоць і ў сраку пускай паглядзяць! Я знаю, як дзелаць». Там ёй, у сяльпо, усе вянцы. Набярэ. «Во ета, глядзіця, па ведамасці. Яно ляжыць. А то шта я набрала ў сільпе, ета нікому, ні чыё ня дзела». Дак мы нарядна хадзілі. Ну, сіццавая было. Я дзяўчонкай была послі вайны, дак хадзіла нарядна.

*<З залатой гліны. Гэта так хвалілі?>*

Да, з залатой гліны злеплена. Харошы чылавек, вумны. Усі так казалі: «О, ета – з залатыя гліны злеплена». Во ў Пашулі была свякруха. Яе хвалілі. Яна і ў магазіні таргавала, вумная была і рабацяшчая, і Богу малілася. Яна на ўсё была маладзіца.

*<Ці бывая залатая гліна?>*

Залатая гліна. Я ні знаю, ці не... Гаворяць, залатая гліна. Калісь дзед Жаваранка казаў: «Ой, Грэцкая! Цябе, не падмазаўшы рукі, сухімі ня возьміш. А яна гаворя: «Правільна. Вот нада, штоб усі пальцамі ўказалі: «Вот ета пашла хто?» – «Грэцкая!»



*Казаў дзед пра матку: "Ты з залатыя гліны злеплена!" Харошы чалавек, вумны. Усі так казалі: "О, ета з залатыя гліны злеплена".*
Паліна Пятроўна Грэцкая.
Фота 1944 г.

*<А як гэта: не падмазаўшы рукі, сухімі ня возьміш?>*

Ня возьміш. Вот калісь сабраніі былі. Матка ўсягда: «Вот ета ня так. Нада так». Яна ім падсчытая. Яны: «Правільна». Скрозь на нашу матку казалі: «Цябе не падмазаўшы рукі, сухімі ня возьміш».

* * *

<Шчэ не было, пяць гадкоў, дак яна прыехала ў Закружжа>. Былі на Данбасе, бацька з маткай маёй мамкі паехалі на Данбас. І на Данбасе жылі, у шахце бацька работаў. <...> Ішла сплашная балезь, называлася – іспанка. Ну, дак па пяць – па восем грабоў у дзень хавалі. Дак ужо людзі тры дні паляжаць, чатыры, і паміраяць. Ну, і мамкі маей матка захварэла, ляжыць, дзядзька хворы, родны дзядзька маёй мамкі, і мамка захварэла маёй мамкі. Ляжаць удваіх. Матка памёрла... А бацьку там, у шахце ўбіла. Шахта абвалілася. Дак яна круглая сірата асталася.

### «Ета дзевачка талковая»

* * *

У пана дзеці былі... Ну, не ладзілі, то б'юцца, то ругаяцца. Дак ён шукаў, штоб была трэццяя... Дзевачку чужую... І яму насаветылі: «Ідзі, сірату тую, што ў дзеда да ў бабы...» А ў дзядзькі тож і Грышка быў, і Соня, і Маруся – свае дзеці. У маткінага брата, да ўмесці жылі з дзедам і з бабай. Лішняя была... Сірата... На што яна ім? Дак яны аддалі яе: «Ну, бяры». Ён пяць капеяк залатых калісь плаціў. Сказаў: «Я буду плаціць вам». І плаціў, і надзяваў, і карміў. І там начаваць сказаў: «Ніхай начуя». – «Во атвыкня ат нас». Нашто была аддаваць. Ну, харашо ёй там было. І пан гаворя: «Дзеці ня сталі біцца,

сталі ладзіць». Поля ім што расказывала. Яна там і начавала, і ела. І няня глядзела іх.

За тыя грошы купілі веялку да малацілку, што малоцяць у гумне. Усё раўно ў калхоз забралі. А тады рэвалюцыя, звалі матку туда, пан браў с сабой. Гаворя: «Мы к ёй прывыклі, дак ета трэццяя дзіця ў нас». – «Ой! Завізяцё, да дзе-нібудзь кініця». Ну, не забралі. «А я, – гаворя, – і плакала, хацела з імі ехаць». <...> І матка забыла наша. Хадзіла матка капаць. Што-та закапаў ён пад ліпай і кажа: «Еслі я не вярнуся... Еслі вярнуся, то я к вам прыду. Усё мне нялзя забраць». Дак пад ліпінай выкапаў ямку і што-та закапаў. Ён гаворя: «Во табе будзя пасага, як будзіш замуж іціць. Еслі жыў буду, дак я прыеду. І табе аддам. А так дзед з бабай табе не дадуць. Будзя і табе, будзя і мне». Ёй тады была сем гадкоў. Гаворя: «Я забыла і тую ліпіну». «Толькі не кажы дзеду і бабі. А то аткапаюць і табе не дадуць». Пан хваліў матку, што харошая дзевачка. Глядзіць дзяцей, ні б'еццa, ні ругаіцца, очэнь васпітаная дзевачка». І яны хацелі забраць, но не далі. Матка ўсё казала: «Во калі б вы мяне аддалі». І пан тэй не прыязжаў болей.

* * *

Матка наша, яна сірата была, шэсць гадкоў, матка памёрла яе, а бацька кінуў да паехаў і Кіiў, ажаніўся там да і жыў, у дзеда і бабы кінуў. Яна ў паноў служыла, сем гадкоў было, матка казала: «Я ў пана ўжо дзяцей глядзела». Пан сказаў: «Ня нада мне ні дзелаць, і буду наряджаць, і ўсё. А толькі маім дзяцям, штоб весялей». Хлопец быў Грыгорый, і дзевачка была Тамара. І, вот, і яна з імы. «І мы, – гаворя, – так дружылі! Божа мой!»

* * *

У пана быў Саша, хлопец, і Тамара. Яны яго не Саша, а Аляксандр звалі. А я <матка> Саша звала. Дак пан... Дзяцям прыводзілі, не панаравіліся дзяцям, ня ўмеюць з імі абрашчацца. А матку прывёў. «Я кала іх харашэнька. Пану панаравілась, ён сказаў: «Ета дзевачка талковая. Ніхай будзя». І яна дзяцей глядзела. Там нянька была. Нянька іх і водзіць, і корміць, но толькі яны гуляяць. І ўчыцiля ён наняў, штоб ужо ні ў школу хадзілі, а дома. Матка гаворя: «Яна ім загадывая, і я гляджу. І паказываю: «Вот так во пішы». Тэй хлопец шухарны быў. Я і кажу: «Саша, во так во пішы». Яна лісток дасць: «На і табе». Яна ў школу ні хадзіла. Так. Матка пісала красіва. Почырк красівы. «А дзе ня так, яна скажа: «Поля, так во красівей». І ўчыцілка казала: «Вот вашых двое дзяцей і ета. Ета сільна скора ўсё пераяхватыя. Толькі скажу, яна ўсё пераяхватыя».

*(Заканчэнне будзе).*

Наталля Гардзіенка



...паверыўшы незваротнасьці сталінскай беларусізацыі, кінуліся гуляць з агнём...

# "Болей нам такія вершы ня прынось..."

***Белпедтэхнікум і яго навучэнцы ва ўспамінах Міхася Кавыля***

Мінскі беларускі педагагічны тэхнікум імя Усевалада Ігнатоўскага быў знакавай навучальнай установай, якую параўноўвалі і з нямецкімі ўніверсітэтамі часоў "буйнага росквіту бюргерскай Нямеччыны", і з Царскасельскім ліцэем. Тут быў створаны ўнікальны асяродак узгадавання беларускай творчай інтэлігенцыі, што дзейнічаў у перыяд 1921-1937 гг. Праз яго прайшлі дзясяткі пісьменнікаў і літаратурных крытыкаў, сярод якіх Антон Адамовіч, Сяргей Астрэйка, Міхась Багун, Зінаіда Бандарына, Пятро Глебка, Уладзімір Дудзіцкі, Лукаш Калюга, Максім Лужанін, Яўгенія Пфляўмбаўм, Паўлюк Трус і інш. А сярод выкладчыкаў былі Антон Лёсік, Міхайла Грамыка і інш. Нягледзячы на ўсю значнасць і нават культавасць установы, яе гісторыя сёння застаецца недаследаванай. Няма не толькі прысвечанай яму адмысловай працы, але нават і артыкулаў у энцыклапедыях і Вікіпедыі. Відавочна, спрычынілася да гэтай сітуацыі і тое, што значная колькасць выпускнікоў тэхнікума загінула ў часе рэпрэсій 1930-х гг., не пакінуўшы сведчанняў пра навучанне.

Мемуарных крыніцаў па гісторыі Белпедтэхнікума, тым болей апублікаваных, захавалася вобмаль. Найбольш вядомыя, відаць, успаміны Франца Гінтаўта пра Лукаша Калюгу, дзе распавядаецца і пра навучанне аўтара і героя ў той легендарнай навучальнай установе[1]. Згадваў Белпедтэхнікум Антон Адамовіч ва ўспамінах пра Паўлюка Труса[2], Сяргей Гайко ва ўспамінах пра Сяргея Астрэйку[3], Уладзімір Сядура (Глыбінны) у кнізе пра Язэпа Пушчу[4].

Менш вядомыя, але ці не адны з самых змястоўных успаміны пісьменніка Міхася Кавыля (1915-2017). Язэп Лешчанка (гэта сапраўднае яго імя) нарадзіўся ў в. Покаршаў Слуцкага павету, у 1930-1933 гг. – вучыўся ў Беларускім педагагічным тэхнікуме. 23.02.1933 арыштаваны і асуджаны на тры гады. Пакаранне адбываў на Далёкім Усходзе. У канцы кастрычніка 1935 г. датэрмінова вызвалены. Жыў у Варонежы (1935-1938), вучыўся ў педагагічным інстытуце на літаратурным факультэце (1936-1938), працаваў настаўнікам. У 1941 г. – у Чырвонай Арміі, трапіў у нямецкі палон, праз некаторы час быў вызвалены, вярнуўся ў Менск. Ад 1944 г. – на эміграцыі, спачатку ў Германіі, потым у Бельгіі. У 1950 г. выехаў у ЗША, пасяліўся ў Саўт-Рыверы. Быў першым рэдактарам газеты “Беларуская Трыбуна”. У 1950-х гг. браў актыўны ўдзел у працы Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі. Ад 1983 г. быў сталым рэдактарам часопіса “Беларуская Думка”. Выдаў зборнікі паэзіі “Ростань” (Рэгенсбург, 1947), “Пад зорамі белымі” (Нью-Ёрк, 1954), “Першая рана” (Манчэстэр, 1960), “Цяжкія думы” (ЗША, 1961), “Міжагнёўе” (Нью-Ёрк, 1990).

Невялікі архіў Міхася Кавыля захаваўся ў Беларускім інстытуце навукі й мастацтва ў Нью-Ёрку дзякуючы намаганням Вітаўта і Зоры Кіпеляў і быў перададзены ў Беларусь. Пераважна гэта дакументы, сабраныя ў часе падрыхтоўкі да выдання зборніка выбраных твораў пісьменніка “Міжагнёўе”, які пабачыў свет у 1990 г. Тут ёсць і некалькі варыянтаў аўтабіяграфій і ўспамінаў Міхася Кавыля, дзе згадваецца і навучанне ў Белпедтэхнікуме ў 1930-1933 гг. На гэтых мемуарных тэкстах і варта адмыслова спыніцца.

Захаваліся чатыры варыянты аўтабіяграфій-успамінаў Міхася Кавыля, і ўсе яны былі напісаныя каля 1990 г. у звязку з падрыхтоўкай зборніка “Міжагнёўе”. Паколькі ў архіве, акрамя ўласна тэкстаў, утрымліваецца і ліставанне аўтара з Зорай Кіпель, якая, разам з Вітаўтам Кіпелем рыхтавала выданне, магчыма аднавіць храналогію з’яўлення варыянтаў згаданых мемуарных тэкстаў. Паводле задумы выдаўцоў, успаміны меліся пачынаць зборнік і Міхась Кавыль павінен быў адмыслова іх напісаць. Відавочна, храналагічна першым быў створаны тэкст з назвай “Коратка пра сябе” на восем старонак машынапісу. Потым пісьменнік вырашыў скараціць сваю аўтабіяграфію, пакінуўшы двухстаронкавы тэкст “Трошкі аб сабе”. Аднак выдаўцы змаглі пераканаць аўтара не толькі не скарачаць, але, наадварот – пашырыць першы варыянт тэксту і змяніць яго назву. Канчаткова ў “Міжагнёўе” ўвайшоў успамін “Мой шлях”, які быў дапоўненым варыянтам “Коратка пра сябе” (пра што сведчыць і перакрэслены першапачатковы надпіс у карэктаваным машынапісе, які захаваўся ў фондзе). Пазней, “Мой шлях” быў перадрукаваны ў часопісе “Беларускі Свет” (№ 22 (51) 1991), рэдактар якога Мікола Прускі з’яўляўся і друкаром зборніка Міхася Кавыля, таму меў наўпроставы

[1] Гінтаўт, Франц. Успаміны пра сябра // Калюга, Лукаш. Творы: Раман, аповесці, апавяданні, лісты. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1992. С. 594–606.

[2] Адамовіч, Антон. Паўлюк Трус // Трус, Паўлюк. Выбраныя творы. – Мінск: Беллітфонд, 2000. С. 303-305.

[3] Гайко, Сяргей. Памяці Сяргея Астрэйкі // Астрэйка, Сяргей. Змарагды кроз. – Мінск: Галіяфы, 2021. С. 143-151.

[4] Глыбінны, Уладзімер. Паэта з Божай Ласкі: Успаміны і роздум пра Язэпа Пушчу (1902-1964). – Нью-Ёрк, 1959. 132 с.

доступ да тэкстаў. Ён жа выдаў тэкст і асобнай публікаткай (Мой шлях. Grand Rapids (Mi): Беларускі Сьвет, 1991. 10 с.)

Разам з тым, яшчэ у часе чакання выхаду з друку зборніка Міхась Кавыль на просьбу Зоры Кіпель сеў за напісанне сваіх пашыраных успамінаў, прысвечаных 1930-м гадам. Урэшце яны з назвай "Казённы дом і доўгая дарога" пабачылі свет на старонках "Запісаў БІНіМ" (№ 20. Нью-Ёрк, 1922).

Што датычыць звестак пра навучанне ў Белпедтэхнікуме, то ў розным аб'ёме яны найбольшы прысутнічаюць у "Маім шляху" і "Казённым доме...". Але варта звярнуцца спачатку да першага варыянту аўтабіяграфіі Міхася Кавыля.

У "Коратка пра сябе" аўтар згадвае пра Белпедтэхнікум наступнае:

*"Тытул сельскагаспадарчага рабочага даваў мне 40 рублёў стыпэндыі ў Менскім Белпэдтэхнікуме, куды я залічыўся па заканчэньні Грэскай сямігодкі, у 1930 годзе. У часе навучаньня час-часом пісаў вершы. Друкаваўся ў "Беларускім піонэры", у дадатку да бабруйскай газэты "Камунар" – "Вясна", у "Маладняку. Быў сябрам арганізацыі "Маладняк". Друкаваўся пад псэўдонімам Язэп Маёвы. З напісанага ў той час нічога не памятаю, толькі адзін верш "З прастораў". Першы верш, што зьявіўся ў газэце "Беларуская вёска" (калі не памыляюся) быў пад загалоўкам "Гудкі". Але гэта ня быў мой першы верш, а другі, бо першы меў загаловак "Лён". Я напісаў яго ня памятаю, пад чыім канкрэтна, але пад уплывам, а даму і не надрукаваў. У Менску напісаў адзін "кантрэвалюцыйны" верш – "Бяспрытульны". Панёс яго ў "Маладняк", але там сказалі (ці Кандрат Крапіва, ці Алесь Кучар): "Болей нам такія вершы ня прынось..." А 23 лютага 1933 году арыштавалі. Вінавацілі ў прыналежнасьці да СВБ (Саюзу Вызваленьня Беларусі), пра які я ня сьніў і ня марыў".*

Гэты кароткі ўспамін трапіў на вочы іншаму былому навучэнцу Белпедтэхнікума, які таксама апынуўся на эміграцыі, Антону Адамовічу. Апошні ўласна і рэдагаваў тэксты Кавыля для зборніка і як рэакцыю на згаданы кавалак напісаў цэлы аркуш сваіх заўвагаў і пажаданняў пашырыць гэтую частку ўспамінаў. Гэты дакумент таксама захаваўся ў фондзе Міхася Кавыля. Сярод іншага, Антон Адамовіч пісаў:

*"Пра Менскі Белпэдтэхнікум. Гэты пункт трэба разьвіць, бо ў гісторыі нашае літаратуры Менскі Белпэдтэхнікум адыграў выдатную ролю як ўзгадавальнік цэлага раду паэтаў і пісьменьнікаў (Александровіч, Якімовіч, Падабед, Трус, Глебка, Лужанін, Казлоўскі, Дарожны, Сяргей Астрэйка, Калюга, паэтэсы Бандарына, Вішнеўская, Пфляўмбаўм). Пра гэта адзначалася ціраз у крытыцы. Навет у 1930 г. ён яшчэ насіў, дакладней даношваў імя Усевалада Ігнатоўскага (зьнятае было хіба толькі пасьля самагубства Ігнатоўскага ў 1931 г.), яшчэ давучваліся ў ім Лукаш Калюга й Сяргей Астрэйка (абодвы цяпер рэгабілітаваныя, паданыя ў "Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі"). Праз тэхнікум праскочыў у пэдінстытут Масей Сяднёў, Алесь Салавей захапіў яго, калі ён ужо зваўся "вучылішчам", але й тады ў ім яшчэ моцна трымаўся беларускі нацыянальны дух, і спробы выкараненьня гэтага духу спатыкалі пратэст і адпор у студэнтаў, як успамінае ў сваіх успамінах Валя Яцэвіч. Ня выпадкова-ж і вершы ды беларускія і аўтар пачаў пісаць у Белпэдтэхнікуме. [...] І яшчэ пытаньне – ці працаваў яшчэ тады ў тэхнікуме літаратурны гурток, які яшчэ ў 1929–1930 гг. вёў навет бурную працу)".*

Акрамя таго Антон Адамовіч зрабіў заўвагу, што Кавыль не мог быць сябрам "Маладняка", бо гэтая арганізацыя ў 1930 г. ужо не існавала, а замест яе з'явілася БелАПП. Таксама не меў дачынення ні да арганізацыі, ні да часопіса "Маладняк" Кандрат Крапіва, якога згадаў Міхась Кавыль.

Пацікавіўся Антон Адамовіч і наступным:

*"Арыштавалі – на каторым курсе тэхнікуму быў, калі арыштавалі? Ці арыштавалі яшчэ каго з таго курсу, з тэхнікуму наагул? Ведама добра, што*

*тады-ж арыштавалі з былых тэхнікумаўцаў Максіма Лужаніна, Лукаша Калюгу, Сяргея Астрэйку – ці ведаў пра гэта? Ці сустракаў каго зь іх у часе сьледзтва, ці чуў пра іх, сустракаў пасьля на этапе (чуваць было, што ішоў этапам у ваднэй партыі з Лужаніным, які атрымаў той самы тэрмін лягеру, толькі ў іншым месцы)".*

Здзівіўся Антон Адамовіч таксама згадцы пра Саюз вызвалення Беларусі як справу, па якой быў асуджаны Кавыль, бо быў пэўны, што гэтая справа скончылася раней.

Відавочна, усе гэтыя пытанні і заўвагі і справакавалі пашырэнне ва ўспамінах Міхася Кавыля часткі, прысвечанай перыяду навучання ў Белпедтэхнікуме. Калі ў "Коратка пра сябе" яму быў прысвечаны толькі адзін прыведзены вышэй абзац, то ў "Маім шляху" гэта было ўжо шэсць старонак у канчатковым тэксце, а ў "Казённым доме..." – каля дзесяці.

Можна сцвярджаць, што Антон Адамовіч сваімі заўвагамі і пытаннямі перадвызначыў змест успамінаў Міхася Кавыля. І ў "Маім шляху", і ў "Казённым доме..." аўтар нібыта адказваў на пытанні і заўвагі свайго рэдактара. Варта адзначыць, што Антон Адамовіч ад ранейшых часоў меў вялікі аўтарытэт і ўплыў на Міхася Кавыля. Крытык у лістах яшчэ 1950-х гг. кансультаваў пісьменніка наконт напісання вянка санетаў і іншых пытанняў літаратурнай тэорыі[1].

Пад уплывам пытанняў Антона Адамовіча ва ўспамінах з'явіліся апісанне выгляду будынку тэхнікума і ўмоваў жыцця ў інтэрнаце:

*"Жыў я ў інтэрнаце ў вялікім пакоі. Жыло нас там пяцёх: Клімко, Вярнікоўскі, Асіпчык, Васіль Туміловіч ды я[2]. Інтэрнат быў у тым самым двары, дзе і тэхнікум. Жылі тут і дзяўчаты, але няшмат. Вялікі інтэрнат для дзяўчатаў быў на Камуністычнай вуліцы. Ня памятаю, на якой вуліцы, але быў яшчэ адзін інтэрнат і для хлапцоў, дзе жыў паэт, тады яшчэ толькі пачынаючы, Уладзімер Гуцька (Дудзіцкі).*

*Белпэдтэхнікум знаходзіўся ў даволі вялікім двухпавярховым будынку. Белы, зь вялікімі вокнамі, з шырокімі дубовымі двухпалавінчатымі дзьвярыма, пахварбаванымі бурай хварбай, Белпэдтэхнікум цешыў вока й прынаджваў. З правага боку дзьвярэй на сьцяне была прыбітая шыльда, на якой залатымі літарамі сьвяцілася: "Беларускі Пэдагагічны Тэхнікум імя Ўсевалода Ігнатоўскага". Праўда, сьвяцілася нядоўга, бо ў 1931 годзе Ігнатоўскі застрэліўся, дык і шыльду зьнялі, як казалі, каб пакласьці ў дамавіну..."* ("Мой шлях"[3]).

Пра настаўнікаў Кавыль згадвае няшмат: *"Дырэктарам Тэхнікуму быў нейкі Южык. Казалі, што ён перабежчык з Польшчы, камуніст. Беларускую мову выкладаў Антон Лёсік, брат Язэпа Лёсіка, а літаратуру – сястра паэты Андрэя Александровіча, Алеся; музыку – Яфімаў; кіраваў хорам, у якім і я сьпяваў, кампазытар Тэраўскі. Прозвішчаў іншых настаўнікаў не памятаю, за выняткам аднаго – Замбжыцкі"* ("Мой шлях").

Безумоўна, важнай з'явай у Белпедтэхнікуме быў літаратурны гурток, пра які адмыслова пытаўся Адамовіч. Ён згадваецца ці не ўва ўсіх аўтараў, хто пісаў пра гэтую навучальную ўстанову. Літгурток быў сапраўды вельмі актыўным. У хіба адзіным вядомым на сёння асобніку літаратурна-мастацкага часопіса "Крыніца" гэтага гуртка за лістапад 1929 г. у хроніцы добра адлюстраваны змест ягонай дзейнасці:

---

[1] Чарнякевіч, Ціхан. Вакол цьвёрдае формы (ліставаньне Антона Адамовіча й Міхася Кавыля // Запісы БІНІМ. № 35. – Нью-Ёрк–Менск, 2012. С. 49–103.

[2] У тэксце "Казённы дом і далёкая дарога" Кавыль згадвае, што Васіль Туміловіч быў сексотам і адмыслова сачыў за ім.

[3] Тут і далей цытуецца паводле апошняга варыянту, апублікаванага ў: Кавыль, Міхась. Міжагнёўе. Выбраныя творы. Нью-Ёрк: БІНіМ, 1990. С. XI–XXI.

*“Сваю працу літгурток распачаў у другой палове верасьня г.г.*

*На першым (арганізацыйным) сходзе абрана праўленьне гуртка ў складзе т.т. С. Ліхадзіеўскага, Ю. Таўбіна і Беразоўскага.*

*На гэтым-жа сходзе абрана і рэдкалегія часопісі “Крыніцы”. У рэдкалегію ўвайшлі т.т. М. Блісьцінаў (які пасьля выбыў з тэхнікуму), К. Вашына, С. Ліхадзіеўскі, Л. Маракоў, Ю. Таўбін.*

***

*Праўленьне гуртка распрацавала плян працы на ўвесь 1929-30 навучальны год. Плян працы побач з дакладамі аб беларускай літаратуры прадугледжвае і даклад аб яўрэйскай літаратуры на Беларусі, аб расійскай і ўкраінскай пралетарскіх літаратурах.*

*Плян працы ўжо больш чым на палову выканаяы.*

***

*У верасьні г.г. літгурток наладзіў жалобны вечар прысьвечаны памяці маладога пралетарскага паэты Паўлюка Адамавіча Труса (члена БелАПП).*

*З дакладамі аб жыцьці і творчасьці паэты выступаў выкладчык літаратуры ў тэхнікуме т. Я. Бялькевіч.*

*Успамінамі аб П. Трусу дзяліліся М. Лужанін, А. Кучар, Я. Жук.*

*Творы, прысьвечаныя памяці паэты, чыталі: М. Лужанін, В. Маракоў, В. Каваль і С. Ліхадзіеўскі.*

*Вечар скончыўся дэклямацыяй вершаў П.А. Труса.*

***

*На працягу першага паўгодзьдзя на сходах гуртка заслуханы наступныя даклады:*

*1. Становішча ў сучаснай беларускай літаратуры (літ. згуртаваньні і апошнія часопісі) – Ю. Таўбін.*

*2. Аб зборніку Я. Пушчы “Песьні на руінах” – У. Сядура.*

*3. Аб паэме А. Александровіча “Цені на сонцы” – С. Ліхадзіеўскі.*

*4. Аб кнізе Я. Ліманоўскага “Над абрывам” – К. Вашына.*

*Апрача гэтага да пачатку зімовых вакацый мяркуецца зрабіць яшчэ два сходы літгуртка, на якіх заслухаць даклад аб значэньні П. Труса ў беларускай літаратуры, даклад аб творчым шляху М. Зарэцкага і разабраць апошні № “КРЫНІЦЫ””.*

Відаць, адзіная вядомая сёння копія згаданага часопіса літаратурнага гуртка Белпедтэхнікума “Крыніца” захавалася ў архіве Антона Адамовіча і была факсімільна перадрукавана ў альманаху “Запісы БІНіМ” (№ 27. Нью-Ёрк–Менск, 2004. С. 258-298). У ім публікаваліся вершы С. Ліхадзіеўскага, Ю.Таўбіна, Ул. Сядуры і інш., апавяданні М. Войткі і Л. Калюгі (апавяданне апошняга дасёння не было ўключана ў ягоныя зборнікі).

Што праўда, Міхася Кавыля літаратурны гурток Белпедтэхнікума не асабліва ўразіў:

*“У літаратурным гуртку тэорыяй літаратуры не займаліся, а пераважна вялі спрэчкі аб значэнні й прызначэнні літаратуры, аб беларусізацыі ды іншых праблемах Выступалі там ужо ведамыя тады Максім Лужанін, якога называлі “беларускім Маякоўскім”, Сьцяпан Ліхадзіеўскі, Лукаш Калюга, Уладзімер Сядура, якога завочна звалі “Бялінскі”, бо пісаў крытычныя артыкулы, Сяргей Астрэйка, Франьцішак Гінтаўт, Сяргей Гайка ды іншыя. Часта “браў слова” Алесь Кучар. Ён мне ад першага разу чамусьці не спадабаўся. Было тут нейкае прадчуцьцё ці што, бо пазьней ён адыграў гідкую ролю ў дачыненьні й да мяне”* (“Мой шлях”).

Найбліжэйшыя адносіны ў Міхася Кавыля ў тэхнікуме склаліся з Уладзімірам Гуцькам (Дудзіцкім) і Сяргеем Русаковічам. Пра апошняга ён пісаў: *"Яму пашчасьціла надрукаваць, здаецца, ва "Ўзвышшы", апавяданьне "Крумкач", у якім у замаскаванай форме крытыкаваў Маскалёў, якіх у народзе называлі крумкачамі"* ("Мой шлях"). З іншых калегаў-навучэнцаў, з кім быў знаёмы, Кавыль згадваў Сяргея Астрэйку, Лукаша Калюгу, Уладзіміра Сядуру, Францішка Гінтаўта, Сяргея Гайку, Эдзі Агняцвет. *"Былі гэта мройнікі, мелі тую самую "сьвярбячку", якую меў і я, былі несрактыкаваныя ў палітыцы, прыймалі за чыстую манэту ленінскую "свабоду слова" і дзеля гэтага былі часам нястрыманыя ды неагляднымя ў сваіх учынках"* ("Мой шлях"). *"Бачылі яны сябе беларускімі Пушкінымі, Талстымі, Бялінскімі... У палітычных адносінах, асабліва беларуска-нацыянальных – недаросткі. Паверыўшы незваротнасьці сталінскай беларусізацыі, кінуліся гуляць з агнём"* ("Казённы дом і далёкая дарога").

Найбольш "неаглядным" з калегаў па тэхнікуме Міхась Кавыль бачыць Сяргея Астрэйку. У "Казённым доме..." так распавядаецца пра гісторыю з паэмай апошняга "Бэнгалія":

*"Хаця, што там тая "Бэнгалія"? Ніякай контррэвалюцыі ў ёй не было. Быў і я запрошаны на кватэру, здаецца, Калюгі, дзе Сяргей Астрэйка чытаў сваю паэму. Пісалася ў "Бэнгаліі" пра цяжкую долю бэнгальцаў пад ангельскай акупацыяй. У пору было-б яе выкарыстаць у антыангельскай прапагандзе, а яе падлабызьнікі паэта ўзьнялі на пэдэстал антыкамунізму, махлюючы падабенства назоваў Бэнгалія і Беларусь, акупанты англічане – акупанты маскалі. Астрэйка не пярэчыў гэтаму і паплаціўся, бо быў лапух, як і ўсе мы ў той час"* ("Казённы дом і далёкая дарога").

Таксама Астрэйку належыў і яшчэ адзін "неаглядны" крок, паводле Міхася Кавыля. Навучэнцы насілі на штрыфелі пінжакоў значок з літарамі СВБ "Саюз ваяўнічых бязбожнікаў" – вядомай і дзейнай на той час арганізацыі. Нібыта Сяргей Астрэйка (хоць Кавыль не быў да канца ў тым пэўны) прапанаваў "перахрысціць" літары на значку ў "Саюз вызвалення Беларусі" і насіць яго як патаемны знак ужо пад штрыфелем пінжака. Паводле Кавыля, *"гэтая гульня не прайшла незаўважаная тымі, каму трэба было ўсё заўважаць"* ("Казённы дом і далёкая дарока").

Згадвае Міхась Кавыль і пра ўласную неаглянасць:

*"Я, начытаўшыся твору Серафімовіча[1] "Ташкент – горад хлебны", выдумаў свайго героя-беспрытульніка, які бадзяецца па вуліцах Менску, начуе пад платамі, бо ягоны бацька загінуў у барацьбе з "бандытамі"-балахоўцамі, а маці з гора аддала Богу душу. Верш пад назовам "Беспрытульнік" панёс у Дом Пісьменьніка, дзе знаходзілася рэдакцыя "Маладняка". Там нейкі малады мужчына працытаваў мой верш і сказаў прыйсьці за адказам заўтра. Загадкавы пагляд, якім ён праводзіў мяне да дзьвярэй, не абяцаў нічога добрага. Так і сталася, калі я прыйшоў назаўтра за адказам. На месцы ўчарашняга незнаёмага сядзеў Кандрат Крапіва. Убачыў я яго першы раз, але пазнаў, бо бачыў яго фатаграфію ў нейкай кніжцы. Нізка нахіліўшыся над сталом, Крапіва правяраў якуюсь рукапісь і мяне не заўважаў. Праўда, неўзабаве заўважыў і, ня спытаўшы, хто я і чаго прыйшоў, палез у шуфлядку стала і дастаў мой верш. Напэўна, атрымаў мае фізычныя прыкметы ад таго, хто перадаў яму майго "Бяспрытульнага". Прачытаўшы верш, пакруціў Крапіва галавою і апёк мяне, як крапівай, словамі: "Болей такіх вершаў сюды не прынось. Што ты тут расьпісаўся пра нейкіх беспрытульных? Дзе ты іх бачыў?" Можа, ён і ня бачыў, а я іх бачыў у Менску, але пабаяўся пярэчыць нашаму Крылову і толькі прамямліў: "У кнізе "Ташкент – горад хлебны" пішацца..." Крапіва перакрывіў "Пішацца... пішацца... Там пра грамадзянскую вайну пішацца. Тады былі*

[1] Міхась Кавыль памыляецца. Аўтарам аповесці "Ташкент – горад хлебны" быў Аляксандар Нявераў.

*бяспрытульнікі. Цяпер – няма. Ня трэба, таварыш Маёвы, выдумляць ды свае выдумкі ўпіхаць у форму санэта. Аджыла гэтая форма, як і тыя бяспрытульнікі грамадзянскай вайны". Сказанушы павучальныя словы, ён працягнуў мне лісток з "Бяспрытульным" і моўкна выйшаў у другі пакой"* ("Казённы дом і далёкая дарога").

Цікавасць гэтае гісторыі ў тым, што ад аднаго варыянту ўспамінаў да наступнага яна абрастала ў Кавыля ўсё новымі падрабязнасцямі. Калі ў "Коратка пра сябе" аўтар нават не быў упэўнены, што ўсё адбывалася з удзелам менавіта Крапівы, і Антон Адамовіч у заўвагах засумняваўся ў тым жа, то ў "Казённым доме..." ужо не толькі няма сумневаў у герої, але і яму прыпісваецца ўсё болей словаў. Праўда, далей Кавыль нават абараняе Крапіву, бо пазней у часе следства яму ніхто той верш не згадваў, а значыць байкапісец не здаў яго ГПУ. Пра "няўдалы" верш прыгадаў толькі Алесь Кучар, які крытыкаваў Кавыля на пасяджэнні літгуртка.

Нягледзячы на заўвагу Антона Адамовіча пра спыненне дзейнасці арганізацыі "Маладняк" яшчэ да прыходу Міхася Кавыля ў Белпедтэхнікум, апошні не адмовіўся ад свайго сцвярджэння, што быў сябрам менавіта гэтага аб'яднання. У "Казённым доме..." тое мы зноў і чытаем. Ці памяць настолькі падводзіла пісьменніка, ці ён свядома не хацеў асацыяваць сябе з БелАППам, які прыйшоў на змену "Маладняку", сёння складана сцвярджаць. А магчыма, ён проста атаесамляў з арганізацыяй часопіс, які на той час яшчэ сапраўды выходзіў, і на старонках якога ён таксама друкаваўся.

Аповед пра час навучання ў Белпедтэхнікуме атрымаўся ў Міхася Кавыля ў меншай ступені ўспамінамі менавіта пра навучанне, а болей пра сяброў-навучэнцаў і рэпрэсіі. На пытанні Антона Адамовіча наконт арышту Міхась Кавыль не толькі значна пашырыў аповед пра драматычныя падзеі 1933 г., калі ён быў арыштаваны, але і напісаў адмысловыя ўспаміны з акцэнтам на арышт і лагеры – "Казённы дом і далёкая дарога". У іх у частцы, прысвечанай часу навучання ў Белпедтэхнікуме, тэма пераследу прысутнічае асабліва яскрава. Тут больш маляўніча, чым у "Маім шляху" апісваецца, як навучэнцы пры канцы 1931 году ўцяклі з саўгасу ў Сляпянцы, куды былі скіраваныя "на бульбу". Вынікам стала "строгая вымова". З'явіўся новы сюжэт пра тое, як аднае ночы на Камароўцы Кавыль, Русаковіч, Астрэйка, Гайка і Сядура сталі амаль што сведкамі расстрэлу "ворагаў народу".

Значна з большымі падрабязнасцямі апісаў Міхась Кавыль у апошнім варыянце ўспамінаў і спробу вярбоўкі яго ў ГПУ і патрабаванне паведамляць пра тых жа Астрэйку, Гінтаўта, Сядуру і іншых.

Гэтаксама ў адказ на просьбу Адамовіча, Міхась Кавыль больш дэталёва распавёў пра свой арышт у часе святкавання Дня Чырвонай Арміі 23 лютага 1933 г. і пра тое, каго ён спатыкаў у часе следства і на этапе. Так, у дзень абвяшчэння абвінавачання ў *"прыналежнасці да Саюзу вызвалення Беларусі і антысавецкай агітацыі"* ў калідоры Кавыль пабачыў Уладзіміра Гуцьку (Дудзіцкага). У турме ён апынуўся ў адной камеры з Сяргеем Астрэйкам, Уладзімірам Сядурам, Сяргеем Русаковічам, Уладзімірам Гуцькам, Францам Гінтаўтам і Сяргеем Гайкам. *"Яны, як кураняты курыцу акружылі Сяргея Астрэйку, паціху шапталіся. Недалёка ад іх прылёг і я. Ніхто на мяне не зьвяртаў увагі. Прайшло якіх дзесяць хвілін, Астрэйка пачаў дэклямаваць напамяць верш "Асначы", а пасьля яшчэ якісь верш. Не памятаю зьместу ні "Асначоў", ні другога вершу, бо ня вельмі прыслухоўваўся. Мяне займала думка пра перакідку з "амерыканкі" ў вастрог. Што-б гэта магло азначаць? Спытаў нейк праз пару дзён у Русаковіча, а ён кажа: "Выглядае, што сьледзтва закончана і хутка будзем ведаць, што каму ўляпілі..." Мяне ізноў асядлала страшнае слова "расстрэл". Праўда, гняло яно мяне нядоўга, бо-ж дзесь у пачатку сьнежня 1933 году, перад полуднем выклікалі ўсіх "нацдэмаў" "с вещами". Не, ня ўсіх, Сяргея Астрэйку ня выклікалі... На калідоры гэпэвушнік стаў чытаць па сьпіску, каму колькі прысудзілі. Хто нас судзіў, ці выязная Маскоўская калегія,*

*ці "Тройка", я так са страху і не разабраўся. Затаіўшы дыханьне, я чакаў, калі прагучыць маё прозьвішча... І дачакаўся "Лешчанка Язэп – тры гады канцлягеру..." Мне здалося, што я другі раз нарадзіўся на сьвет"* ("Казённы дом і далёкая дарога").

Міхась Кавыль быў з былымі белпедтэхнікумаўцамі і "на этапе". Вось як усё пачыналася: *"Цэлы дзень я чакаў, ня мог дачакацца таго "этапу". Ажно дзесь каля дванаццатай гадзіны ночы загадалі "строиться в колону". "Построили" на двары вастрогу і пад аховай канвойных павялі па засьнежаных вуліцах на таварную станцыю [...] Із-за вугла дому выскачыла нейкая жанчына зь мяшком на плячох. Хуценька падбегла да Максіма Лужаніна, аддала яму мяшок і пабегла назад дадому. Канваіры крыкнулі на яе, але не стралялі. Гэта была жонка Максіма Лужаніна, беларуская паэтэса, яўрэйка Пфляўмбаўм"* ("Казённы дом і далёкая дарога"). І далей у адным вагоне з Кавылём цягам месяцу ехалі Лужанін, Сядура, Гінтаўт, Гайка: *"У нашым вагоне ледзь не кувыркнуўся ў сьнег Уладзімер Сядура. Ня ведаю, ці ён грукаў у дзьверы, ці крычаў, але быў каля дзьвярэй і, як рашчыніліся дзьверы, гэпэвушнік і схапіў яго за нагу... Але некалькі чалавек "нацдэмаў", якія стаялі блізка каля яго, схапілі за рукі, за вопратку і тузанулі назад. Гэпэвушнік ня ўтрымаўся за нагу, адпусьціў. Сядура быў уратаваны. Гэпэвушнік мацюкнуўся і зачыніў дзьверы, пагразіўшы: "Другой раз я с вами расчитаюсь". "Расчитываться" яму не давялося, бо ніхто не асьмельваца болей стукаць і крычаць, хаця "буржуйка" стаяла халодная, кішкі ігралі пахавальны марш, ад салёнай "камсы" пякло ў глытаўцы і ў страўніку, а вады не давалі. З усяго вагону-цялятніка адзін толькі Максім Лужанін пачуваўся трошкі лепш, бо пад галавою ляжалі сухары. На другім ярусе нараў каля Лужаніна ляжалі Сядура, Гінтаўт і Гайка. Максім Лужанін, калі браўся за сухары, даваў па аднаму і суседзям. Я ляжаў на падлозе каля дзьвярэй. Праз шчыліну паміж падлогай і дзьвярыма вецер заганяў у вагон сьняжынкі. Я дрыжаў ад холаду. Максім Лужанін, бадай, бачыў, як я корчуся ад халадэчы, пашкадаваў мяне і працягнуў мне два сухары... Ад чалавечай цяплыні мне стала цяплей на сэрцы. Я ня ведаў, як адудзячыцца "беларускаму Маякоўскаму". Так вялічалі Максіма Лужаніна студэнты Белпэдтэхнікума, дзе і ён калісь вучыўся. Я яго адзін толькі раз бачыў у тэхнікуме. А ён мяне? Найрадці зьвярнуў увагу на нейкага Маёвага, а вось-жа ў няшчасьці зьвярнуў"* ("Казённы дом і далёкая дарога").

Амаль тры гады навучання ў Белпедтэхнікуме сталі для Міхася Кавыля і перыядам пачатку ягонага творчага шляху, і часам страху ды конаднем выпрабаванняў, праз якія прайшлі ў 1930-я шматлікія дзейныя ці былыя калегі-студэнты. Магчыма, пакінутыя пісьменнікам успаміны могуць стаць падмуркам для напісання гісторыі гэтай установы і ў выглядзе адмысловых манаграфій, і як артыкулаў у энцыклапедыі.

## Анкета «Дзеяслова»

*1. Чым бачыцца Вам літаратурная творчасць: нябесным прызваннем, грамадзянскім абавязкам, прафесіяй, хобі, звычкаю? Што падштурхнула Вас да пісьменніцкай дзейнасці. Ці памятаеце свой творчы дэбют? Каго Вы лічыце сваім літаратурным "хросным бацькам"?*

*2. У чым адметнасць Вашай творчай працы? Які час сутак найбольш плённы? Да якіх "тэхнічных прыладаў" Вы найбольш звыклі: аловак, пяро, шарыкавая ручка, камп'ютар, дыктафон, інш.? Ці выкарыстоўваеце Вы "творчыя стымулятары": кава, цыгарэты, віно, музыка, інш.? Што для Вас натхненне і ці чакаеце Вы яго, каб пачаць пісаць?*

*3. Якія цяжкасці паўстаюць перад Вамі падчас напісання твора? Якое значэнне Вы надаеце слову, фразе, рытму твора? Ці звяртаецеся падчас пісання да даведачнай літаратуры, слоўнікаў, энцыклапедыяў?*

*4. Што/хто найбольш спрыяе ў рэалізацыі Вашых літаратурных задумаў? Што/хто найбольш перашкаджае Вам у гэтым? Ці ўплывае на Вашую творчасць ацэнка сяброў, рэдактараў, чытачоў? Ці вяртаецеся Вы да напісаных твораў, каб перапісаць іх, перарабіць, удасканаліць?*

*5. Ці задаволеныя Вы сваімі творамі? Што ў Вас не атрымалася ў творчасці? Чым Вы найбольш задаволены? Якія эпізоды сваёй біяграфіі Вы хацелі б перажыць наноў? Наколькі Вашая біяграфія паўплывала на творчасць і адбітая ў творчасці?*

*6. Ці вядзеце Вы дзённікі? Як ставіцеся да правіла: "Ні дня без радка"? Ці знаёмае Вам пачуццё ляноты, ці змагаецеся Вы з ім (і як)? Калі "не пішацца", што вы робіце, дзе/у чым шукаеце натхненне?*

*7. Ці чытаеце Вы творы сваіх маладзейшых і старэйшых калегаў? Хто з творцаў Вам найбольш блізкі – з беларускіх і сусветных аўтараў? Назавіце творы, якія Вы любіце чытаць і перачытваць? Ці ёсць такія ў сучаснай беларускай літаратуры?*

*8. Чаго, на Вашую думку, не хапае сучаснай беларускай літаратуры і што чакае яе ў будучыні? Што пажадалі б Вы тым, хто робіць першыя крокі ў літаратуры?*

# Андрэй Федарэнка



***1.*** Творчасць, прынамсі, мая, уключае ў сябе ўсе гэтыя паняткі, толькі ў розных прапорцыях і ў залежнасці ад узросту, пары года і часу сутак. Напрыклад, у 23 гады ў Крыме, дзе пісаў сваю першую аповесць, раніцамі сярод спеву птушак, вінаграду, персікаў і мора, гэта было нябесным прызваннем, дарам Божым, а ў 35 год, у 10-й бальніцы, у адзіночнай палаце афтальмалагічнага аддзялення, калі задумваў і пракручваў у галаве першыя раздзелы "Афганскай шкатулкі", – прафесійнай звычкай, бо грэх было не скарыстацца такімі ідэальнымі ўмовамі. Анкета для "Дзеяслова" – хобі, а інтэрв'ю для "Народнай волі" – грамадскі абавязак. І г.д.

Да пісання падштурхнула ўзніклая недзе ў раёне 11 гадоў абсалютная вера, што акрамя гэтага жыцця ёсць яшчэ іншае, якое ці то было, ці то будзе, і ад таго адчуванне шчасця, незямнога, настолькі поўнага, што яго нельга трымаць у сабе, а трэба было дзяліцца ім. Так пачалі ствараца школьныя вершы, нейкія замалёўкі і абразкі. Першае апавяданне напісалася даволі позна, пасля войска, у 1986 годзе. Далей – па шаблоне дэбютанта-пачаткоўца. Часопіс "Маладосць", чатыры сталы, за якімі чатыры мужчыны: Г. Далідовіч, В. Гігевіч, У. Дамашэвіч і У. Саламаха. І вось у літаральным сэнсе з чатырох куткоў да мяне несліся кампліменты, якіх я не чуў ні да гэтага, ні пасля, ад якіх плыла і кружылася галава. Пісьменнікі таго пакалення, самі шчодрыя душой і талентам, не баяліся патэнцыяльных канкурэнтаў, таму ўмелі і любілі пахваліць. Крыху пазней узяўся за мяне ў плане пісьменніцкага выхавання А. Бяляцкі, затым А. Сыс, – але гэта ўжо іншая гісторыя.

***2.*** Чыста фізічна твор пішацца ці набіраецца (у мяне толькі раніцамі) роўна столькі, колькі чытаецца. Апавяданне хвілін 10-15, раман ці аповесць – некалькі дзён. Увесь астатні час гэта выношваецца і, як трапна заўважыў Л. Галубовіч, выходжваецца, г.зн. ствараецца не столькі тэхнічнымі прыладамі, колькі галавой і нагамі. Чаму ж прафесія пісьменніка самая лепшая ў свеце? – бо дзе б ты ні быў, чым бы ні займаўся, усё тваё заўсёды з табою.

Зараджэнне твора ўзнікае ў падсвядомасці і залежыць ад збегу мноства дэталяў. Стары фільм, знаёмая музыка, пах, вобраз, партрэт, малюнак прыроды, твар незнаёмага чалавека, ад якога працінае ўспамін пра гісторыю, звязаную з падобным на яго. Калі гэта супадае, успыхвае імгненны малюнак – за раз, цалкам бачыш усё апавяданне ці ўвесь раман. Трывае яно некалькі хвілін. Што запомніў, тое тваё. Усё астатняе – натхненне, якое ўключае ў сябе і нудную чарнавую працу.

Наогул працэс стварэння мастацкага твора настолькі інтымна-ўрачысты, што ўжо сам па сабе з'яўляецца моцнадзейным стымулятарам. Таму штучнае падсцёбванне сябе цыгарэтамі, спіртным ці, сама горш, музыкай – і лішняе, і блюзнерства.

***3.*** У любой іншай сферы чалавечай дзейнасці выпрацаваныя навыкі, прыёмы, “сакрэты кухні” – словам, вопыт, – з’яўляюцца найважнейшымі складнікамі поспеху. Але не ў мастацкай літаратуры. Гэта такая ўнікальная рэч, такі занятак, пры якім вопыт не толькі не памагае, а шкодзіць.

Славутая боязь чыстай белай паперы ці пустога манітора. Кожны раз як першы раз. Але пакрысе голае поле засяваецца словамі, фразамі, абзацамі, пачынае ўлоўлівацца рытм; усё гэта для пісьменніка не проста важнае, а неабходнае, як для кампазітара валоданне нотнай граматай. Тое самае з даведачнай літаратурай, слоўнікамі і энцыклапедыямі. Гэта не прыдатак, а абавязковыя атрыбуты творчасці.

***4.*** Рэалізацыі творчых задум спрыяе, калі наперадзе хоць невялікая радасць: рыбалка, вандроўка, грыбы, мора; а сама лепш, калі нешта раней напісанае ўжо ляжыць у рэдакцыі ці ў выдавецтве і чакае свайго часу. Перашкаджае, як ужо адзначалася, ціск вопыту, – так хочацца зноў стаць пачаткоўцам.

Зайздрошчу калегам, якія ўмеюць не звяртаць увагі на крытыку (кшталту, “мне ўсё адно, я не чытаю, мне па барабане”), хоць і сумняваюся, што яны да канца шчырыя. А ўвогуле практыка слухаць толькі сяброў і прыхільнікаў сумніўная. Сябры многага не скажуць. Між тым карыснымі бываюць толькі горкія пілюлі.

Адсюль у мяне і манія перапісвання. Я перастаю любіць свой твор адразу пасля таго, як ён скончаны, таму стараюся не браць у рукі свае кнігі, бо імгненна “пальцы просятся к перу, перо к бумаге” – хутчэй перапісаць.

Зрэшты, гэтая цяга да ўдасканальвання хутчэй правіла, чым выключэнне. Калі звярнуць увагу на каментары ў канцы якога-небудзь збору твораў ці выбранага, амаль у кожным можна прачытаць: “па-ней твор быў істотна перапрацаваны аўтарам, унесены шматлікія стылёвыя, сінтаксічныя і граматычныя праўкі”.

***5.*** На жаль, я не аматар уласнай творчасці. Не атрымалася многае, найбольш п’есы і кінасцэнарыі. Атрымаліся, думаю, падлеткавыя аповесці. Што да біяграфіі, якія б эпізоды хацеў перажыць – увесь перыяд ад 11 да 13 гадоў. Усё спрэсавалася там: прырода, літаратура, першае каханне, невымернае шчасце. Каб мог, не толькі паўтарыў бы, а застаўся б там жыць. Цікава, што ўжо тады, у тым залатым падлеткавым узросце, я ведаў ці, прынамсі, часта бачыў у сне або наяве ў імгненных азарэннях усе свае будучыя кнігі. Потым заставалася толькі ўспомніць іх і запісаць. Гэта не значыць, канечне, што я пісаў з натуры. На творчасці адбіваўся толькі настрой, нейкая проста цяжарнасць шчасцем і прага дзяліцца ім.

Дарэчы, калі спрабуеш пісаць, “як яно на самой справе было”, аўтабіяграфічна – рэдка атрымліваецца штосьці людскае. Калі ж ствараеш новы, прыдуманы свет – пішацца цяжка, затое чытаецца лёгка, і рэч выходзіць больш даўгавечнай.

***6.*** Дзённікі даволі падрабязна вёў з 1986 па 2020 год, перыядычна нішчыў і паліў, але, думаю, яшчэ засталося больш за тысячу старонак. Яны не столькі літаратурныя, колькі псіхааналітычныя. Там даволі падрабязна апісаны працэс самаўдасканальвання, “па кроплі выціскання з сябе раба”. Па меры таго, як пазбавіўся ад алкаголю, тытуню, гнятлівых думак, патрэба ў дзённіках таксама адпала. Але не адпала звычка “ні дня без радка”. Па-мойму, выдатнае правіла. “Раз словечко, два словечко – будет песенка”... Проста гімн бяскрыўднаму графаманству.

***7–8.*** Па родзе заняткаў – як пісьменніку, па прафесіі – як рэдактару, па адукацыі – як бібліятэкару-бібліёграфу

мне проста неабходна быць у курсе хаця б асноўных літаратурных падзей, старацца праглядаць усё, што можна. Тым больш, яшчэ з малых гадоў у мяне выпрацавалася ўменне чытаць многа і хутка. Пры чытанні ніколі не варушыў вуснамі, не загінаў куточак старонкі перад сном і не ўстаўляў у кнігу закладку, каб запомніць, на якім месцы спыніўся.

На працоўным стале ў мяне заўсёды 7-8 кніг. Адны перачытваю, другія чытаю, трэція прабягаю. У дадзены момант зверху ляжыць Мантэнь, знізу "Дзеяслоў" з сімпатычным апавяданнем дэбютанта У. Машанскага "Варвар", якое нечым нагадвае самабытную прозу майго цёзкі і земляка, выдатнага пісьменніка А. Горвата.

Сучаснай беларускай літаратуры, на маю думку, акурат не хапае самабытнасці. Адчуванне, што нейкая яна не беларуская, а як бы перакладная. Але гэта не галоўнае, вядома. У цэлым, упэўнены, наша літаратура яшчэ пакажа сябе свету. Яна пакуль як дзяўчынка-пяцікласніца ў параўнанні, да прыкладу, з ужо састарэлай рускай літаратурай, якая абапіраецца дрыготкімі рукамі на кій і ўзіраецца ў мінулае падслепаватымі вачамі. У першай усё наперадзе, у другой усё ззаду.

А што пажадаць пачынаючым? Нічога. Хіба што пазайздросціць ім.

# Нашыя аўтары

**Аксак Валянціна** – паэтка, журналістка. Аўтар кніг «Цвінтар», «Капліца», «Віно з Каліфорніі», «Ружоўніца», «Дзікая сліва» ды інш. Лаўрэатка прэміі «Залаты Апостраф» (2008). Нарадзілася ў 1953 годзе ў вёсцы Смалічы на Нясвіжчыне. Жыве ў Мінску.

**Акутагава Руноскэ** – японскі літаратар, класік новай японскай літаратуры. Вядомы сваімі апавяданнямі ды навэламі. Нарадзіўся ў 1892 годзе ў Токіа. Памёр у 1927 годзе.

**Бондар Васіль** – украінскі літаратар і грамадскі дзеяч. Заслужаны журналіст Украіны. Аўтар кніг «Одвідини», «Смарагдові китиці у воді», «Камінь від хандри», «Візит ввічливості» ды інш. Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Тэліжынцы на Кіеўшчыне. Жыве ў горадзе Крапіўніцкім (Украіна).

**Бурак Вікторыя** – паэтка. Скончыла Бараўлянскую гімназію з залатым медалём. Лаўрэатка дыплома 1 ступені на заключным этапе рэспубліканскай алімпіяды па беларускай мове і літаратуры ў 10 класе. Нарадзілася ў 2005 годзе ў аг. Лясным Мінскага раёна, дзе і жыве.

**Гарбацкі Уладзіслаў** – перакладчык, празаік, сацыялінгвіст, дацэнт Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта. Аўтар кніг «Песьні тралейбусных рагуляў», «Гід па фэмінізацыі беларускай мовы» ды інш. Нарадзіўся ў 1978 годзе ў Віцебску. Жыве ў Вільні.

**Гардзіенка Наталля** – гісторык. Кандыдат гістарычных навук. Намесніца дырэктара Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва. Галоўная рэдактарка альманаха «Запісы БІНіМ». Нарадзілася ў 1977 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Глобус Адам (Адамчык Уладзімір)** – празаік, паэт, эсэіст, мастак, выдавец. Аўтар кніг паэзіі «Парк», «Скрыжаванне», кніг прозы «Адзінота на стадыёне», «Дамавікамерон», «Толькі не гавары маёй маме», «Post scriptum», «Браслаўская стыгмата», «Сшыткі», «Дом», «сУчаснікі», «Зваротная перспектыва» ды інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Дзяржынску. Жыве ў Мінску.

**Жуковіч Васіль** – паэт, празаік, перакладчык, крытык. Аўтар кніг «Паклон», «Мелодыя святла», «Як адна вясна...», «Твая місія», «Разняволенне», «У храме харaства і смутку», «Арабінавая ноч» ды інш. Нарадзіўся ў 1939 годзе на хутары Забалацце на Камянеччыне. Жыве ў Мінску.

**Забораў Барыс** – мастак. Творы захоўваюцца ў карцінных галерэях і музеях Беларусі, Францыі, Германіі, ЗША, Японіі, Расіі, Англіі ды інш. Нарадзіўся ў 1935 годзе ў Мінску. З 1979 года жыў у Парыжы. Памёр у 2021 годзе.

**Законнікаў Сяргей** – паэт, перакладчык, публіцыст. Аўтар кніг «Бяседа», «Устань да сонца», «Пакуль жыве мая бяроза», «Прысак часу», «Заклінанне», «Лісцем дарога запала...», «Шалёная куля», «Вечны пароль» ды інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1992). Нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Слабада на Бешанковіччыне. Жыве ў Мінску.

**Івашчанка Анатоль** – празаік, паэт, літаратуразнаўца. Аўтар кніг вершаў «Вершnick», «Хай так», кнігі прозы «Аналогія», манаграфіі «Паэтыка Алеся Разанава: між медытацыяй і рацыяй». Лаўрэат прэміі «Залатая літара» (2005), конкурсу «Экслібрыс» (2014), прэміі «Дэбют» імя М. Багдановіча (2015). Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Казько Віктар** – празаік, публіцыст, кінасцэнарыст. Аўтар кніг прозы «Добры дзень і бывай», «Суд у Слабадзе», «Высакосны год», «Цвіце на Палессі груша», «Выратуй і памілуй нас, Чорны бусел», «Неруш», «Дзікае паляванне ліхалецця», «Час збіраць збіраць косці» ды інш. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1982), прэміі «Залаты Апостраф» (2013), прэміі імя Ежы Гедройца (2014). Нарадзіўся ў 1940 годзе ў Калінкавічах на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Кузменка Зміцер** – паэт. Скончыў гістарычны факультэт БДУ. Займаецца вывучэннем жыцця і дзейнасці Кастуся Каліноўскага. Падтрымлівае ў сеціве ўласны сайт «Свіслацкія аркушы», асобны раздзел якога прысвечаны К. Каліноўскаму. Нарадзіўся ў 1980 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Лапацін Генадзь** – паэт, этнограф, фалькларыст. Аўтар кніг паэзіі «Лепить из снега», «Без чисел и дат», «Луны преобладанье», «Увидеть дерево», «Около облака», «Поделиться небом». Аўтар шматлікіх публікацый па этнаграфіі, фальклору, дыялектнай фразеалогіі. Выдаў кнігі «“Ікона звалась Свячой...” Абрад “Свяча” ў прасторы традыцыйнай культуры Гомельшчыны», «Варвара Грэцкая як з’ява беларускай народнай культуры», «К каждаму разгавору прыказка ё...» Нарадзіўся ў 1955 годзе ў Гомелі, дзе і жыве.

**Лебедзеў Сяргей** – рускі празаік, журналіст. Аўтар раманаў «Край забыцця», «Год каметы», «Людзі жніўня», «Гусь Фрыц», «Дэбютант». Раманы ўваходзілі ў лонг- і шорт-лісты расійскіх і еўрапейскіх літаратаурных прэмій, перакладзены на 21 мову свету. Нарадзіўся ў 1981 годзе ў Маскве. Жыве ў Патсдаме (Нямеччына).

**Мацеша Дзяніс** – паэт, драматург. Пісаў аўтарскія матэрыялы для розных сайтаў, займаўся іх прасоўваннем у сеціве, капірайтынгам. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2021). Нарадзіўся ў 1986 годзе ў Паставах на Віцебшчыне. Жыве ў Мінску.

**Машанскі Сяргей** – празаік, паэт. Скончыў Дзяржаўны інстытут кіравання і сацыяльных тэхналогій БДУ. Друкаваўся ў часопісах «Маладосць» і «Дзеяслоў». Нарадзіўся ў пасёлку Гатава Мінскага раёна, дзе і жыве.

**Мванза Мужыля Фістон** – кангалезскі паэт, празаік, драматург. Піша пераважна па-французску, часам па-нямецку. Лаўрэат прэміі «Першы літаратурны твор» асацыяцыі франкамоўных пісьменнікаў за раман «Tram 83». Аўтар паэтычных кніг «Poèmes et rêvasseries» («Паэмы і мары»), Craquelures «Расколіны», «Le fleuve dans le ventre» («Рака ў жываце»). Нарадзіўся ў 1981 годзе. Жыве ў Грацы (Аўстрыя).

**Пятровіч Аляксандра** – перакладчыца. Скончыла Ліцэй БДУ, філфак БДУ, аспірантуру кафедры замежнай літаратуры БДУ. Пераклады друкавалія ў часопісе «Маладосць». Нарадзілася ў 1993 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Пятровіч (Сачанка) Барыс** — празаік. Аўтар кніг «Ловы», «Сон між пачвар», «Фрэскі», «Шчасьце быць», «Жыць не страшна», «Піліпікі», «Плошча», «Спакушэнне», «Спачатку была цемра», «Пуціна», «Ідзі адзін», «...Роўна і трошкі ўправа» ды інш. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Вялікі Бор на Хойніччыне. Жыве ў Мінску.

**Сцяпан Уладзімір** – празаік, паэт, мастак, кінасцэнарыст. Аўтар кніг прозы «Вежа», «Сам-насам», «Адна капейка» ды інш. Лаўрэат прэміі «Залаты Апостраф» (2018). Нарадзіўся ў 1958 годзе ў мястэчку Касцюкоўка на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Федарэнка Андрэй** – празаік, драматург. Аўтар кніг прозы «Гісторыя хваробы», «Сінія кветкі», «Шчарбаты талер», «Афганская шкатулка», «Нічые», «Мяжа», «Ланцуг», «Ціша», «Сузіральнік», «Жэтона на метро» ды інш. Лаўрэат літаратурных прэмій імя Івана Мележа (1995), «Залаты Апостраф» (2017). Нарадзіўся ў 1964 годзе ў вёсцы Бярозаўка на Мазыршчыне. Жыве ў Мінску.

